і Кіеўшчыны, але адначасова і ўсталяваўшыміся саюзніцкімі адносінамі паміж Усяславам і Яраполкам у выніку шлюбу Глеба і Анастасіі і выдзялення Глебу асабістага ўдзела. Адметна тое, што паход Уладзіміра Манамаха 1085 г. першапачаткова быў накіраваны супраць цесця Глеба – Яраполка Ізяслававіча, які збег у Польшчу, і толькі потым супраць Менска – па меркаванні навукоўцаў вотчыны Глеба Усяслававіча [5, с. 18].

Лічыцца, што пасля смерці ў 1101 г. Усяслава Брачыслававіча («Чарадзея») роля Менска і княства стала палітычна самастойнай. Летапісныя паведамленні першай чвэрці XII ст., якія датычацца палітычнай гісторыі Полацкай зямлі, звязаны выключна з асобай менскага князя Глеба Усяслававіча, а само княства пераўтвараецца ў адно з самых магутных феадальных утварэнняў сярод іншых у Полацкай зямлі. Вынікам гэтай палітычнай самастойнасці і працягнення палітыкі Усяслава па пашырэнні межаў сваёй дзяржавы, стала аднаўленне ваеннага канфлікта з кіеўскімі князямі. Прычыны гэтага канфлікта навукоўцы разглядаюць па рознаму. Адны бачаць прычыну ў выхадзе менскай воласці з-пад уплыву дзяржаўных інтарэсаў Кіева [3, с. 183–184], другія – у «членстве» Глеба ў «антыманамахаўскай партыі» [2, с. 255], трэція – у эканамічных прычынах [4, с. 163–164] і г. д. Ва ўсялякім разе гэтая барацьба, у той ці іншай форме, вялася з пераменным поспехам на працягу як XI ст., так і XII ст.

Летам 1104 г. на Менск напала аб'яднанае войска паўднёварускіх князёў: «Сего же лета исходяща, посла Святополкъ Путяту на Менескъ, а Володимеръ – сына своего Ярополка, а Олегъ сам иде на Глеба, поемше Давыда Всеславича; и не успыпа ничто же, и възвратишася опять...» [9, с. 185]. Гэты ж паход узгадвае ў сваім «Павучэнні» Уладзімір Манамах: «И потомъ к Меньску ходихом на Глеба, оже ны бяше люди заялъ, и Богъ ны поможе, и створихом свое мышленое...» [9, с. 162]. Адметна тое, што ў гэтым паходзе на Глеба прыняў удзел яго родны брат Давыд, які пачынаючы з 1103 г. знаходзіўся пад уплывам паўднёварускіх князёў. Як сведчаць паведамленні, гэты паход скончыўся безвынікова для заваёўнікаў, а значыць к гэтаму часу Менск ператварыўся ў магутны горад – сталіцу княства з моцнымі абарончымі збудаваннямі і дружынай, што і дазволіла паспяхова супрацьстаяць кааліцыйнаму паходу. Можна ўпэўнена гаварыць аб тым, што за 20 гадоў валодання Менскам Глеб Усяслававіч прыклаў значныя намаганні для развіцця і абароны горада.

У 1106 г. летапіс паведамляе аб сумесным няўдалым паходзе Усяслававічаў на земгалаў [10, с. 186]. І хаця дакумент не пералічвае братоў, можна меркаваць, што Глеб Усяслававіч таксама прыняў актыўны ўдзел у паходзе. Адметна, што гэта адзінае летапіснае сведчанне сумесных дзеянняў Усяслававічаў. Безумоўна, недахоп пісьмовых крыніц дазваляе даследчыкам па-рознаму інтэрпрэтаваць узаемаадносіны Усяслававічаў. Звернем ўвагу на тое, што паведамленне пра паход на Менск у 1104 г. напрамую сведчыць, што «…Олегъ сам иде на Глеба, поемше Давыда Всеславича…», аднак чаму Давыд прыняў удзел у паходзе, на якіх умовах, ды ў рэшце, як ён там аказаўся («…поемше Давыда Всеславича…»), летапіс адказу не дае. Магчыма, гэта адлюстраванне міжусобіцы паміж братамі, а, магчыма, і вымушанага ўдзелу Давыда ў паходзе. У той жа час Лаўрэнцеўскі летапіс пры апісанні паходу на полаўцаў 1103 г., пералічвае Давыда Усяслававіча сярод князёў-ізгояў [11, стб. 177].

Глеб Усяслававіч як рашучы і энергічны палітычны дзеяч свайго часу ўласнымі дзеяннямі праводзіў палітыку аб'яднання вакол Менска шэрагу гарадоў Полацкай зямлі і аднавіў палітыку свайго бацькі Усяслава па пашырэнні тэрыторыі ўласнага княства на ўсходнім і паўднёвым напрамку. Так, мяркуецца, што яшчэ ў пачатку XII ст. яму былі падпарадкаваны гарады Орша і Копысь, якія належалі Смаленскаму княству [3, с. 186]. Гэтыя паселішчы размешчаны непасрэдна на Дняпры, што давала магчымасць збіраць мыта з гандляроў і кантраляваць важны водны шлях. Яшчэ раней да Смаленскага княства быў далучаны Друцк, які займаў важнае стратэгічнае становішча на волаках паміж дняпроўскім і заходнедзвінскім воднымі басейнамі. Пісьмовыя крыніцы таго часу не змяшчаюць імёнаў князёў у гэтых гарадах, і далучэнне іх да Менскага княства магло адбыцца як ваенным, так і мірным шляхам. Ва ўсялякім разе відавочна, што Глеб Усяслававіч выконваў ролю лідара ў гэтым працэсе і здолеў далучыць землі да Дняпра ў сферу сваіх знешнепалітычных інтарэсаў. Такая актыўнасць і роля Глеба хутчэй за ўсё выклікала незадавальненне яго братоў (Давыда і Барыса), якія сваёй пасіўнасцю фактычна паспрыялі страце гэтых здабыткаў.

У 1116 г. Глеб Усяслававіч скіраваў сваю палітыку на поўдзень, на зямлю дрыгавічоў. Летапіс паведамляе «…Глебъ бо бяше воевалъ дреговичи и Случескъ пожегъ, и не каяшеться о семь…» [9, с. 200–201]. Распачынаючы пашырэнне свайго княства на поўдзень, Глеб, відаць, усведамляў тое, што гэты напад зноў прывядзе на канфлікту з Уладзімірам Манамахам, які з 1113 г. стаў кіеўскім князем. Дрыгавіцкая зямля працяглы час знаходзілася пад уплывам і кантролем Кіеўскай зямлі. Глеб Усяслававіч, верагодна, лічыў, што ў Менскага княства было дастаткова сродкаў і рэсурсаў для барацьбы. Збор падаткаў з сельскага насельніцтва княства, кантроль водных шляхоў рэгіёна і, безумоўна, багацце князя (дзякуючы ўдалай жаніцьбе на дачцы паўднёварускага князя) прадастаўлялі яму вялікія магчымасці. У адказ Уладзімір Манамах ажыццявіў паход на Менск, і ў выніку

некалькіх месяцаў асады горада Глеб быў вымушаны падпарадкавацца: «Глебъ же вышедъ из города съ детми ис дружиною, поклонися Володимеру, и молвиша речи о мире, и обещася Глебъ по всему послушати Володимера. Володимеръ же, омиревъ Глеба и наказавъ его о всемъ, вдасть ему Менескъ, а самъ възвратися Киеву» [9, с. 200–201]. Адметна тое, што Менск зноў не быў захоплены ў выніку асады і штурмаў, а быў наўмысна зданы Уладзіміру Манамаху. Абодва бакі пайшлі на стратэгічны кампраміс: Глеб прадэманстраваў пакорлівасць і захаваў бóльшую частку сваіх уладанняў, а Манамах атрымаў Оршу і Копысь мірным шляхам. Сярод даследчыкаў існуе меркаванне, што менавіта падчас аблогі Менска Уладзімір Манамах напісаў сваё «Павучанне», у якім паведамляў аб уласных шматлікіх паходах.

Аднак ужо ў 1119 г. Глеб Усяслававіч зноў аднавіў барацьбу і ажыццявіў паходы ў Смаленскую і Наўгародскую (Новагародскую ?) землі. Уладзімір Манамах з мэтай утаймаваць менскага князя зноў ажыццявіў паход на Менск, у выніку якога Глеб быў паланёны, прывезены ў Кіеў, дзе неўзабаве і памёр («Володимеръ взя Менеск у Глеба у Всеславовича, самого приведе Киеву. Томъ же лете преставися Глебъ в Киеве Всеславичь, сентября в 13» [11, стб. 285]).

Са смерцю Глеба Усяслававіча скончыўся адзін з найбольш яркіх і цікавых перыядаў ранняй палітычнай гісторыі Менска. На жаль, адсутнасць дастатковай колькасці пісьмовых крыніц таго часу не дазваляе ў поўнай ступені рэканструяваць усе адметнасці барацьбы Менска за самастойнае існаванне і спробу палітычнай гегемоніі над бóльшай часткай некалі адзінай Полацкай зямлі. Між тым можна з упэўненасцю сцвяржаць, што перыяд княжання Глеба Усяслававіча з'яўляўся часам найвышэйшай актыўнасці Менскага княства ў складаных сярэдневяковых палітычных абставінах. У час найвышэйшага росквіту сваёй магутнасці межы княства на ўсходзе дасягнулі Дняпра, на паўднёвым усходзе – нізоўяў Свіслачы, на поўдні – Случы.

Узнікае натуральнае пытанне, а якія матэрыяльныя сведчанні могуць дэманстраваць княжанне Глеба Усяслававіча ў Менску?

Археалагічныя даследаванні дзядзінца і пасада Менска сведчаць, што ў канцы XI – пачатку XII ст. адбыліся маштабныя будаўнічыя і земляныя работы, звязаныя з узвядзеннем магутных абарончых збудаванняў Менска, ішло фарміраванне драўлянай забудовы горада, вулічнай сеткі. На суседнім узвышшы (сучасны раён пл. Свабоды) пачалі фарміравацца гарадскія пасады. Падчас раскопак апошніх гадоў атрыманы багатыя матэрыялы, якія сведчаць аб развітай матэрыяльнай і духоўнай культуры Менска.

На наш погляд, найбольш яскравымі тут з'яўляюцца абарончыя збудаванні і фундаменты храма. Праблема іх датавання неаднаразова была абмеркавана даследчыкамі [1, с. 118–121; 2, с. 203–207; 5, с. 151–167, 189–202; 6; 7; 14, с. 72–81 і інш.], што прапанавалі дастаткова абгрунтаваныя аўтарскія канцэпцыі па часе як ўзвядзення ўмацаванняў, так і правядзення храмавых будаўнічых работ. У 2009 г. экспедыцыяй Інстытута гісторыі НАН Беларусі былі праведзены маштабныя раскопкі на замчышчы, матэрыялы якіх ужо ўведзены ў навуковы зваротак [8]. Падаецца сапраўдным, што атрыманыя матэрыялы карэкцiруюць і дапаўняюць некаторыя ранейшыя высновы. Аналіз наяўных археалагічных матэрыялаў і аўтарскіх канцэпцый схіляе нас да высновы аб бóльшай перспектыўнасці канцэпцыі Ю. А. Заяца, што адмаўляе атаясамліванне падзей сакавіка 1067 г. з Менскам на р. Свіслач (Нямізе), якое з'явілася ў супрацьвагу «старому» племяннному цэнтру на р. Менка толькі пасля 1084–1085 г. [6, с. 29–30]. На нашу думку, дата 1084/85 гг. і з'яўляецца тым храналагічным маркёрам, ад якога магчыма пачынаць адлік існавання ўдзелу Глеба Усяслававіча. Уяўляецца, што пасля гэтага адбыўся «перанос» Менска з Менкі на берагі Свіслачы і Нямігі, сфарміраваўся новы цэнтр воласці (княства) і велізарнымі людскімі і грашовымі намаганнямі Усяслава і Глеба былі ўзведзены першыя абарончыя збудаванні. Маштабнасць і хуткасць, з якой узводзіліся абарончыя збудаванні, ўражваюць. Даследаванні 2009 г., і, у прыватнасці, поўны разрэз абарончага вала, дазволілі выдзяліць некалькі ўмоўных будаўнічых гарызонтаў. Найбольш старажытным аказаўся гарызонт з пахаванай пад першапачатковым валам старажытнай дзённай паверхняй: уласна сам першапачатковы вал і шэраг драўляных канструкцый, якія загінулі ў агні яшчэ да земляных і будаўнічых храмавых работ. Другому гарызонту папярэднічалі маштабныя работы па пашырэнні і ўзмацненні першапачатковага вала, які быў насыпаны з гравію, не ўтрымліваў драўляных канструкцый, а з боку пляцоўкі ён трымаўся дзякуючы так званай гакавай канструкцыі. Уласна да гэтага гарызонту адносяцца: распрацоўка катлавана для храма, выкід грунта з якога перакрыў слой пажарышча; самі работы па ўзвядзенні фундамента; усталяванне тыну, які, магчыма, маркіраваў «рабочую зону» храма і ішоў паралельна валу; тварыла і драўляная канструкцыя, якая накрывала будаўнічы матэрыял для храма. Знаходкі з гэтага гарызонту не выходзяць за межы другой паловы XII ст. Папярэднімі даследчыкамі, у тым ліку і падчас работ у 2009 г., адзначана, што часовы інтэрвал паміж узвядзеннем першапачатковага вала і яго падсыпкай быў дастаткова невялікі. Усе знаходкі і аб'екты, якія былі выяўлены пад валам, укладваюцца ў часовы інтэрвал канца XI – пачатку-сярэдзіны XII ст. [7, с. 15, 24–25, рис. 9; 8, с. 29, рис. 26, рис. 88: *4*; 13, с. 235, рис. 6: *7*, с. 236]. Нам падаецца, што ўсе гэтыя работы маглі быць праведзены ў час княжання Глеба Усяслававіча і пры адпаведнай дапамозе свайго бацькі Усяслава, які імкнуўся ўзвесці на паўднёвых

межах сваёй зямлі магутную крэпасць, якая б магла супрацьстаяць пагрозе з боку Кіева. Не выключана, што менавіта гэтыя фартыфікацыйныя работы адыгралі вызначальную ролю ў абароне Менска ў 1104, 1116 і 1119 г. Каму як не Усяславу і Глебу было патрэбна існаванне такой моцнай фартыфікацыі ў горадзе, прычым узведзенай у дастаткова кароткі тэрмін? Тыя праслойкі пажарышчаў і спробы дэндрахраналагічнага вызначэння, якія Э. М. Загарульскі атаясамліваў з пажарамі 1067 г. і 1084–1085 гг., у апошні час былі падвергнуты аргументаванай крытыцы Ю. А. Заяца. На дадзены момант адсутнічаюць упэўненыя звесткі аб сувязі гэтых пажарышчаў з ваенным руйнаваннем горада менавіта 1067 г. і 1084–1085 гг. і, на наш погляд, чаму іх нельга звязаць з абаронай горада ў 1104, 1116 або 1119 г.? Няўжо не было пажараў у горадзе падчас асады, хаця ён і не быў ўзяты? Ды і ўвогуле, з'яўленне прапласткаў пажарышчаў магчыма патлумачыць і больш банальнымі прычынамі.

Цікавасць выклікае каменны фундамент храма памерамі 16 × 12 м, які выяўлены ў паўночна-усходняй частцы дзяцінца яшчэ В. Р. Тарасенка ў 1949 г. і які ў далейшым неаднаразова вывучаўся Э. М. Загарульскім, Л. В. Аляксеевым, Г. В. Штыхавым. Адзінае, у чым навукоўцы прыйшлі да згоды, гэта тое, што па сваім будаўніча-тэхнічным асаблівасцям выяўлены храм не мае дакладных аналогій сярод адначасовых культавых манументальных пабудоў Старажытнай Русі. Парушэнне методыкі даследавання падобных помнікаў прывяло да таго, што даследчыкі па рознаму вызначаюць час яго ўзвядзення: не пазней 1071–1085 гг. [5, с. 198]; пачатак XII ст., а дакладней гады княжання Глеба Усяслававіча (да 1119 г.) [12, с. 204, 221, 247; 14, с. 76]; першыя два дзесяцігоддзі XII ст. [1, с. 79–81; 2, с. 205–206]. Пры работах 2009 г. было адзначана, што з паўночнага і заходняга знешніх бакоў храма яшчэ захаваліся непашкоджаныя культурныя напластаванні, што пакідае надзею на ўстанаўленне канкрэтнай сувязі фундамента з суседнімі культурнымі напластаваннямі пры далейшых раскопках. Намі была таксама звернута ўвага на лакалізацыю храма на тэрыторыі дзяцінца і яго месца ў мяркуемай тапаграфічнай структуры горада. Высветлілася, што розніца паміж старажытнай дзённай паверхняй каля храма і ўяздной браме дасягала 3–4 м. Адпаведна гэта сакральнае збудаванне павінна было займаць адно з самых прэстыжных і высокіх месцаў дзяцінца і панаваць над акаляючай мясцовасцю і, магчыма, над валам. Можна меркаваць, што старажытныя дойліды не выключалі выканання храмам і абарончых функцый. Як было ўстаноўлена і пры папярэдніх даследаваннях, пабудова храма на дзяцінцы адносіцца да аднаго з першых этапаў засваення пляцоўкі гарадзішча і ўзвядзенне абарончых збудаванняў і, мяркуем, часткі жылых і гаспадарчых пабудоў, было вельмі маштабным і аднамомантавым актам, які здзяйсняўся па адзінай задумцы княжацкай улады. У кантэксце нашага бачання месца храма ў тапаграфіі дзяцінца ўзнікае актуальнае пытанне лакалізацыі княжацкага двара. Не выключана, што ён мог знаходзіцца побач з храмам, у найбольш бяспечным месцы дзяцінца. З усходу быў высокі бераг Свіслачы, з поўначы – забалочаная мясцовасць і адгалінаванне Нямігі, з поўдня – лагчына, Няміга, а таксама высокі вал з брамай, на захадзе – астатняя частка дзяцінца, таксама абнесеная валам і рвом. На жаль, пакуль пры раскопках не выяўлены пабудовы, якія маглі прэтэндаваць на гэты статусны комплекс, але ў тым, што ён існаваў на дзяцінцы, не можа быць ніякіх сумненняў.

Што датычыцца нашай пазіцыі наконт часу і заказчыка храма, то гэта мог быць Глеб Усяслававіч, і толькі яго паланенне і змена палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў княстве не дазволіла завяршыць будаўніцтва. Звяртае на сябе ўвагу і той факт, што толькі ў Менску Глебам, адзіным з шасці сыноў Усяслава Брачыслававіча, распачалося каменнае будаўніцтва храма. Ён, як і яго знакаміты бацька, які па прыкладу з Канстанцінопаля, Кіева і Ноўгарада адбудаваў у Полацку Сафійскі сабор, таксама імкнуўся ўзвесці ў сталіцы свайго княства каменны храм.

Да таго ж летапіс адназначна сведчыць аб прыхільнасці Глеба Усяслававіча да дзейнасці царквы. Так, дзякуючы яго фінансавай падтрымцы, ў Кіева-Пячорскім манастыры ў 1108 г. была пабудавана каменная трапезная [10, с. 187], якая была распісана фрэскамі, а яе падлога была выкладзена паліванымі каляровымі пліткамі. Пры сваім жыцці Глеб Усяслававіч ахвяраваў манастыру 600 грыўнаў срэбра і 50 грыўнаў золата. Яго жонка Анастасія, перадала манастыру яшчэ 100 грыўнаў срэбра і 50 грыўнаў золата. Для таго часу гэта была вельмі вялікая сума грошай (у XII ст. на Русі мелі хаджэнне кіеўскія грыўны вагой 140–160 г і наўгародскія грыўны вагой каля 204 г. На падставе вагавых характарыстык можна меркаваць, што Глеб Усяслававіч і яго жонка перадалі Кіева-Пячорскаму манастыру не меней 112 кг срэбра і 16 кг золата). Сувязі Глеба з манастыром былі настолькі блізкія, што ён стаў адным з нешматлікіх князёў, якія атрымалі гонар быць пахаванымі ў храме. Анастасія перад сваёй смерцю таксама завяшчала пахаваць сябе ў Кіева-Пячорскім манастыры і ахвяравала яму яшчэ пяць сёлаў з чэлядзю. Нават мяркуючы па гэтым факце вялізарных грашовых «уліванняў» у Кіева-Пячорскую Лаўру, няўжо у Глеба Усяслававіча не хапіла б грашовых рэсурсаў да ўзвядзення ў Менску каменнай царквы? Відавочна, што тут умяшаліся фактары яго палону і хуткай смерці.

У археалагічнай літаратуры таксама сустракаюцца звесткі аб пячатках Глеба Усяслававіча. Так, да падобнай знаходкі была аднесена гандлёвая («драгічынская») пломба дыяметрам 17 мм, якая бы-



Мал. 1. Свінцовая пломба (ліцавы і адваротны бок). № 2840/855. 1959 г. Паводле Э. М. Загарульскага




Мал. 2. Свінцовыя гандлёвыя пломбы (*а–в*). Пасад XII–XIII стст. Бернардзінскі двор, вул. Кірыла і Мефодзія, 6–8. Верхні горад. Мінск. Раскопкі Ю. У. Каласоўскага, А. В. Вайцяховіча, А. М. Мядзведзева

ла выяўлена ў 1959 г. На яе ліцавым баку маецца выява святога ў шапцы з апушкай, які трымае ў правай руцэ меч або крыж і расквітнеўшы чатырохканечны крыж з адваротнага боку (мал. 1). Яе атаясамліванне з Глебам Усяслававічам [5, с. 285–286] даволі спрэчнае, асабліва ўлічваючы, што гэта звычайная гандлёвая пломба, а не пячатка, і яна нават не мае подпісаў. Падобныя экзэмпляры былі таксама знойдзены ў Кіеве (2 экз.) і Гродна (1 экз.) і ў агульных зводах пячатак былі таксама папярэдне аднесены да Глеба Усяслававіча [15, с. 320, № 332, 333]. Апошнім часам колькасць пломб значна ўзрасла і, як паказваюць апошнія даследаванні, персаніфікаваць іх, на жаль, немагчыма. Іх прызначэнне вызначаецца наступным чынам: мытныя адзнакі тавараў або замацавальнікаў актаў і пячатак; крэдытныя грошы. Так, пры раскопках 2009 г. у «рабочай» зоне храма, у нагрувашчанні будаўнічага матэрыялу было знойдзена 7 пломб, а пры раскопках бернардзінскага двара (пл. Свабоды, вул. Кірыла і Мефодзія, 6–8) у 2007, 2008, 2010 гг. – больш 20 падобных экзэмпляраў (мал. 2). Вядома такая знаходка пломбы і з левага берага Свіслачы, насупраць мінскага замчышча (мал. 3). У той жа час маецца інфармацыя пра дзве пячаткі дыяметрам 22–23 мм, якія адціснуты адной матрыцай і на ліцавым баку маюць паясную выяву святога у княжацкай шапцы і з чатырохканцовым крыжом ў правай руцэ з надпісам «ГЛЬБЪ», а на адваротным баку надпіс ў 5 слупкоў: «Господи помози рабоу своемоу Глебови» (мал. 4). Адкрытая форма напісання літары «В» – «ГЛЕБОRИ» – сведчыць аб датаванні пячатак першай трэццю XII ст. [18]. Праблема ў тым, што знойдзены гэтыя пячаткі дастаткова далёка ад тых княжацкіх цэнтраў (Україна, Ровенская вобласць, Астрожскі раён, 1995 г.), дзе працякала палітычнае жыццё Глеба Усяслававіча. Не выключана, што яны адносяцца да іншага гістарычнага персанажа.

Тым не менш можна канстатаваць, што Глеб Усяслававіч Менскі для свайго часу стаў знакавай асобай. Якім жа чалавекам паўстае Глеб Усяслававіч? Відавочна, што гэта быў смелы, прагматычны палітык, які ў сваёй дзейнасці кіраваўся мэтамі ўзмацнення і пашырэння сваёй дзяржавы, які як тыповы кіраўнік сярэдневяковай дзяржавы частку свайго жыцця аддаў ваенным дзеянням. Глеб цудоўна разумеў стратэгічную мэту свайго кіравання – выхад да буйных транзітных магістраляў, кантроль гандлю, мытныя падаткі, прыбыткі ад корчмаў на гандлёвых шляхах. Ажыццявіць усё гэта ў Менску было немагчыма, неабходны быў рух ва ўсходнім, заходнім і паўднёвым напрамку, што мы і бачым падчас усяго яго княжання. Пашырэнне тэрыторыі княства давала новыя землі, новыя гарады, новае насельніцтва, якое абкладалася падаткамі. На жаль, да нас не дайшлі мясцовыя пісьмовыя крыніцы, якія

маглі ўтрымліваць звесткі аб гэтым часе і дзейнасці Глеба, а таксама яго палітычным, фізічным і псіхалагічным партрэце. Звесткі Т. Нарбута, у якіх Глеб Усяслававіч падаецца як жорсткі, неспакойны чалавек, які прыгнятаў сваіх падданых living рознымі спосабамі і не даваў спакою суседзям, што ўладанні яго пусцелі, і народ збягаў у суседнія землі, што ён браў у палон сялян і прадаваў іх у няволю, перасяляў на іншыя месцы і г. д. [16, s. 270–273] дастаткова цікавыя, аднак невядома крыніца іх паходжання. З іншага боку, у гэтых звестках няма нічога незвычайнага для перыяду сярэдневякоўя. У гэты час ужо сфарміравалася развітая сістэма падаткаабкладання насельніцтва, натуральна, што патрабаваліся велізарныя грашовыя рэсурсы для эканомікі, узвядзення гарадоў, ахвяраванняў царкве. Жыхары княства прымусова маглі зганяцца для правядзення маштабных земляных і будаўнічых работ, як у самім Менску, так і ў іншых крэпасцях, захоп у палон падчас войнаў і перасяленне насельніцтва ў іншыя землі ўвогуле з'яўляюцца распаўсюджанымі фактамі, якія неаднаразова адзначаюць летапісцы: 1067 г. – Ізяславічы ў разрабаваным Менску «жены и дети вдаша на щиты»; 1102 г. – паход Барыса Усяслававіча на яцвягаў і перасяленне іх на Бярэзіну; 1119 г. – пераяслаўскі князь Яраполк Уладзіміравіч захапіў у палон жыхароў Друцка і перасяліў іх далёка на поўдзень у сваё княства, дзе «сруби город Желъди дрьючаном» і г. д. [9, с. 200–201]. Адметна, што асобныя эпізоды з жыцця Глеба Усяслававіча, якія адносяцца да пачатку XII ст., былі адлюстраваны на мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу (летапісны помнік пачатку XIII ст., які захаваўся ў двух спісах XV ст.). Пасля смерці Глеба Усяслававіча яго княства, відаць, было далучана да ўладанняў кіеўскага князя. Яшчэ ў 1160-я гады Менск належаў роду Глебовічаў і дастаткова рэгулярна з'яўляўся на старонках летапісаў, аднак аднавіць сваю магутнасць і уплыў ужо не здолеў, бо з канца XII ст. і на працягу XIII ст. пісьмовыя крыніцы не ўзгадваюць аб горадзе.

Сёння трэба адзначыць і тое, што, на жаль, Мінск не мае ні помніка свайму першаму князю, ні плошчы, ні вуліцы, названых у яго гонар. Адзіным выключэннем і сучасным матэрыяльным праяўленнем ўдзячнасці і памяці дзейнасці Глеба Усяслававіча з'яўляецца срэбраная манета Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь з яго выявай (мал. 5).



Мал. 3. Свінцовая гандлёвая пломба. Левы берег Свіслачы, насупраць Мінскага замчышча. Выпадковая знаходка А. А. Кунаша



Мал. 4. Актавая пячатка з выявай святога у княжацкай. Ровенская вобласць. Астрожскі раён. Украіна. 1995 г. [18]




Мал. 5. Срэбраная манета Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь з выявай Глеба Менскага

## Літаратура і крыніцы

1. Алексеев, Л. В. Западные земли домонгольской Руси. Очерки истории, археологии, культуры / Л. В. Алексеев. – М., 2006. – Кн. 1.

2. Алексеев, Л. В. Полоцкая земля. Очерк истории Северной Белоруссии в IX–XIII вв. / Л. В. Алексеев. – М., 1966.

3. Гісторыя Беларусі: у 6 т. – Мінск, 2000. – Т. 1: Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст.

4. Ермаловіч, М. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды / М. Ермаловіч. – Мінск, 2011.

5. Загорульский, Э. М. Возникновение Минска / Э. М. Загорульский. – Мінск, 1982.

6. Заяц, Ю. А. К проблеме первоначального Менска (сравнительная хронология поселения на реках Немига и Мена) / Ю. А. Заяц // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – Мінск, 2005. – Вып. 9. – С. 26– 31.

7. Заяц, Ю. А. Оборонительные сооружения Менска XI–XIII вв. / Ю. А. Заяц. – Минск, 1996.

8. Минское замчище: материалы исследований северо-восточной части в 2009 году (участок I, раскопы 1, 2) / А. М. Медведев [и др.] // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – Минск, 2011. – Вып. 22. – С. 236.

9. Повесть Временных лет // Полное собрание русских летописей. – М. ; Л., 1950. – Ч. 2: Лаврентьевская летопись.

10. Повесть Временных лет. – М. ; Л., 1950. – Ч. 1: Текст и перевод.

11. Полное собрание русских летописей. – М., 1962. – Т. I: Лаврентьевская летопись и Суздальская летопись по Академическому списку.

12. Тарасенко, В. Р. Древний Минск: (по письменным источникам и данным археологических раскопок 1945–1951 гг.) / В. Р. Тарасенко // Материалы по археологии Беларуси. – Минск, 1957. – Т. 1. – С. 182–257.

13. Штыхов, Г. В. Археологические раскопки в Минске в 80-е годы XX в. / Г. В. Штыхов // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск, 2004. – № 19. – С. 232–240.

14. Штыхов, Г. В. Города Полоцкой земли / Г. В. Штыхов. – Минск, 1978.

15. Янин, В. Л. Актовые печати древней Руси X–XV вв. / В. Л. Янин. – М., 1970. – Т. 1–2.

16. Narbut, T. Dzeje starożytne narodu litewskiego / T. Narbut. – Wilno, 1838. – T. 3.

17. Режим доступа: http://news.tut.by/society/268983.html. – Дата доступа: 01.03.2012.

18.Режим доступа: http://russianchange.narod.ru/collect/savvov/savvov.html. – Дата доступа: 01.03.2012.

**Резюме**

*В. И. Кошман*

**Глеб Всеславович Менский в свете исторических и археологических источников**

В статье рассматривается политическая деятельность первого менского князя – Глеба Всеславовича. На основании летописных и археологических данных предпринимается попытка дать развернутую характеристику личности князя, его политической и военной деятельности, развитию города в конце XI – начале XII вв. Обращается внимание на необходимость увековечивания памяти Глеба Всеславовича в Минске.

**Summary**

*V. Koshman*

**Gleb Vseslavovich Menski in according to historical and archaeological sources**

The article is deals with the political activities of the first Prince of Mensk – Gleb Vseslavovich. Based on archaeological and written sources an attempt to give a detail characteristic of the personality of Prince, his political and military activities, development of the Mensk in the late XI – beginning XII centuries. Attention is drawn to the need of perpetuation the memory of Gleb Vseslavovich in Minsk.

*Паступіў 03.03.2012*

*УДК [94+902/904](476.2)*

***П. Ф. Лысенко,** Институт истории НАН Беларуси, доктор исторических наук, профессор (г. Минск)*

# В защиту Туровской земли

В начале 60-х годов XX в. в рамках разработки общей проблемы развития раннефеодального общества на территории Беларуси автору настоящей работы была утверждена тема «Туровская земля IX–XIII вв.», которая требовала всестороннего изучения истории южной Беларуси в различных направлениях развития указанного региона на основе комплексного использования источников различного характера. Сама формулировка темы требовала строгой научно обоснованной дефиниции термина «Туровская земля», обозначавшего общественное государственное объединение всего населения данной территории на всех этапах его развития в пределах обозначенного хронологического периода. При неоднократном обсуждении вариантов названия темы «Туровская земля» или «Турово-Пинская земля» с моим научным руководителем В. В. Седовым мы решили, что будет более правильно и обоснованно назвать тему исследования «Туровская земля», сформулировав и сконцентрировав научное обоснование такой формулировки. Такая формулировка названия темы была признана убедительно доказанной и была утверждена в качестве моей кандидатской диссертации, в дальнейшем опубликована в моей первой монографии «Города Туровской земли» [6], а также в обобщающей монографии «Туровская земля IX–XIII вв.» [7], как и в других персональных публикациях и коллективных работах конца XX в. – начала XXI в.

Однако в исторической литературе термин «Турово-Пинская земля» иногда продолжает встречаться в отдельных произведениях. Одним из авторов таких работ является Леонид Васильевич Алексеев – известный исследователь раннефеодальных памятников Древней Руси, доктор исторических наук, старший научный сотрудник Института археологии Российской академии наук. Л. В. Алексеев сделал очень много полезного по исследованию раннефеодальных памятников западных земель Древней Руси. В ранние годы своей научной деятельности он исследовал древние города на территории Беларуси – Браслав, Друцк, Мстиславль. Много и плодотворно он трудился, изучая историю археологических исследований на белорусских землях и участвуя в краеведческом движении. Л. В. Алексеев является автором крупных и обобщающих монографий «Полоцкая земля» [1], «Смоленская земля в IX–XIII вв. Очерки истории Смоленщины и Восточной Белоруссии» [2]. В последние годы Л. В. Алексеев опубликовал монографию «Западные земли домонгольской Руси. Очерки истории, археологии, культуры» (в двух книгах) [3, 4], в которой подвел итоги исторического и археологического изучения территории Беларуси и Смоленской земли.

Одним из его произведений, посвященных политической истории, является очерк «Турово-Пинское княжество» [4, с. 22–31]. В нем Л. В. Алексеев пытается отрицать правильность названия «Туровская земля (волость, княжество)» и утвердить название «Турово-Пинская земля (волость, княжество)», доказать, что факт образования и утверждения на равных основаниях с другими княжествами Древней Руси говорит об отсутствии его самостоятельности и постоянной зависимости от древнего Киева, о слабой его роли и малом значении в общей системе княжеств Древней Руси. Выводы положениям своего очерка Л. В. Алексеев пытается найти в отдельных цитатах древнерусских летописей и положениях авторов в отдельных исторических исследованиях. При этом наблюдается явная тенденциозность и односторонность Л. В. Алексеева в подборе и использовании фактов и положений, которые бы могли обеспечить видимую логичность и обоснованность его выводов. Конечно, Л. В. Алексеев является одним из основных исследователей истории Полоцкой земли и Смоленского княжества, однако этого недостаточно для того, чтобы претендовать на такую же позицию в исследовании других земель и княжеств Древней Руси.

Один из первых аспектов истории Туровской земли, который Л. В. Алексеев рассматривает в своем очерке, – вопрос о реальном существовании Туровского княжества как самостоятельной структурной единицы в системе древнерусских княжеств великого княжества Киевского. В итоге общего краткого рассмотрения истории политических событий, в которых участвовало Туровское княжество, автор приходит к выводу о существовании в действительности такого княжества, однако говорит о значительно меньшей его самостоятельности и большей зависимости от Киева, чем Полоцкое и Смоленское княжества. Правда, Л. В. Алексеев здесь справедливо оговаривает большую самостоятельность Полоцкого княжества особым режимом полоцких «князей-изгоев», «князей-отщепенцев», потерявших право на участие в наследовании киевского великокняжеского престола.

При изложении истории Туровской земли Л. В. Алексеев избрал метод хронологической последовательности изложения событий, касающихся ее истории. В отдельных местах летописные сообщения сопровождаются краткими комментариями

автора. Однако подбор комментариев явно преследует основную цель автора – доказать ошибочность названия «Туровская земля», ее малозначительность в системе древнерусских княжеств, отсутствие самостоятельности и полнейшую зависимость и подчиненность древнему Киеву. Целевая направленность очерка Л. В. Алексеева о Туровской земле привела к неоднократному повторению в тексте одних и тех же положений, фактологической неверности и ошибочности в интерпретации привлекаемых летописных сообщений, противоречивости собственной позиции и ошибочности отдельных выводов и предположений. Подобная оценка очерка Л. В. Алексеева «Турово-Пинское княжество», несомненно, нуждается в основательном анализе его выводов и положений.

Прежде всего, следует отметить стремление Л. В. Алексеева преуменьшить значение Туровского княжества, поэтому рассмотрим аргументацию исследователя. В кратком тексте очерка (10 стр.) к этому вопросу Л. В. Алексеев обращается неоднократно. Вот извлечения из очерка Л. В. Алексеева: «Это княжество – удел с бесчисленными Пинскими болотами – не играло и не могло играть большой самостоятельной роли: население его было слишком бедным. К нему в Киеве так и относились. То использовали как базу для Мономаха, Олега и их немалых дружин (1076 г.), то "придают" Туров к владениям во Владимире Волынском» и т. д. [4, с. 25]. Далее он пишет: «Перед нами, таким образом, прошли основные события, связанные с Турово-Пинским княжеством. По ряду причин, о которых мы говорили, оно не может быть включено в число наиболее экономически развитых княжеств Руси (как и в политическом отношении). Здесь мы расходимся с П. Ф. Лысенко» [4, с. 30]. И далее: «Турово-Пинское княжество, сформировавшееся в низинных заболоченных местах левобережья Припяти, не было значительным, недаром развитие городов там шло намного медленнее, чем в других землях, и возникновение Пинска отделяло от основания Турова почти сто лет! Княжество это не было лакомым куском для киевских князей, они его перебрасывали из рук в руки, дробили, присоединяли части к другим землям. Там не создалось даже устойчивой династии своих турово-пинских князей» [4, с. 30].

Не все в этих цитатах из очерка Л. В. Алексеева верно отражает исторические события. Еще в 988 г. при проведении великим киевским князем Владимиром Святославичем административной реформы местные князья племенных княжений были заменены сыновьями Владимира Святославича. При этом наиболее важные земли были розданы по старшинству сыновей Владимира Святославича. Старший его сын Вышеслав получил Новгородское княжество, второй по старшинству сын Изяслав – Полоцкое княжество, а третий по старшинству сын Владимира Святославича Святополк – Туровское княжество. Выделение Туровского княжества третьему по старшинству сыну Владимира Святославича подтверждает его высокий статус в системе княжеств Древней Руси.

В 1054 г. великий князь киевский Ярослав Владимирович перед своей смертью завещал Туровское княжество своему старшему сыну Изяславу Ярославичу. Это также свидетельствует о высоком статусе этого княжества.

В 1125 г. после смерти великого князя киевского Владимира Мономаха Туровское княжество вновь было выделено его третьему сыну – Вячеславу. Это также свидетельствует о высоком статусе Туровского княжества.

О высоком статусе Туровского княжества говорит неоднократный в XI–XII вв. переход туровских князей на киевский великокняжеский престол. В 1015 г. после смерти великого князя киевского Владимира Святославича на киевский престол взошел туровский князь Святополк Владимирович, старший по возрасту из оставшихся в живых сыновей Владимира Святославича. В 1054 г. после смерти Ярослава Владимировича на киевский престол взошел его старший сын Изяслав, бывший к этому времени туровским князем. В 1093 г. после смерти великого князя киевского Всеволода Ярославича на киевский престол взошел туровский князь Святополк Изяславич. В середине XII в. после смерти великого киевского князя Ярополка Владимировича в 1139 г. на киевский престол взошел туровский князь Вячеслав Владимирович (в 1139 г., и позднее – в 1154 г.). В 1088 г. Святополк Изяславич оставил Новгородское княжество и перешел на туровский престол. В 1125 г. Вячеслав Владимирович оставил Смоленское княжество и перешел на туровский престол. Он же в 1140–50-х годах неоднократно оставлял Переяславское и Пересопницкое княжества и возвращался назад на туровский престол. В 1088 г. владимирский князь Ярополк Изяславич вступил в жестокую борьбу за туровский престол с великим князем киевским Всеволодом Ярославичем, в которой погиб от рук подосланных убийц. В 1123 г. в борьбе с великим князем киевским Владимиром Мономахом за туровское княжество погиб владимирский князь Ярослав Святополчич. В 1158 г. великий князь киевский Изяслав Давыдович во главе коалиции из семи князей десять недель безуспешно осаждал Туров, стремясь изгнать из него Юрия Ярославича, внука Святополка Изяславича, восстановившего на туровском престоле династию Изяслава Ярославича. В 1160 г. киевские князья из рода Мономашичей во главе коалиции из четырех князей три недели безуспешно осаждали Туров, стремясь возвратить его в число династических владений Мономашичей.

Все эти многочисленные передачи Туровского княжества старшим сыновьям великого князя киевского при каждом разделе Киевского княжества (3 раза), переходы туровских князей на киевский великокняжеский престол (4 раза), ожесточенная борьба за туровский престол представителей туровской династической линии Изяславичей с великими князьями киевскими в 1088 г., 1123 г., попытки в коалиционных походах в 1158 г. и 1160 г. изгнать из Турова потомков Святополка Ярославича, свидетельствуют о ценности и значительности Туровского княжества в общей системе княжеств Древней Руси.

Приведенные летописные сообщения опровергают утверждение Л. В. Алексеева о малозначительности Туровского княжества в древности, о его невысокой ценности для киевских князей.

Знал ли Л. В. Алексеев о приведенных летописных сообщениях о Туровской земле? Л. В. Алексеев оперирует в статье сообщениями из «Повести временных лет», Ипатьевской летописи. Если не знал, то это плохо для автора статьи на озаглавленную тему. Еще хуже, если знал, но сознательно игнорировал их, что приводило к искажению исторической действительности в угоду своей бездоказательной концепции.

Кстати, в приведенной цитате из очерка Л. В. Алексеева требует пояснения еще одно ошибочное утверждение об отсутствии в Туровской земле устойчивой княжеской династии [4, с. 30]. Это утверждение опровергает сам же Л. В. Алексеев, приводя генеалогическую таблицу туровских князей с оценкой: «П. Ф. Лысенко, по-видимому, прав, предлагая следующую родословную турово-пинских князей… Как видим, все это гипотетично, но другой возможности источники не дают» [4, с. 29]. Как видно из приведенных сообщений, Л. В. Алексеев в одном и том же очерке приводит два взаимоисключающих вывода. В серьезном научном труде это недопустимо.

Явная тенденциозность прослеживается в освещении Л. В. Алексеевым событий 1088 г. В том году «Повесть временных лет» содержит запись: «Того же лета иде Святополкъ из Новагорода к Турову жити» [8, с. 137]. Это верно. В «Повести временных лет» такая запись есть. Однако «Полное собрание русских летописей: Ипатьевская летопись» (т. II) содержит сообщение о переходе Святополка в Туров в другой записи: «…том же лете иде Святополкъ из Новагорода Турову на княженье» [9, стб. 199]. Запись Ипатьевской летописи, несомненно, более информативна. Она показывает, что Святополк переходит в Туров не просто «жити», а «на княжение», указывает на предпочтительную более высокую ценность Турова, чем Новгорода, с точки зрения перспектив перехода на киевский великокняжеский престол. Ведь отец Святополка Изяслав Ярославич перешел на киевский великокняжеский престол с туровского престола. Л. В. Алексеев не стал рассматривать причины перехода Святополка из Новгорода в Туров, ограничившись редакцией «Повести временных лет» «жити» – ведь именно это больше соответствовало его концепции умалению роли и значения Туровского княжества.

Одним из аргументов незначительности Туровской земли Л. В. Алексеев считает летописное сообщение 1078 г. о выделении Турова «в придачу» к Владимирскому княжеству Ярополку Изяславичу и сообщение 1132 г. о передаче Турова и Пинска Изяславу Мстиславичу в добавление к Минскому княжеству. Вот его цитаты: «3 октября происходит знаменитая битва на Нижатиной Ниве. В ней гибнет Изяслав Ярославич… Киевский стол возглавляет Всеволод Ярославич. Происходит очередное перераспределение столов: в Чернигове – Владимир Всеволодович Мономах, в Новогороде – Святополк Изяславич, его брат Ярополк получает Владимир Волынский, к которому *в* “*придачу*” *дается Туров*» [4, с. 24]. Далее: «Через 8 дней и его выгнал из Переяславля Ярополк, он вызвал Изяслава Мстиславича из Полоцка <...> Полный колебаний Ярополк, стараясь спасти эти земли для Мономахова племени, – талантливо разбирает всю эту запутанную ситуацию А. В. Поппэ, – в сомнении, кому угодить, с чьей силой считаться, той же зимой 1132/33 г. “уладися с братьею и да Переяславль Вячеславу”, а Изяславу дал остаток “передние волости его”, Минск, добавив Туров и Пинск”. Опять это *добавление* Туровских владений к чему-то!» [4, с. 25]. Здесь нужно обратить внимание на то, кем и кому предается Туровское княжество. В 1078 г. великий князь киевский Всеволод Ярославич передает Туровское княжество своему племяннику Ярополку, сыну своего старшего брата Изяслава, погибшего на Нежатиной Ниве за Всеволода, весьма вероятному претенденту на киевский престол. В 1132 г. великий князь киевский Ярополк Владимирович так же передает Туровское княжество своему племяннику Изяславу, сыну старшего брата Мстислава Владимировича, также вероятному претенденту на киевский престол. Так что наделение Туровским княжеством в 1078 г. Ярополка Изяславича и в 1132 г. Изяслава Мстиславича можно усматривать, как наделение своеобразным «княжеским доменом» претендентов на будущее княжение на киевском великокняжеском престоле. В таком случае такое наделение «в придачу» не имеет значения «умаления» роли и значения Туровского княжества, а имеет смысл своеобразного «аванса» и признания прав претендента на киевский великокняжеский престол.

К сожалению, в небольшом очерке Л. В. Алексеева «Турово-Пинское княжество» содержится довольно много ошибочных или неверных объяснений летописных сообщений. Так, автор очерка сообщает:

«Святополк Окаянный, как мы знаем, в 1015 г. вероломно занял киевский стол» [4, с. 23]. Ведь это неверно, так как Святополк Владимирович, третий сын умершего великого князя киевского Владимира Святославича, на момент его смерти оставался старшим из его сыновей после смерти старших братьев – новгородского князя Вышеслава в 1010 г. и полоцкого князя Изяслава в 1001 г. Следовательно, Святополк занял киевский престол по праву наследования на вполне легитимных основаниях, а не «вероломно», как сообщает Л. В. Алексеев. Далее он же утверждает, что туровский и великий киевский князь Святополк Владимирович после поражения в 1019 г., бегства в Польшу и смерти «межи Ляхы и Чехы» «просто бросил свое княжение в Турове» [4, с. 23]. Такая же формулировка используется Л. В. Алексеевым и впоследствии: «Первый туровский князь Святополк Окаянный просто его бросил (Туровское княжество. – *П. Л.*)» [4, с. 30]. Однако Святополк Владимирович не бросил ни Туровского, ни великого княжества Киевского. Он просто проиграл последнее сражение на Альте своему младшему брату Ярославу, поднявшему руку на старшего брата в нарушение порядка престолонаследия.

Выше уже говорилось о тенденциозно выбранном Л. В. Алексеевым летописном сообщении о переходе Святополка Изяславича из Новгорода в Туров «княжити»: «Того же лѣта Святополкъ из Новагорода к Турову жити» [8, с. 137]. Так, Л. В. Алексеев ошибочно сообщает: «24 апреля 1093 г., в день антипасхи, Святослав по смерти Всеволода Ярославича сел на киевский великокняжеский стол» [4, с. 24]. В действительности на великий княжеский киевский престол после смерти Всеволода Ярославича в 1093 г. сел не какой-то Святослав, а его племянник Святополк Изяславич, сын старшего брата Всеволода Ярославича, занимавшего киевский престол до Всеволода и погибшего в 1078 г. на Нежатиной Ниве за интересы Всеволода.

Нельзя согласиться и с утверждением Л. В. Алексеева о том, что «Турово-Пинский стол, весьма близкий к Южной Руси, не всегда имел руководителем одну и ту же княжескую фамилию. Однако эти земли обычно мыслились (во второй половине XI в., во всяком случае) за линией князей, идущей от одного из старших сыновей Ярослава Мудрого – Изяслава, Святополка и Ярополка» [4, с. 25]. После раздела великого княжества Киевского Ярославом Владимировичем Мудрым Туровским престолом последовательно владели потомки его старшего сына Изяслава (1052–1088 гг.) – его сын Ярополк (1076–1088 гг.), его второй сын Святополк (1088–1113 гг.). В 1113 г. после смерти Святополка Изяславича династическая линия Изяславичей на туровском престоле временно прервалась. После смерти Святополка Изяславича на киевский великокняжеский престол взошел Владимир Мономах. Вопреки решению Любечского съезда князей в 1097 г., закреплявшего раздел владений по принципу «каждый да володеет своей вотчиной», на котором Владимир Мономах целовал крест за утверждение этого принципа, Владимир Мономах, заботясь о своем многочисленном семействе, отказался утвердить туровский престол за Ярославом Святополчичем, сыном своего двоюродного брата и предшественника на киевском престоле. Ярослав Святополчич, владимирский князь, в борьбе за туровский престол организовал мощную коалицию из польских и венгерских войск. В походе на Владимира Мономаха в 1123 г. он погиб от рук подосланных убийц. Туровский престол с 1125 по 1158 г. оказался в руках Мономаховичей. В 1158 г. Туров занял Юрий Ярославич, сын погибшего в 1123 г. Ярослава Святополчича и внук Святополка Изяславича, туровского (1088–1113 гг.) и великого князя киевского (1093–1113 гг.). Так на туровском престоле была восстановлена династия Изяславичей, правившая в Турове, Пинске, Дубровице (на Горыне) в XII–XIII вв.

Небольшие частные замечания. У Ярослава Мудрого были сыновья Илья, Владимир, Изяслав, Вячеслав, Игорь, Святослав, Всеволод, дочери Анастасия. Елизавета, Анна. О Ярополке и его сыновьях в летописи не сказано (см. генеалогию князей Киевской Руси) [5]. Далее у Л. В. Алексеева примечание 10: «Вячеслав был четвертым сыном Владимира Мономаха (Мстислав, Изяслав, Ярополк, Вячеслав, Святослав, Юрий, Роман, Андрей), родившимся, очевидно, около 1180 г. Его карьера началась с похода с половцами в Ростовскую землю на помощь Мстиславу, с которым они разгромили Олега и Ярослава Святославичей 27 февраля 1097 г. [1, с. 170]. Таким образом, Ростовский стол, который занимал Вячеслав в 1097–1107 гг., был первым княжеским столом в жизни Вячеслава. В дальнейшем он много раз, мы увидим, сидел в Турове» [4, с. 25]. Тут, очевидно, допущена ошибка в дате рождения Вячеслава (1180 г.), так как его отец Владимир Мономах умер в 1125 г.

Также невозможно согласиться с замечанием автора «Очерка» о том, что «Новый великий князь Изяслав Давыдович с лучской, галичской и смоленской помощью напал на Туров, где теперь сидел Юрий Ярославич – сын того Ярослава Изяславича, которого мы видели на Туровском столе в 1146 г.» [4, с. 27]. В Турове в 1158 г. действительно сидел Юрий Ярославич, но это был не сын Ярослава Изяславича, а сын Ярослава Святополчича (и внук Святополка Изяславича (умер в 1113 г.)), погибшего в 1123 г. в борьбе за Туровское княжество с Владимиром Мономахом. Таким образом, в Туровском княжестве была восстановлена династия Изяславичей,

## Literatura

1. Czebreszuk, J. Społeczności Kujaw w początkach epoki brązu / J. Czebreszuk. – Poznań, 1996.

2. Czebreszuk, J. Schyłek neolitu i początki epoki brązu w strefie południowo-zachodniobałtyckiej (III i początki II tys. przed Chr.). Alternatywny model kultury / J. Czebreszuk. – Poznań, 2001.

3. Górski, J. Główne etapy rozwoju kultury trzcinieckiej na obszarze Nowej Huty na tle przemian tej kultury w zachodniej Małopolsce // Materiały Archeologiczne Nowej Huty / J. Górski. – 1997. – T. 20. – S. 7–37.

4. Górski, J. Osady i cmentarzyska trzcinieckiego kręgu kulturowego w Polesiu, stanowisko 1, gm. Łyszkowice w woj. Łódzkim / J. Górski, P. Makarowicz, A. Wawrusiewicz. – Łódź, 2011.

5. Józwiak, B. Społeczności subneolitu wschodnioeuropejskiego na Niżu Polskim w międzyrzeczu Odry i Wisły / B. Józwiak. – Poznań, 2003.

6. Kadrow, S. Gospodarka i społeczeństwo. Wczesny okres epoki brązu w Małopolsce / S. Kadrow. – Kraków, 1995.

7. Kondracki, J. Podstawy regionalizacji fizyczno – geograficznej / Kondracki, J. – Warszawa, 2002.

8. Krasnodębski, D. Leonowicze, stan. 4 – zaginiona wieś Wojski w starostwie jałowskim woj. Podlaskie. Biuletyn Konserwatorski Województwa Podlaskiego / D. Krasnodębski. – 2006. – Z. 12. – S. 169–185.

9. Kurzawa, J. Zagadnienie najwcześniejszych faz kultury ceramiki sznurowej na Nizinie Wielkopolsko – Kujawskiej. Problem tła genetycznego społeczności kultury pucharów lejkowatych / J. Kurzawa. – Poznań, 2001.

10. Machnik, J. Wczesny okres epoki brązu / J. Machnik // Prahistoria ziem polskich. – Wrocław ; Warszawa ; Kraków ; Gdańsk, 1978. – T. III: Wczesna epoka brązu. – S. 9–136.

11. Makarowicz, P. Rola społeczności kultury iwieńskiej w genezie trzcinieckiego kręgu kulturowego (2000–1600 BC) / P. Makarowicz. – Poznań, 1998.

12. Makarowicz, P. Trzciniecki krąg kulturowy – wspólnota pogranicza Wschodu i Zachodu / P. Makarowicz. – Poznań, 2010.

13. Matuszewska, A. Materiały kultury ceramiki sznurowej z Supraśla, stan. 3, w województwie podlaskim / A. Matuszewska, M. Szydłowski, A. Wawrusiewicz // Prutthenia Antiqua. Studia do pradziejów i wczesnej historii ziem pruskich. – Olsztyn, 2006. – Vol. II. – S. 167–184.

14. Wawrusiewicz, A. Wyniki badań wykopaliskowych na stanowisku 3 w Supraślu, woj. Podlaskie / A. Wawrusiewicz // Podlaskie Zeszyty Archeologiczne. – 2008. – Z. 4. – S. 5–42.

15. Wawrusiewicz, A. Wstępne sprawozdanie z ratowniczych badań wykopaliskowych realizowanych na stanowisku 2 w Jeronikach, gm. Choroszczy, pow. białostocki, woj. Podlaskie / A. Wawrusiewicz // Podlaskie Zeszyty Archeologiczne. – 2009. – Z. 5. – S. 197–212.

16. Wawrusiewicz, A. Ceramika kultury ceramiki sznurowej ze stanowiska 2 w Jeronikach, pow. białostocki, woj. Podlaskie / A. Wawrusiewicz // Podlaskie Zeszyty Archeologiczne. – 2010. – Z. 6. – S. 19–36.

17. Wawrusiewicz, A. Okres neolitu i wczesna epoka brązu na Podlasiu. Stan i perspektywy badań / A. Wawrusiewicz // Na rubieży kultur. Badania nad okresem neolitu i wczesną epoką brązu. – Białystok, 2011. – S. 13–36.

18. Лакіза, В. Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння / В. Л. Лакіза. – Мінск, 2008.

19. Чарняўскі, М. М. Неаліт Беларускага Панямоння / М. М. Чарняўскі – Мінск, 1979.

20. Чарняўскі, М. М. Неаліт з грабеньчата-накольчатай і накольчатай керамікай Заходняй Беларусі. Асаблівасці эвалюцыі / М. М. Чарняўскі // Od neolityzacji do początków epoki brązu. Przemiany kulturowe w Międzyrzeczu Odry i Dniepru między VI i II tys. przed Chr. – Poznań, 2001. – S. 231–240.

## Резюме

*А. Ваврусевич*

### Спасательные раскопки на поселении Ероники-2, гмина Хорошч в воеводстве Подляским (Польша). Предварительная интерпретация источников

В статье представлены предварительные итоги спасательных археологических исследований, которые проводились в 2008–2010 гг. на поселении Ероники-2 (AZP 37-85/2) в связи с угрозой разрушения археологического памятника в результате строительства автомобильной дороги № 8 на участке Ежево–Белосток (Польша). Всего было изучено 14 414 м$^2$ поверхности поселения. В итоге комплексных исследований было зафиксировано несколько этапов длительного заселения данной местности, которые относятся к эпохам неолита, бронзы и раннего железного века, периоду римских влияний, а также к позднему средневековью – новому времени. Кроме того найдены материалы, которые относятся к финальному палеолиту, мезолиту, культуре воронковидных кубков и раннему средневековью.

## Summary

*A. Wawrusiewicz*

### Rescue archaeological excavations on the site of Jeroniki-2, Choroszcz Commune, the Podlaskie Voivodeship (Poland). Preliminary interpretation of the sources

The presented review is the summary of the results of the archaeological excavations on the site Jeroniki-2 (Archaeological Map of Poland 37-85/2). The excavations were undertaken in connection with the imminent threat of the damage that would be caused by the extension of the main road no. 8 in the section between Jeżewo and Białystok. During the three seasons

of excavations (from 2008 to 2010), the total area of 14.414 m² was explored. On the basis of the analysis of the resources, six main stages of prehistoric and early Middle Ages settlement were distinguished on the area of the site. The items found during the excavations were identified as the assemblages of the artefacts (mainly pottery) and the archaeological structures which were the remains of the camps of the Neman culture and the Corded Ware culture. The settlement had a more stable form in the Early Bronze Age when the site (sites ?) of the Trzciniec cultural circle community was established in this area. The evidence for this is provided by 29 objects and numerous ceramic artefacts. In the second half of the first millennium BC, a production zone was set up in the area of the site. It was confirmed by the existence of the lime oven in the vicinity of which several dozens of pottery fragments were found. At the beginning of the new era, there existed a settlement of the Przeworsk culture. However, it was human activity in the late Middle Ages and the early Modern Times (from the 14th c. to the first half of the 17th c.) that exerted the most significant impact on the site. The activity was connected with the supply base which, most probably, was a part of the manor house. It was proved by the 113 spatial structures of different functions, as well as by a rich and diverse collection of the artefacts.

The author of this paper expresses hope that this brief presentation of rich and chronologically and culturally diverse material would show the opportunities of open-area rescue excavations. The archaeological records from the site of Jeroniki-2 constitute as invaluable reservoir of resources for the studies of the large sphere of the regional history.

*Паступіў 22.03.2012*

*УДК 903.4(476.6)*

***В. Л. Лакіза,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, загадчык аддзела археалогіі першабытнага грамадства, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск);*
***М. А. Плавінскі,*** *Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь, загадчык аддзела археалогіі, нумізматыкі і зброі, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск)*

# Папярэднія вынікі даследавання шматкультурнага паселішча Навасёлкі-1-ГЭС (Мастоўскі раён, 2010 г.)

**Уводзіны.** Паселішча Навасёлкі-1-ГЭС размешчана праз 0,1 км на поўдзень і паўднёвы захад ад паўднёвай ускраіны в. Навасёлкі Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці, на краі левабярэжнай тэрасы р. Нёман (вышыня да 4–6 м). Помнік выцягнуты ўздоўж ракі ад будынка былой школы (белы цагляны дом) ў бок в. Падбараны і в. Лунна (мал. 1). Яго лакалізаваў і абследаваў у 1976 і 1986 г. М. М. Чарняўскі, які на плошчы памерам каля 90 × 80 м былі выяўлены крамянёвыя матэрыялы эпохі мезаліту, неаліту, бронзавага веку і магутны пласт сярэднявякоўя. Вясной 2003 г. помнік паўторна абследавалі В. С. Абухоўскі і В. Л. Лакіза, а летам 2003 г. – экспедыцыя Інстытута гісторыі НАН Беларусі па вывучэнні зоны будаўніцтва Гродзенскай ГЭС на р. Нёман. Былі ўдакладнены першапачатковыя межы паселішча (каля 220 × 90 м), знойдзены крамянёвыя вырабы, ляпная і кругавая кераміка, зафіксаваны культурны пласт магутнасцю ад 0,4 да 0,6–1,5 м, а таксама разбурэнне помніка ракой (мал. 1) і частковае пашкоджанне культурнага пласта ворнымі работамі [1, с. 272–273; 2, с. 276].




Мал. 1. Лакалізацыя паселішча Навасёлкі-1-ГЭС на левабярэжжы р. Нёман

Пасля завяршэння будаўніцтва Гродзенскай ГЭС узровень вады на дадзеным адрэзку ракі, хаця і нязначна, падымецца, а значыць яшчэ больш інтэнсіўным стане ўздзеянне цячэння на схіл тэрасы і культурны пласт помніка. Менавіта таму ў ліпені 2010 г. тут і былі праведзены выратавальныя раскопкі[1] [2, 4].

**Асноўная частка.** Раскоп на помніку мэтанакіравана закладалі ў прырэчнай частцы паселішча ў непасрэднай блізкасці ад краю тэрасы для максімальнага вызначэння плошчы распаўсюджвання культурнага слою ўздоўж берагу р. Нёман, яго магутнасці, інтэнсіўнасці і насычанасці артэфактамі на сямі розных участках. Таму ён меў даволі складаную канфігурацыю: участкі 1, 2 і 7 былі выцягнуты па цячэнні ракі на 104 м, а ўчасткі 3–6 – ад краю тэрасы ў глыбіню паселішча да 15 м (мал. 2, 3). Нівеліровачныя адзнакі сучаснай дзённай паверхні паказваюць дакладныя перапады вышынь плошчы помніка (края тэрасы р. Нёман), яго нахіл у бок русла ракі ад 0,21 м да 0,92 м і 1,09 м.

Агульная плошча, даследаваная на паселішчы Навасёлкі-1-ГЭС у 2010 г., склала каля 305 м² [4, 5].

***Стратыграфія.*** Магутнасць культурнага пласта ў раскопе вагалася ад 0,5–0,6 м у яго паўднёвай частцы (участак 1) да 0,3–0,4 м у яго паўночнай частцы (паўночная частка участка 2, участак 7). У траншэях, закладзеных на ворным полі (участкі 3–6), яго таўшчыня паступова змяншалася з аддаленнем ад краю тэрасы (мал. 4).

Культурны пласт шэрага колеру на ўсёй працяглацсі раскопу мае аднародную структуру. Ён моцна перамешаны ў выніку шматразовага разворвання, сляды якога прасочваюцца месцамі і на мацерыку. На ўчастку 7 выяўлены пераадкладзены характар культурнага пласта, што можа быць патлумачана

[1] Даследаванні праводзіліся ў адпаведнасці з комплекснай праграмай па вывучэнні і ахове помнікаў археалогіі ў зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС (Інстытут гісторыі НАН Беларусі, РУП «Гродназнерга»), якая ажыццяўлялася на працягу 2008–2011 гг. пад навуковым кіраўніцтвам В. Л. Лакізы.

яго змывам з тэрасы ў бок Нёмана. Мацярык складзены з дробназярністага пяску светла-жоўтага колеру.

***Аб'екты і іх папярэдняя інтэрпрэтацыя.*** Непасрэдна на мацерыковым ўзроўні і ў мацерыку выяўлены 19 аб'ектаў, разнастайных па памерах і глыбіні ям (мал. 5). Іх выразная канцэнтрацыя прыпадала на паўднёвую частку раскопу ці ўчасткі 1–4.

*Аб'ект 1* (кв. 3, уч. 1) – мацерыковая яма памерам 0,72 м × 0,62 м і глыбінёй 0,12 м мела запаўненне шэрага колеру, аналагічнае культурнаму пласту, утрымліва толькі адзін крэмень.

*Аб'ект 2* (кв. 2, уч. 1) – мацерыковая яма памерам 0,3 м × 0,35 м і глыбінёй 0,04 м мела аналагічнае запаўненне і ўтрымлівала 1 фрагмент кругавой керамікі і 4 фрагменты глінянай абмазкі.

*Аб'ект 3* (кв. 5, 6, уч. 1) – мацерыковая яма памерам 0,25 м × 0,35 м і глыбінёй 0,06 м мела аналагічнае запаўненне і ўтрымлівала адзін крэмень.

*Аб'ект 4* (кв. 4, 5, уч. 1) – мацерыковая яма памерам 0,86 м × 0,68 м і глыбінёй 0,25 м мела запаўненне шэрага колеру з дробнымі вугалькамі і ўтрымлівала 8 фрагментаў ляпной керамікі.

*Аб'ект 5* (кв. 9, уч. 1) – мацерыковая яма памерам 0,6 м × 0,9 м і глыбінёй 0,25 м была запоўнена цёмна-шэрым гумусіраваным пяском, абпаленымі камянямі памерам каля 0,1 м і вуголлем, утрымлівала толькі адзін фрагмент ляпной керамікі.

*Аб'ект 6* (кв. 10, уч. 2) – нагрувашчанне камянёў на мацерыку памерам 0,53 м × 0,65 м. Прастора паміж камянямі запоўнена цёмна-шэрым моцна прапаленым пяском, вугалем. Знойдзены 3 крэмені, 6 фрагментаў кругавой керамікі і лязо жалезнага нажа даўжынёй 5,8 см і шырынёй 1,5 см.

Зыходзячы з размяшчэння аб'ектаў 5 і 6 і яго характару, можна меркаваць, што яны звязаны паміж сабой. Хутчэй за ўсё, у адзін комплекс з імі можна аб'яднаць і аб'ект 8.

*Аб'ект 7* (кв. 1, уч. 1) – мацерыковая яма памерам 0,8 м × 0,3 м і глыбінёй 0,08 м (выходзіла за межы раскопу, таму даследавана толькі часткова) мела запаўненне шэрага колеру без знаходак.

*Аб'ект 8* (кв. 12, 13, уч. 2) – мацерыковая яма памерам 2,05 м × 1,1 м і глыбінёй 1 м. Запаўненне складалася з насычанага попелам і вуголлем культурнага слою шэрага колеру, асобных абпаленых камянёў. Добра прасочваюцца асобныя праслойкі вуголля, якія могуць быць інтэрпрэтаваны, як сляды прасеўшых у яму спаленых драўляных канструкцый. Дадзены аб'ект можа быць інтэрпрэтаваны як заглыбленая ў зямлю часткай жылой пабудовы (разам з аб'ектамі 5 і 6). У запаўненні аб'екта выяўлена вялікая колькасць разнастайных артэфактаў – 46 крэменяў, 474 фрагментаў посуду, 67 фрагментаў костак.

*Аб'ект 9* (кв. 15, 15а, уч. 2, 3) – мацерыковая яма памерам 0,9 м × 0,92 м і глыбінёй 0,5 м мела за-




Мал. 2. План раскопу. Навасёлкі-1-ГЭС. 2010 г.



Мал. 3. Працэс даследаванняў. Выгляд раскопу на мацерыковым ўзроўні. Навасёлкі 1-ГЭС




Мал. 4. Асаблівасці стратыграфіі. Усходні профіль раскопу. Навасёлкі-1-ГЭС

паўненне шэрага колеру і ўтрымлівала 7 крэменяў і 3 фрагменты ляпной керамікі.

*Аб'ект 10* (кв. 17, 18, уч. 2) – мацерыковая яма памерам 0,8 м × 0,9 м і глыбінёй 0,2 м мела запаўненне шэрага колеру і ўтрымлівала толькі адзін крэмень.

*Аб'ект 11* (кв. 18, 19, уч. 2) – мацерыковая яма памерам 0,46 м × 0,54 м і глыбінёй 0,18 м мела запаўненне шэрага колеру без знаходак.

*Аб'ект 12* (кв. 20, уч. 2) – мацерыковая яма дыяметрам 0,9 м і глыбінёй 0,2 м мела запаўненне шэрага колеру і ўтрымлівала адзін крэмень і 3 фрагменты ляпной керамікі.

*Аб'ект 13* (кв. 21, 22, уч. 2) – мацерыковая яма памерам 0,9 м × 1,05 м і глыбінёй 1 м мела запаўненне шэрага колеру і ўтрымлівала 24 крэмені, 22 фрагменты ляпной керамікі, 2 фрагменты кругавой керамікі.




Мал. 5. Планы і профілі аб'ектаў. Навасёлкі-1-ГЭС

*Аб'ект 14* (кв. 24–26, уч. 2) – мацерыковая яма памерам 3,85 м × 1,1 м і глыбінёй да 0,95 м мела складаную канфігурацыю, мела запаўненне шэрага колеру з вуголлем і ўтрымлівала 37 крэменяў, 12 фрагментаў ляпной керамікі, 3 фрагменты кругавой керамікі, 3 косткі.

*Аб'ект 15* (кв. 21d, уч. 4) – мацерыковая яма памерам 1,0 м і глыбінёй 0,2 м (даследавана часткова) мела запаўненне шэрага колеру, утрымлівала 2 фрагменты ляпной і 2 фрагменты кругавой керамікі.

*Аб'ект 16* (кв. 27с, уч. 5) – мацерыковая яма памерам памерам 0,7 м × 0,55 м і глыбінёй 0,18 м мела запаўненне шэрага колеру з вуголлем і ўтрымлівала 3 крэмені і 6 фрагментаў ляпной керамікі.

*Аб'ект 17* (кв. 29, 30, уч. 2) – мацерыковая яма памерам каля 1,1 м і глыбінёй 0,3 м мела складаную канфігурацыю і запаўненне шэрага колеру з вуголлем. Знойдзены 3 крэмені і 9 фрагментаў кругавой керамікі.

*Аб'ект 18* (кв. 27, уч. 2) – мацерыковая яма памерам 0,85 м × 0,35 м і глыбінёй 0,08 м мела запаўненне шэрага колеру без знаходак.

*Аб'ект 19* (кв. 28, уч. 2) – мацерыковая яма памерам 0,75 м × 1,4 м і глыбінёй 0,35 м мела запаўненне шэрага колеру без знаходак.

***Рухомыя артэфакты і іх папярэдняя інтэрпрэтацыя.*** Усяго ў выніку раскопак на паселішчы Навасёлкі-1-ГЭС была атрымана калекцыя, якая налічвае 2871 прадмет. З іх 2076 выяўлены ў культурным пласце, а астатнія – у запаўненні аб'ектаў [4, 5].

У цэлым можна гаварыць аб дастаткова высокай, у параўнанні з астатнімі, даследаванымі ў 2010 г., помнікамі ў зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС, насычанасці культурных напластаванняў артэфактамі (9,41 артэфакта на адзін квадратны метр).

Пэўнай планіграфічнай сістэмы ў размяшчэнні знаходак у культурным пласце не прасочваецца. Знойдзеныя фрагменты керамікі ў сваёй большасці маюць невялікія памеры – у сярэднім каля 1 × 1 – 3 × 3 см, што сведчыць аб неаднаразовым разворванні і, адпаведна, перамешванні культурнага пласта (адна з прычын раздраблення керамікі).




Мал. 6. Крамянёвыя нуклеусы (*1, 2*). Навасёлкі-1-ГЭС

Выяўленыя ў раскопе матэрыялы можна падзяліць на наступныя асноўныя катэгорыі[1]:

– крамянёвы інвентар першаснай апрацоўкі і крамянёвыя вырабы са слядамі другаснай апрацоўкі;

– ляпная кераміка;

– індывідуальныя знаходкі з металу эпохі позняга сярэдневякоўя;

– кругавая кераміка і фрагменты глінянай абмазкі;

– астэалагічныя матэрыялы[2].

*Крамянёвых артэфактаў* выяўлена 694 экз. (280 экз. у 1 пл., 248 – у 2 пл., 39 – у 3 пл., 127 – у аб'ектах). Большая частка з іх – гэта прадукты першаснага расшчаплення: разнастайныя па памерах і форме абломкі, луска, адшчэпы, пласціны, некаторыя з якіх абпаленыя. Аб тэхніцы апрацоўкі крэменю даюць уяўленне нуклеусы і іх фрагменты, а таксама сколы ажыўлення пляцоўкі нуклеусаў. Апошнія ў асноўным аднапляцовачныя для пласцін, пласцін і адшчэпаў, аморфныя, некаторыя моцна выкарыстаныя (мал. 6; 7: *26*).

[1] Аўтары выказваюць ўдзячнасць археолагам А. М. Вашанаву і А. С. Арабей за дапамогу пры апрацоўцы калекцыі артэфактаў, а таксама А. М. Мядзведзеву, В. Г. Беляўцу за выказаныя меркаванні адносна культурна-храналагічнай ідэнтыфікацыі ляпной керамікі.

[2] Вызначэнне калекцыі не праводзілася, таму ў дадзеным артыкуле яна не ўводзіцца ў навуковы зварот.

Да вырабаў з другаснай апрацоўкай адносяцца адшчэпы, абломкі і пласціны з участкамі рэтушы, нарыхтоўкі прылад, трапецыя, праколкі, нажы і нажападобныя пласціны, скрабачы і скрабкі, укладышы-пласціны (мал. 7: *1–25;* 8). Самая прадстаўнічая катэгорыя прылад – скрабкі і скрабачы, выкананыя на пласцінах і адшчэпах (мал. 7: *1–9*; 8: *2–8*). Найбольш паказальнымі з'яўляюцца трапецыя (мал. 8: *1*), серыя аднатыпных нажападобных пласцін (мал. 7: *22–24*), фрагмент серпападобнага нажа (мал. 8: *9*).

Аналіз тэхналагічных асаблівасцей крамянёвых прылад, іх тыпалагічная класіфікацыя даюць падставы частку крамянёвага інвентару датаваць канцом барэальнага пачаткам атлантычнага перыяду (час распаўсюджвання трапецый) і звязваць з яніславіцкай культурай [9, с. 46–54; 12]. Яе прадстаўнікі выкарыстоўвалі тэхналогію першаснай крэмнеапрацоўкі, якая будавалася на эксплуатацыі аднапляцовачных нуклеусаў для атрымання рэгулярных пласцін, шырока ўжывалася тэхніка мікраразцовага сколу, свед-




Мал. 7. Крамянёвы інвентар (*1–12*). Навасёлкі-1-ГЭС




Мал. 8. Крамянёвы інвентар (*1–26*). Навасёлкі-1-ГЭС

чаннем гэтага з'яўляюцца знаходкі аднапляцовачнага монафрантальнага нуклеуса (мал. 6: *2*) і пласцін, зламаных у месцы сфармаванай выемкі (мал. 7: *12–14*). Прадметы паляўнічага ўзбраення яніславіцкай культуры прадстаўлены трапецыяй, выкананай на рэгулярнай пласціне (мал. 6: *1*). Да яніславіцкай культуры неабходна адносіць і большую частку знойдзеных на помніку скрабкоў і скрабачоў, выкананых на пласцінах (мал. 7: *2–6;* 8: *3, 4, 8, 11*) [9, 12]. Частку крамянёвых вырабаў неабходна адносіць да канца неаліту ці пачатку бронзавага веку, напрыклад нуклеус (мал. 6: *1*), ножападобныя пласціны (мал. 7: *22–24*), серпападобны нож (мал. 8: *9*), хаця не выключана, што яны маглі выкарыстоўвацца насельніцтвам і ў познім перыядзе бронзавага веку.

Нягледзячы на тое, што *ляпной керамікі* ў культурным пласце знойдзена толькі 97 фрагментаў (пераважна дробных), яны маюць вялікае значэнне для рэканструкцыі гістарычных працэсаў на правабярэжжы Нёмана ў II–I тысячагоддзях да н. э. (верагодна, і самым пачатку I тысячагоддзя н. э.). Фрагменты керамікі паходзяць ад разнастайных пласкадонных гаршкоў (напрыклад, знойдзена 14 венчыкаў, 5 плоскіх дноў і 78 сценак) карычневага, светла-карычневага, шэраватага колеру. Цеста іх – з дамешкамі даволі буйнай некалібраванай жарствы дыяметрам




Мал. 9. Ляпная кераміка позняга бронзавага–ранняга жалезнага вякоў (*1–9*). Навасёлкі-1-ГЭС

0,1–0,5 см. Большасць фрагментаў пакрыта штрыхоўкай рознай глыбіні і шчыльнасці на вонкавай, а часам і на ўнутранай, паверхні (мал. 9, 10).

Пакуль што можна казаць, што падчас даследаванняў 2009 г. не выяўлена керамікі, якую дакладна можна звязваць з характэрнымі для Панямоння неалітычнымі (і познанеалітычнымі) культурамі: нёманскай, культуры шарападобных амфар і кола культуры шнуравой керамікі. Толькі некалькі дробных фрагментаў сценак без арнаменту з лёгкай штрыхоўкай абедзвюх паверхняў можна папярэдне адносіць да позняга неаліту–ранняга перыяду бронзавага веку. Аналогіі ім маюцца, напрыклад, на паселішчы Кавальцы-3–Турыст-ГЭС, аднак інтэрпрэтацыя іх застаецца спрэчнай.

Зыходзячы з мікрамарфалагічных асаблівасцей, характару дамешак і апрацоўкі паверхняў большую частку астатняй ляпной керамікі можна папярэдне падзяліць на дзве ўмоўныя групы (мал. 9, 10) і аднесці да позняга бронзавага–ранняга жалезнага вякоў (І тысячагоддзе да н. э. – пачатак І тысячагоддзя н. э.). У адносінах да іх культурна-храналагічнай ідэнтыфікацыі сёння маецца больш пытанняў, чым адказаў, прычым як у даследчыкаў з Беларусі [3, 6, 7], так і з Польшчы [10, 11]. Важна, што на тэрыторыі Беларускага Панямоння за апошнія гады выяўлены значны, раней невядомы, пласт старажытнасцей і помнікаў (Навасёлкі-1-ГЭС, Кавальцы-4, Кавальцы-1-ГЭС, Кавальцы-3–Турыст-ГЭС, Славічы-1-ГЭС, Славічы-2-ГЭС, Коматава-2-ГЭС, Коматава-4-ГЭС і інш.), якія дазваляюць характарызаваць культурнае развіццё насельніцтва заходніх рэгіёнаў Беларусі ў І тысячагоддзі да н. э. – пачатку І тысячагоддзя н. э. у перыяд распаўсюджвання традыцый культуры штрыхаванай керамікі.

*Кругавая кераміка* з’яўляецца найбольш шматлікай катэгорыяй знаходак – усяго атрымана 2005 фрагментаў ад разнастайнага кругавога посуду (венчыкі,




Мал. 10. Ляпная кераміка позняга бронзавага–ранняга жалезнага вякоў (*1–10*). Навасёлкі-1-ГЭС

плоскія дны, сценкі). Цалкам пераважае непаліваная кераміка, зробленая з цеста карычневага і шэрага колераў з дамешкам дробнай жарствы і пяску. Шэраг фрагментаў упрыгожаны па плечукам лінейным арнаментам і толькі асобныя фрагменты пакрыты хвалістым арнаментам. У керамічнай калекцыі ёсць таксама асобныя фрагменты шэрага колеру з глянцаванай паверхняй. Паліваныя фрагменты пакрыты палівай зялёнага колеру розных адценняў. Акрамя гаршчкоў у калекцыі прысутнічаюць фрагменты макотраў, рынкі, талеркі.

Варта асобна адзначыць, што ў пластах 2–3 у кв. 49–58 знойдзены шэраг венцаў, зробленых на ручным ганчарным крузе, якія могуць належаць да старажытнарускага часу. Але абсалютная большасць фрагментаў можа быць датавана XVI–XVIII стст.

*Індывідуальныя знаходкі* нешматлікія і прадстаўлены ўсяго шасцю прадметамі:

– фрагментам ляза нажа даўжынёй 3,6 см і шырынёй 1,3 см;

– нажом з сагнутым лязом (шырыня ляза – 1,6 см) і чаранком даўжынёй 5,9 см;

– нажом даўжынёй 13,2 см (даўжыня ляза – 11,4 см, шырыня ляза – 1,3 см);

– каваным цвіком;

– фрагментам жалезнай скабы;

– свінцовай куляй дыяметрам 1,3 см з літнікам.

Усе гэтыя артэфакты не могуць быць вузка датаваны. Можна толькі канстатаваць іх прыналежнасць да эпохі позняга сярэдневякоўя, альбо ранняга новага часу.

Выяўленыя падчас раскопак рухомыя артэфакты даюць падставу для папярэдніх разважанняў адносна некаторых аб’ектаў і іх датавання. Так, з 19 даследаваных аб’ектаў 15 утрымлівалі разнастайныя знаходкі. Улічваючы наяўнасць у 7 з іх фрагментаў кругавога посуду эпохі сярэдневякоўя, яны таксама могуць быць датаваны гэтым часам (аб’екты 2, 6, 8, 13, 14, 15, 17).

У аб’ектах 1, 3 і 10 у запаўненні былі знойдзены толькі крамянёвыя вырабы. Калі прыняць, што яны не маглі трапіць у запаўненне штучным шляхам, то іх можна папярэдне адносіць да каменнага–бронзавага вякоў.

У запаўнені 5 аб’ектаў (аб’екты 4, 5, 9, 12, 16) утрымліваліся фрагменты ляпной керамікі, таму іх можна папярэдне датаваць канцом бронзавага – раннім жалезным вякамі.

Аб’ект 17, верагодна, сінхронны комплексу кругавой керамікі з культурнага слою – XVI–XVIII стст.

Значную цікавасць прадстаўляюць аб’екты 5, 6 і 8, якія, верагодна, звязаны паміж сабой і з’яўляюцца рэшткамі аднаго жытла. Напрыклад, аб’ект 8 – гэта рэшткі заглыбленнай часткі жытла (падпольная яма ?). У яго запаўненні было выяўлена 67 костак са слядамі расколвання і 474 фрагменты керамікі. Мяркуючы па фрагментах венцаў і донцаў, яны належалі не менш як да 22 кругавых пасудзін, частку з якіх удалося адрэстаўраваць (мал. 11). Пераважная большасць з гэтых пасудзін – гаршкі, але выяўлены таксама кубак і міска. Посуд можа быць датаваны XVI–XVIII стст. [8, с. 55–62]. Акрамя кру-



Мал. 11. Рэканструкцыі форм кругавога посуду з аб’екта 8. Навасёлкі-1-ГЭС

гавога посуду ў запаўненні аб’екта 8 былі выяўлены жалезны замок і бронзавая канцавая накладка тронкаў нажа. Замок належыць да тыпу вісячых з корпусам прамавугольнай формы і паўкруглай, пляскай у сячэнні дужкай. Памеры замка: шырыня корпуса – 5,5 см, вышыня корпуса – 3,3, вышыня корпуса з дужкай – 5,9 см. Канцавая накладка тронкаў нажа мае фігурную форму і памер 2,0 × 1,3 см і таўшчыню – 0,05 см. Накладка мае рабрыну ўздоўж прадольнай восі.

**Высновы.** Такім чынам, культурны пласт археалагічнага помніка Навасёлкі-1-ГЭС утрымлівае артэфакты розных эпох – ад мезаліту да Новага часу. У функцыянаванні паселішча можна вылучыць некалькі перыядаў і адпаведна комплексаў старажытнасцей:

– *першы комплекс старажытнасцей* – паселішча Навасёлкі-1-ГЭС – прадстаўлены крамянёвым інвентаром, які патрэбна датаваць канцом барэальнага–пачаткам атлантычнага перыяду і звязваць з яніславіцкай культурай;

– *другі комплекс старажытнасцей* вылучаецца паводле адзінкавых знаходак крамянёвага інвентару і дробных фрагментаў ляпной керамікі і адносіцца да позняга неаліту–ранняга перыяду бронзавага веку;

– *трэці комплекс старажытнасцей* прадстаўлены ляпной керамікай позняга бронзавага веку–ранняга перыяду эпохі жалеза (I тысячагоддзе да н. э. – I тысячагоддзе н. э.) і папярэдне можа звязвацца з традыцыямі культуры штрыхаванай керамікі;

– *чацвёрты комплекс старажытнасцей* позняга сярэдневякоўя і ранняга новага часу прадстаўлены найбольшай колькасцю знаходак і можа быць датаваны XVI–XVIII стст.;

– верагодна, можа быць вылучаны яшчэ *пяты комплекс (ці падкомплекс) старажытнасцей,* які фіксуецца ўсяго па некалькіх знаходках венцаў керамікі, якія могуць быць папярэдне датаваны старажытнарускім часам.

Зыходзячы з магутнасці культурнага пласта і размяшчэння мацерыковых аб’ектаў, можна меркаваць, што сучаснае паселішча Навасёлкі-1-ГЭС уяўляе з сабе толькі ўскраіну некалі існаваўшых – стаянкі мезаліту, паселішча бронзавага веку, селішча жалезнага веку. Можна канстатаваць, што большая частка іх плошчы разбурылася ў выніку падмывання карэннага берагу інтэнсіўным цячэннем р. Нёман. Артэфакты XVI–XVIII стст., выяўленыя падчас раскопак, сведчаць аб функцыянаванні на гэтым месцы вёскі эпохі позняга сярэдневякоўя–ранняга новага часу.

## Літаратура


1. Археалагічнае абследаванне ўзбярэжжаў Нёмана ў зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС / В. Абухоўскі [і інш.] // Гіст.-археалаг. зб. – Вып. 19. – Мінск, 2004. – С. 272–273.

2. Археалагічныя разведкі 2003 г. у басейне Нёмана / В. Лакіза [і інш.] // Гіст.-археалаг. зб. – Вып. 19.– Мінск, 2004. – С. 276–277.

3. Егорейченко, А. А. Культуры штрихованной керамики / А. А. Егорейченко ; Белорусский государственный университет. – Минск : Бел. гос. ун-т, 2006. – 207 с.

4. Лакіза, В. Л. Раскопкі на помніках Мігова 1-ГЭС, Селюкі 1-ГЭС, Дарошавічы 1-ГЭС, Дарошавічы 3-ГЭС Гродзенскага раёна, Навасёлкі 1-ГЭС Мастоўскага раёна. Раздзел 1–5 / Справаздача № 4 аб выкананні навуковых археалагічных даследаванняў на помніках археалогіі Мігова 1-ГЭС, Селюкі 1-ГЭС, Дарошавічы 1-ГЭС, Дарошавічы 3-ГЭС, Навасёлкі 1-ГЭС, Дарошавічы 2-ГЭС, Глядавічы 1-ГЭС, Коматава 5-ГЭС у зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС на р. Нёман у 2010 годзе // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2789. – Мінск, 2011. – 281 с.

5. Лакіза, В. Л. Навасёлкі 1-ГЭС / В. Л. Лакіза, М. М. Плавінскі // Археалогія Беларусі : у 2 т. – Мінск : БелЭН імя Петруся Броўкі, 2011. – Т. 2. – С. 123.

6. Медведев, А. М. Беларуское Понеманье в раннем железном веке (I тысячелетие до н. э. – 5 в. н. э.) / А. М. Медведев ; Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси. – Минск : Ин-т истории НАН Беларуси, 1996. – 200 с.

7. Медведев, А. М. Верхнее Понеманье в железном веке и раннем средневековье / А. М. Медведев. – Минск : Беларус. навука, 2011. – 350 с.

8. Шаблюк, В. У. Сельскія паселішчы Верхняга Панямоння XIV–XVIII стст. / В. У. Шаблюк. – Мінск : Беларус. навука, 1996. – 119 с. : іл.

9. Kozłowski, S. K. Z problematyki polskiego mezolitu (cz. 2). O podziale chronologicznym / S. K. Kozłowski // Materiały do prahistorii plejstocenu i wczesnego holocenu Polski. – Warszawa, 1967.

10. Krasnodębski, D. Osada z ceramiką sztrychowaną z późnego okresu lateńskiego i wczesnego okresu wpływów rzymskich z miejscowości Suraż, st. 37 / D. Krasnodębski, H. Olczak // Badania archeologiczne w Polsce północnowshodniej i na zachodniej Białorusi w latach 2000–2001: materiały z konf., Białystok, 6–7 grudnia 2001 roku. – Białystok, 2002. – S. 215–224.

11. Rusin, K. Ślady osadnictwa kultury ceramiki kreskowanej na stanowisku 1 w Grochach Starych, gm. Poświętne, woj. białostockie / K. Rusin // Ceramika zachodnio-bałtyjska od wczesnej epoki żelaza do początku ery nowożytnej: materiały z konf., Białystok, 14–18 maja 1997 r. – Białystok, 1998. – S. 87–93.

12. Wąs, M. Technologia krzemieniarstwa kultury janisławickiej / M. Wąs. – Łódź, 2005.

**Резюме**

*В. Л. Лакиза, М. А. Плавинский*

**Предварительные итоги исследования многокультурного поселения Новоселки-1-ГЭС (Мостовский район, 2010 г.)**

Введены в научный оборот первые результаты исследований археологического памятника Новоселки 1-ГЭС. Многокультурное и разновременное поселение расположено на левом берегу р. Неман в Мостовском районе Гродненской области. В 2010 г. на нем было исследовано 305 м$^2$ культурного слоя, мощность которого составила 0,5–0,6 м в южной и 0,3–0,4 м в северной частях. В раскопе на материковом уровне зафиксировано 19 объектов, в том числе следы жилой постройки эпохи средневековья.

Всего выявлен 2871 артефакт: кремневые орудия труда, лепная и круговая керамика, железные изделия. Их культурно-хронологическая идентификация дает основания для выделения как минимум пяти периодов существования поселения Новоселки 1-ГЭС в позднем мезолите, позднем неолите и бронзовом веке, эпохе железа, древнерусском времени, позднем средневековье и раннем новом времени.

**Summary**

*V. Lakiza, M. Plavinski*

**Preliminary research results of the multicultural settlement Novoselki-1-Hydropower plant (Mosty district, 2010)**

The article introduces into scientific circulation first results of research on the archaeological monument Novoselki 1-HPP. This multicultural settlement characterized by time diversity, is situated on the left bank of the river Neman in Mosty district of Grodno region. In 2010 the investigations covered 305 sq m of cultural layer, which thickness amounted to 0,5–0,6 m in southern and 0,3–0,4 m in northern parts. In excavation area on a bed level 19 objects were discovered, including traces of medieval housing development.

All in all 2871 artefacts were uncovered: flint tools, handmade and whellmade pottery, ironwork. Their cultural and chronological identification give grounds to diversify at least 5 periods of existence of Novoselki 1-HPP in the Late Mesolithic, Late Neolithic and Bronze Age, Stone Age, Old Russion Age, Late Middle Ages and Early Modern Age.

*Паступіў 29.03.2012*

*УДК 903.02(476)*

***Н. Н. Дубицкая,** Институт истории НАН Беларуси, старший научный сотрудник, кандидат исторических наук (г. Минск)*

# Изделия из глины на памятниках культуры Абидни в Белорусском Поднепровье

Памятники культуры Абидни (II–V вв.) локализованы в Белорусском Поднепровье. Они, как правило, расположены по краям первых речных террас. Памятники представлены неукрепленными поселениями (селищами) и грунтовыми могильниками. Обряд погребения – кремация в ямах, позднее появились урновые захоронения. Большая заслуга в изучении древностей римского времени в Белорусском Поднепровье принадлежит известному белорусскому археологу Л. Д. Поболю. В результате его многолетних раскопок (Абидня, Тайманово и др.) получен большой фактологический материал, позволяющий с недоступной ранее полнотой осветить многие проблемы истории населения лесной и лесостепной зоны Восточной Европы во второй и третьей четверти I тысячелетия н. э.

Самой многочисленной категорией археологических находок являются различные керамические изделия и их обломки. Помимо керамической посуды из глины изготавливали различные предметы технического и бытового назначения, а также украшения. Техническая керамика представлена тиглями, льячками, литейными формами. К изделиям бытового назначения относятся пряслица, грузики, грузила. Иногда из глины изготавливали бусины. Встречаются различные глиняные фигурки, которые, по-видимому, выполняли роль амулетов, либо служили детскими игрушками.

Наиболее распространенная категория бытовых изделий из глины – пряслица. Например в Абидне коллекция пряслиц насчитывает 406 экземпляров [6, с. 106–111], в Тайманово найдено 427 целых и обломки пряслиц (сведения о находках Тайманово взяты из полевых отчетов Л. Д. Поболя по итогам раскопок в 1967–1983 гг.). Таймановские пряслица найдены во всех полуземляночных постройках, остальные пряслица происходят из культурного слоя поселения. Все пряслица изготовлены из отмученной глины с мелкими минеральными примесями. Поверхность, как правило, тщательно заглажена. Большая часть пряслиц Тайманово неорнаментирована (92,7%). Орнаментация пряслиц самая разнообразная. Чаще всего орнаментом покрывалась вся внешняя поверхность пряслиц, иногда только боковые стороны или только противоположные стороны. Встречаются следующие виды декора: точечный, прочерченный, нарезной, циркульный (рис. 1; 2; 3: *1*). Найдено одно пряслице с защипами (рис. 1: *3*). Преобладает точечный декор. Элементы декора нередко комбинировались, складывались в определенный орнамент, несущий смысловую нагрузку. На одном пряслице имееется изображение солярного знака – свастики (рис. 1: *2*). Пряслице выявлено в полуземляночном жилище № 15 (на глубине 0,68 м) вместе с бронзовыми подвязными фибулами западного облика, постройка датирована 330 г. Все элементы декора, за исключением циркульного, встречены на поселении Абидня [6, с. 106–111].

Подавляющее большинство пряслиц Тайманово имеют биконическую форму с четко выраженными гранями (тип IVЕ для пряслиц Абидни по А. В. Ильютик) [6, с. 106–111]. Встречаются и другие разновидности биконической формы: с вогнутыми основаниями (29 экз.), округло-биконические (18 экз.), удлиненно-биконические (4 экз.), с валиком по ребру (3 экз.), с канавкой по ребру (1 экз.). Все эти варианты биконической формы, в том числе единичные находки пряслиц с валиком (вариант Ж) и канавкой по ребру (вариант К), имеются в коллекции из поселения Абидня [6, с. 109]. Изредка встречаются другие формы, прежде всего округлая форма (3 экз.) и ее варианты – плоско-округлая и уплощенно-округлая (3 экз.), округлая с вогнутыми основаниями (1 экз.). Цилиндрическое пряслице с вогнутыми основаниями найдено в Симоновичах [1, рис. 4: *1*]. Такие пряслица весьма характерны для поздних памятников культуры штрихованной керамики и банцеровской культуры [11, с. 41]. Пряслица с вогнутыми основаниями (тип V по А. В. Ильютик) довольно распространены в Абидне. Там, как и в Тайманово, преобладает биконическая и округло-биконическая форма пряслиц (тип V, варианты Д, Е), с округлыми боками (тип VА) представлена четырьмя экземплярами, цилиндрическая форма с вогнутыми основаниями (Симоновичи) (тип VГ) не встречена ни разу [6, рис. 109, табл. 1]. Два пряслица имеют уплощенную форму. Одно пряслице имеет линзовидную форму (тип VI по А. В. Ильютик) [6, с. 106–111]. В полуземляночной постройке № 28 Тайманово найдено сосудообразное пряслице (рис. 3: *2*). Четыре пряслица изготовлены из стенок сосуда. Пряслица из стенок сосуда встречены также на поселениях Абидня [6, с. 106], Симоновичи [1, с. 10, рис. 4: *4*] и Дедново [5, рис. 12: *10*]. В Тайманово найдены несколько пряслиц без отверстия, одно из них украшено комбинированным точечно-прочерченным орнаментом (рис. 2: *4*). Предположительно, это заготовки. А. В. Ильютик считает, что это заготовки для маховичков, либо эти предметы могли использовать в качестве шашек [6, с. 106].



Рис 1. Глиняные орнаментированные пряслица *(1–8).* Тайманово. Раскопки Л. Д. Поболя

Практически все типы пряслиц, за исключением сосудообразного пряслица, и в тех же соотношениях встречены на синхронном поселении Абидня [6, с. 106‒111].

Общий диаметр пряслиц из Тайманово варьирует от 1,6 до 4,3 см. Диаметр отверстия составляет от 0,5 до 1,6 см, чаще 0,8–1,4 см, одно биконическое, округло-биконическое и линзовидное пряслица имели диаметр отверстия 0,4 см. Высота пряслиц составляла 0,8–2,3 см, чаще 0,8–1,5 см, у одного пряслица из стенки сосуда высота не превышала 0,6 см. По соотношению высоты к максимальному диаметру (Н : Д1) и диаметра отверстия к максимальному диаметру (Д2 : Д1) можно выделить два типа пряслиц. К первому типу относятся пряслица с незначительным диаметром отверстия до 0,8 см (70 экз.). Они характеризуются следующими пропорциями: Н : Д1 равно 0,4–1,0; Д2 : Д1 – 0,2–0,3. Ко второму типу относятся пряслица, диаметр отверстия которых больше 0,8 см. Им в основном соответствуют пропорции: Н : Д1 и Д2 : Д1 равно 0,4–0,6 и 0,4–0,5. Преобладающий тип пряслиц на памятнике – до-




Рис. 2. Глиняные пряслица и заготовки *(1–11)*. Тайманово. Раскопки Л. Д. Поболя

вольно низкие по высоте (до 1,5 см) биконические пряслица с довольно широким (1,0 см и более) отверстием. Такие пряслица характерны практически для всех культур лесной и лесостепной зоны первой половины и третьей четверти I тысячелетия н. э.

Аналогичные по форме пряслица выявлены и на других памятниках (Симоновичи, Дедново). В Симоновичах известно 17 пряслиц, в Дедново – 48 пряслиц [4, с. 29–30; 5, с. 55. рис. 12]. Преобладают биконические пряслица. Широкое распространение биконических пряслиц, очевидно, имеет большое технологическое значение, так как биконическая форма обладает наибольшей инерцией при вращении. В Дедново найдена редко встречающаяся разновидность биконического пряслица – с гранеными боками [4, рис. 9: *16*]. Граненое высокое (2,5 см) биконическое пряслице с более узким (диаметр 0,6 см) внутренним отверстием, чем дедновское пряслице, найдено вместе с лепной керамикой во время шурфовки на посаде древнего Турова (рис. 3: *8*). Граненые биконические пряслица изредка встречаются в черняховских древностях [9, рис. 84: *17*].

В культурном слое поселения Тайманово найдено 5 грузиков, из них два грузика целых и три фрагментарных. Диаметр грузиков – 2,1–3,4 см, высота – 2,4–5,0, диаметр отверстия – 0,4–1,0 см, (рис. 3: *3, 5, 6*). Грузики изготовлены из такого же глиняного теста с мелкими специальными мине-



Рис. 3. Изделия из глины: *1, 2* – пряслица; *3, 5, 6* – грузики; *4* – тигель; *7* – льячка; 8 – пряслице; *1–7* – Тайманово; *8* – Туров. Раскопки Л. Д. Поболя

ральными добавками, что и пряслица. Следует отметить, что глины для грузиков не столь тщательно отмучивали. Грузики также известны в Абидне.

Также из глины в Тайманово изготовляли различные типы грузил. Всего найдено 42 грузила, из них 5 грузил сохранились в целом виде (рис. 4), остальные грузила – фрагментарно. Грузила встречались как в культурном слое, так в заполнении полуземляночных построек (№ 4, 16, 38, 41, 42, 44, 46, 47), находили их в хозяйственных ямах, при разборке очагов. На территории могильника обломки грузил найдены вне погребений. Исключением является погребение № 188, в котором выявлены обломки двух грузил. Однако следует учесть, что данное погребение было произведено на месте заброшенной хозяйственной ямы, а находки грузил относятся именно к содержимому заполнения ямы.

По форме можно выделить несколько типов грузил: пирамидальные (18 экз.), округлые (9 экз.), овальные (4 экз.), конусовидные (4 экз.). Диаметр округлых грузил составляет 4,5–8,2 см, овальных грузил – 5,3–6,7 см. Диаметр конусовидных грузил по нижней части – 8,2–9,9 см. Размеры пирамидальных грузил составляют от 5,2 см (по верху) до 9,0 см (по низу). Восстановить форму остальных грузил не представляется возможным.

Особую группу грузил составляют пирамидальные (рис. 4: *1, 2*), которые достаточно широко представлены в киевских и черняховских древностях. На памятниках киевской культуры они появляются на позднем этапе ее развития – в IV – первой половине V в. [17, с. 187, рис. 4: *27–29*; 18, с. 63, рис. 14: *20*]. Предшествующему населению такие типы грузил были не известны. Пирамидальные гру-




Рис. 4. Грузила *(1–5).* Тайманово. Раскопки Л. Д. Поболя

зила являются деталями вертикального ткацкого станка, и их появление в Белорусском Поднепровье непосредственно связано с черняховским влиянием. Не исключено, что появление пирамидальных грузил и пряслиц с большими отверстиями взаимосвязаны.

Наличие предметов технической керамики свидетельствует о довольно развитом бронзолитейном производстве. Местное производство подтверждают находки сплавленной бронзы на поселениях Абидня и Тайманово. Также свидетельством местного производства цветного металла служат находки формочек для отливки металла – тиглей и специальных ложек для разливки горячего металла – льячек.

В Тайманово найден целый тигель и 12 тиглей, сохранившихся фрагментарно. Целый тигель выявлен в заполнении полуземляночной постройки № 32, обломки тиглей найдены в полуземлянках № 4, 29, остальные обломки тиглей происходят из культурного слоя поселения. Тигли представляют собой небольшие сосудики конической формы высотой 6,0–8,0 см. Особенностью тиглей Тайманово является подтреугольная форма горловины. Такая горловина отмечена у пяти тиглей, в том числе у целого тигля из полуземлянки № 32 (рис. 3: *4*) (постройка датирована 200–310 гг.). Тигли с подтреугольной горловиной широко представлены на посе-

лении Абидня [15, с. 118, рис. 19; с. 120, рис. 24: *5, 6*; с. 122, рис. 31: *4, 5*, с. 126, рис. 35: *3*]. Из Абидни происходит обломок тигля с ручкой. По-видимому, тигель имел тулово в виде округлой чаши. Тигель найден в полуземлянке № 28 вместе с железной фибулой с подвязной ножкой, которая датирована по Е. Л. Гороховскому 230–270 гг. [16, с. 126, 127, рис. 17: *4*]. В Абидне найден еще один обломок тигля с туловом округлой формы [15, с. 110, рис. 34: *13*]. Тигель выявлен в полуземлянке № 20 в комплексе с железной фибулой с цельным приемником, железной D-образной пряжкой без язычка, бронзовой посоховидной булавкой с ромбическим сечением головки, железной посоховидной булавкой с квадратным сечением и другими находками, которые датируют постройку III – началом IV в. Обломки тиглей найдены и на поселении Симоновичи. Наиболее сохранившийся из тиглей имеет подковообразную форму с округлыми боками, форма горловины тигля овальная [1, рис. 4: *10*].

На поселении Тайманово также найдены специальные керамические ложки для разливки горячего цветного металла – льячки, которые происходят из культурного слоя поселения. Всего найдена почти целая льячка и три льячки, сохранившиеся фрагментарно (фрагмент ложки и два фрагмента ручек). Общая длина целой льячки составляет 4,0 см, размер ложки – 2,2 × 1,2, ширина ложки – 3,1, высота ложки – до 2,0, глубина ложки – 1,2, длина втулки – 4,0, диаметр втулки 0,7 см (рис. 3: *7*). Похожие льячки найдены на соседнем поселении Абидня, где также было развито бронзолитейное ремесло. В Абидне целая льячка была найдена в полуземлянке № 18 вместе со слитком кованой бронзы и двумя бронзовыми орнаментированными трубочками. Длина льячки – 5,3 см, диаметр ложки – 3, диаметр ручки – 2,1 см [15, с. 123, рис. 32: *8*]. Полуземлянка № 18 была без отопительного сооружения, что может указывать на ее хозяйственное назначение. Учитывая вышеназванные вещи, не исключено, что данная постройка являлась мастерской литейщика. Бронзовые орнаментированные пластинчатые украшения, аналогичные тем, что выявлены в полуземлянке № 18, входят в группу изделий круга «варварских» выемчатых эмалей. Подобные украшения известны в Мощинском, Межигорском, Жукинском кладах, на ряде позднезарубинецких и киевских памятниках [19, с. 29]. Фрагмент льячки найден также на поселении Симоновичи. Льячка представлена обломками черенка с округлым отверстием диаметром около 0,8 см, в которое вставлялась деревянная рукоятка [1, с. 9, рис. 5: *10*].

На селище Тайманово в заполнении полуземлянки № 18 найден обломок глиняной литейной формочки длиной 2,4 см, шириной 2,7 см, толщиной 1,0 см. Глиняные формочки известны и в Абидне. Одна из них сохранилась полностью, в ней отливались подвески с шестью рожками (лунницы ?).

На поселении Тайманово найдена маленькая глиняная фигурка, предположительно, голова медведя. Фигурка обломана. Длина сохранившейся части – 2,4 см. По-видимому, это была подвеска-амулет. Возможно, амулетом служило глиняное изделие из поселения Дедново. Оно представляло собой плоский кружок, у которого отверстие расположено ближе к краю [4, с. 30]. На поселении Тайманово найден глиняный обожженный шарик диаметром 2,0 см. Возможно, это была подготовленная, но забракованная по каким-то причинам заготовка бусины.

На селище Тайманово найдена уплощенно-овальная глиняная бусина. Диаметр бусины – 1,4 см, диаметр отверстия – 0,4, высота – 0,8 см. Три глиняные бусины найдены в Абидне, в полуземляночных постройках № 4 и № 5 [15, с. 104]. Единичная находка глиняной бусины в Тайманово и несколько бусин в Абидне свидетельствуют о том, что «украшения бедняков» были не в моде у зажиточного населения поселений. В частности, коллекция стеклянных бус Тайманово насчитывает 59 экз., Абидни – 74 экз. [7, с. 244]. Это самая крупная коллекция стеклянных бус среди синхронных памятников Восточной Европы.

Таким образом, ассортимент изделий из глины на памятниках типа Абидни одинаковый – пряслица, грузики, грузила, украшения (бусы), различные амулеты. Самыми распространенными бытовыми изделиями из глины являлись приземистые биконические пряслица с широким (1 см и более) отверстием (тип IV, варианты Д, Е по А. В. Ильютик). Они являлись ведущей формой на всех памятниках (Абидня, Тайманово, Дедново, Симоновичи). Биконические пряслица с широким отверстием также характерны для синхронных древностей Подесенья и Среднего Поднепровья [18, с. 63]. В то же время у западных соседей – племен культуры штрихованной керамики – преобладали пряслица с округлой и прямой профилировкой боковой стороны [2, с. 94–95, табл. 69]. Биконические пряслица (тип IV Е по А. В. Ильютик, тип IV Е по А. М. Медведеву) на этой территории были широко распространены только у населения банцеровской культуры (V–VIII вв.) [3, с. 107; 10, с. 230]. Присутствие западных типов пряслиц на памятниках типа Абидни (с обоюдовогнутыми боками – тип V, цилиндрической формы – вариант Г по А. В. Ильютик) также, несомненно, являются заимствованием у племен культуры штрихованной керамики. Биконическая форма пряслиц появилась у населения зарубинецкой культуры (Чаплин и др.) [12; 13, рис. 22, 23; 14, с. 96] и уже к началу второй четверти I тысячелетия н. э. стала ведущей формой пряслиц на всей территории, на которой ранее расселялись зарубинецкие племена. Как правило, у пряслиц второй четвер-

# ПАЛЯВЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ 2009–2010 ГАДОЎ

## *Першабытны перыяд*

***В. У. Ашэйчык,*** *Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, аспірант (г. Мінск)*

### Археалагічная разведка на тэрыторыі Лідскага раёна ў 2009 годзе

На падставе Дазволу № 2070 па форме № 3 у кастрычніку 2009 г. аўтарам была праведзена археалагічная разведка на тэрыторыі Лідскага раёна Гродзенскай вобласці[1]. Маршрут разведкі ўключаў ваколіцы вёскі Дакудава і раней неабследаваны ўчастак правага берага (верхняй тэрасы) Нёмана ад вёскі Дакудава да вусця ракі Дзітва. У ходзе работ наведаны адзін раней вядомы і выяўлена 17 новых помнікаў археалогіі (мал. 1), на якіх быў праведзены збор пад'ёмнага матэрыялу (гл. табліцу).

На калгасных палях, што прымыкаюць да вёскі Дакудава-1[2], і на палетках яе жыхароў лакалізавана

**Археалагічны матэрыял, атрыманы ў выніку археалагічных разведак на тэрыторыі Лідскага раёна ў 2009 г.**

| № | Помнік | Матэрыял |
|---|---|---|
| 1 | Дакудава-1 | 1 нуклеус аднапляцовачны ад пласцін і адшчэпаў з поўным афармленнем бакоў і контрфронта;<br>2 нуклеусы двухпляцовачныя ад пласцін і адшчэпаў (мал. 2: *8, 9*);<br>1 нуклеус шматпляцовачны моцна спрацаваны;<br>2 фрагменты нуклеусаў;<br>1 нуклеус перароблены на цясла;<br>1 прылада камбінаваная на абломку (скрэбла + разец адзінарны);<br>1 разец рэтушны бакавы на абломку;<br>2 скрабачы на адшчэпах (мал. 2: *6, 7*);<br>1 прылада з выемкай на адшчэпе;<br>3 адшчэпы з рэтушшу (мал. 2: *5*);<br>1 пласціна з рэтушшу;<br>1 праксімальная частка пласціны з рэтушшу (мал. 2: *4*);<br>1 фрагмент рабрыстай пласціны;<br>9 пласцін і іх фрагменты, 35 адшчэпаў і іх фрагменты;<br>6 лусак;<br>8 крамянёвых абломкаў і дробных неазначальных фрагментаў сколаў;<br>1 фрагмент сценкі ганчарнай керамікі |
| 2 | Дакудава-9 | 1 адшчэп з рэтушшу (мал. 3: *2*);<br>1 адшчэп без рэтушы;<br>1 крамянёвы абломак неазначальны;<br>6 фрагментаў венчыкаў ганчарнай керамікі;<br>30 фрагментаў сценак ганчарнай керамікі;<br>1 фрагмент донца ганчарнай керамікі;<br>1 фрагмент глінянага праселка (мал. 3: *1*);<br>1 фрагмент жалезнага нажа (XX ст.) |
| 3 | Дакудава-10 | 1 фрагмент крамянёвай пласціны;<br>2 крамянёвыя неазначальныя абломкі;<br>5 фрагментаў венчыкаў ганчарнай керамікі;<br>24 фрагменты сценак ганчарнай керамікі;<br>1 фрагмент борціка ганчарна-керамічнай паліванай талеркі; |

[1] Аўтар выказвае падзяку А. М. Вашанаву, на той момант магістранту кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін БДУ, за ўдзел у экспедыцыі і выкананне малюнкаў археалагічных знаходак. Таксама дзякую калектыву Дакудаўскай СШ за прадастаўлены начлег.

[2] Вёска Дакудава (цэнтр с/с) Лідскага раёна складаецца з двух частак, якія раней лічыліся асобнымі вёскамі. Паўночная частка – Дакудава-1, паўднёвая – Дакудава-2. Мяжой паміж паўночнай і паўднёвай часткамі населенага пункта служыць мост праз р. Нарва.

*Заканчэнне табліцы*

| № | Помнік | Матэрыял |
|---|---|---|
| 3 | Дакудава-10 | 1 фрагмент прыдоннай часткі ганчарнай пасудзіны;<br>3 фрагменты донцаў ганчарнай керамікі;<br>1 фрагмент накрыўкі ганчарнага гаршчка;<br>2 фрагменты кафлі |
| 4 | Дакудава-11 | 1 скол аднаўлення пляцоўкі нуклеуса;<br>1 фрагмент пласціны;<br>1 скрабач (?) на адшчэпе (краі артэфакта даволі моцна забітыя, верагодна, ад кантакта з цвёрдым матэрыялам);<br>4 адшчэпы;<br>4 фрагменты венчыкаў ганчарнай керамікі;<br>1 фрагмент шыйкі ганчарнай пасудзіны;<br>6 фрагментаў сценак ганчарнай керамікі |
| 5 | Дакудава-12 | 1 фрагмент пласціны з рэтушшу (мал. 2: *1*);<br>1 адшчэп падскарыністы (мал. 2: *2*) |
| 6 | Дакудава-13А | 1 перапалены фрагмент пласціны;<br>1 адшчэп |
| 7 | Дакудава-13Б | 1 прылада з выемкай на адшчэпе |
| 8 | Дакудава-13В | 1 скрабач на скарыністым адшчэпе (мал. 2: *3*);<br>1 фрагмент перапаленай пласціны;<br>1 дробны перапалены неазначальны крамянёвы абломак |
| 9 | Дакудава-13Г | 1 фрагмент нуклеуса ад адшчэпаў (мал. 3: *11*);<br>1 праколка бакавая на адшчэпе (мал. 3: *10*);<br>5 фрагментаў пласцін;<br>2 адшчэпы і іх фрагмент;<br>1 луска;<br>6 крамянёвых абломкаў неазначальных |
| 10 | Порaслі-1 | 1 лушчань двухпляцовачны двухбаковы;<br>1 скол з захлыстам;<br>2 скрабачы (мал. 3: *3*);<br>1 разец рэтушны, бакавы, падвоены (мал. 3: *4*);<br>2 адшчэпы рэтушаваныя;<br>2 адшчэпы;<br>1 фрагмент пласціны (мал. 3: *5*);<br>2 крамянёвыя абломкі неазначальныя;<br>3 лускі |
| 11 | Порaслі-2 | 1 скрабок на адшчэпе;<br>1 крамянёвы абломак неазначальны |
| 12 | Порaслі-3 | 2 фрагменты неазначальных рэтушаваных прылад (мал. 3: *6*);<br>1 фрагмент пласціны;<br>1 адшчэп |
| 13 | Ганчары–Дзітва-1 | 1 адшчэп з рэтушшу |
| 14 | Ганчары–Дзітва-2 | 1 адшчэп рэтушаваны;<br>1 фрагмент пласціны з рэтушшу |
| 15 | Ганчары–Дзітва-3 | 1 разец двухгранны бакавы на дробным адшчэпе (мал. 3: *9*);<br>1 рэтушаваная пласціна (мал. 3: *8*);<br>1 фрагмент адшчэпа |
| 16 | Ганчары–Дзітва-4 | 1 рэтушаваны фрагмент пласціны;<br>1 адшчэп падскарыністы |
| 17 | Ганчары–Дзітва-5 | 1 фрагмент падскарыністай пласціны |
| 18 | Ганчары–Дзітва-6 | 1 фрагмент падскарыністай пласціны (мал. 3: *7*);<br>2 адшчэпы;<br>2 крамянёвыя абломкі неазначальныя |




Мал. 1. Лакалізацыя археалагічных помнікаў, абследаваных падчас разведак на тэрыторыі Лідскага раёна ў 2009 г.: *А* – на сучаснай тапаграфічнай карце; *Б* – група помнікаў каля в. Пораслі на карце канца 1940-х гадоў; *1* – Дакудава-1; *2* – Дакудава-9; *3* – Дакудава-10; *4* – Дакудава-11; *5* – Дакудава-12; *6* – Дакудава-13А; *7* – Дакудава-13Б; *8* – Дакудава-13В; *9* – Дакудава-13Г; *10* – Пораслі-1; *11* – Пораслі-2; *12* – Пораслі-3; *13* – Ганчары–Дзітва-1; *14* – Ганчары–Дзітва-2; *15* – Ганчары–Дзітва-3; *16* – Ганчары–Дзітва-4; *17* – Ганчары–Дзітва-5; *18* – Ганчары–Дзітва-6




Мал. 2. Матэрыялы з разведак 2009 г. у Лідскім раёне: *1, 2* – рэтушаваны адшчэп; *3* – скрабач; *4, 9* – разцы; *5, 7* – пласціны (фрагменты); 6 – неазначальная рэтушаваная прылада (фрагмент); *8* – рэтушаваная пласціна; *10* – праколка; *11* – нуклеус (фрагмент); *1, 2* – Дакудава-9; *3–5* – Порараслі-1; *6* – Порараслі-3; *7* – Ганчары –Дзітва-6; *8, 9* – Ганчары–Дзітва-3; *10, 11* – Дакудава-13Г. Малюнак А. М. Вашанава

тры зоны распаўсюджвання ганчарнай керамікі – Дакудава-9, -10, -11 (мал. 1: *2, 3, 4*). Сабраны матэрыял сведчыць аб існаванні паселішча на месцы вёскі ўжо пачынаючы з XIV–XV стст.[1] На помніку Дакудава-9 таксама знойдзены рэтушаваны крамянёвы адшчэп (мал. 3: *2*), які датаваны каменным–бронзавым вякамі, і глінянае праселка (?), выробленае са сценкі ганчарнай пасудзіны (мал. 3: *1*; эпоха сярэдневякоўя).

На высокай тэрасе Нёмана лакалізаваны два помнікі каменнага–бронзавага вякоў. Першы з іх, Дакудава-1, быў адкрыты М. М. Чарняўскім у 1962 г. [7, с. 10] і абследаваны ў 1998 г. В. Л. Лакізам, В. М. Сідаровічам і М. М. Чарняўскім [1, с. 7–8]. Стаянка размешчана за паўднёвай ускраінай вёскі ўздоўж краю тэрасы (мал. 1: *1*), паводле распаўсюджвання пад'ёмнага матэрыялу яе памеры складаюць пры-

[1] Вызначэнне ганчарнай керамікі зроблена старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі НАН Беларусі Ірынай Уладзіміраўнай Ганецкай.




Мал. 3. Матэрыялы з разведак 2009 г. у Лідскім раёне: *1* – глінянае праселка; *2* – падскарыністы адшчэп; *3, 6, 7* – скрабачы; *4* – рэтушаваны фрагмент пласціны; *5* – рэтушаваны адшчэп; *8, 9* – нуклеусы; *1, 2* – Дакудава-12; *3* – Дакудава-13В; *4–9* – Дакудава-1. Малюнак А. М. Вашанава

блізна 800 × 150 м. Тэрыторыя помніка разворваецца. У 2009 г. з паверхні стаянкі сабрана калекцыя крамянёвых вырабаў, якія датаваны фінальным палеалітам (мал. 2: *8, 9*), мезалітам (мал. 2: *6, 7*) і познім неалітам (мал. 2: *4*). Праз 0,6 км на паўднёвы ўсход ад Дакудава-1 (мал. 1: *5*) знойдзены 2 апрацаваныя крэмені (мал. 2: *1, 2*), якія могуць указваць на прысутнасць тут стаянкі фінальнага палеаліту ці мезаліту (Дакудава-12).

Чатыры месцазнаходжанні расшчапаных крэменяў (Дакудава-13А, Б, В, Г) выяўлены на захад ад вёскі на вялікай парослай лесам дзюне (мал. 1: *6–9*). Некаторыя сабраныя артэфакты датаваны мезалітам (фрагменты рэгулярных пласцін, скрабач – мал. 2: *3*) і, магчыма, неалітам–бронзавым векам (нуклеус ад адшчэпаў – мал. 3: *11*).

На паўночны захад ад вёскі Дакудава знаходзіцца павышэнне рэльефу, своеасаблівы пясчаны «востраў» (мал. 1, *Б*). З захаду ён аточаны балотным масівам, з паўночнага ўсходу – ракой Нарва. З паўднёва-ўсходняга боку – абмежаваны нешырокай лагчынай, раней забалочанай, а зараз асушанай меліярацыйнымі каналамі. На «востраве», большая частка якога засаджана хвойным лесам, знаходзіцца невялікая вёска Парасьлі. У цэнтры вёскі (мал. 1: *10*) – на палетках мясцовых жыхароў і палявой дарозе, якая вядзе праз вёску, – сабрана нешматлікая калекцыя крамянёвых вырабаў (мал. 3: *3–5*), што сведчыць аб існаванні тут рэшткаў стаянкі эпохі мезаліту і, магчыма, больш позняга часу (Парасьлі-1).

Матэрыялы каменнага–бронзавага вякоў выяўлены яшчэ ў двух пунктах, на лясной дарозе на

паўднёвы ўсход ад вёскі Порослі (мал. 1: *11, 12*). Месцазнаходжанне Порослі-2 лакалізавана праз 0,3 км ад вёскі, на скрыжаванні ў лесе. Тут знойдзены скрабок на адшчэпе і крамянёвы абломак. Чатыры крамянёвыя артэфакты, у тым ліку фрагмент пласціны і два фрагменты неазначальных прылад (мал. 3: *6*), сабраныя праз 0,5 км ад вёскі, на месцы дзе дарога выходзіць да лесу (Порослі-3).

Частка з апрацаваных крэменяў, сабраных у зоне збору Дакудава-11, была знойдзена ў заходняй частцы ворнага поля, праз некалькі дзесяткаў метраў на паўночны ўсход ад месцазнаходжання Порослі-3. Дакладная лакалізацыя знаходак, сярод якіх скол аднаўлення пляцоўкі нуклеуса і дыстальная частка рэгулярнай пласціны, што маюць мезалітычны выгляд, не была зафіксавана. Аднак названыя знаходкі ўказваюць на магчымае існаванне тут стаянкі каменнага веку, прымеркаванай да берагу пясчанага «вострава».

Шэсць новых месцазнаходжанняў (Ганчары–Дзітва-1, -2, -3, -4, -5, -6) выяўлена ў міжрэччы Дзітвы і невялікай рачулкі Капаніца. Пяць з іх лакалізаваны на лясной дарозе, што ідзе па краі высокай левабярэжнай тэрасы Дзітвы (мал. 1: *14–18*). Яшчэ адно – на лясной дарозе ад дачнага пасёлка на левым беразе Дзітвы да дарогі Ліда–Пескі–Дакудава, праз 0,5 км на захад ад закінутага хутара, адзначанага на карце як хутар Ганчары (мал. 1: *13*). Ва ўсіх пунктах сабраны нешматлікія крамянёвыя вырабы (мал. 3: *7–9*), што датаваны каменным–бронзавым вякамі.

У ходзе ранейшых археалагічных пошукаў у ваколіцах вёскі Дакудава, што ажыццяўляліся М. М. Чарняўскім, В. Л. Лакізам, В. М. Сідаровічам, было выяўлена 8 помнікаў і месцазнаходжанняў каменнага і бронзавага вякоў [1–4; 5, с. 66–73, 209; 6, 7]. Некаторыя з іх шурфаваліся, адзін помнік – Дакудава-5 – быў даследаваны шляхам раскопак. Дзве першабытныя стаянкі (Дакудава-1, -2) лакалізаваны на высокай тэрасе ракі Нёман, астатнія – на пясчаных узвышшах у правабярэжнай пойме ракі. Невялікія па аб'ёме працы, праведзеныя аўтарам, дазволілі выявіць яшчэ шэраг месцазнаходжанняў.

Вынікі разведкі 2009 г. сведчаць, што мікрарэгіён, разгледжаны ў дадзеным артыкуле, можа быць значна больш насычаны археалагічнымі помнікамі, чым гэта было вядома раней, і патрабуе далейшых даследаванняў. Плён могуць прынесці пошукі на даволі аддаленай ад берагоў р. Нёман тэрыторыі – на пясчаных узвышшах, размешчаных на забалочаных (сёння ўжо часткова асушаных меліярацыяй) абшарах на ўсход і захад ад вёскі Дакудава, і на пясчаных берагах гэтых балот (мал. 1, *А*).

**Літаратура**

1. Лакіза, В. Л. Справаздача аб археалагічных даследаваннях на Панямонні ў 1998 г. / В. Л. Лакіза // ААНД ІГ НАН Беларусі. – Спр. № 1733.

2. Лакіза, В. Л. Справаздача аб археалагічных работах на Панямонні ў 1999 годзе / В. Л. Лакіза // ААНД ІГ НАН Беларусі. – Спр. № 1795.

3. Лакіза, В. Л. Справаздача аб археалагічных даследаваннях на Беларускім Панямонні ў 2004 г. / В. Л. Лакіза // ААНД ІГ НАН Беларусі. – Спр. № 2166.

4. Лакіза, В. Л. Справаздача аб археалагічных даследаваннях на Панямонні ў 2005 г. / В. Л. Лакіза // ААНД ІГ НАН Беларусі. – Спр. № 2288.

5. Лакіза, В. Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння / В. Л. Лакіза. – Мінск : Беларус. навука, 2008. – 343 с.

6. Сідаровіч, В. М. Справаздача аб археалагічных даследаваннях у Гродзенскай і Брэсцкай абласцях у 1998 г. / В. М. Сідаровіч // ААНД ІГ НАН Беларусі. – Спр. № 1766.

7. Чернявский, М. М. Отчет об археологических исследованиях памятников эпохи неолита и бронзы в бассейне р. Неман в 1962–63 гг. / М. М. Чернявский // ААНД ІГ НАН Беларусі. – Спр. № 227.

***В. У. Ашэйчык,*** *Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, аспірант (г. Мінск)*

# Археалагічныя разведкі 2010 года ў Мастоўскім раёне

У 2010 г. аўтар дадзенага артыкула праводзіў археалагічныя працы ў Пухавіцкім раёне Мінскай вобласці і Мастоўскім раёне Гродзенскай вобласці [1].

Летам 2010 г. было абследавана ўзбярэжжа ракі Свіслач на невялікім участку ад вёскі Глушка да вёскі Міжрэчча Пухавіцкага с/с Пухавіцкага раёна, але помнікі археалогіі не былі выяўлены.

На пачатку верасня 2010 г. аўтарам артыкула сумесна з дацэнтам кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін БДУ Міх. М. Чарняўскім была праведзена разведка ў басейне ракі Зяльвянка. Працы, скіраваныя на пошук новых помнікаў каменнага веку, уключалі частковае абследаванне ваколіц вёсак Капачы, Пескі, Выгода Пескаўскага с/с і вёскі Боркі Пацэвіцкага с/с на тэрыторыі Мастоўскага раёна.

Каля вёскі Капачы выяўлены два месцазнаходжанні расшчапаных крамянёў – *Капачы-1А* і *Капачы-1Б*. Абодва лакалізаваны на ўзгорку, што знаходзіцца адразу за цэнтральнай часткай вёскі, на правы бок ад шашы Р51 (гл. табліцу; мал. 1: *1*; 2: *1*). Паўночна-заходняя яго ўскраіна перарэзваецца аўтадарогай. Частка ўзгорка на ўсход і паўднёвы ўсход ад шашы парасла лесам і кустамі. Цэнтральная частка – занята ворным полем, выцягнутым з паўднёвага захаду на паўночны ўсход і шырынёй каля 100 м. Уздоўж яго – засаджаная ельнікам паласа шырынёй каля 80 м і даўжынёй каля 250 м. Паўднёва-ўсходні схіл знаходзіцца таксама пад ворывам.

**Археалагічны матэрыял, атрыманы ў выніку археалагічных разведак на тэрыторыі Мастоўскага раёна ў 2010 г.**

| № | Помнік | Матэрыял |
|---|---|---|
| 1 | Капачы-1А | *п/зб:* адшчэп без рэтушы;<br>5 нерэгулярна рэтушаваных адшчэпаў |
| 2 | Капачы-1Б | *п/зб:* 2 нуклеусы аднапляцовачныя ад адшчэпаў і нерэгулярных пласцін (мал. 4: *1*);<br>адшчэп без рэтушы, адшчэп з нерэгулярнай зубчатай рэтушшу |
| 3 | Пескі «Хутар Гай-2» | *п/зб:* 7 фрагментаў нявызначаных сколаў і неазначальных абломкаў;<br>4 лускі;<br>18 адшчэпаў і іх фрагменты;<br>3 фрагменты пласцін;<br>вельмі дробны, моцна спрацаваны, двухпляцовачны нуклеус ад адшчэпаў (мал. 3: *3*);<br>скрабач на абломку (мал. 3: *1*),<br>фрагмент рэгулярнай пласціны з дробнай рэтушшу па краях (мал. 3: *2*);<br>адшчэп з выемкай, фрагмент неазначальнай прылады |
| 4 | Пескі-10 | *п/зб:* неазначальны абломак;<br>фрагмент пласціны (мал. 3: *11*);<br>праксімальны папярочны мікраразец (мал. 3: *10*) |
| 5 | Пескі-11 | *п/зб:* нуклеападобны абломак;<br>масіўны аднапляцовачны нуклеус ад адшчэпаў і пласціністых адшчэпаў;<br>2 рэтушаваныя адшчэпы |
| 6 | Пескі-12 | *п/зб*: адшчэп без рэтушы |
| 7 | Пескі-4 | *п/зб:* абломак неазначальны;<br>5 адшчэпаў і іх фрагменты;<br>2 нерэгулярныя пласціны;<br>фрагмент нуклеуса аднапляцовачнага ад пласцін;<br>скол з захлыстам з аднапляцовачнага нуклеуса ад пласцін;<br>рабрыстая пласціна;<br>фрагмент цясла на адшчэпе (мал. 4: *3*);<br>масіўная рубячая (?) прылада (мал. 4: *4*);<br>абломак рэтушаваны;<br>рэтушаваны адшчэп (сучасная рэтуш ?);<br>фрагмент сценкі ляпной керамікі з ружанцовым арнаментам (мал. 4: *2*);<br>фрагмент сценкі ляпной керамікі з лёгкай падштрыхоўкай;<br>фрагмент венчыка;<br>фрагмент сценкі ганчарнай керамікі |

*Заканчэнне табліцы*

| № | Помнік | Матэрыял |
|---|---|---|
| 8 | Пескі-4А | *п/зб:* абломак неазначальны;<br>2 адшчэпы;<br>пашкоджаны неазначальны нуклеус;<br>нуклеус ад адшчэпаў з кругавым сколваннем;<br>нарыхтоўка рубячай прылады;<br>фрагмент сценкі ляпной керамікі з лёгкай падштрыхоўкай;<br>2 фрагменты сценак ганчарнай керамікі |
| 9 | Боркі-1 | *п/зб:* 2 адшчэпы і іх фрагменты;<br>фрагмент нерэгулярнай пласцінкі;<br>*шурф 1*: 13 фрагментаў нявызначаных сколаў і неазначальных абломкаў;<br>7 лусак;<br>12 адшчэпаў і іх фрагменты, 3 пласціны і іх фрагменты (мал. 3: *7*);<br>фрагмент рабрыстай пласціны;<br>скол з захлыстам з двухпляцовачнага нуклеуса;<br>2 фрагменты неазначальных нуклеусаў;<br>біфацыяльная прылада на адшчэпе (мал. 3: *9*);<br>скрабок на адшчэпе (мал. 3: *8*);<br>2 фрагменты ганчарнай керамікі |
| 10 | Боркі-2 | *п/зб:* фрагмент адшчэпа;<br>фрагмент двухграннага разца (мал. 3: *12*) |
| 11 | Боркі (знішчаная стаянка) | *п/зб:* 5 абломкаў неазначальных;<br>луска;<br>11 адшчэпаў і іх фрагменты;<br>4 фрагменты пласцін;<br>фрагмент другаснай рабрыстай пласціны;<br>франтальны скол падпраўкі пляцоўкі нуклеуса;<br>моцна спрацаваны двухпляцовачны нуклеус ад нерэгулярных пласцінак (мал. 3: *6*);<br>рэтушны бакавы разец на нерэгулярнай пласціне (мал. 3: *4*);<br>праколка з выдзеленым паўстромкай рэтушшу джалам на рэгулярнай пласціне (мал. 3: *5*);<br>фрагмент неазначальнай прылады |




Мал. 1. Лакалізацыя археалагічных помнікаў, абследаваных падчас разведкі на тэрыторыі Мастоўскага раёна ў 2010 г.: *1* – Капачы-1А, -1Б; *2* – Пескі «Хутар Гай-2»; *3* – Пескі-10; *4* – Пескі-11; *5* – Пескі-12; *6* – Пескі-4; *7* – Пескі-4А; *8* – Боркі-1; *9* – Боркі-2; *10* – Боркі (знішчаная стаянка); *11* – Выгода-1




Мал. 2. Лакалізацыя археалагічных помнікаў, абследаваных падчас разведкі на тэрыторыі Мастоўскага раёна ў 2010 г., на карце 1935 г.: *1* – Капачы-1А, -1Б; *2* – Пескі «Хутар Гай-2»; *3* – Пескі-10; *6* – Пескі-4; *7* – Пескі-4А; *8* – Боркі-1; *9* – Боркі-2

На разараных участках узгорка сустракаецца шмат кавалкаў крэйды і крамянёвых канкрэцый, пераважна натуральных. На раллі ў сярэдняй частцы (Капачы-1А) і на паўднёва-ўсходнім схіле (Капачы-1Б) узгорка сабрана невялікая колькасць крамянёвых артэфактаў. Матэрыял абодвух месцазнаходжанняў датаваны каменным–бронзавым вякамі.

Знаходкі крамянёвых вырабаў каля вёскі Капачы ўказваюць на магчымае існаванне тут у каменным – пачатку бронзавага веку стаянак альбо крэмнеапрацоўчых майстэрань, якія могуць быць звязаны са шматлікімі ў гэтай мясцовасці выхадамі крэйды, насычанай крамянёвай сыравінай.

Новая стаянка каменнага веку – *Пескі «Хутар Гай 2»* – выяўлена на краі правабярэжнай тэрасы ракі Зяльвянка праз прыблізна 2 км на ўсход ад вёскі Пескі і праз 250–300 м на ўсход ад хутара Гай (мал. 1: *2*; 2: *2*). Тут, на лясной дарозе, было сабрана некалькі дзесяткаў крамянёвых артэфактаў (мал. 3: *1–3*), якія датаваны мезалітам–неалітам.

Праз 0,9 км на паўночны захад ад вёскі Пескі, на парослай сасновым лесам пясчанай дзюне, знаходзіцца стаянка каменнага веку *Пескі-10* (мал. 1: *3*). Згодна з польскай тапаграфічнай картай, складзенай Вайсковым геаграфічным інстытутам, у сярэдзіне 1930-х гадоў гэта мясцовасць была занята развеянымі пяскамі (мал. 2: *3*). Па сведчанні М. М. Чарняўскага, у 1965 г. мясцовыя дзюны працягвалі актыўна развейвацца і на іх сустракалася шмат крамянёвых вырабаў. Памеры помніка складаюць 200–300 м з поўдня на поўнач і каля 50 м з захаду на ўсход. На лясной дарозе, якая праходзіць праз дзюну (даўнейшы шлях з Песак на Масты), сабраны тры крамянёвыя артэфакты. Знаходкі ўказваюць на датаванне помніка каменным векам, у тым ліку мезалітам (мікраразец; мал. 3: *10*).

Праз 0,9 км на паўднёвы захад ад вёскі Пескі, на ўскрайку невялікага паўкруглага выступу ляснога масіву выяўлена месцазнаходжанне *Пескі-11* (мал. 1: *4*). Тут, у разаранай лесаахоўнай паласе, што ідзе ўздоўж лесу, на невялікай адлегласці адзін ад аднаго знойдзены чатыры крамянёвыя артэфакты, якія датаваны каменным–бронзавым вякамі.

На ўсходняй ускраіне вёскі Пескі, справа ад двара дома № 61 па вуліцы Завадская, на выступе левабярэжнай тэрасы ракі Зяльвянка знойдзены масіўны падскарыністы крамянёвы адшчэп (*Пескі-12*; мал. 1: *5*).




Мал. 3. Матэрыялы з разведак 2010 г. ў Мастоўскім раёне: *1* – скрабач; *2* – пласціна з рэтушшу (фрагмент); *3, 6* – нуклеусы; *4, 12* – разцы; *5* – праколка; *7, 11* – пласціны (фрагменты); *8* – скрабок; *9* – біфацыяльная прылада на адшчэпе; *10* – мікраразец; *1–3* – Пескі «Хутар Гай-2»; *4–6* – Боркі (знішчаная стаянка); *7–9* – Боркі-1; *10, 11* – Пескі-10; *12* – Боркі-2. Малюнак А. М. Вашанава

На ўзараным полі, што знаходзіцца на левабярэжнай тэрасе ракі Зяльвянка праз 750–800 м на ўсход ад вёскі Пескі, паміж невялікім лесам і паўночна-заходняй ўскраінай вёскі Выгода, і на паўночны бок ад аўтадарогі Р50, абследаваны два археалагічныя помнікі першабытнага часу. У заходняй частцы поля лакалізавана стаянка каменнага–бронзавага вякоў і сярэдневяковае селішча *Пескі-4* (мал. 1: *6*; 2: *6*), памеры якога складаюць 130–140 м з захаду на ўсход і каля 70 м з поўдня на поўнач.

Помнік адкрыў у 1985 г. В. У. Шаблюк. У 1986–1989 гг. Н. В. Шаблюк і В. У. Шаблюк даследавалі яго шляхам раскопак на агульнай плошчы 172 м$^2$ [4, с. 10–11, рис. 10: *13–15*, рис. 11–13, рис. 14: *1–6*; 5, с. 7–8, рис. 16–17, 18: *1–5*, рис. 19; 6, с. 11–15, рис. 19–22; 7, с. 11–13, рис. 31–37].

У 2010 г. на помніку сабраны пад'ёмны матэрыял – 15 крамянёвых артэфактаў і 4 фрагменты керамікі. Крамянёвыя знаходкі датаваны каменным–бронзавым вякамі. Частку з іх (рубячыя прылады;




Мал. 4. Матэрыялы з разведак 2010 г. ў Мастоўскім раёне: *1* – нуклеус; *2* – ляпная кераміка з ружанцовым арнаментам (фрагмент); *3* – цясло (фрагмент); *4* – рубячая прылада; *1* – Капачы-1Б; *2–4* – Пескі-4. Малюнак А. М. Вашанава

мал. 4: *3, 4*) неабходна звязваць з неалітам, для іншых магчыма як больш ранняя, так і больш позняя храналогія. Керамічны матэрыял прадстаўляе тшцінецкую культуру (фрагмент з ружанцовым арнаментам; мал. 4: *2*), жалезны век (фрагмент з падштрыхоўкай), сярэдневякоўе (ганчарная кераміка).

На ўсход ад папярэдняга пункта размешчана паселішча *Пескі-4А* (мал. 1: *7*; 2: *7*). Яго памеры – прыблізна 230 м з захаду на ўсход і 130 м з поўдня на поўнач.

У справаздачах Н. В. Шаблюк, якая ў 1986 і 1987 г. сумесна з В. У. Шаблюком праводзіла тут паверхневыя зборы, стаянка фігуруе пад назвай Выгода-1 [4, с. 15, рис. 25, рис. 26: *1–6, 11–14*; 5, с. 7, рис. 20: *1–11*]. Аднак помнік пад нумарам 1 каля вёскі Выгода быў адкрыты ў сярэдзіне 1960-х гадоў М. М. Чарняўскім і знаходзіцца ў іншым месцы – на поўнач ад асноўнай часткі вёскі, там дзе зараз размешчаны будынкі жывёлагадоўчай фермы (мал. 1: *11*) [вусная інфармацыя ад М. М. Чарняўскага; гл. таксама 3, с. 210; 8, с. 198]. Каб пазбегнуць блытаніны і ўлічваючы непасрэднае суседства са стаянкай Пескі-4, помніку нададзена назва Пескі-4А.

З тэрыторыі помніка сабрана 6 крэменяў і 3 фрагменты керамікі. Крамянёвы матэрыял шырока датаваны каменным–бронзавым вякамі, а кераміка – жалезным векам (фрагмент з падштрыхоўкай) і сярэдневякоўем (ганчарная кераміка).

Два новыя помнікі выяўлены ў ваколіцах вёскі Боркі. На тэрыторыі левабярэжнага поплава Зяльвянкі, раней забалочанага, а ў апошняй трэці XX ст. асушанага меліярацыйнымі каналамі, знаходзіцца

некалькі пясчаных пагоркаў. У паўночна-ўсходняй частцы аднаго з іх – ва ўрочышчы Красно, праз 1,7 км на паўднёвы ўсход ад скрыжавання вуліц у цэнтры вёскі, – лакалізавана стаянка *Боркі-1* (мал. 1: *8*; 2: *8*). Яе памеры складаюць прыблізна 150 × 70 м. Помнік моцна пашкоджаны – пясчаным кар'ерам знішчана, верагодна, большая яго частка. Паверхня ацалелай часткі стаянкі задзірнаваная.

Праз прыблізна 6 м на ўсход ад паўночна-ўсходняга рогу кар'ера і 8 м на паўднёвы-ўсход ад нагрувашчання вялікіх камянёў закладзены шурф памерамі 1 × 1 м. У шурфе выяўлена наступная стратыграфія:

– ворны слой цёмна-шэрага пяску магутнасцю 20 см;

– светла-шэры дробназярністы пясок на глыбіні ад 20 см.

Знаходкі залягалі на глыбіні да 35 см. Дакладная мяжа паміж гарызонтам са знаходкамі і мацерыком не прасочваецца.

У шурфе былі знойдзены 41 крэмень і 2 фрагменты керамікі, акрамя таго, на кратавінах на тэрыторыі помніка сабраны 3 крамянёвыя артэфакты. Выяўлены крамянёвы матэрыял можна звязаць з неалітам (мал. 3: *9*), аднак не выключана і больш ранняя, мезалітычная, храналогія некаторай яго часткі (фрагмент рэгулярных пласцін; мал. 3: *7*). Фрагменты керамікі адносяцца да сярэдневякоўя і новага часу.

Месцазнаходжанне *Боркі-2* выяўлена праз 600–700 м на ўсход ад вёскі (мал. 1: *9*; 2: *9*). На паўднёва-ўсходняй ускраіне дзюны, паверхня якой задзірнавана і парасла высокай лугавой травой, на кратавіне знойдзены два апрацаваныя крэмені (мал. 3: *12*).

Амаль трыццаць крамянёвых артэфактаў мезалітычнага выгляду (мал. 3: *4–6*) былі сабраны на грунтовай дарозе, што ідзе ад вёскі Боркі ўздоўж меліярацыйнага канала (мал. 1: *10*). Верагодней за ўсё, гэтыя знаходкі паходзяць з дзюннай стаянкі, знішчанай падчас будаўніцтва дарогі. Так, стаянка Боркі-1 размешчана на дзюне, моцна пашкоджанай пясчаным кар'ерам. Праз некалькі дзесяткаў метраў на паўночны ўсход ад Борак-1 знаходзіцца дзюна, практычна цалкам знішчаная распрацоўкай пяску. Магчыма, менавіта з яе і паходзіць пясок з артэфактамі, выкарыстаны для насыпу дарогі.

Такім чынам, у ходзе разведкі 2010 г. у Мастоўскім раёне абследавана 10 помнікаў археалогіі. Некаторыя з іх выяўлены ўпершыню. Абследаваныя пункты прымеркаваны да берагоў ракі Зяльвянка альбо яе дробных прытокаў (Капачы-1А, -1Б, Пескі-11 – рачулка Мутвіца). Даволі вялікая шчыльнасць стаянак і месцазнаходжанняў каменнага і бронзавага вякоў, выяўленых ў ходзе прац 2010 і папярэдніх гадоў на разглядаемым абшары [2, с. 81; 3–7], можа быць звязана з блізкасцю выхадаў крамянёвай сыравіны. Ад ваколіц пасёлка Красносельскі ў бок вёскі Пескі ідзе пас крэйдавых адарванняў, насычаных крамянёвымі канкрэцыямі. Хоць сёння над Зяльвянкай і не выяўлена старажытных цэнтраў па здабычы сыравіны, тым не менш далейшыя працы па іх пошуку могуць прынесці плён.

Шэраг абследаваных у 2010 г. помнікаў мэтазгодна было б даследаваць шляхам археалагічных раскопак. Тут маюцца на ўвазе ў першую чаргу стаянкі каля вёскі Боркі – Боркі-1 і Боркі-2. На першай з іх знаходкі залягаюць у тым ліку і ў слоі, не пашкоджаным антрапагеннай дзейнасцю (пад ворыўным слоем).

**Літаратура**

1. Ашэйчык, В. У. Справаздача аб археалагічных разведках на тэрыторыі Мастоўскага раёна ў 2010 г. / В. У. Ашэйчык // ААНД ІГ НАН Беларусі. – 50 с.

2. Исаенко, В. Ф. Археологическая карта Белоруссии / В. Ф. Исаенко ; под ред. В. Д. Будько, Ф. В. Борисевича. – Минск : Полымя, 1968. – Вып. 1: Памятники каменного века. – 126 с.

3. Лакіза, В. Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння / В. Л. Лакіза. – Мінск : Беларус. навука, 2008. – 343 с.

4. Шаблюк, Н. В. Отчет о полевых исследованиях в 1986 году / Н. В. Шаблюк // ААНД ІГ НАН Беларусі. – Спр. № 966. – 63 с.

5. Шаблюк, Н. В. Отчет о полевых исследованиях 1987 года / Н. В. Шаблюк // ААНД ІГ НАН Беларусі. – Спр. № 1026. – 70 с.

6. Шаблюк, Н. В. Отчет о полевых исследованиях за 1988 год по плановой теме: «Материальная культура мезолитических племен междуречья Щары и Свислочи» / Н. В. Шаблюк // ААНД ІГ НАН Беларусі. – Спр. № 1074. – 89 с.

7. Шаблюк, Н. В. Отчет о полевых исследованиях 1989 года / Н. В. Шаблюк // ААНД ІГ НАН Беларусі. – Спр. № 1140. – 56 с.

8. Чарняўскі, М. М. Выгода // Археалогія Беларусі: энцыклапедыя : у 2 т. / рэдкал.: Т. У. Бялова (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Беларус. энцыкл. імя П. Броўкі, 2009. – Т. 1: А–К. – С. 198–199.

***Г. М. Бяліцкая,** Інстытут гісторыі НАН Беларусі, малодшы навуковы супрацоўнік (г. Мінск)*

# Даследаванні ва ўрочышчы Хабішча ў 2010 годзе

Археалагічныя працы ў 2010 г. праводзіліся на правым беразе р. Гарынь, ва ўрочышчы Хабішча каля горада Давыд-Гарадок Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Помнік знаходзіцца на пясчаным узвышшы, якое размешчана каля 2 м над ўзроўнем вады, плошча прыблізна роўная 4–5 гектарам. Упершыню помнік адкрыты В. С. Вяргей у 1989 г. [3]. У тым жа годзе ў паўночнай частцы паселішча, на краю кар'ера аўтарам закладзены шурф 24 м$^2$. У 2005 г. археалагічныя работы былі адноўлены. Да паўночнай сценкі раскопу 1989 г. далучаны раскоп плошчай 76 м$^2$ (гл. малюнак, *А*). На глыбіні 0,5 м зафіксаваны рэшткі аб'екта, які ўяўляў з сябе паглыбленне падквадратнай формы памерам 4,2 × 4,4 м, арыентаваны сценамі па баках свету. Аснаванне было заглыблена ў мацярык на 0,2 м і знаходзілася на глыбіні 0,8–0,9 м ад узроўню сучаснай паверхні. У заходняй частцы аб'екта выяўлены вогнішчы ярусамі. У запаўненні знойдзены абломкі ляпной керамікі, кавалкі абпаленай гліны, каменьчыкі, крамянёвыя адшчэпы, рэчы побыту (праселкі, фрагменты жалезных нажоў), упрыгажэнні (пасахападобная шпілька з жалеза, падкавападобная фібула з бронзы з выямчатай эмаллю, фрагменты фібул, пярсцёнак), косткі жывёл, птушак, рыб. Сярод касцявога матэрыялу значная колькасць ніжніх і верхніх сківіц жывёл, адзначаны абпаленыя і кальцыніраваныя косткі. Склад запаўнення, сляды выкарыстання агню сведчылі аб сакральным характары ямы. Храналагічным індыкатарам знаходак сакральнага комплексу з'яўляецца падкавападобная фібула з бронзы. Падобныя фібулы існавалі ў фазе В2/С1 (150–200 гг. н. э.). Вынікі вывучэння помніка паказалі, што ён адносіцца да познезарубінецкага гарызонту. Разам з сакральным аб'ектам у раскопе даследаваны дзве ямы падквадратнай формы памерам 1,65 × 1,60 м, паглыбленыя ў мацярык на 0,2 м, вызначаныя для выпалу драўнянага вугалля. Яго выкарыстоўвалі ў якасці паліва для рытуальных вогнішчаў. Матэрыялы даследаванняў 1989 і 2005 г. уведзены ў навуковы зварот [1, с. 191–192; 2, с. 107–123].

Палявы сезон у 2010 г. стаў трэцім на гэтым помніку. Раскоп плошчай 72 м$^2$ далучаны да паўночнай сценкі раскопу 2005 г. (гл. малюнак, *А*). Магутнасць культурнага пласта ў раскопе вагаецца ад 0,48 м ў паўночнай, да 0,77 м у паўднёвай частках раскопу. Дзённая паверхня пакрыта дзірваном, пад якім залягае ворыўны пласт. Ніжэй – некрануты пласт шэрага супеску. У ім сустракаліся плямы попелу і драўнянага вугалля. Мацярык ўяўляў сабой пясок жоўтага колеру з шчыльнымі прапласткамі жалезнай руды расліннага паходжання.

У раскопе даследавана 7 ям (гл. малюнак, *А*). Пяць з іх маюць круглую форму і глыбіню ад 0,15 да 0,6 м ад мацерыковай паверхні. У большасці паглыбленняў сценкі пакатыя, дно лінзападобнае. Усе ямы запоўнены папяловым супескам, у некаторых знойдзены дробныя фрагменты керамічнага посуду, гліняная абмазка, драўнянае вуголле. Ва ўсходняй частцы раскопу расчышчана яма, якая мела ў плане форму няправільнага авала памерам 1,2 × 1,0 м. Аснаванне заглыблена ў мацярык на 0,15 м. Сценкі ямы пакатыя, дно няроўнае. У вугальна попельным запаўненні знойдзены некалькі фрагментаў керамікі, гліняная абмазка. Адна яма ўяўляе сабой паглыбленне нерэгулярнай формы памерам 1,2 × 1,8. Глыбіня – 0,1–0,2 м ад мацерыковай паверхні. Дно няроўнае, запоўнена супескам шэрага колеру.

Калекцыя налічвае звыш 400 экзэмпляраў фрагментаванай ляпной керамікі. Пераважна гэта абломкі гаршкоў. Посуд зроблены з гліны з дамешкамі пяску, здрабнёных жарствы і шамоту. Па спосабе апрацоўкі паверхні сасуды падзяляюцца на гладкасценныя і глянцаваныя. Абломкі маюць шэры, шэра-жоўты, шэра-карычневы колер. Паверхня гладкасценных сасудаў, ад уваходзячых у склад фармовачнай масы дамешак, мае бугрыстую альбо шурпатую паверхню. Некалькі фрагментаваных сценак маюць сляды расчэсаў грабянцовым штампам, альбо трэскі. У колькасных адносінах гладкасценны посуд самы шматлікі і складае звыш 97%. У паўднёва-ўсходняй частцы раскопу 3 знойдзены развал гаршка з гладкасценнай паверхняй (гл. малюнак, *Б: 2*). Крыху бугрыстыя ад дамешкаў шамоту і крохкія па структуры фрагменты сасуда маюць карычневы колер звонку, цаглястыя плямы ўнутры. Цыліндрычная шыйка нізкая, венца гарызантальна зрэзана, найбольшае пашырэнне тулава прыпадае на верхнюю трэць вышыні. Па сваіх марфалагічных прыкметах гаршчок блізкі да першай групы, якая была вылучана ў выніку аналізу посуду з ахвярнага аб'екта, даследаванага ў 2005 г. на гэтым помніку. У культурным пласце знойдзены два плазаватыя праселкі біканічнай формы з шырокімі адтулінамі (гл. малюнак, *Б: 3, 4*). Памеры – 3,1–3,4 см у дыяметры, вышыня – 1,3 см. Дыяметр адтулін знаходзіцца ў межах 1,1 см. Адно з іх падвергнута другаснаму абпалу. Жалезныя вырабы прадстаўлены двума фрагментаванымі нажамі, бронзавыя – завушніцай у выглядзе сагнутага колам дрота з завостранымі канцамі (гл. малюнак, *Б: 1*). Сячэнне дрота мае дыяметр каля 2 мм.

На падставе аналізу рэчавага матэрыялу можна зрабіць вывад аб аднаслойнасці вывучанага




Урочышча Хабішча: *А* – план раскопаў, профілі ям; *Б* – знаходкі з культурнага пласта (*1* – бронза, *2–4* – гліна). Давыд-Гарадок. 2010 г.

ўчастка помніка. Усе знойдзеныя аб'екты і артэфакты звязаны з жыццядзейнасцю насельніцтва познезарубінецкага гарызонту. Даследаванні паказалі нязначную насычанасць пласта старажытнымі рэшткамі ў паўночным напрамку ад сакральнага аб'екта. Тым не менш у выніку работ з'явілася магчымасць ўявіць спосаб уладкавання прасторы вакол ахвярнага комплексу другой паловы II – першай паловы III ст. н. э., які быў даследаваны ў 2005 г.

**Літаратура**

1. Бяліцкая, Г. М. Археалагічны помнік постзарубінецкага часу каля Давыд-Гарадка / Г. М. Бяліцкая // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск, 2006. – № 21. – С. 192–194.

2. Бяліцкая, Г. Помнік перыяду рымскіх ўплываў у нізоў'ях ракі Гарынь / Г. Бяліцкая // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск, 2007. – № 23. – С. 107–123.

3. Вергей, В. С. Отчет о полевых исследованиях в 1989 году в Столинском районе Брестской области / В. С. Вергей // Архіў ІГ НАНБ. – Спр. № 1297. – 13 с.

***А. М. Вашанаў,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аспірант (г. Мінск)*

# Археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Бялыніцкага раёна ў 2009 годзе

У верасні і лістападзе 2009 г. аўтарам былі праведзены археалагічныя разведкі на тэрыторыі Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці (Дазвол № 2069 па форме № 3). Іх мэтай стаў пошук новых помнікаў каменнага веку і абследаванне сучаснага стану ўжо вядомых паселішчаў, размешчаных у вярхоўях ракі Друць. Асноўныя працы былі засяроджаны на левым беразе Друці на ўчастку ад вёскі Бярозаўка да вёскі Рагач. Акрамя гэтага быў абследаваны невялікі ўчастак левага берага ракі Домса (левабярэжны прыток другога парадку Друці) у ваколіцах вёскі Малы Кудзін (мал. 1).

**Бялынічы, гарадскі пасёлак, цэнтр раёна.** На паўночна-ўсходняй ускраіне г. п. Бялынічы знаходзіцца ўрочышча Салатопка, якое лакалізавана на падтрохкутным мысападобным выступе карэннага берага ракі (даўжыня якога каля 0,56 км і шырыня каля 0,26 км), што ўкліньваецца ў поплаў Друці.

На момант даследавання паўночная частка мысападобнага выступу была засаджана сасновым лесам, а ўсходняя выкарыстоўвалася мясцовымі жыхарамі пад агароды. З захаду і поўдня да карэннага берага прымыкае затарфаваны ўчастак поплаву.

Праз урочышча праходзяць дзве палявыя дарогі. Адна цягнецца ўздоўж паўднёвай ўскраіны лесу, а другая – ад апошніх хат вуліцы Кірава г. п. Бялынічы ў паўднёва-заходнім накірунку праз узвышша і далей па яго заходнім краі. Цэнтральная, найбольш высокая, частка ўзвышша знішчана могільнікам хатняй жывёлы. Тэрыторыя могільніка з захаду і паўднёвага захаду абмежавана ровам глыбінёй да 1,5 м. Згодна з картай 1936 г., складзенай генеральным штабам РСЧА, на паўднёва-заходняй ускраіне ўзвышша ў першай палове XX ст. знаходзілася мылаварня. Ад апошняй, па сведчанні мясцовых жыхароў, урочышча і атрымала сваю назву.

Падчас разведкі 2009 г. былі абследаваны схілы і падножжа ўзвышша. Асаблівая ўвага надавалася паўночнай частцы ўзвышша, дзе ў 1982 г. Э. М. Зайкоўскім былі сабраны «крэмні з апрацоўкай» [1, с. 10; 2, с. 86–87]. Тут, на раз'езджаным скрыжаванні дарог, якое знаходзіцца за 1,55 км на паўночны захад ад моста праз Друць на паўночнай ускраіне Бялыніч, праз 0,97 км на поўдзень ад вёскі Рагач і праз 0,31 км на паўднёвы захад ад могілак каля




Мал. 1. Археалагічныя помнікі ў басейне р. Друць, даследаваныя ў 2009 г.: *1* – Бялынічы-1А; *2* – Бялынічы-1Б; *3* – Бялынічы-2А; *4* – Бялынічы-2Б; *5* – Бялынічы-2В; *6* – Бялынічы-3; *7* – Рагач-1; *8* – Рагач-2; *9* – Малы Кудзін-1; *10* – Малы Кудзін-2




Мал. 2. Крамянёвыя і каменныя вырабы, знойдзеныя падчас разведак 2009 г.: *1, 2* – Бялынічы-1Б; *3–7* – Бялынічы-1А; *8, 9, 11* – Бялынічы-2В; *10* – Бялынічы-2Б. Малюнак А. М. Вашанава

вёскі Васілеўшчына (геаграфічныя каардынаты: 54º00´34.53´´ пн. ш, 29º41´30.11´´ у. д.)[1] была лакалізавана стаянка *Бялынічы-1А* (мал. 1: *1*).

Паселішча выяўлена і абследавана паверхневымі зборамі Э. М. Зайкоўскім у 1982 г., стаянка атрымала назву Бялынічы [1]. Аднак у артыкуле Э. М. Зайкоўскага 1995 г. гэты пункт выступае пад назвай Васілеўшчына–Рагач [2]. Каб у далейшым пазбегнуць блытаніны з назвамі помнікаў, даследаваны помнік атрымаў новую назву – Бялынічы-1А.

На помніку было знойдзена 19 крамянёвых артэфактаў: 2 тронкавыя лістападобныя наканечнікі стрэл (мал. 2: *5, 6*), медыяльная частка пласціны з рэтушшу (мал. 2: *4*), скол падпраўкі пляцоўкі нуклеуса (мал. 2: *7*), 3 медыяльныя часткі пласцін (мал. 2: *3*), 5 адшчэпаў (з іх скарыністы – 1, падскарыністы – 1, звычайныя – 3), 6 лусак, 1 абломак неазначальны.

Частка знойдзенага на помніку крамянёвага матэрыялу па сваіх тэхніка-марфалагічных рысах адносіцца да мезалітычнага часу (наканечнікі стрэл, медыяльная частка пласціны з рэтушшу, медыяльная частка рэгулярнай пласціны). Рэшта знаходак сёння датавана каменным–бронзавым вякамі.

*Бялынічы-1Б* – месцазнаходжанне расшчапаных крэменяў (мал. 1: *2*). Размешчана на поўдзень ад помніка Бялынічы-1А – праз 0,11 км ад перасячэння палявых дарог каля лесу і за 0,41 км на паўднё-

[1] Каардынаты пададзены згодна сістэмы Google Earth.

вы захад ад могілак каля вёскі Васілеўшчына ва ўрочышчы Салатопка (геаграфічныя каардынаты: 54º00´28.46´´пн. ш., 29º41´27.62´´у. д.).

На развеяным участку дарогі, што цягнецца па заходнім ускрайку ўзвышша, было знойдзена 4 крамянёвыя вырабы (2 пласціны са скошаным рэтушшу канцом (мал. 2: *1, 2*), пласціна, луска), якія папярэдне датаваны эпохай мезаліту.

У верасні 2009 г. аўтарам было абследавана пясчанае ўзвышша, размешчанае на заходняй ускраіне г. п. Бялынічы. Пагорак памерамі 410 × 140 м выцягнуты з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. У цяперашні час ён цалкам пакрыты сасновым лесам, невялікія ўчасткі развеяных пяскоў сустракаюцца на яго заходнім схіле, уздоўж якога цягнецца палявая дарога. На пагорку выяўлены тры месцазнаходжанні.

*Бялынічы-2А* – месцазнаходжанне расшчапаных крэменяў і керамікі (мал. 1: *3*). Лакалізавана на паўночна-заходняй ускраіне пагорка, праз 0,29 км на паўночны захад ад моста і за 0,19 км на паўднёвы ўсход ад гарадскога пляжа (геаграфічныя каардынаты: 53º59´56.02´´ пн. ш., 29º41´50.70´´ у. д.).

На развеяным схіле дзюны, які цягнецца ўздоўж палявой дарогі, на плошчы памерам 20 × 15 м былі знойдзены: крамянёвая пласціна; 12 фрагментаў ганчарнай керамікі (фрагмент венца (мал. 3: *3*), фрагмент донца, 10 фрагментаў сценак); фрагмент глінянага грузіка (мал. 3: *9*).

Крамянёвы інвентар папярэдне датаваны каменным–бронзавым вякамі. Керамічны матэрыял адносіцца да эпохі позняга сярэдневякоўя і новага часу[1].

*Бялынічы-2Б* – месцазнаходжанне каменнай шліфаванай сякеры-кліна (мал. 1: *4*). Выяўлена на заходняй ўскраіне ўзвышша, прыкладна праз 0,7 км на паўднёвы ўсход ад месцазнаходжання Бялынічы-2А і праз 0,25 км на поўнач ад моста праз раку Друць, на скрыжаванні палявой і лясной дарог (геаграфічныя каардынаты: 53º59´54.79´´ пн. ш., 29º41´53.83´´ у. д.).

Сякера (мал. 2: *10*) выканана з пароды асадкавага паходжання змешанага складу (аргелітападобнай), часткова метамарфізаванай[2]. Максімальная даўжыня сякеры складае 66 мм, шырыня абушковай часткі – 29, шырыня ляза – 37, таўшчыня – 15 мм, вага – 84,59 г.

Папярэдняя храналогія знойдзенага артэфакта вызначаецца ў даволі шырокіх рамках: позні неаліт–ранні жалезны век (час распаўсюджвання каменных шліфаваных сякер-кліноў).

*Бялынічы-2В* – месцазнаходжанне расшчапаных крэменяў і керамікі (мал. 1: *5*). Размешчана на паўднёва-заходнім ускрайку пагорка, праз 0,19 км на паўднёвы ўсход ад месцазнаходжання Бялынічы-2А, праз 0,13 км на паўночны ўсход ад моста праз раку Друць і за 0,08 км на паўночны ўсход ад русла ракі (геаграфічныя каардынаты: 53º59´50.88´´ пн. ш., 29º41´56.52´´ у. д.). Знаходкі сустракаюцца на развеяным схіле дзюны на плошчы 10 × 15 м.

Тут былі знойдзены: разец камбінаваны (рэтушны бакавы + адзінарны трайны; мал. 2: *8*); скрабач на абломку (мал. 2: *9*); адшчэп з рэтушшу (мал. 2: *11*) 5 адшчэпаў (з іх скарыністы – 1, падскарыністы – 1, звычайныя – 3); фрагмент пласціны, знятай з двухпляцовачнага нуклеуса; 2 лускі; 12 крамянёвых абломкаў; 30 фрагментаў ганчарнай керамікі (5 фрагментаў венцаў (мал. 3: *11*); 2 фрагменты шыйкі; 6 фрагментаў донцаў; 16 фрагментаў сценак; 1 фрагмент ручкі ад куфля (мал. 3: *12*); 2 фрагменты кафлі; фрагмент глінянага вырабу неазначальны.

Крамянёвы інвентар датаваны каменным–бронзавым вякамі, ганчарная кераміка адносіцца да позняга сярэдневякоўя і новага часу.

На поўнач–паўночны ўсход ад г. п. Бялынічы на левым беразе ракі Друць размешчана дзюна, выцягнутая з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход, памерамі 410 × 50 м; вышыня над узроўнем поплаву – 1,5–2,0 м. На момант даследавання дзюна фактычна цалкам парасла сасновым лесам. Незалесеныя ўчасткі моцна пашкоджаны збудаванымі тут калгаснымі кармавымі сховішчамі.

На паўднёва-заходнім ускрайку дзюны лакалізаваны пункт *Бялынічы-3* (мал. 1: *6*), які знаходзіцца праз 0,67 км на поўдзень ад г. п. Бялынічы, праз 0,53 км на паўднёвы ўсход ад шашы М4 (Мінск–Магілёў) і за 0,87 км на паўночны ўсход ад моста праз раку Друць (геаграфічныя каардынаты 53º58´43.10´´ пн. ш., 29º42´43.22´´ у. д.). У супрацьпажарным раўку была выяўлена крамянёвая луска.

**Рагач, вёска, Ланькаўскі сельскі савет.** *Рагач-1* – месцазнаходжанне керамікі (мал. 1: *7*). Выяўлена на паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на агародах мясцовых жыхароў, праз 1,1 км ад паселішча Бялынічы-1А (геаграфічныя каардынаты: 54º01´09.40´´ пн. ш., 29º41´30.30´´ у. д.). Тут на плошчы 200 × 150 м было знойдзена 39 фрагментаў ганчарнай керамікі (10 фрагментаў венцаў (мал. 3: *2, 4, 6*); 7 фрагментаў донцаў; 22 фрагменты сценак) і 2 фрагменты неазначальных гліняных вырабаў.

Керамічны комлекс папярэдне датаваны эпохай позняга сярэдневякоўя і новым часам.

*Рагач-2* – месцазнаходжанне керамікі (мал. 1: *8*). Размешчана праз 0,22 км на паўночны ўсход ад вёскі і праз 1,07 км на паўночны ўсход ад месцазнаходжання Рагач-1, з правага боку асфальтаванай дарогі на вёску Фойна (геаграфічныя каардынаты: 54º01´42.72´´ пн. ш., 29º41´50.84´´ у. д.). На плошчы 150 × 60 м быў знойдзены фрагмент кафлі і 15 фрагментаў ганчарнай керамікі: 2 фрагменты венцаў (мал. 3: *7, 8*), фрагмент донца, 12 фрагментаў сценак.

[1] Вызначэнне ганчарнай керамікі тут і далей зроблена І. У. Ганецкай.

[2] Вызначэнне зроблена загадчыкам музея глебазнаўства геаграфічнага факультэта БДУ В. Л. Смаляковай.




Мал 3. Керамічныя вырабы, знойдзеныя падчас разведак 2009 г.: *1* – Малы Кудзін-1; *2, 4, 6* – Рагач-1; *3, 9* – Бялынічы-2А; *5* – Малы Кудзін-2; *7, 8* – Рагач-2; *10–12* – Бялынічы-2В. Малюнак А. М. Вашанава

Керамічны матэрыял папярэдне аднесены да эпохі позняга сярэдневякоўя і новага часу.

**Малы Кудзін, вёска, Галоўчынскі сельскі савет.** *Гарадзішча Малы Кудзін-1.* Знаходзіцца на левым беразе ракі Домса, праз 0,65 км на паўднёвы ўсход ад вёскі Малы Кудзін, за 1,03 км на паўднёвы захад ад моста праз раку Домса і праз 0,23 км на ўсход ад русла ракі (мал. 1: *9*) (геаграфічныя каардынаты: 54º00´56.24´´пн. ш., 29º48´38.63´´у. д.).

Упершыню гарадзішча каля вёскі Малы Кудзін узгадана Е. Р. Раманавым [4, с. 54], у далейшым помнік абследаваны ў 1974 г. Л. Д. Побалем [5, с. 251], у 1975 г. – Я. Р. Рыерам, у 1990 г. – В. Ф. Капыціным [3, с. 21–22]. У зборы археалагічных помнікаў Бялыніцкага раёна В. Ф. Капыціна маецца наступнае апісанне помніка: «Пляцоўка гарадзішча авальнай формы, памерам 32 × 34 м, перавышае межанны ўзровень ракі на 10 м. Па перыметры ўмацавана кальцавым валам, вышынёй 0,4–1 м. Другі падковападобны вал, вышынёй да 0,5 м, ахоплівае паўднёва-заходні бок гарадзішча. Пляцоўка парушана рабаўніцкімі ямкамі, траншэяй ваеннага часу і варонкамі ад снарадаў» [3, с. 21–22]. На момант даследавання стан захаванасці гарадзішча прыкладна той жа, што і на момант яго абследавання ў 1990 г. Пляцоўка добра задзернаваная, з паўночнага боку парасла вярбой. На пляцоўцы гарадзішча зафіксаваны дзве рабаўнічыя ямы, у адной з якіх знойдзены фрагмент сценкі ляпной керамікі таўшчынёй 13 мм з расчосамі (мал. 3: *1*). З паўднёва-ўсходняга боку гарадзішча



Мал. 4. Крыж, выяўлены на гарадзішчы каля в. Малы Кудзін у 2009 г.

знаходзіцца крыніца. Тут жа мясцовым насельніцтвам абсталявана месца для адпачынку. З паўднёва-ўсходняга боку гарадзішча, у ніжняй частцы схілу, усталяваны каменны крыж вышынёй каля 50 см (мал. 4). Па сведчанні мясцовых жыхароў, крыж быў знойдзены каля школы ў вёсцы Малы Кудзін у 2008 г., падчас будаўніцтва аднаго з дамоў, і перанесены на гарадзішча. Фрагмент сценкі ляпной керамікі, знойдзены ў 2009 г., датаваны раннім жалезным векам і адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі[1].

*Малы Кудзін-2* – месцазнаходжанне керамікі (мал. 1: *10*). Лакалізавана на левым беразе ракі Домса праз 0,40 км на паўночны ўсход ад гарадзішча, праз 0,52 км на поўдзень ад моста праз раку Домса і за 0,49 км на паўночны ўсход ад вёскі Малы Кудзін (геаграфічныя каардынаты: 54º01´09.97´´пн. ш., 29º49´01.34´´у. д.). На разараным полі на плошчы 200 × 100 м было знойдзена 12 фрагментаў ганчарнай керамікі: 3 фрагменты венцаў (мал 3: *5*); 2 фрагменты донцаў (у тым ліку адзін, выкананы на падсыпцы); 7 фрагментаў сценак; фрагмент кафлі. Ганчарная кераміка датавана перыядам позняга сярэдневякоўя–новым часам. Паводле картаграфічных крыніц канца XVIII – другой паловы XIX ст. у гэтым месцы існаваў засценак Кудзін. У другой чвэрці XX ст. засценак быў ператвораны ў пасёлак Перамога (Пабеда), які праіснаваў да 70-х гадоў XX ст.

Такім чынам, у выніку археалагічных даследаванняў 2009 г. было абследавана 10 помнікаў, 8 з якіх выяўлены ўпершыню (Бялынічы-1Б, -2А, -2Б, -2В, -3; Рагач-1, -2; Малы Кудзін-2).

[1] Вызначэнне ляпной керамікі зроблена А. М. Мядзведзевым.

**Літаратура**


1. Зайкоўскі Э. М. Справаздача аб палявых даследаваннях у 1982 годзе / Э. М. Зайкоўскі / Архіў ІГ НАН Беларусі. – Спр. № 794. – 1983.
2. Зайкоўскі Э. М. Разведкі на Друці / Э. М. Зайкоўскі // Гістарычныя Лёсы Верхняга Падняпроўя. – Магілёў, 1995. – Ч. I. – С. 86–90.
3. Копытин В. Ф. Археологические памятники Белыничского района Могилевской области / В. Ф. Копытин. – Могилев, 1992. – 112 с.
4. Невядомая спадчына Еўдакіма Раманава. Матэрыялы да археаграфічнай карты Магілёўскай губерні: археаграфічны зборнік / аўт.-склад. І. А. Марзалюк. – Магілёў : МДУ імя Куляшова, 2001, – 60 с.
5. Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии (свод археологических памятников раннего этапа – с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.) / Л. Д. Поболь. – Минск : Наука и техника, 1974. – 241 с.

***А. М. Вашанаў,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аспірант (г. Мінск)*

# Археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці ў 2010 годзе

У палявым сезоне 2010 г. працягвалася археалагічнае вывучэнне тэрыторыі Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці (мал. 1, *А*). Галоўным накірункам даследаванняў 2010 г. стала абследаванне левага берага р. Друць на паўночны захад ад г. п. Бялынічы (мал. 1, *Б*). Акрамя гэтага было праведзена абследаванне невялікага ўчастка левага берага р. Няропля (левабярэжны прыток першага парадку р. Друць) на захад ад вёскі Міхалоў (мал. 1, *Г*) і левага берага р. Баран (левабярэжны прыток трэццяга парадку р. Друць) на тэрыторыі паміж вёскамі Малы і Вялікі Трылесін (мал. 1, *В*)[1].

**Бялынічы, гарадскі пасёлак, цэнтр раёна.** Стаянка *Бялынічы-1А* размешчана на паўночным краі падтрохкутнага мысападобнага выступу карэннага берага ракі, які моцна ўразаецца ў затарфаваны поплаў (мал. 1, *Б: 1*), праз 1,55 км на паўночны захад ад моста праз р. Друць, за 0,97 км на поўдзень ад вёскі Рагач і праз 0,31 км на паўднёвы захад ад могілак каля вёскі Васілеўшчына (геаграфічныя каардынаты: 54º00´34.53´´ пн. ш, 29º41´30.11´´ у. д.)[2] [1].

Помнік быў выяўлены Э. М. Зайкоўскім у 1982 г. падчас разведак па р. Друць [2, с. 10; 3, с. 86–87]. У 2009 г. аўтарам тут быў праведзены збор пад'ёмнага матэрыялу [1]. Восенню 2010 г. на помніку было закладзена два шурфы агульнай плошчай 5 м$^2$. Першы шурф памерамі 2 × 2 м быў разбіты на заходнім краі ўзвышша, на раз'езджаным скрыжаванні дарог, дзе ў 2009 г. назіралася найбольшая канцэнтрацыя знаходак. Другі шурф памерамі 1 × 1 м быў размешчаны прыблізна праз 0,03 км на ўсход ад шурфа 1 на больш узвышанай частцы мысападобнага выступу.

Даследаванне шурфа 1 вялося ўмоўнымі механічнымі пластамі па 10 см. Для больш дакладнай фіксацыі знаходак кожны квадрат быў падзелены на чатыры сектары, абазначаныя літарамі *а, б, в, г*. Увесь грунт прасейваўся праз сіта з вочкамі памерамі 0,3 см. У шурфе 1 была выяўлена наступная стратыграфія: *а* – гумусава-элювіяльны гарызонт, шэры пясок, бесструктурны, магутнасць 5–10 см; *б* – падзолісты гарызонт, шчыльны дробназярністы пясок попельна-белаватага колеру, бесструктурны, магутнасць 8–16 см; *в* – ілювіяльны гарызонт, шчыльны буравата-жоўты пясок, бесструктурны, магутнасць 8–36 см; *г* – ілювіяльны гарызонт, светла-жоўты пясок, шчыльнасць слабая, бесструктурны, сустракаюцца артзанды, магутнасць 10–16 см. Мацерыковая паверхня прадстаўлена светла-жоўтым пяском са слядамі аглеенасці. Знаходкі сустракаліся на глыбіні да 60–70 см. На перадмацерыковай паверхні шурфа 1 выяўлена пляма прыроднага паходжання. Разборка шурфа 2 вялася механічнымі пластамі па 10 см, але грунт не прасейваўся. Нешматлікія артэфакты трапляліся да глыбіні 30 см. Тут выяўлена наступная стратыграфія: *а* – ворны пласт магутнасцю 20–28 см (цёмна-шэры моцнагумусіраваны пясок); *б* – пласт пяску жоўтага колеру магутнасцю 10–12 см. Мацерыковая паверхня прадстаўлена пяском светла-жоўтага колеру.

Усяго ў 2010 г. было выяўлена 812 артэфактаў: крамянёвых вырабаў – 797 экзэмпляраў (мал. 2), кругавой керамікі – 4 фрагменты, кальцанаваных костак – 11 дробных фрагментаў.

Знаходкі элементаў паляўнічага ўзбраення (мал. 2: *1, 2*), а таксама адходаў ад вытворчасці мікралітаў (мал. 2: *3, 4*), дае магчымасць меркаваць аб мезалітычным узросце атрыманых артэфактаў.

*Бялынічы-2В* – месцазнаходжанне расшчапаных крэменяў і керамікі. Размешчана на паўднёва-заходнім ускрайку пясчанага ўзвышша, праз 0,13 км на паўночны ўсход ад моста праз р. Друць (што на заходняй ускраіне г. п. Бялынічы) і за 0,08 км на паўночны ўсход ад русла ракі (мал. 1, *Б: 2*) (геаграфічныя каардынаты: 53º59´50.88´´ пн. ш., 29º41´56.52´´ у. д.). Помнік выяўлены і абследаваны А. М. Вашанавым у 2009 г. [1].

У 2010 г. тут было знойдзена 11 артэфактаў: 7 крамянёвых вырабаў (адшчэп скарыністы – 1, адшчэпы звычайныя – 2, лускі – 2, фрагмент скола неазначальнага – 1, дробны абломак неазначальны – 1), 4 фрагменты кругавой керамікі (фрагмент венца – 1, фрагменты донцаў з зялёнай палівай – 2, фрагмент сценкі з зялёнай палівай – 1).

Крамянёвы матэрыял датаваны каменным–бронзавым вякамі, кругавая кераміка адносіцца да позняга сярэдневякоўя і новага часу.

Помнік *Бялынічы-4* выяўлены на левым беразе р. Друць (мал. 1, *Б: 3*), на астанцы карэннага берага ракі, праз 1,6 км на паўночны захад ад моста і праз 0,9 км на паўднёвы захад ад могілак каля вёскі Васілеўшчына, ва ўрочышчы Барок (геаграфічныя каардынаты: 54º00´27.38´´ пн. ш., 29º40´57.37´´ у. д). На момант даследавання паверхня астанца была амаль цалкам занята хваёвым лесам. Вольнай ад дрэў засталася толькі паўночна-заходняя частка ўзвышша. З мэтай праверкі наяўнасці культурнага слою тут было закладзена два шурфы памерамі 1 × 1 м.

Першы шурф быў размешчаны на паўднёвым краі астанца. У гэтым месцы выяўлена наступная

[1] Аўтар выказвае шчырую падзяку В. У. Ашэйчыку за актыўны ўдзел у экспедыцыі, а таксама З. А. Харытановіч і Г. Р. Цімафеенка за кансультацыі падчас апрацоўкі керамічнай калекцыі.

[2] Каардынаты пададзены згодна сістэмы Google Earth.




Мал. 1. Лакалізацыя археалагічных помнікаў, абследаваных у 2010 годзе на тэрыторыі Бялыніцкага раёна: *А* – раён даследаванняў; *Б* – помнікі, размешчаныя на левым беразе р. Друць каля г. п. Бялынічы: *1* – Бялынічы-1А; *2* – Бялынічы-2В; *3* – Бялынічы-4; *В* – помнікі, размешчаныя на левым беразе р. Баран: *4* – Малы Трылесін-1; *Г* – помнікі, размешчаныя на левым беразе р. Няропля: *5* – Міхалоў-1

стратыграфія: *а* – светла-шэры пясок попельнага адцення магутнасцю да 30 см; *б* – светла-шэры пясок з попельнымі ўкрапваннямі магутнасцю 10–20 см. Мацерыковая паверхня прадстаўлена пяском жоўтага колеру. У шурфе 1 было знойдзена 2 фрагменты сценак кругавой керамікі.

Другі шурф быў закладзены прыблізна праз 150 м на поўнач ад шурфа 1 пасярод лесапасадкі. Стратыграфія шурфа 2: *а* – светла-шэры пясок попельнага адцення магутнасцю 20–30 см; *б* – светла-шэры пясок магутнасцю 10–20 см. Мацярыковая паверхня прадстаўлена пяском жоўтага колеру. Выяўлена 6 артэфактаў: фрагменты сценак ляпнога посуду – 5, фрагмент каменнага вырабу – 1. Атрыманыя артэфакты папярэдне датаваны перыядам ранняга жалезнага веку і эпохай сярэдневякоўя.

*Міхалоў-1* – месцазнаходжанне расшчапаных крэменяў. Выяўлена на левым беразе р. Няропля праз 2,9 км на паўночны ўсход ад могілак на заходняй ускраіне г. п. Бялынічы і за 0,6 км на паўночны ўсход ад вёскі Міхалоў на краі першай надпоплаўнай тэрасы (мал. 1, *Г: 4*; геаграфічныя каардынаты: 54º00′12.36′′ пн. ш., 29º46′05.38′′ у. д). Апрацаваныя крэмені трапляліся на дарозе, што цягнецца па краі тэрасы ўздоўж лесу, на плошчы 25 × 70 м. Усяго на помніку было знойдзена 8 крамянёвых вырабаў: адшчэп падскарыністы, адшчэп звычайны, фрагмент адшчэпа, фрагмент адшчэпа з рэтушшу, медыяльная частка пласціны, луска, фрагмент скола неаназначальнага, дробны абломак неазначальны. Крамянёвы матэрыял, знойдзены на помніку, датаваны каменным–бронзавым вякамі.

**Малы Трылесін, вёска, Галоўчынскі сельскі савет.** Помнік *Малы Трылесін-1* лакалізаваны на левым беразе каналізаванай р. Баран, на паўднёвай ускраіне вёскі Малы Трылесін на разараным калгасным полі адразу за хатамі (мал. 1, *В: 5*) (геаграфічныя каардынаты: 54º00′20.82′′ пн. ш., 29º51′06.47′′ у. д). На плошчы 220 × 200 м было знойдзена 19 артэфактаў: манета наміналам 10 капеяк (1950 г.), фрагмент рыльца шкляной бутэлькі, фрагмент парцэлянавага вырабу (на вонкавай частцы выява герба Расейскай Імперыі і надпісам кірылічным шрыфтам), 16 фрагментаў кругавой керамікі (венцаў кругавой керамікі – 12, донца – 2, сценкі – 1, вырабу керамічнага неазначальнага – 1). Увесь комплекс вырабаў датаваны канцом XVIII – сярэдзінай XX ст. Непярэчаць гэтаму і картаграфічныя крыніцы першай паловы XX ст.,




Мал. 2. Крамянёвыя матэрыялы з даследаванняў 2010 г. на помніку Бялынічы-1А: *1* – мікраліт (фрагмент); *2* – мікрапласцінка з прытупленым рэтушшу краем; *3, 4* – мікраразцы праксімальныя; *5* – другасная рабрыстая пласціна; *6* – пласціна (фрагмент); *7* – пласціна з рэтушшу; *8* – скрабач; *9–13* – скрабкі і іх фрагменты. Малюнак А. М. Вашанава

паводле якіх у гэты час, у месцы збору пад'ёмнага матэрыялу, існавалі прыватныя падворкі.

Такім чынам, у выніку археалагічных даследаванняў палявога сезона 2010 г. было абследавана пяць помнікаў археалогіі, тры з якіх былі выяўлены ўпершыню (Бялынічы-4, Міхалоў-1, Малы Трылесін-1). Помнікі Бялынічы-1А і Бялынічы-4 былі даследаваны шурфамі.

**Літаратура**

1. Вашанаў, А. М. Справаздача аб разведках на тэрыторыі Бялыніцкага раёна ў 2009 годзе / А. М. Вашанаў // ААНД ІГ НАН Беларусі. – Спр. № 2696.

2. Зайкоўскі Э. М. Справаздача аб палявых даследаваннях у 1982 годзе / Э. М. Зайкоўскі / ААНД ІГ НАН Беларусі. – Спр. № 794.

3. Зайкоўскі Э. М. Разведкі на Друці / Э. М. Зайкоўскі // Гістарычныя Лёсы Верхняга Падняпроўя. Магілёў. – 1995. – Ч. І. – С. 86–90.

*А. И. Дробушевский, Ветковский музей народного творчества, заведующий отделом реставрации и возрождения ремесел, кандидат исторических наук (Гомель)*

# Археологические исследования городища Старое Село Ветковского района Гомельской области в 2009 году

В 2009 году отряд Ветковского музея народного творчества им. Ф. Г. Шклярова проводил исследования на известном археологическом комплексе у д. Старое Село Ветковского района Гомельской области. Памятник расположен на территории Хальчанского сельсовета в 0,6–0,7 км на юго-запад от МТФ д. Старое Село в урочище Городок (прежние названия – Замок, Замковое). Занимает останец правобережной надпойменной террасы р. Сож (высота над уровнем поймы около 8 м). Останец вытянут по линии юго-запад–соверо-восток на 620 м при максимальной ширине в юго-западной части 120 м. С юга останец примыкает к озеру–старице Городец (бывшее Замковое).

Топографически археологический комплекс состоит из трех площадок: юго-западной, центральной, северо-восточной.

Центральная площадка отделена от юго-западной слабоизогнутым (защищал центральную площадку) оборонительным земляным валом хорошей сохранности. Длина вала – 93–95 м, ширина в основании – 10, высота над уровнем площадки – до 3 м. Площадка имеет в плане прямоугольную форму размерами 105 × 75–95 м, возвышается над уровнем поймы на 8–11 м, занята соснами. С севера, северо-востока центральная площадка защищена вторым валом. Он имеет в основании ширину 11–15 м и высоту 3–6 м над поверхностью центральной площадки. Центральная площадка достаточно хорошо задернована.

Юго-западная площадка имеет в плане прямоугольную форму размерами 220 × 110–120 м. Площадка ровная, возвышается над поймой на 8 м, занята сосновыми посадками. Следы каких-либо земляных оборонительных сооружений отсутствуют.

Северо-восточная площадка имеет в плане не совсем правильную (близкую четырехугольной) форму размерами 90–150 × 80–95 м. Она возвышается над уровнем поймы на 7–9 м, покрыта редколесьем. Площадка слабо задернована, культурный слой не прослеживается. В 80-е годы XX в. ее северная часть была уничтожена карьером, поэтому о первоначальных размерах этой площадки в настоящее время судить трудно.

Памятник известен как городище с 1873 г. [14, с. 35–36], упоминается Е. Р. Романовым в 1910 г. [13, с. 109, 118] и неоднократно был осмотрен археологами. В 1936 г. обследован А. Н. Лявданским и А. Д. Каваленей, которые сняли схематический план [3]. По данным А. Н. Лявданского и А. Д. Кавалени, городище состоит из одной площадки и имеет размеры 130 × 100 м. В 1957 г. Старосельское городище обследовано О. Н. Мельниковской [6, с. 20–21, № 64]. Была произведена инструментальная (?) съемка плана, по которому городище имеет три площадки и его размеры достигают 200 × 120 м. В последующем О. Н. Мельниковская включила данное городище в список памятников милоградской культуры Южной Беларуси [7, с. 193, № 168, рис. 5: *3*]. В 1966 г. памятник осмотрен В. Д. Будько, который обнаружил здесь следы стоянки каменного века.

В итоге этих исследований Старосельское городище было включено в различные сводки памятников раннего железного века [1, с. 29, № 9; 8, с. 195–196, № 330, рис. 66; 9, с. 238, № 139; 15, с. 98, № 107].

В 1980 г. городище у д. Старое Село осмотрел С. Е. Рассадин, который выявил керамику милоградской культуры в северо-восточной части центральной площадки [10, с. 343–344]. Однако позднее он отнес указанное городище к памятникам юхновской культуры, хотя и не привел конкретных материалов в подтверждение этого утверждения [11, с. 72–80; 12, с. 37–53].

В 1991–1992 г. на Старосельском археологическом комплексе исследования проводили сотрудники Гомельского областного археологического центра (ГОАЦ) под руководством О. А. Макушникова [4, с. 38–43; 5, с. 197–198]. На юго-западной площадке было заложено два шурфа и произведена съемка плана. В шурфах выявлены фрагменты керамики и развал лепного горшка среднеднепровской культуры бронзового века.

В 2007 г. памятник осмотрен автором [2]. Следует отметить, что наиболее верное описание и топографическая съемка памятника, на наш взгляд, произведена сотрудниками ГОАЦ.

В результате исследований предшествующих лет установлено, что останец в урочище Городок сохраняет остатки нескольких разновременных памятников. В эпоху камня была заселена северо-восточная часть, в эпоху бронзы – юго-западная площадка над оз. Городец (Замковое). В раннем железном веке останец был приспособлен носителями милоградской (возможно, юхновской) культуры под городище. При этом собственно поселением становится центральная часть урочища. Данное городище демонстрирует нехарактерный для Гомельского Посожья пример использования природного останца для возведения укрепленного поселения.

Учитывая то, что северо-восточная площадка к настоящему времени почти полностью уничтоже-

на, а культурный слой в обнажениях не прослеживается, исследования в 2009 г. были сосредоточены на центральной площадке. Здесь был заложен раскоп № 1 площадью 24 м², в котором найдены два мелких фрагмента лепной керамики без орнамента и один кремневый отщеп. Никаких других находок в раскопе встречено не было. Кроме того, ни в культурном слое, ни при зачистке материка следы объектов не зафиксированы. С целью выяснения общей ситуации на центральной площадке было заложено еще четыре шурфа размерами 1 × 1 м. В трех шурфах находок не было, в шурфе № 4 найдены два мелких фрагмента лепной керамики эпохи бронзы, орнаментированной ямочным и веревочным орнаментом, а также два кремневых отщепа.

Таким образом, в результате исследований 2009 г. можно констатировать отсутствие на центральной площадке ярко выраженных следов культурного слоя и находок раннего железного века, как милоградской, так и юхновской культуры.

Для уточнения культурно-хронологической принадлежности Старосельского археологического комплекса, исследования были продолжены на юго-западной площадке. Здесь была заложена траншея № 1 площадью 10 м². Культурный слой в траншее на этой площадке довольно хорошо насыщен находками. Самые ранние материалы относятся к эпохе неолита (верхнеднепровской культуре). Основная часть находок в траншее № 1 связана с бронзовым веком. Это, прежде всего, фрагменты лепных сосудов среднеднепровской культуры, украшенные шнуровым, ямочным и линейным орнаментом. Значительно меньше представлены керамические материалы сосницкой культуры. К бронзовому веку также относится и часть кремневых изделий. Найдены также несколько фрагментов лепной керамики позднезарубинецкого типа I–II вв. н. э. К этому времени, видимо, также принадлежат несколько фрагментов стенок груболепных сосудов, орнаментированных по внешней поверхности легкой штриховкой. Из-за единичности материалов этого периода пока рано говорить о существовании на этом месте более или менее долговременного поселения. Самые поздние находки относятся к XVI–XVII вв.

Таким образом, в траншее № 1 на южной площадке Старосельского археологического комплекса выявлены материалы нескольких периодов. Наиболее ранние принадлежат к эпохе неолита (верхнеднепровская культура), затем к эпохе бронзы (среднеднепровская и сосницкая культуры), раннему железному веку (позднезарубинецкая культура ?) и позднему средневековью (XVI–XVII вв.). Единичность находок последних двух периодов не позволяет считать, что здесь в это время существовали поселения. Основной период функционирования поселения, судя по многочисленности керамики, связан с носителями среднеднепровской культуры бронзового века.

**Литература**

1. Древности железного века в междуречье Десны и Днепра /// САИ. – Вып. Д1–12. – М., 1962.

2. Дробушевский, А. И. Отчет о разведках в Ветковском районе Гомельской области в 2007 году / А. И. Дробушевский // Архив Института истории НАН Беларуси.

3. Лявданский А. Д. Дневник, 1936 / А. Д. Лявданский, А. Д. Каваленя // Архив Института истории НАН Беларуси.

4. Макушников, О. А. Отчет об археологическом обследовании территории Ветковского района в 1991 г. / О. А. Макушников // Архив Института истории НАН Беларуси.

5. Макушников, О. А. Отчет об археологическом обследовании территории Ветковского района в 1992 году / О. А. Макушников // Архив Института истории НАН Беларуси. – Т. 1.

6. Мельниковская, О. Н. Отчет о работах Гомельского отряда Верхнеднепровской экспедиции ИИМК АН СССР в 1957 г. / О. Н. Мельниковская // Архив Института истории НАН Беларуси.

7. Мельниковская, О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке / О. Н. Мельниковская. – М. : Наука, 1967. – 196 с.

8. Поболь, Л. Д. Славянские древности Белоруссии (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры – с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.) / Л. Д. Поболь. – Минск : Наука и техника, 1974. – 231 с.

9. Поболь, Л. Д. Археологические памятники Белоруссии: Железный век / Л. Д. Поболь. – Минск : Наука и техника, 1983. – 455 с.

10. Рассадин, С. Е. Разведки в Посожье / С. Е. Рассадин // Археологические открытия 1980 года. – М. : Наука, 1981. – С. 343–344.

11. Рассадзін, С. Е. Ніжнесожскія гарадзішчы ранняга жалезнага веку: тыпалогія і культурна-храналагічная дыферэнцыяцыя / С. Е. Рассадзін // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. – Мінск, 1991. – № 6. – С. 72–80.

12. Рассадин, С. Е. Юхновская культура в белорусско-российском Посожье / С. Е. Рассадин // МАБ. – Вып. 14. – Минск, 2007. – С. 37–53.

13. Романов, Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда / Е. Р. Романов // Записки Северо-Западного отдела Русского географического общества. – Вильна, 1910. – Кн. 1.

14. Сведения 1873 г. о городищах и курганах. Могилёвская губерния // Известия Императорской археологической комиссии. – СПб., 1903. – Вып. 5.

15. Штыхов, Г. В. Археологическая карта Белоруссии. Памятники железного века и эпохи феодализма / Г. В. Штыхов. – Минск : Полымя, 1971. – Вып. 2.

***А. У. Зуева,*** *Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, выкладчык, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск);*
***Ш. Каліцкі,*** *магістр археалогіі (г. Кракаў, Польшча)*

# Вынікі археалагічных даследаванняў 2009 года ў Краснасельскім мікрарэгіёне

У 2009 г. аўтары працягвалі распачатыя ў папярэднім палявым сезоне археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці. На падставе Дазволу № 2035 па форме № 2 (на імя А. У. Зуевай) былі праведзены разведкі ў права- і левабярэжжы р. Рось на ўчастку ад в. Рыбакі да в. Загоры, а таксама абследавана крэйдавая лінза № 4 «Калядзічы» каля в. Карпаўцы (мал. 1). У выніку праведзеных даследаванняў: I) была ўдакладнена лакалізацыя і вызначаны сучасны стан двух раней вядомых помнікаў; II) выяўлена шэсць новых розначасовых помнікаў; III) зафіксавана новае месцазнаходжанне рагавой шахцёрскай прылады.

I) *Загоры-1.* Месцазнаходжанне апрацаванага крэменю і ганчарнай керамікі было выяўлена М. М. Чарняўскім у 1984 г. [6, с. 8]. Помнік размешчаны ў левабярэжжы р. Рось, на паўночным ускрайку в. Загоры (Краснасельскі п/с), праз 50 м на поўнач ад дарогі, якая вядзе да санаторыя. Паверхня помніка разворваецца. На прыдатнай для агляду пляцоўцы плошчай каля 100 × 50 м знойдзены 7 крамянёвых артэфактаў (4 адшчэпы і іх фрагменты, пласціна, рэтушаваны адшчэп, рэтушаваная пласціна з адламаным праксімальным канцом) і 4 фрагменты ганчарнай керамікі.

Помнік Загоры-1 датаваны каменным–бронзавым вякамі, познім сярэдневякоўем–новым часам.

*Рыбакі-1.* Месцазнаходжанне апрацаванага крэменю, якое было выяўлена ў 1986 г. В. Я. Кудрашовым [5, с. 4] і паўторна абследавана аўтарамі ў 2008 г. [3, с. 25]. Помнік размешчаны ў правабярэжжы р. Рось, на беразе старыцы, у 0,5 км на паўднёвы ўсход ад в. Рыбакі (Краснасельскі п/с). Помнік цалкам знішчаны вёскай, яго ацалелая частка разворваецца. На полі, якое знаходзіцца на паўднёвым ускрайку вёскі, знойдзены адшчэп без апрацоўкі, рэтушаваны




Мал. 1. Краснасельскі мікрарэгіён: *А* – лакалізацыя рэгіёна; *Б, В* – карты размяшчэння помнікаў: *а* – крэйдавыя лінзы (*I* – крэйдавыя лінзы каля г. п. Краснасельскі, *II* – крэйдавая лінза № 4 «Калядзічы» каля в. Карпаўцы); *б* – археалагічныя помнікі, выяўленыя ці абследаваныя ў 2009 г.; *в* – месца выяўлення рагавой шахцёрскай прылады: *1* – Рыбакі-1; *2* – Навасёлкі-1; *3* – Навасёлкі-2; *4* – Краснасельскі-11; *5* – Падрось-2; *6* – Падрось-3, *7* – Падрось-*4, 8* – Загоры-1

адшчэп, нарыхтоўка біфацыяльнага вырабу (мал. 2: *3*). Тыпалагічнае вызначэнне апошняга са згаданых артэфактаў зроблена на падставе крытэрыяў, якія былі распрацаваны В. Мігалем [10, s. 136–137; 12, s. 237]: 1) у адрозненне ад дыскападобных нуклеусаў, якія маюць плоска-выпуклае сячэнне, нарыхтоўкі біфацыяльных вырабаў вылучаюцца «падушкападобным» сячэннем; 2) на паверхнях біфацыяльных вырабаў заўважана вялікая колькасць параўнальна плоскіх дробных негатываў сколаў, якія былі накіраваны на апрацоўку прылады, а не на атрыманне нарыхтовак.

Помнік, мяркуючы па наяўнасці нарыхтоўкі біфацыяльнай прылады, датаваны бронзавым векам.

II) *Краснасельскі-11.* Месцазнаходжанне апрацаванага крэменю і ляпной керамікі. Помнік знаходзіцца праз 1,3 км на паўднёвы ўсход ад г. п. Краснасельскі і прыкладна праз 1 км на паўднёвы ўсход ад археалагічнага запаведніка з шахтамі, на ўсход ад шашы з Краснасельскага ў Ваўкавыск. Помнік размешчаны на пагорках на нізкім поплаве ў левабярэжжы р. Рось. На часткова задзіраванай паверхні сабрана 35 крамянёвых артэфактаў і 10 фрагментаў ляпной керамікі.

Крамянёвыя артэфакты выраблены з балтыйскага крэйдавага і марэннага крэменю. Чатыры знаходкі абпаленыя. Прадукты расшчаплення крэменю прадстаўлены 19 адшчэпамі, 5 пласцінамі і іх фрагментамі, натуральным крамянёвым абломкам са слядамі апрацоўкі, двухпляцовачным нуклеусам ад пласцін і адшчэпаў. Да вырабаў з другаснай апрацоўкай аднесены 2 рэтушаваныя пласціны, выемчатая прылада на нуклепадобным абломку (мал. 2: *1*), 3 рэтушаваныя адшчэпы і 3 скрэблы на натуральных крамянёвых абломках (мал. 2: *2*).

Калекцыя ляпной керамікі складаецца з фрагментаў лашчоных сценак і донца (4), гладкасценных сценак (3), донца з падсыпкай (1) і сценак неазначальнай керамікі (2).

Помнік датаваны каменным–бронзавым вякамі, жалезным векам.

*Падрось-2.* Месцазнаходжанне апрацаванага крэменю і ганчарнай керамікі. Помнік размешчаны




Мал. 2. Матэрыялы разведак 2009 года: *1* – выемчатая прылада на нуклепадобным абломку; *2* – скрэбла; *3* – нарыхтоўка біфацыяльнага вырабу; *4–7* – нуклеусы; *1, 2* – Краснасельскі-11; *3* – Рыбакі-1; *4* –Падрось-2; *5–7* – Падрось-3

ў правабярэжжы р. Рось, на паўднёва-заходнім ускрайку в. Падрось (Краснасельскі п/с), на высокай тэрасе альбо нізкім поплаве. Паверхня помніка часткова выкарыстоўваецца пад агароды, часткова задзірваваная. На плошчы каля 100 × 50 м былі знойдзены 4 крамянёвыя артэфакты (адшчэп, 2 фрагменты пласцін, аднапляцовачны нуклеус ад пласцін з часткова апрацаванымі бакамі (мал. 2: 4)), 5 фрагментаў ганчарнай керамікі.

Помнік датаваны мезалітычным часам, а таксама познім сярэдневякоўем–новым часам.

*Падрось-3.* Месцазнаходжанне апрацаванага крэменю. Помнік размешчаны прыкладна праз 0,8 км на поўдзень ад в. Падрось, на паўночным ускрайку хутара, на захад ад шашы Краснасельскі–Ваўкавыск, у правабярэжжы р. Рось, на невысокай моцна аплыўшай дзюне. Паверхня разворваецца. На плошчы каля 250 × 50 м былі знойдзены 13 крамянёвых артэфактаў: 4 адшчэпы, дыстальная частка пласціны, скол падпраўкі плоскасці сколвання, 2 фрагменты крамянёвых канкрэцый са слядамі апрацоўкі, 4 аднапляцовачных нуклеуса ад пласцін (мал. 2: *5–7*) і 1 аднапляцовачны нуклеус ад пласцін і пласцінністых сколаў.

Усе нуклеусы выраблены на невялікіх канкрэцыях марэннага крэменю. На падставе тэхніка-марфалагічных крытэрыяў нуклеусы ад пласцін падзелены на дзве групы. Першая група прадстаўлена артэфактамі, плоскасць сколвання якіх размешчана ў тарцовай альбо шырокай частцы канкрэцыі (мал. 2: *5*). Ударная пляцоўка рыхтавалася некалькімі сколамі, пасля зняцця серыі пласцін падпраўлялася дробнымі фасеткамі. Вугал сколвання – каля 80 градусаў. У аднаго нуклеуса бакі апрацаваныя. Пласціны здымаліся з дапамогай адціскной тэхнікі, на што ўказвае шэраг прыкмет: 1) сплошчаныя паверхні сколвання нуклеусаў, з якіх можна было атрымліваць нарыхтоўкі з прамым профілем; 2) наяўнасць негатываў ад рэгулярных вузкіх пласцін [параўн.: 1, с. 69–70, 78–79; 11, s. 258]. Такія нуклеусы маюць аналогіі ў матэрыялах яніславіцкай культуры, у тым ліку на Панямонні [13].

Да другой групы аднесены нуклеусы, плоскасці сколвання якіх размешчаны ў тарцовай частцы канкрэцыі (мал. 2: *6, 7*). Ударная пляцоўка ўтворана адным ці некалькімі сколамі альбо не падрыхтавана. Вугал сколвання набліжаецца да 90 градусаў. Бакі часткова апрацаваныя. Мяркуючы па негатывах сколаў, з нуклеусаў здымаліся параўнальна нерэгулярныя шырокія нарыхтоўкі. Пласціны згаданага кшталту атрымліваюць ударам з прымяненнем пасрэдніка [11, s. 257]. Такія нуклеусы прысутнічаюць на помніках яніславіцкай культуры, напрыклад Беліца-2 [15, tabl. XXII: *1, 2*]. Нуклеусы гэтага тыпу адзначаюцца і ў інвентары нёманскай культуры [4, с. 53, табл. III: 4; 14, s. 83].

Такім чынам, помнік Падрось-3 датаваны мезалітам і адносіцца да яніславіцкай культуры. Не выключаны таксама неалітычны этап засялення тэрыторыі помніка, звязаны з нёманскай культурай.

*Падрось-4.* Месцазнаходжанне апрацаванага крэменю і ганчарнай керамікі. У правабярэжжы р. Рось, паміж хутарам каля в. Падрось і дарогай да моста праз р. Рось, на разараным полі знойдзены крамянёвы адшчэп і 2 фрагменты ганчарнай керамікі.

*Навасёлкі-1.* Месцазнаходжанне апрацаванага крэменю і ганчарнай керамікі. Помнік размешчаны на правабярэжнай тэрасе р. Рось, на дзюнападобным узвышшы насупраць цэментнага заводу. Помнік падзелены на дзве часткі шашой Ваўкавыск–Гродна, яго паверхня разворваецца. На полі на плошчы каля 600 × 250 м знойдзены крамянёвыя артэфакты (5 адшчэпаў без апрацоўкі, дыстальная частка пласціны, 3 рэтушаваныя адшчэпы) і фрагмент ганчарнай керамікі. Помнік датаваны каменным–бронзавым вякамі, познім сярэдневякоўем–новым часам.

*Навасёлкі-2.* Месцазнаходжанне апрацаванага крэменю. На ўсходнім ускрайку в. Навасёлкі (Краснасельскі п/с) знойдзены падскарыністы адшчэп.

III) Вясной 2009 г. краснасельскі краязнавец А. В. Зубанаў у кар'еры ва ўсходняй частцы крэйдавай лінзы № 4 «Калядзічы» каля в. Карпаўцы знайшоў рагавую шахцёрскую прыладу працы (мал. 3), якую перадаў у Музей гісторыі прадпрыемства «ААТ Краснасельскбудматэрыялы» і краязнаўства




Мал. 3. Рагавая шахцёрская прылада. Крэйдавая лінза № 4 «Калядзічы» каля в. Карпаўцы

(г. п. Краснасельскі). Аўтарамі было агледжана месца выяўлення прылады. Археалагічныя аб'екты ў сценцы кар'ера адсутнічалі.

Прылада змайстравана з фрагмента адростка рогу. Вастрыё вырабу, наўмысна неапрацаванае, захоўвае нешматлікія драпіны, якія, найбольш верагодна, з'явіліся ў выніку выкарыстання прылады. На ніжняй, патоўшчанай, частцы вырабу заўважаюцца сляды забітасцей, якія маглі застацца ад udaраў адбойнікам. Даўжыня прылады – каля 30,5 см.

Выраб, паводле распрацаванай А. Багушэўскім класіфікацыі рагавых шахцёрскіх прылад працы, адносіцца да тыпу В1 [9, s. 200–207]. Прылады гэтага тыпу не маюць аналогій ні сярод матэрыялаў З. Шміта з так званай крэйдавай лінзы № 1, якія знаходзяцца ў зборах Дзяржаўнага археалагічнага музея ў Варшаве [8, 14], ні сярод вырабаў, якія былі атрыманы беларускімі даследчыкамі на лінзе № 4 «Калядзічы» каля в. Карпаўцы ў 1978–1979 гг. [7]. Разам з тым адна падобная прылада амаль ідэнтычных памераў (даўжыня 30 см) была выяўлена Н. М. Гурынай падчас даследаванняў 1963–1964 гг. на крэйдавай лінзе № 2, якая была размешчана на поўдзень ад г. п. Краснасельскі. Прылада паходзіла з шахты № 4 раскопу I [2, с. 55, 61]. Рагавыя прылады тыпу В1 (усяго 10 адзінак) адзначаны і ў матэрыялах, якія былі атрыманы С. Крукоўскім і Т. Журоўскім у крэмнездабыўным цэнтры Кшэмёнкі Апатоўскія [9, s. 214]. Прыладам такога тыпу прыпісваюць функцыі шахцёрскіх кірак альбо рычагоў, з дапамогай якіх падважвалі блокі крэйдавай пароды ці крамянёвыя канкрэцыі [9, s. 224–226].

## Літаратура

1. Гиря, Ю. В. Технологический анализ каменных индустрий. Методика микро-макроанализа древних орудий труда / Ю. В. Гиря. – СПб : РАН ИИМК, 1997. – Ч. 2. – 198 с.

2. Гурина, Н. Н. Древние кремнедобывающие шахты на территории СССР / Н. Н. Гурина. – Л. : Наука, 1976. – 178 с.

3. Зуева, А. У. Справаздача аб археалагічных даследаваннях на тэрыторыі Ваўкавыскага і Пінскага раёнаў у 2008 годзе / А. У. Зуева // Архіў археалагічнай навуковай дакументацыі ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 2567.

4. Калечиц, Е. Г. Этапы заселения Мотольского микрорегиона в каменном и бронзовом веках (по материалам поселения Мотоль-17) / Е. Г. Калечиц, В. С. Обуховский // Lietuvos archeologija. – 2004. – Т. 25. – С. 47–78.

5. Кудряшов, В. Е. Отчет о полевых исследованиях в 1986 г. / В. Е. Кудряшов // Архіў археалагічнай навуковай дакументацыі ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 1008.

6. Чарняўскі, М. М. Справаздача аб археалагічных даследаваннях у 1984 годзе / М. М. Чарняўскі // Архіў археалагічнай навуковай дакументацыі ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 921.

7. Чарняўскі, М. М. Рагавыя шахцёрскія прылады з Карпаўцаў Ваўкавыскага раёна / М. М. Чарняўскі // Acta Archaeologica Albaruthenica. – Мінск, 2007. – Vol. 1. – С. 5–16.

8. Boguszewski, A. Narzędzia rogowe z wczesnobrązowej kopalni krzemienia w Krasnym Siole nad rzeką Roś / A. Boguszewski // Wiadomości Archeologiczne. – 1989. – T. 49, z. 2. – S. 233–243.

9. Boguszewski, A. Narzędzia rogowe z neolitycznej kopalni krzemienia pasiastego w Krzemionkach, woj. Kieleckie / A. Boguszewski // Wiadomości Archeologiczne. – 1989. – T. 49, z. 2. – S. 197–231.

10. Migal, W. Znaczenie przemysłu nakopalnianego z Rybnik, woj. Białostockie, dla poznania krzremieniarstwa epoki brązu w Polsce / W. Migal // Z badań nad kremieniarstwem epoki brązu i wczesnej epoki żelaza w Polsce : materiały sympozjum, Warszawa, 20–22 października 1994 r. ; Komitet nauk pra- i protohistorycznych ; pod red. J. Lecha, D. Piotrowskiej. – Warszawa, 1997. – S. 129–144.

11. Migal, W. Zamysł technologiczny wióra krzemiennego z Winiar, pow. Dwikozy / W. Migal // Krzemień świeciechowski w pradziejach : materiały z konferencji w Ryni, 22–24.05.2000 / PMA ; pod red. B. Matraszek, S. Sałacińskiego. – Warszawa, 2002. – S. 255–266.

12. Migal, W., Narzędzia bifacjalne jako wskaźniki chronologiczne? / W. Migal, M. Urbanowski // Krzemień czekoladowy w pradziejach : materiały z konferencji, Orońsk, 08–10.10.2003 / PMA ; pod red. W. Borkowskiego [i inn.]. – Warszawa ; Lublin, 2008. – S. 215–244.

13. Obuchowski, W. Materiały kultury janisławickiej z obszaru prawobrzeżnej strefy dorzecza górnego Niemna / W. Obuchowski // Kultura janisławicka w Polsce Północno-Wschodniej i na terenach sąsiednich ; red. E. Kawałkowa. – Ostrołęka, 2003. – S. 83–100.

14. Obuchowski, W. Zabytki krzemienne i kamienne od paleolitu do wczesnej epoki żelaza z terenów Białorusi w zbiorach Państwowego Museum Archeologicznego w Warszawie / W. Obuchowski. – Warszawa : Wyd. PMA, 2003. – 208 s.

15. Obuchowski, W. Materiały paleolityczne i mezolityczne z Zachodniej Białorusi / W. Obuchowski. – Warszawa : Uniwersytet Warszawski, 2009. – 296 s.

***А. У. Зуева,*** *Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, выкладчык, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск)*

# Археалагічныя разведкі на тэрыторыі Маладзечанскага раёна ў 2010 годзе

У палявым сезоне 2010 г. на падставе Дазволу № 2160 па форме № 2, былі праведзены археалагічныя разведкі на тэрыторыі Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці. Асноўнай мэтай даследаванняў з'яўляўся пошук помнікаў каменнага і бронзавага вякоў у басейне р. Уша. Разведкі праводзіліся на ўчастках ад в. Мясата да в. Баяры і ад в. Раманы да в. Уша 2-я. У выніку былі выяўлены тры новыя археалагічныя помнікі.

*Мясата-1.* Стаянка размешчана праз 250 м на поўнач ад в. Мясата (цэнтр с/с), у левабярэжжы р. Уша, на марэнным узвышшы ў забалочаным поплаве ракі (гл. малюнак, *А: 1*). Вышыня ўзвышша над поплавам – каля 1,5 м, адлегласць ад берага ракі – 30–35 м. Паверхня помніка зарослая травой і хмызнякамі. З поўначы гэты ўчастак абмежаваны лесам, з захаду – полем, на якім крамянёвыя артэфакты не сустракаюцца. Ва ўсходняй частцы ўзвышша быў закладзены шурф памерамі 1 × 1 м. Магутнасць культурнага пласта (светла-шэрага супеску, які змяняўся пластом цёмна-шэрага супеску з адзінкавымі натуральнымі камянямі) дасягала 0,35 м. У паўднёва-ўсходняй частцы шурфа на глыбіні 0,35 м ад дзён-













Археалагічныя разведкі на тэрыторыі Маладзечанскага раёна ў 2010 г.: *А–В* – карты размяшчэння помнікаў (*1* – Мясата-1; *2* – Плябань-1; *3* – Пазнякі-1); *Г* – Пазнякі-1: крамянёвыя артэфакты з паверхневых збораў (*1* – натуральны крамянёвы абломак з рэтушшу; *2* – рэтушаваная рабрыстая пласціна; *3* – праксімальная частка пласціны)

най паверхні знойдзены крамянёвы адшчэп. Помнік датаваны каменным–бронзавым вякамі.

*Плябань-1.* Паселішча позняга сярэдневякоўя–новага часу размешчана на паўднёва-ўсходнім ускрайку в. Плябань (Красненскі с/с), у правабярэжжы р. Уша, на пясчаным задзірваваным узвышшы ў поплаве ракі (гл. малюнак, *Б: 2*). Памеры ўзвышша – прыкладна 30 × 60 м, вышыня – каля 1,5 м, заходняя частка разбурана кар'ерам. Пры зачыстцы схілаў кар'ера прасочана наступная стратыграфія: 0,1–0,15 м – дзірвановы слой; 0,16–0,25 м – супесак чорнага колеру, у якім трапляюцца знаходкі. Культурны слой без выразнага пераходу змяняецца слоем цёмна-шэрага супеску магутнасцю да 0,4 м. Гэты пласт, у якім сустракаюцца шматлікія дробныя камяні, падсцілаецца слоем цёмна-жоўтага супеску. Пры зачыстцы схілаў кар'ера знойдзена 13 фрагментаў ганчарнай керамікі, з іх – 1 венца і 2 донцы, а таксама 1 фрагмент глінянай абмазкі.

*Пазнякі-1.* Месцазнаходжанне апрацаванага крэменю размешчана праз 0,5 км на паўднёвы ўсход ад в. Пазнякі (Дуброўскі с/с) у правабярэжжы р. Уша, на марэнным узвышшы паміж каналізаваным рэчышчам ракі і чыгункай (гл. малюнак, *В: 3*). Паверхня помніка разворваецца. На плошчы памерамі каля 100 × 50 м знойдзены тры крамянёвыя артэфакты: натуральны крамянёвы абломак з рэтушшу, рэтушаваная рабрыстая пласціна, праксімальная частка пласціны (гл. малюнак, *Г: 1–3*). Помнік датаваны каменным–бронзавым вякамі.

***Е. Г. Калечиц,*** *Институт истории НАН Беларуси, главный научный сотрудник отдела археологии первобытного общества, доктор исторических наук, профессор (г. Минск)*

# О раскопках на территории Беловежской пущи в 2009 году

Поселение Каменюки-2 в урочище Горы, найденное на территории Беловежской пущи В. Белявцом и Н. Черкасом в 1990-е годы, находится в 0,5 км к востоку от Музея природы д. Каменюки Каменецкого района Брестской области и 0,3–0,5 км севернее дороги, ведущей к нему. Стационарные раскопки памятника проводились автором в 2007–2008 гг. Тогда было вскрыто 110 м² культурного слоя, найдено около 25 тысяч артефактов широкого хронологического диапазона. Объекты, уходящие в стенки предыдущих раскопов, стали предпосылкой для проведения дальнейших исследований, что и было осуществлено в 2009 г.

**Топография раскопа и стратиграфия культурного слоя.** Раскоп площадью 22 м² (11 × 2 м) был прирезан с восточной стороны вплотную к раскопам 2007–2008 г. Раскопки проводились условными пластами по 0,1 м (снято шесть пластов). На вскрытой площади обозначились контуры объектов, находки практически иссякли, и мы, как и в прежние годы, закрыв объект пленкой, засыпали раскоп. Многократное заселение урочища в разные периоды истории разнокультурным населением сделало свое дело. Десятки ям от древности до современности перекрывают друг друга. На помощь в их идентификации приходит планиграфия и содержимое заполнения.

В раскопе выявлена следующая стратиграфия:

1) дерновый слой мощностью от 0,05 до до 0,10 м;

2) супесь пепельно-серая, с многочисленными артефактами мощностью до 0,2–0,3 м;

3) супесь желто-серая, в верхней части которой встречаются артефакты; мощность колеблется от 0,3 м до 0,6 м;

4) супесь серо-коричневая мощностью до 0,45 м;

5) светло-желтый мелкозернистый песок (материк), без находок.

На площади раскопа встречаются пятна и прослойки различной окраски. Они связаны с хозяйственными объектами, ходами норных животных, древесным тленом и другими факторами.

**Планиграфия культурных остатков и состав артефактов.** В процессе раскопок 2009 г. в урочище Горы был найден 4761 артефакт, в том числе 4 500 кремневых изделий, 207 фрагментов лепной и 37 фрагментов гончарной керамики, единичные кремированные косточки, несколько целых и расколотых (включая обожженные) камней, единичные угольки. Как и в предыдущем сезоне, большой процент находок (1460 изд.) побывало в огне. Обгорелые кремни встречаются по всей площади раскопа и практически во всех горизонтах. Основная их часть при этом приурочена ко 2–5-му верхним пластам. Это связано не только с активной производственной деятельностью древнего населения, но, очевидно, и с последствиями неоднократных лесных пожаров.

Количество мелких кальцинированных косточек, которые встречаются без видимой концентрации на всей площади раскопа, с преобладанием в верхних пластах, существенно уменьшилось. Происхождение их пока не ясно. Косточки очень мелкие (до 3 мм в диаметре), при промывке артефактов они частично были утеряны.

Насыщенность пластов и квадратов неравномерная. Наибольшая концентрация артефактов наблюдалась в пределах пластов 2 и 3.

В пределах пласта 1 найдено 109 артефактов, в том числе 5 фрагментов стенок гончарных сосудов и фрагмент стенки лепного сосуда. В пласте 2 найдено 1638 артефактов, включая 18 мелких фрагментов лепных и 29 фрагментов гончарных сосудов. В пределах пласта 3 собрано 1034 артефакта, включая 32 фрагмента лепной посуды и 2 фрагмента стенок гончарного сосуда. В пределах пласта 4 выявлено 773 артефакта, в том числе 38 фрагментов лепной посуды и фрагмент стенки гончарного сосуда. В пределах пласта 5 найден 821 артефакт. Среди них 109 фрагментов стенок лепных сосудов, в том числе развал неолитического горшка. В пределах пласта 6 собрано 386 артефактов. В их число вошли 9 фрагментов стенок лепной посуды.

Наиболее насыщена находками восточная половина раскопа. На некоторых квадратах здесь найдено более 200 артефактов (кв. И-10, пласт 3 – 272 ед.; З-10, пласт 3 – 214; И-9, пласт 2 – 216; З-8, пласт 5 – 207; К-9, пласт 4 – 205 ед.). Самыми насыщенными оказались квадраты, расположенные в непосредственной близости к объекту 9 (очаг, обложенный камнями), который обозначился на уровне пласта 2 (на 0,2 м). Эта закономерность сохранялась в пределах пяти верхних пластов. На восточной половине раскопа находятся квадраты, наиболее насыщенные фрагментами лепных сосудов (на кв. Ж-10, пласт 3 их найдено 57 ед.; на кв. И-10 – 44; на кв. З-10 – 49 ед.).

При подсчетах учитывались фрагменты, иногда не превышающие 0,5 см. Показаны все определимые и выразительные куски венчиков или стенок (рис. 1: *1–10*). По технологии изготовления их можно отнести к неманской культуре (лысогорский этап).

**Объекты.** На площади раскопа выявлено три объекта разного назначения, нумерация которых была продолжена.




Рис. 1. Венчики лепных *(1–10)* и гончарных *(11, 12)* сосудов (фрагменты). Каменюки-2. 2009 г.

*Следы объекта № 9* были выявлены ранее в раскопе 2008 г., когда была зачищена восточная стенка раскопа и найден прокаленный участок земли, который ушел в нее. Как оказалось, он продолжался в новом раскопе, имел очертание вытянутого с севера на юг прямоугольника. В заполнении этого объекта выявлено значительное количество артефактов неолитического возраста (фрагменты лепной посуды лысогорского этапа неманской культуры), в том числе развал сосуда без венчика, который находился в зоне очага на глубине 0,35−0,45 м.

*Объект № 10* – очажное пятно появилось на кв. Л-М-2 и стало заметно на глубине 0,35 м от дневной поверхности. Очаг, по-видимому, был обложен камнями, четыре из которых разбросаны на близком расстоянии и обожжены. Собраны также пережженные косточки и многочисленные артефакты мезолитического и неолитического облика. Очаг до конца не пройден и законсервирован на глубине 0,6 м от дневной поверхности.

*Объект № 11* обозначился сразу под дерном на крайних южных квадратах Л-М-6, был разобран до глубины 0,6 м от дневной поверхности. Заполнение было настолько темным и сажистым, что точные контуры угла сгоревшей поздней постройки легко угадывались. Обычно зольное содержимое древних очагов, которые продолжительное время оставались под открытым небом с корнями растений и струями дождя, проникает глубоко в пол, что придает соответствующую окраску подстилающему горизонту. В данном случае объект сгорел в одночасье и сажистое пятно на указанной отметке полностью исчезло. На отдельных участках лежали куски древесного угля (взяты образцы на 14 С).

Можно предположить, что объекты 9, 10 и 4 раскопа 2008 г. связаны между собой. Этот единый комплекс – составная часть неолитического жилища, контуры которого полностью будут видны после прирезки раскопа в восточном направлении. В заполнение полуземляночного жилища попали

находки мезолитического и финальнопалеолитического возраста.

**Характер находок и их культурно-хронологическое определение.** В раскопе 2009 г. найдены материалы широкого хронологического диапазона. При этом можно заметить явные отличия в наполнении культурного слоя рядом расположенных раскопов 2007 и 2008 г. Единичны находки обломков гончарной посуды. Исчезли обломки ранненеолитических сосудов. Зато существенно увеличилось число фрагментов, которые можно датировать третьим (лысогорским) этапом неманской культуры. Абсолютное большинство находок очень мелкие, без орнамента обломки стенок лепных сосудов, которые сильно фрагментированы.

При проведении культурно-хронологической идентификации смешанных материалов мы опирались на существующие типолого-стратиграфические схемы, поиск и выделение «руководящих форм».

Самые ранние артефакты (часть нуклеусов, отдельные резцы) несомненно изготовлены населением культуры Лингби, и это подтверждает сложившееся первоначально представление об освоении территории Пущи человеком в финальнопалеолитическое время. Впервые найдены несомненные свидетельства пребывания здесь и свидерских охотников на северного оленя – черешок свидерского наконечника стрелы (рис. 2: *3*).

Состав находок показывает, что в коллекции присутствуют все основные, характерные для памятников каменного века категории изделий: от сырья до законченных орудий труда. Представлен весь спектр, позволяющий проследить процесс расщепления, орудия труда, отходы производства и готовые изделия.




Рис. 2. Кремневые изделия *(1–14)*. Каменюки-2. 2009 г.

Отдельные артефакты имеют ретушь утилизации, а также другие следы использования. Огромное число артефактов побывало в огне. Это наблюдалось и в прежние годы. Свидетельства пожаров хорошо видны в разрезах стен, а их причины по-прежнему загадочны. Они могли появиться как в результате лесного пожара, так и вследствие ликвидации землянок, в которых скрывалось в годы войны местное население.

Сырьем для изготовления орудий служил серый и светло-серый местный кремень. Он был принесен с территории Пущи с целью дальнейшей обработки. В раскопе собрано множество (около 300 ед.) целых и расколотых (термические сколы) кремневых конкреций. Они достаточно равномерно распределялись в пределах раскопа.

Следует отметить, что наибольшая концентрация находок выявлена близ очага (объект № 10). Обработка сырья, как известно, производилась с помощью отбойников и ретушеров. Однако в прошлом полевом сезоне найден лишь один ретушер. Исключительная малочисленность этой категории артефактов на данном памятнике, отмеченная нами и ранее, позволяет предположить широкое использование мягких отбойников (рога, кости), исчезнувших с течением времени из-за залегания в песчаных почвах. Редкие находки ретушеров можно также объяснить минимальным использованием приемов ретуширования, что является специфической чертой кремнеобработки для разновременных материалов изучаемого памятника.

37 нуклеусов и 11 нуклевидных кремней представляют процесс снятия заготовок. Как и ранее, абсолютно преобладают небольшие, одноплощадочные (рис. 3: *2, 3, 7–9*) с негативами снятия микропластин. На двухплощадочных и аморфных формах (рис. 3: *4, 5*) есть негативы снятия крупных пластин и отщепов. Это закономерно в связи с преобладанием на памятнике инвентаря микролитического облика и с наличием большого числа микролитов.

Кремень ценили и в связи с этим расходовали экономно. Это доказывает тот факт, что часть нуклеусов предельно сработана, а остальные многократно оживляли (найдено 80 сколов оживления площадок и различных участков нуклеусов) с целью




Рис. 3. Нуклеусы *(1–9)*. Каменюки-2. 2009 г.

притупления и заострения рабочего края заготовок. Это было вызвано не только экономией сырья, но и технологическими потребностями и традициями кремнеобработки. К категории сколов оживления относятся и ребристые, и подребристые пластины – 26 экз. Среди предпочтительных форм заготовок над отщепами незначительно преобладают пластины (951 к 842). Ранее пластины существенно преобладали. 74 осколка кремня имеют следы обработки, но готовых орудий на таких осколках очень мало. Единичными являются орудия неясного назначения со следами забитости, негативами единичных сколов снятия пластин или отщепов, резцовых сколов.

Закономерности в изготовлении пластин прежние. Среди них большой процент правильно ограненных, снятых с помощью отжима. Есть очень мелкие (до 2 см по длинной оси заготовки) и мелкие (2,0–3,0 см) формы. Эти две категории находок резко преобладают. На их долю вместе с пластинами, достигающими в длину 4,0 см, приходится 90 процентов всех пластин. Из оставшихся (а самые большие пластины достигают 8,0 см), второй пик приходится на категорию 4,0−5,0 см. Именно категории крупных пластин отдавали предпочтение при ретушировании. Все это позволяет предположить, что крупные пластины использовали в неолите, а мелкие – датированы эпохой мезолита, когда ретуширование уходило на второй план. Часть пластин обломана как вследствие употребления, так и намеренно, с целью изготовления микролитов, резцов на сломе, т. е. вызвано технологической необходимостью.

Среди готовых орудий труда, найденных в раскопе, преобладают скребки (16 экз). На втором месте резцы – 12 экз. Эти данные из года в год меняются. Напомним, что в раскопе 2007 г. скребков было найдено в 3 раза больше чем резцов, а в коллекции 2008 г. резцы преобладали (54 экз.), а скребки вышли на второе место (42 экз.). Для производства скребков, как правило, употреблялись отщепы (рис. 4: *5−7, 9−12*), в единичных случаях – пластины (рис. 2: *10*).




Рис. 4. Кремневые изделия: *1* – яниславицкое острие; *2* – яниславицкий треугольник; *3, 13* – острия; *4, 8* – трапеции; *5–7, 9–12* – скребки; *14, 15* – нуклеусы; *16* – орудие рубящего типа на куске плитчатого кремня. Каменюки-2. 2009 г.



Мал. 6. Крамянёвыя вырабы *(1–23)*. Коматава-6-ГЭС. 2009 г.

працягу 0,30–0,35 км сустракалася невялікіая колькасць расшчапаных крэменяў (адшчэпы, пласціны, луска, абломкі). У 2009 г. без папярэдняга ўзгаднення з археолагамі пачаліся земляныя работы па будаўніцтве ложа вадасховішча, і помнік быў цалкам знішчаны. На паверхні ўдалося сабраць толькі невялікую калекцыю з крамянёвых канкрэцый, абломкаў, адшчэпаў і пласцін, нуклеуса [4, 7].

***Пашкоджаная стаянка Пужычы-2-ГЭС*** размешчана праз 1,0 км уверх па цячэнні р. Нёман ад вусця р. Котра, праз 350 м на поўнач ад рачнога вострава, на краі надпоплаўнай правабярэжнай тэрасы (мал. 1: *11*). Плошча мае памеры каля 200 × 30 м.




Мал. 7. Археалагічныя знаходкі: *1* – каменныя вырабы; *2, 3, 5–8* – вырабы з жалеза; *4* – вырабы з косці; *9, 10* –кафля (фрагменты); *11–14* – графічная рэканструкцыя кругавога посуду. Коматава-6-ГЭС. 2009 г.

У 2009 г., пасля таго, як былі распачаты земляныя працы па выкарчоўцы лесу ў ложы вадасховішча, В. Л. Лакіза даследаваў 80 м$^2$ [4]. У раскопе прасочваліся рэшткі культурнага пласта жаўтаватага, жаўтавата-шэрага колеру таўшчынёй да 0,5–0,7 м, які пераходзіў у дробназярністы светла-жоўты мацярык. Аб’ектаў на мацерыковым узроўні не зафіксавана. Усяго падчас раскопак знойдзены толькі 641 артэфакт (разам з пад’ёмным матэрыялам – 721). Археалагічныя знаходкі на плошчы раскопу размяркоўваліся нераўнамерна – ад поўнай адсутнасці да значнай канцэнтрацыі ў асобных квадратах. Адзначаецца высокі працэнт гатовых крамянёвых прылад працы.

Асноўная колькасць артэфактаў – 712 экз. – гэта крамянёвыя знаходкі. Многія з іх патынізаваныя. Большасць з іх – 592 экз. – прадукты першаснага расшчаплення: абломкі, адшчэпы, пласціны, некаторыя з якіх пабывалі ў агні (абпалены). Да вырабаў з другаснай апрацоўкай адносяцца 10 разнастайных нуклеусаў і іх фрагментаў, 2 сколы ажыўлення пляцоўкі нуклеусаў, 5 часткова рэтушаваных пласцін і 23 адшчэпы з участкамі падрэтушоўкі. Закончанымі прыладамі працы з'яўляюцца 80 крамянёвых знаходак. Сярод іх маюцца рубячыя прылады, нажы на пласцінах, праколкі, пракруткі, разцы, скобелі, скрэблы, вастрыё, трапецыя. Найбольшую колькасць вырабаў складаюць разнастайныя скрабкі на адшчэпах і пласцінах – усяго 43 экз. Асобную групу складаюць камбінаваныя прылады працы – скрэбла-разец, разец-скрабок, пракрутка-скрабок. У калекцыі маецца трохвугольны наканечнік стралы. Вельмі важна, што ўпершыню для гэтага помніка выяўлена і некалькі фрагментаў ляпной керамікі (7 экз.). Усе яны з мінеральнымі дамешкамі ў цесце, без арнаменту, датаваны позьнанеалітычным часам [7].

Атрыманы матэрыял дазваляе датаваць помнік фінальным палеалітам, мезалітам, познім неалітам (верагодна, кола культуры шнуравой керамікі).

Помнік моцна пашкоджаны. Пасля будаўніцтва Гродзенскай ГЭС ён будзе амаль поўнасцю затоплены вадасховішчам.

**Археалагічны комплекс каля в. Славічы, Капцёўскі сельвыканкам, Гродзенскі раён.** У 50-я гады XX ст. Славяна-Літоўскім атрадам Прыбалтыйскай археалагічнай экспедыцыі на ўскраіне в. Славічы пры ўпадзенні ручая ў р. Нёман (левы бераг) выяўлены помнік, на якім сабрана калекцыя ляпной штрыхаванай і шурпатай керамікі, фрагменты кругавога посуду. У 1999 г. В. С. Абухоўскім і В. Л. Лакізам уніз па цячэнні ракі ад вёскі бліжэй да першых дамоў дачнага пасёлка на верхняй тэрасе р. Нёман зафіксавана яшчэ адна стаянка каменнага веку з нешматлікімі крамянёвымі вырабамі. У 2003 г. у час абследавання зоны будаўніцтва Гродзенскай ГЭС лакалізаваны яшчэ два помнікі – Славічы-1-ГЭС і Славічы-2-ГЭС [1, 6].

***Славічы 1-ГЭС*** размешчаны на трох выступах надпоймавай левабярэжнай тэрасы р. Нёман, праз 0,1 км на ўсход ад паўднёвай ускраіны вёскі Славічы, на поўдзень ад высакавольтнай лініі электраперадачы. Даўжыня стаянкі ў цэлым – каля 150 м, шырыня – каля 30 м. Ад краю тэрасы да рачнога берага – каля 40–50 м (мал. 1: *2*).

У 2009 г. помнік даследаваны аўтарам двума раскопамі на агульнай плошчы 208 м$^2$ [4]. Стратыграфія помніка даволі складаная і характэрна для многіх паселішчаў Гродзенскага рэгіёна, даследаваных у зоне будаўніцтва ГЭС (Коматава-6-ГЭС, Кавальцы-1-ГЭС, Берагавы-1-ГЭС і інш.) (мал. 8). Адразу пад дзёрнам



Мал. 8. Выгляд раскопу № 1 на мацерыковым узроўні. Славічы-1-ГЭС. 2009 г.

і пад глебай пачынаўся розны па таўшчыні (часам амаль да 1,0 м) навеяных і намытых алювіяльных і дэлювіяльных адкладаў светла-шэрага, жаўтаватага колеру. Пад ім быў пахаваны цёмна-шэры культурны пласт эпохі сярэдневякоўя, пад якім ў жоўта-шэрым, жаўтаватым культурным пласце былі змешчаны артэфакты каменнага, бронзавага і жалезнага вякоў. Усяго ў раскопе № 1 выяўлена 1440 рухомых артэфактаў, а ў раскопе № 2 – 1070 знаходак. Такім чынам агульная колькасць выяўленых на помніку артэфактаў склала 2510 экз. Асноўная колькасць знаходак прыпадае на пласт пахаванай глебы і ніжэй, ці на пласты 3, 4 і 5. Напрыклад, у раскопе № 1 у пласце 3 было знойдзена 1092 экз., у пласце 4 – 208, у пласце 5 – 106 экз. У раскопе № 2 у пласце 3 знайшлі 350 экз., у пласце 4 – 499, у пласце 5 – 168, у пласце 6 – 36 экз. У складзе калекцыі маюцца крамянёвыя вырабы першаснай і другаснай апрацоўкі, адбойнікі, нуклеусы і іх фрагменты, разнастайныя катэгорыі прылад працы і зброі, крамянёвая сыра-



Мал. 9. Археалагічныя знаходкі: *1–3* – крамянёвыя вырабы; *4* – глінянае праселка; *5* – жалезная спражка; *6* – ляпны посуд (графічная рэканструкцыя). Славічы-2-ГЭС. 2009 г.

віна (ад фінальнага палеаліту, мезаліту, да неаліту і бронзавага веку). Даволі прадстаўнічай з'яўляецца калекцыя керамічных вырабаў: ляпной керамікі позняга бронзавага і ранняга жалезнага веку (з традыцыямі культуры штрыхаванай керамікі ?), ганчарнай керамікі XVI–XVIII стст. Асаблівую каштоўнасць маюць жалезная спражка (тып D1 па Madyda-Legutko) (мал. 9: *5*) і праселка з шырокай адтулінай рымскага часу I–IV стст. (мал. 9: *4*) [4, 7].

Атрыманая калекцыя артэфактаў дазваляе датаваць помнік Славічы-1-ГЭС фінальным палеалітам, мезалітам, неалітам і бронзавым векам, жалезным векам (Рымскі час), сярэдневякоўем і новым часам (9–1 тысячагоддзямі да н. э.; I–IV і XVI–XVII ст.).

Пасля будаўніцтва ГЭС вадасховішчам будзе падмывацца толькі прырэчны ўсходні край помніка. Большая яго частка будзе захавана ад разбурэння і можа разглядацца як даволі перспектыўная для будучых археалагічных даследаванняў.

***Славічы-2-ГЭС*** размешчана на надпоймавай левабярэжнай тэрасе р. Нёман з рэперам БГВХ-265, праз 0,1 км на ўсход ад цэнтральнай часткі вёскі Славічы і праз 0,15–0,20 км на паўночны ўсход ад гаспадарчых пабудоў, праз 0,4 км на поўнач ад стаянкі Кавальцы-1-ГЭС. Займае практычна роўную (часам злёгку нахіленую ад вёскі ў бок ракі) пляцоўку ніжняй тэрасы р. Нёман, якая месцамі пераразаецца кароткімі і глыбокімі ярамі. Абмежавана з поўначы ярам (пасля якога пачынаецца помнік Славічы-1-ГЭС), з захаду і ўсходу – краямі тэрасы. На поўдні даходзіць да яшчэ аднаго яра, па якому праходзіць дарога з вёскі да р. Нёман. Прыкладныя памеры – да 0,56 га (да 160 м на 40 м – па лініі поўнач–поўдзень, захад–усход) (мал. 1: *2*).

У 2009 г. помнік даследаваны аўтарам трыма раскопамі на агульнай плошчы 168 м$^2$ [4]. Усе раскопы закладзены бліжэй да края тэрасы (прырэчнай яе часткі), якая ў далейшым будзе падмывацца вадасховішчам ГЭС. Стратыграфія на помніку ў абагуленым выглядзе нагадвае стратыграфію паселішча Славічы-1-ГЭС і шэрагу іншых помнікаў Панямоння (напрыклад, Кавальцы-1-ГЭС, Берагавы-1-ГЭС, Каматава-6-ГЭС). Пад дзёрнам пачынаўся розны па магутнасці пласт алювіяльных і дэлювіяльных наносаў, пад якім захаваўся пласт пахаванай глебы са знаходкамі (пераважна сярэдневяковымі). Пад ім ў жоўта-шэрым пяску да глыбіні ад 0,8 да 1,4–1,6 м сустракаліся артэфакты каменнага, бронзавага і жалезнага вякоў. На плошчы раскопаў на мацерыковым узроўні зафіксаваны і даследаваны 14 аб'ектаў: розныя па памерах і глыбіні ямы. Усяго ў раскопе № 1 выяўлена 466 рухомых артэфактаў, у раскопе № 2 – 1713 знаходак, а ў раскопе № 3 – 1027 экз. Такім чынам, агульная колькасць выяўленых на помніку артэфактаў склала 3206 экз. У складзе калекцыі маюцца крамянёвыя вырабы першаснай і другаснай апрацоўкі, адбойнікі, нуклеусы і іх фрагменты (мал. 9: *2*), разнастайныя катэгорыі прылад працы і зброі (нажы, скрабкі, разцы, рубячыя прылады) (мал. 9: *3*), крамянёвая сыравіна (канкрэцыі і абломкі), нарыхтоўкі прылад працы (мал. 9: *1*), якія маюць аналогіі сярод характэрных для Панямоння культур ад фінальнага палеаліту да бронзавага веку. Яшчэ больш прадстаўнічай, чым на суседнім помніку, з'яўляецца калекцыя керамічных вырабаў, асабліва ляпной керамікі эпохі неаліту, позняга перыяду бронзавага веку (мал. 9: *6*), ранняга жалезнага веку (з традыцыямі культуры штрыхаванай керамікі ?), верагодна, Рымскага часу. Кругавая кераміка адносіцца да эпохі сярэдневякоўя і новага часу (XV–XVIII стст.) [4, 7].

Атрыманая калекцыя артэфактаў дазваляе датаваць помнік Славічы-2-ГЭС фінальным палеалітам, мезалітам, неалітам і бронзавым векам, жалезным векам, у тым ліку Рымскім часам, сярэдневякоўем і новым часам (9–1 тысячагоддзямі да н. э.; I–IV і XV–XVII ст.).

Пасля будаўніцтва ГЭС вадасховішчам таксама будзе падмывацца толькі прырэчная ўскраіна помніка. Пераважная яго частка застаецца непарушанай і можа разглядацца як даволі перспектыўная для новых археалагічных даследаванняў.

* * *

Такім чынам, у 2009 г. у зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС на р. Нёман рознымі па маштабе даследаваннямі (раскопкамі і наглядам) былі ахоплены 15 шматкультурных помнікаў (11 з іх знаходзіліся пад непасрэдным навуковым кіраўніцтвам аўтара) (мал. 1). Выяўлены дзесяткі тысяч артэфактаў, сярод якіх крамянёвыя наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, сякеры, фрагменты ляпнога і кругавога посуду, вырабы з каляровага металу і жалеза, разнастайныя і розначасовыя манеты. Даследаваныя паселішчы атрыманыя матэрыялы датаваны фінальным палеалітам, мезалітам, неалітам, бронзавым і жалезным вякамі, эпохай сярэдневякоўя і новага часу. Так, новыя матэрыялы па неаліту і бронзаваму веку выяўлены на паселішчах Каматава-1А-ГЭС, Каматава-2-ГЭС, Каматава-4-ГЭС, Каматава-6-ГЭС, Пужычы-2-ГЭС, Славічы-2-ГЭС. Раней невядомыя матэрыялы жалезнага веку знойдзены на помніках Каматава-2-ГЭС, Славічы-1-ГЭС, Славічы-2-ГЭС. Магутныя культурныя напластаванні эпохі сярэдневякоўя і новага часу маюцца на помніках Каматава-4-ГЭС і Каматава-6-ГЭС. Пры гэтым несумненна, што кожны з даследаваных помнікаў заслугоўвае падрабязнага аналізу і ўвядзення ў навуковы зварот у асобных артыкулах.

**Літаратура**

1. Археалагічнае абследаванне ўзбярэжжаў Нёмана ў зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС / В. С. Абухоўскі [і інш.] // Гіст.-археалаг. зб. – № 19. – Мінск, 2004. – С. 272–273.

2. Гуревич, Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья / Ф. Д. Гуревич. – М. ; Л., 1962.

3. Лакіза, В. Л. Коматава / В. Л. Лакіза // Археалогія Беларусі: у 2 т. – Мінск : БелЭН, 2009. – Т. 1. – С. 458–459.

4. Лакіза, В. Л. Справаздача № 3 аб выкананні навуковых археалагічных даследаванняў (раскопак і нагляду) на помніках археалогіі Коматава-1А-ГЭС, Коматава-1-ГЭС, Коматава-2-ГЭС, Коматава-3-ГЭС, Коматава-4-ГЭС, Коматава-6-ГЭС, Пужычы-1-ГЭС, Пужычы-2-ГЭС, Александрова-1-ГЭС, Александрова-2-ГЭС, Славічы-1-ГЭС, Славічы-2-ГЭС, Кавальцы-4-ГЭС у зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС на р. Нёман у 2009 годзе / ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Мінск, 2010.

5. Лакіза, В. Л. Новыя помнікі неаліту і бронзавага веку Беларускага Панямоння ў зонах новабудоўляў. Папярэднія вынікі даследаванняў / В. Л. Лакіза // Na rubieżu kultur. Badania nad okresem neolitu i wczesą epoką brązu / pod red. U. Stankiewicz, A. Wawrusiewicza. – Białystok : Instytucja Kultury Wojewodztwa Podlaskiego, 2011. – С. 195–205.

6. Лакіза, В. Л. Славічы / В. Л. Лакіза // Археалогія Беларусі: у 2 т. – Мінск : БелЭН імя Петруся Броўкі, 2011. – Т. 2. – С. 298–299.

7. Лакіза, В. Л. Пужычы / В. Л. Лакіза // Археалогія Беларусі: у 2 т. – Мінск : БелЭН імя Петруся Броўкі, 2011. – Т. 2. – С. 233.

***В. Л. Лакіза,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, загадчык аддзела археалогіі першабытнага грамадства, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск)*

# Археалагічныя даследаванні ў зонах новабудоўляў на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 2009–2010 гадах

За апошнія гады значна павялічылася колькасць археалагічных даследаванняў у зонах новабудоўляў па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Можна канстатаваць, што пэўныя артыкулы ў заканадаўстве Рэспублікі Беларусь[1] у вобласці аховы гісторыка-культурнай спадчыны паступова ўспрымаюцца і выконваюцца заказчыкамі будаўнічых работ і пачынаюць прыносіць свае станоўчыя вынікі, у першую чаргу ў галіне беларускай археалагічнай навукі. Вельмі важна, што комплексныя навуковыя даследаванні акрамя гарадскіх цэнтраў, развіццё якіх адбываецца асабліва хуткімі тэмпамі, ахапіла і іншыя рэгіёны – шматлікія ўчасткі земляных работ і тэрыторыі, дзе праводзяцца будаўніцтва аўтадарог, чыгунак і мастоў, газа- і нафтаправодаў, гідраэлектрастанцый і інш. Прыкладамі гэтаму з'яўляюцца шырокамаштабныя даследаванні ў зонах будаўніцтва Гродзенскай ГЭС, Полацкай ГЭС, Беларускай АЭС і аб'ектаў яе інфраструктуры[2] [2–9].

Падкрэслім, што на заканадаўчым узроўні рэгламентуюцца не толькі пытанні аховы помнікаў археалогіі, якія ўжо ўключаны у «Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь», а таксама выяўленне новых археалагічных аб'ектаў і недапушчэння выпадкаў іх разбурэння ў час правядзення будаўнічых работ. Спачатку на этапе праектных вышукаў, а ў далейшым на этапе непасрэднага будаўніцтва прадугледжваецца іх вывучэнне спецыялістамі-археолагамі, а на Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, як на асноўную арганізацыю па вывучэнні помнікаў археалогіі ў Рэспубліцы Беларусь, ускладзена функцыя распрацоўкі мер па ахове археалагічных аб'ектаў у зонах новабудоўляў.

Пры гэтым усе зацікаўленыя бакі (юрыдычныя і фізічныя асобы, заказчыкі будаўнічых работ, археолагі, метадысты па ахове гісторыка-культурнай спадчыны ў раёнах) павінны ведаць наступную аксіёму – асноўныя мерапрыемствы па ахове аб'ектаў археалогіі ў зонах новабудоўляў праводзяцца да пачатку інтэнсіўных земляных работ (1–2 этапы).

На першым этапе (папярэднія работы) ажыццяўляецца вывучэнне археалагічнай і гістарычнай літаратуры і архіўнай дакументацыі, музейных матэрыялаў, якія маюць дачыненне да тэрыторыі абследавання. Затым праводзіцца суцэльнае абследаванне тэрыторыі будаўніцтва паводле будаўнічага праекта (візуальная разведка ці пошукі археалагічных аб'ектаў, павярховыя зборы матэрыялаў, фотафіксацыя, шурфоўка, зачыстка агаленняў і інш.). У выніку вызначаюцца дакладныя межы ўжо вядомых помнікаў, устанаўліваюцца іх асаблівасці, выяўляюцца новыя археалагічныя аб'екты. У далейшым гэта ўплывае на методыку даследавання помнікаў археалогіі, маштабы і кошт затрат, неабходных для іх вывучэння і захавання археалагічнай спадчыны. Абавязковым завяршэннем навуковых даследаванняў з'яўляюцца камеральная апрацоўка атрыманых матэрыялаў і падрыхтоўка абагульняючай археалагічнай справаздачы.

На другім этапе праводзяцца ахоўныя навуковыя раскопкі на помніках археалогіі, якія трапляюць у зону земляных і будаўнічых работ. Пры гэтым патрабаванні да методыкі даследаванняў (практычна не адрозніваецца ад методыкі раскопак, якая звычайна выкарыстоўваецца для вывучэння тых ці іншых помнікаў, аднак мае большую залежнасць ад аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў), абавязковай камеральнай апрацоўкі атрыманых матэрыялаў і якасці падрыхтоўкі навуковай справаздачы асабліва жорсткія, рэгламентуюцца нарматыўнымі дакументамі[3] і кантралююцца на некалькіх узроўнях, ад рэцэнзавання ў адпаведных аддзелах археалогіі да «Палявога камітэта» Інстытута гісторыі НАН Беларусі.

Яшчэ адзін этап археалагічных даследаванняў, які праводзіцца пры неабходнасці ці часам пры немагчымасці ажыццяўлення стацыянарных ахоўных раскопак, – гэта археалагічны нагляд за будаўнічымі і землянымі работамі, якія немагчыма адкласці ці перанесці і якія закранаюць ахоўныя межы помнікаў археалогіі.

Прадставім першыя вынікі праведзеных у 2009–2010 гг. даследаванняў у зонах новабудоўляў на тэ-

[1] Закон Рэспублікі Беларусь ад 9 студзеня 2006 г. № 98-З «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны», Пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 22 мая 2002 г. № 651 «Палажэнне аб ахове археалагічных аб'ектаў пры правядзенні земляных і будаўнічых работ» і ад 15 чэрвеня 2006 г. № 762 «Аб некаторых пытаннях аховы гісторыка-культурнай спадчыны».

[2] У дадзеным выпуску гл. артыкулы В. Л. Лакізы, Міх. М. Чарняўскага, А. М. Плавінскага, З. А. Харытановіч аб раскопках ў зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС; М. В. Клімава пра даследаванні ў Полацку і ў зоне будаўніцтва Полацкай ГЭС; З. А. Харытановіч і сумесны артыкул В. Л. Лакізы, Э. М. Зайкоўскага, З. А. Харытановіч і Макс. М. Чарняўскага пра даследаванні ў зоне будаўніцтва Беларускай АЭС.

[3] «Інструкцыя аб парадку выдачы Дазволаў на выкананне археалагічных разведак і раскопак, іх правядзенні, састаўленні справаздач па праведзеных работах», зацверджаная Пастановай Бюро Прызідыума НАН Беларусі ад 12.05.2006 г. № 246.

рыторыі Баранавіцкага і Ляхавіцкага раёнаў Брэсцкай вобласці, Свіслацкага і Гродзенскага раёнаў Гродзенскай вобласці, якія праводзіліся пад кіраўніцтвам аўтара.

**Археалагічныя даследаванні ў зоне будаўніцтва аб'екта «Аўтамабільная дарога Р-4 Баранавічы–Ляхавічы. Абход г. Баранавічы», 2009 г.** Згодна з праектам будаўніцтва (заказчык ДП «Белдзіпрадар»), новая аўтадарога вакол г. Баранавічы працягласцю звыш 10 км павінна праходзіць каля вёсак Скарчава, Дубава, Лаўрыновічы, Гірава Баранавіцкага раёна, Літва Ляхавіцкага раёна і злучыць паміж сабой шашу Стаўбцы–Баранавічы (Р2) і шашу Баранавічы–Ляхавічы (Р4) (мал. 1).

Папярэднія гісторыка-архіўныя і бібліяграфічныя пошукі паказалі: нягледзячы на тое, што ў цэлым Баранавіцкі і Ляхавіцкі раёны дастаткова багатыя на разначасовыя і рознакультурныя археалагічныя помнікі, непасрэдная тэрыторыя новабудоўлі выглядае як своеасаблівая «белая пляма». Самі ж названыя вёскі ў пераважнай большасці ўзніклі, верагодна, у XIX ст. Напрыклад, вядома, што в. Скарчава ўпамінаецца ў дакументах у 1889 г. пад назвай Плябанская Слабада. На пачатку XX ст. яна ўваходзіла ў межы Сталовіцкай воласці Навагрудскага павета, налічвала 145 двароў і 740 жыхароў. Вёска Дубава ў 1880 г. мела 67 двароў і 610 жыхароў, у пачатку XX ст. – ужо 130 двароў і 960 жыхароў. Побач з вёскай знаходзіўся маёнтак князя Сяргея Трубяцкога. У 1906 г. тут было адкрыта народнае вучылішча. Кароткая інфармацыя пра в. Гірава і в. Лаўрыновічы маецца толькі на пачатак XX ст. [4].

Для зручнасці правядзення суцэльнага абследавання тэрыторыі будучага будаўніцтва ўся траса аўтадарогі была падзелена на некалькі ўмоўных участкаў: ад асфальтавай шашы Стоўбцы–Баранавічы (Р2) каля в. Скарчава да жалезнай дарогі Мінск–Баранавічы–Брэст; ад названай жалезнай дарогі праз ваколіцы в. Дубава да асфальтавай шашы Баранавічы–Нясвіж (Р91); ад згаданай дарогі ў ваколіцах в. Гірава да асфальтавай шашы Баранавічы–Ляхавічы (Р4) паміж г. Баранавічы і в. Літва. На кожным з іх было праведзена візуальнае абследаванне мясцовасці, пошукі і зборы пад'ёмнага археалагічнага матэрыялу. Асаблівая ўвага звярталася на палявыя дарогі і раз'езджаныя ўчасткі абапал засаджаных палёў, на меліярацыйныя каналы, на разараныя і незасаджаныя ўчасткі будучага будаўніцтва аўтадарогі, абследаваліся пясчаныя кар'еры, агаленні, выемкі грунта.

У выніку візуальнага абследавання археалагічных аб'ектаў на трасе аўтадарогі не выяўлена. Аднак, улічваючы некаторыя ландшафтныя асаблівасці тэрыторыі будучых земляных работ, у тым ліку наяўнасць невялікіх (меліярыраваных) рачулак, прытокаў р. Шчара, былі вызначаны пяць месцаў для больш дэтальнага вывучэння мясцовасці метадам шурфоўкі[1].

Усяго даследаваны пяць шурфоў агульнай плошчай 50 м$^2$: каля в. Скарчава (шурф № 1, 4 м$^2$, аб'ектаў не выяўлена, 3 фрагменты кругавой керамікі) (мал. 1), каля в. Дубава (шурф № 2, 16 м$^2$, аб'ектаў не выяўлена, 2 фрагменты кругавой керамікі; шурф № 3, 1 м$^2$, аб'ектаў не выяўлена, без знаходак; шурф № 5, 25 м$^2$, аб'ектаў не выяўлена, 1 выраб з жалеза і 13 фрагментаў кругавой керамікі) (мал. 1), каля в. Гірава (шурф № 4, 4 м$^2$, аб'ектаў не выяўлена, без знаходак). Найбольш прадстаўнічая калекцыя артэфактаў выяўлена ў шурфе № 5. Аднак адсутнасць сярод керамічных матэрыялаў венчыкаў ускладняе дакладнае іх датаванне. Мяркуючы па характару фармоўкі гліны і якасці абпалу, кераміка можа быць датавана новым часам (на поле каля в. Дубава магла трапіць выпадкова, падчас сельскагаспадарчых работ) [4].

Такім чынам, на падставе вывучэння архіўных і фондавых крыніц, палявых даследаванняў (разведкі і шурфоўкі) для Заказчыка было зраблена наступнае заключэнне: непасрэдна ў зоне праектуемага будаўніцтва аб'екта «Аўтамабільная дарога Р-4 Баранавічы–Ляхавічы. Абход г. Баранавічы» помнікаў археалогіі, на якіх патрэбна праводзіць дадатковыя археалагічныя даследаванні (раскопкі ці нагляд), не знойдзена.

**Археалагічныя даследаванні ў зоне будаўніцтва аб'екта «Абход НП "Белавежская пушча" на ўчастку Ваўкаставец–Свіслач», 2010 г.** У сувязі з выкананнем пратакола даручэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 03.10.2009 г. па будаўніцтве «Аўтамабільнай дарогі "Абход тэрыторыі Нацыянальнага парка "Белавежская пушча" на ўчастку Валкаставец–Свіслач» на тэрыторыі Брэсцкай[2] і Гродзенскай абласцей распачаліся работы па будаўніцтву новых і рэканструкцыі ўжо існуючых аўтадарог (мал. 2, *А*). Абследаванні на ўчастках будаўніцтва новай аўтадарогі ад мяжы Брэсцкай і Гродзенскай абласцей (в. Груск) да в. Алісевічы Свіслацкага раёна і рэканструкцыі аўтадарогі Р-47 Свіслач–Поразава (заказчык РУП «Гроднааўтадар») былі праведзены ў 2010 г. аўтарам[3] (мал. 2, *А*) [6, 7].

Тэрыторыю сучаснага Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці нельга адносіць да тых рэгіёнаў Беларусі, якія дастаткова добра абследаваны і вы-

[1] У даследаваннях прымалі ўдзел В. І. Кошман, З. А. Харытановіч, А. Ю. Ткачоў.

[2] У даследаваннях у зоне будаўніцтва аўтадарогі вакол Белавежскай пушчы, шурфоўцы, раскопках, наглядзе ўдзельнічалі А. А. Башкоў, В. Г. Белявец, В. Л. Лакіза, А. Ю. Ткачоў, былі задзейнічаны студэнты БрДУ імя А. С. Пушкіна, магістрант БДУ В. У. Ашэйчык.

[3] У абследаванні асобных участкаў дадзенага будаўніцтва таксама прымалі ўдзел Макс. М. Чарняўскі і З. А. Харытановіч.




Мал. 1. Карта тэрыторыі будаўніцтва аб’екта «Аўтамабільная дарога Р-4 Баранавічы–Ляхавічы. Абход г. Баранавічы» *(А)*; адзін з участкаў будаўніцтва аўтадарогі паміж в. Скарчава і в. Дубава з лакалізацыяй шурфоў № 1 і № 5 *(Б)*; план шурфа № 5 *(В)*




Мал. 2. Участак будаўніцтва аўтадарогі «Абход Нацыянальнага парку “Белавежская пушча” на ўчастку Ваўкаставец–Свіслач» *(А)* і выяўленыя на помніках Поразава–Целякі-1 *(1–4)*, Грыцкі-3 *(5–10)* фрагменты кругавога познасярэдневякавага посуду *(Б)*

вучаны ў археалагічным плане. Суцэльнае археалагічнае абследаванне па шэрагу прычын раней не праводзілася, навуковыя раскопкі розначасовых помнікаў археалогіі таксама. Вынікам перыядычных наведванняў археолагамі тых ці іншых мясцін, у тым ліку аўтарам у 1995 г., стала выяўленне і лакалізацыя толькі 14 помнікаў каменнага і бронзавага вякоў, жалезнага веку і эпохі сярэдневякоўя – стаянкі, гарадзішча і могільнікі (усе ўключаны ў «Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусі»). Акрамя таго, на тэрыторыі раёна ў розны час было выяўлена 14 асобных знаходак – каменных свідраваных сякер, каменных шліфаваных сякер-кліноў і крамянёвых шліфаваных сякер [1, с. 213; 6; 7]. Да зоны правядзення археалагічных абследаванняў адносяцца старажытныя паселішчы каля в. Грыцкі і месцазнаходжанні каменных вырабаў каля г. п. Свіслач, п. Поразава і в. Крапіўніца.

З мэтай аблягчэння фіксацыі дадзеных і вядзення дакументацыі ўся зона будаўніцтва новай аўтамабільнай дарогі ад в. Груск да в. Алісевічы была падзелена на некалькі ўчасткаў, прывязаных да існуючых населеных пунктаў і палявых ці грунтовых дарог: 1) ваколіцы в. Груск; 2) тэрыторыя паміж в. Груск, Ханявічы і Верашчакі, пойма р. Шыба; 3) ваколіцы в. Янопаль; 4) месца перасячэння аўтадарогі праз р. Зальвянка за в. Янопаль; 5) ваколіцы в. Алісевічы. Тэрыторыя рэканструкцыі аўтамабільнай дарогі ад Свіслачы да Поразава была таксама разбіта на ўчасткі: 1) ваколіцы в. Грыцкі і р. Свіслач; 2) ваколіцы в. Празнікі і р. Лашанка; 3) ваколіцы в. Сакольнікі і р. Калонка; 4) ваколіцы в. Крапіўніца і р. Крапіўніца; 5) ваколіцы п. Поразава – месца пpaнуемага будаўніцтва новага ўчастка аўтадарогі.

Падчас разведак выкарыстоўвалася методыка археалагічных даследаванняў, заснаваная на суцэльным візуальным аглядзе паверхні і пошукаў пад'ёмнага археалагічнага матэрыялу, у тым ліку ў месцах інтэнсіўных земляных работ. Практычна ўся тэрыторыя будучага будаўніцтва абследавалася метадам суцэльнага «прачэсвання», калі ў полі агляду аднаго чалавека знаходзілася паласа шырынёй некалькі метраў. Выкарыстоўваўся металадэтэктар, рабіліся зачысткі, асабліва ў месцах глыбокай выбаркі расліннага грунту бульдозерамі.

Археалагічныя пошукі каля в. Грыцкі пачаліся з абследавання паўднёвых ускраін вёскі. Яны ажыццяўляліся тут як да пачатку рэканструкцыі аўтадарогі, так і непасрэдна падчас земляных работ. Асаблівая ўвага звярталася на абследаванне помніка археалогіі ***Грыцкі-3*** за ўсходняй ускраінай вёскі і ***Грыцкі-2*** ў непасрэднай блізкасці ад моста. На паселішчы Грыцкі-3 ажыццяўляліся пошукі і зборы пад'ёмнага матэрыялу. Сярод выяўленых на паверхні помніка матэрыялаў маюцца: 8 венчыкаў, 11 сценак, 3 плоскія дны ад кругавога посуду позняга сярэдневякоўя і новага часу (XIV–XVIII стст.) (мал. 2, *Б: 5–10*); 9 крамянёвых абломкаў. Прадстаўлены матэрыял дазваляе пашырыць храналагічныя межы паселішча Грыцкі-3 і датаваць яго перыядам ад каменнага веку да позняга сярэдневякоўя (XIV–XVI стст.) і ранняга новага часу (XVII–XVIII стст.).

Каля п. Поразава і в. Целякі было выяўлена ***селішча Поразава–Целякі-1***, якое размешчана на поўдзень ад Поразава на марэннай градзе паміж існуючымі аўтадарогамі Поразава–Новы Двор і Поразава–Студзенікі на ворным полі пад лініяй электраперадач. На разаранай паверхні былі сабраны: лыжка алюміневая, фрагмент шкляной бутэлькі, 30 венчыкаў, 24 дробных сценак, 9 вушак і 12 донных частак ад кругавога посуду эпохі позняга сярэдневякоўя і ранняга новага часу (XIV–XVIII стст.) (мал. 2, *Б: 1–4*), гільза; 3 крамянёвыя абломкі [7].

Яшчэ адно ***селішча Целякі-2*** было выяўлена на ворным полі на паўднёвы ўсход ад селішча Поразава–Целякі-1 на паўднёвы ўсход за дарогай Поразава–Новы Двор за паўднёва-заходняй ускраінай в. Целякі. На разаранай паверхні былі знойдзены 4 венчыкі ад ганчарнага посуду ранняга новага часу (XVII–XVIII стст.) і 6 дробных ганчарных сценак ранняга новага часу (XVI–XVIII стст.) [7].

У выніку праведзеных даследаванняў на тэрыторыі Свіслацкага раёна ўстаноўлена, што вядомыя помнікі археалогіі каля в. Грыцкі падчас правядзення земляных работ па рэканструкцыі аўтамабільнай дарогі Свіслач–Поразава і будаўніцтва моста праз р. Свіслач не трапілі ў зону новабудоўлі, як і два новыя селішчы каля п. Поразава і в. Целякі (апошнія, у сувязі з удакладненнямі і зменамі першапачатковага праекту). На астатняй тэрыторыі, якая ўвайшла ў зону будаўніцтва і рэканструкцыі аўтадарогі ад в. Груск да г. п. Свіслач, аб'ектаў археалогіі не выяўлена [6, 7].

**Археалагічныя даследаванні ў зоне будаўніцтва аб'екта «Абход г. Гродна з мастом праз р. Нёман», 2008–2010 гг.** На дадзеным аб'екце археалагічныя даследаванні праводзіліся на працягу трох палявых сезонаў (заказчык РУП «Гроднааўтадар»). Яны яскрава ілюструюць усе тры этапы ажыццяўлення мерапрыемстваў па ахове археалагічнай спадчыны ў зонах новабудоўляў.

Яшчэ на этапе праектавання аб'екта ў 2008 г. было праведзена суцэльнае абследаванне ўсёй трасы будаўніцтва новай аўтадарогі і тэрыторыі ўзвядзення новага моста праз р. Нёман *(1 этап)*. Важнейшымі вынікамі папярэдніх даследаванняў сталі: дакладная лакалізацыя (пасля шурфоўкі) і вызначэнне межаў распаўсюджвання культурных напластаванняў двух помнікаў археалогіі – Берагавы-2–Мост (шурфоўка на плошчы 38 м$^2$) і Жылічы-1–Мост (шурфоўка на плошчы 14 м$^2$) на р. Нёман [3]; выяўленне новай стаянкі і селішча Каранявічы-1 (шурфоўка на плошчы 16 м$^2$); выяўленне двух новых месцазнаходжанняў археалагічных артэфактаў Каранявічы-2

(шурфоўка на плошчы 10 м²) і Горніца-1 (Гродзенскі раён) [2].

У 2009 г. да пачатку земляных работ па будаўніцтве моста былі праведзены раскопкі *(2 этап)* на паселішчы Берагавы-2–Мост (мал. 3, *А*). На плошчы 78 м² зафіксаваны пласт пахаванай глебы і толькі 144 рухомыя артэфакты: дробныя фрагменты ляпной і кругавой керамікі, крамянёвыя вырабы першаснай апрацоўкі, нуклеусы і прылады працы (мал. 3, *Б: 1*), а на паселішчы Жылічы-1–Мост (мал. 3, *А*) на плош-







Мал. 3. Участак будаўніцтва аўтадарогі «Абход г. Гродна з мастом праз р. Нёман» з лакалізацыяй раскопаў 2009 г. *(А)* і крамянёвыя артэфакты, выяўленыя на помніках Берагавы-2–Мост *(1)* і Жылічы-1–Мост *(2)*

чы 312 $м^2$ зафіксаваны 4 аб’екты і толькі 158 рухомых артэфактаў, сярод якіх пераважная большасць – гэта крамянёвыя вырабы першаснай апрацоўкі, нуклеусы і прылады працы (мал. 3, *Б: 2*) [8].

У 2010 г. было даследавана раскопкамі і паселішча Каранявічы-1 на плошчы 204 $м^2$. У розных частках паселішча абапал ужо пабудаванай дарогі закладзены 6 раскопаў, выяўлена 816 рухомых артэфактаў, сярод якіх фрагменты кругавой керамікі, крамянёвыя вырабы першаснай апрацоўкі і прылады працы [8].

Важнай часткай даследаванняў на дадзеным абекце стала таксама правядзенне археалагічнага нагляду *(3 этап)*, які ажыццяўляўся ў 2009–2010 гг. паралельна з землянымі работамі па будаўніцтве моста і аўтадарогі ў межах помнікаў Берагавы-2–Мост, Жылічы-1–Мост, Каранявічы-1, Каранявічы-2 і Горніца-1 [8][1].

[1] Падрабязныя вынікі дадзеных даследаванняў будуць прадстаўлены ў асобным артыкуле пасля завяршэння камеральнай апрацоўкі, сістэматызацыі і культурна-храналагічнай ідэнтыфікацыі атрыманых матэрыялаў.

**Літаратура**

1. Лакіза, В. Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння / В. Л. Лакіза. – Мінск : Беларус. навука, 2008. – 343 с.

2. Лакіза, В. Л. Навуковая справаздача № 1 аб выкананні археалагічных даследаванняў (папярэдняга абследавання, разведак і раскопак) у зоне будаўніцтва аўтамабільнай дарогі «Абход г. Гродна ад аўтадарогі Р-99 да аўтадарогі Р-44» у 2008 г. / В. Л. Лакіза // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2608. – 54 с.

3. Лакіза, В. Л. Навуковая справаздача № 2 аб выкананні археалагічных даследаванняў (папярэдняга абследавання, разведак і раскопак) у зоне будаўніцтва аўтамабільнай дарогі «Абход г. Гродна з мостам праз р. Нёман» у 2008 г. / В. Л. Лакіза // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2609. – 66 с.

4. Лакіза В. Л. Справаздача № 1 аб выкананнні археалагічных даследаванняў (папярэднія абследаванні, разведкі і шурфоўка) у зоне будаўніцтва аб’екта «Аўтамабільная дарога Р-4 Баранавічы–Ляхавічы. Абход г. Баранавічы ў 2009 г.» / В. Л. Лакіза // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2657. – 79 с.

5. Лакіза, В. Л. Справаздача № 1 аб правядзенні археалагічных абследаванняў пляцоўкі будаўніцтва Беларускай АЭС у рамках рэалізацыі дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы па аб’екце «Будаўніцтва АЭС (якая ўключае праектна-пошукавыя работы (г. п. Астравец Гродзенскай вобласці) ў 2010 г.» / В. Л. Лакіза // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2750. – 151 с.

6. Лакіза, В. Л. Справаздача № 1 аб выкананні навуковых археалагічных даследаванняў у зоне будаўніцтва аб’екта будаўніцтва аўтамабільнай дарогі «Абход Нацыянальнага парку “Белавежская пушча” на ўчастку Ваўкаставец–Свіслач, участак аўтамабільнай дарогі граніца Гродзенскай вобласці (Груск)–Алісевічы ў 2010 г.» / В. Л. Лакіза // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2788. – 52 с.

7. Лакіза, В. Л. Справаздача № 2 аб выкананні ў 2010 г. навуковых археалагічных даследаванняў у зоне будаўніцтва аб’екта «Рэканструкцыя аўтамабільнай дарогі «Абход тэрыторыі Нацыянальнага парку “Белавежская пушча” на ўчастку Ваўкаставец–Свіслач, участак аўтамабільнай дарогі Р-47 Свіслач–Поразава–Пружаны» / В. Л. Лакіза // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2751. – 55 с.

8. Лакіза, В. Л. Справаздача № 3 аб выкананні навуковых археалагічных даследаванняў (раскопак і нагляду) на помніках археалогіі Берагавы-2–Мост, Жылічы-1–Мост, Каранявічы-1 Гродзенскага раёна ў зоне будаўніцтва аўтадарогі «Абход г. Гродна з мастом праз р. Нёман» у 2009–2010 гг. / В. Л. Лакіза // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі».

9. Лакіза, В. Л. Вынікі археалагічных даследаванняў у зонах новабудоўляў на тэрыторыі Ашмянскага раёна: новыя помнікі і матэрыялы / В. Л. Лакіза, З. А. Харытановіч, Макс. М. Чарняўскі // Ашмяншчына : праблемы рэгіянальнай гісторыі Беларусі : зб. навук. арт. / рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.] – Мінск : Беларус. навука, 2011. – С. 11–22.

***М. И. Ткачева,*** *Институт истории НАН Беларуси, младший научный сотрудник (г. Минск)*

# Археологические исследования 2009 года в Глусском и Минском районах

В полевом сезоне 2009 г. были проведены археологические разведки на территории Глусского (Могилевская область) и Минского районов. Основной целью работ было обследование известных и выявление новых памятников каменного века в бассейне р. Птичь (левый приток р. Припять).

**В Глусском районе** разведки велись в правобережье и левобережье р. Птичь, на участке д. Юзефово–Згода (рис. 1). В ходе разведок были обследованы следующие уже известные памятники.

***Згода-1*** – стоянка бронзового века (по данным В. Ф. Копытина) [2, с. 58], селище железного века, эпохи Древней Руси (XI–XIII вв.), нового времени (XVI–XVIII вв.). Памятник находится в 1 км восточнее д. Згода, в 1,5 км южнее д. Подлужье, в 1,5 км северо-восточнее д. Березовка на первой надпойменной террасе правого берега р. Птичь (рис. 1: *18*). Открыт А. О. Рынейским в 1930 г. [8, с. 211], в 1970 г. обследован В. Ф. Копытиным [2, с. 58]. Западная часть памятника занята колхозным полем, восточная – лесом. Карьер, о котором упоминает В. Ф. Копытин [2, с. 64], не обнаружен.

В 2009 г. на краю террасы на площади 200 × 200 м, занятой молодой лесопосадкой, был собран многочисленный керамический материал – 168 фрагментов. Один из черепков принадлежит лепному сосуду с примесью дресвы в тесте и с выделенным ребром. По мнению М. И. Лошенкова, данный фрагмент может быть связан с древностями культуры штрихованной керамики. Остальной керамический материал представлен фрагментами круговых горшков XI–XIII вв. – 88 ед. (рис. 2: *8*); XVI в. – 68 ед. (рис. 2: *7, 9, 10*); XVII–XVIII вв. – 11 ед.[1]

***Поблин-1*** – стоянка каменного и бронзового веков (по данным В. Ф. Копытина) [2, с. 61], селище нового времени (XVIII–XIX вв.). Памятник расположен на северо-западной окраине д. Поблин, между кладбищем и заброшенной животноводческой фермой, на правом берегу старицы р. Птичь (рис. 1: *14*). Открыт А. О. Рынейским в 1930 г. [8, с. 210–211], обследован В. Ф. Копытиным в 1977 и 2000 г. [2, с. 61]. Северная часть памятника засажена молодым сосняком, западная – раздувается.

В 2009 г. на проселочной дороге, ведущей от северо-западной окраины деревни к ферме, был найден фрагмент стенки круговой керамики (XVIII–XIX вв).

***Подлужье-2*** – стоянка каменного века, селище раннего железного века, эпохи Древней Руси (XI–XIII вв.) (по данным В. Ф. Копытина) [2, с. 64], нового времени (XVI–XVIII вв.). Памятник расположен в 0,1 км юго-западнее южного края д. Подлужье, в правобережье р. Птичь в 0,9 км западнее реки на возвышенности (ур. Замикольщина (Микольцы)) (рис. 1: *17*). Выявлен А. О. Рынейским в 1930 г. [2, с. 211–212], обследован Л. Д. Поболем в 1964 г., В. В. Копытиным в 1977 и 2000 г., О. В. Иовом в 1985 г., М. И. Лошенковым и Н. Н. Дубицкой в 1987 г., Н. Н. Дубицкой в 1990 г. [2, с. 64; 6, с. 35–39]. Территория памятника распахивается.

В 2009 г. в северной и восточной части возвышенности на площади 200 × 400 м было собрано 7 фрагментов круговой керамики XVI–XVIII вв.

***Борисовщина-1*** – стоянка неолита–бронзового века, грунтовый могильник бронзового века, селище раннего железного века, эпохи Древней Руси (XI–XIII вв.), нового времени (XVI–XIX вв.). Памятник расположен в 1,5 км южнее д. Борисовщина на левом берегу р. Комаринка, в ур. Горки (рис. 1: *6*). Открыт А. О. Рынейским в 1930 г. [1, с. 209–212]. В 1964 г. Л. Д. Поболь провел раскопки на памятнике, в результате которых было найдено захоронение бронзового века (культура многоваликовой керамики) [7, с. 249–297]. Памятник был обследован В. Ф. Копытиным в 1977 г. [2, с. 75], М. И. Лошенковым и Н. Н. Дубицкой в 1987 г., Н. Н. Кривальцевичем в 1986, 1994, 1997 г. [3, с. 14; 4, с. 9; 5, с. 10–13]. Территория памятника, кроме южной части, засажена лесом. Южная часть распахивается.

В 2009 г. на наиболее пригодном для обследования распаханном участке собран обработанный кремень и керамика. Площадь распространения находок – 450 × 70 м. Материал, относящийся к эпохе неолита (фрагмент пластины с коркой, чешуйка и 4 фрагмента стенок лепной керамики с растительной примесью в тесте, без орнамента), выявлен в лесу под линией электропередач. Кроме того, было найдено 2 фрагмента лепной керамики раннего железного века (определение М. И. Лошенкова) с примесью дресвы и хорошо заглаженной внутренней поверхностью и 54 фрагмента круговой керамики: XI–XIII вв. – 1 фрагмент; XVI в. – 1 фрагмент (рис. 2: *4*); XVI–XIX вв. – 52 фрагмента (рис. 2: *1–3, 5*).

***Борисовщина-2*** – стоянка каменного века (мезолит ?, неолит), расположена на правом берегу р. Комаринка, в 0,2 км на север от реки, в 1,5 км юго-восточнее д. Борисовщина, на выступе террасы, которым заканчивается ур. Горки, в пойме р. Птичь (рис. 1: *7*). Памятник выявлен Н. Н. Кривальцевич в 1997 г. [5, с. 28], обследован В. Ф. Копытиным в 2001 г. [2, с. 76]. Территория памятника частично задернована и занята лесом.

[1] Здесь и далее определение круговой керамики сделано И. В. Ганецкой.




Рис. 1. Карта размещения археологических памятников Глусского района, исследованных в 2009 г. (участок д. Юзефово–Згода): *1* – Юзефово-1; *2* – Юзефово, курганный могильник 1; *3* – Желвинец-1; *4* – Желвинец-2; *5* – Желвинец-3; *6* – Борисовщина-1; *7* – Борисовщина-2; *8* – Борисовщина-3; *9* – Заполье-2; *10* – Заполье-6; *11* – Мыслотино-1; *12* – Глуск-4; *13* – Балашевичи-4; *14* – Поблин-1; *15* – Поблин-6; *16* – Поблин-7; *17* – Поблужье-2; *18* – Згода-1




Рис. 2. Круговая керамика памятников Борисовщина-1 *(1–6)*, Згода-1 *(7–10)*, Поблин-6 *(11–13)*

В 2009 г. в северной и северо-западной части памятника на площади размерами 10 × 15 м была собрана богатая для данного региона коллекция обработанного кремня и керамика.

*Кремень (64 единицы)* – фрагмент нуклеуса от пластин (рис. 3: *9*), 12 пластин и их фрагменты (рис. 3: *8, 10, 12–17, 19, 20*), 11 отщепов и их фрагменты (рис. 3: *11*), 16 чешуек, 21 неопределенный обломок, пластина со скошенным ретушью краем, 2 фрагмента неопределенных ретушированных изделий. Кремневые артефакты выполнены из местного кремня светло-серого и грязно-серого цветов. Часть изделий имеет белую патину от долгого нахождения на воздухе и красно-коричневую – от нахождения во влажной среде.

*Керамика лепная (3 фрагмента).* Представлена черепками с растительной примесью в тесте и мелкой дресвой.

Для выяснения мощности культурного слоя в центральной, самой высокой части памятника, был заложен шурф размерами 1 × 2 м. Находки встречались до глубины 0,1 м.

*Кремень (4 единицы)* – целая и фрагмент пластины, чешуйка и неопределимый обломок. В качестве сырья использовали местный кремень светло- и темно-серого цвета. Один артефакт – темно-красного цвета.

*Лепная керамика (1 фрагмент)* с растительной примесью. Толщина стенки – 0,6 см.

Полученный материал позволяет отнести памятник к эпохе неолита. Однако установить его культурную принадлежность сложно.

Весной 2010 г. стоянка Борисовщина-2 была осмотрена повторно. В результате этого осмотра было обнаружено, что стоянку разровняли бульдозером, полностью ее уничтожив.

***Борисовщина-3*** – стоянка каменного века и селище раннего железного века (по данным В. Ф. Копытина). Памятник расположен в 2 км южнее д. Борисовщина на правом берегу р. Комаринка, при ее впадении в р. Птичь, на выступе террасы высотой 2–5 м над уровнем воды, на опушке леса размерами 30 × 40 м (рис. 1: *8*). Выявлен в 1986 г. и обследован




Рис. 3. Кремневый инвентарь и керамика поселений Борисовщина-2 *(8–21)*, Желвинец-1 *(3, 5–7)*, Поблин-6 *(1, 2, 4)*, Заполье-6 *(22)*

в 1997 г. Н. Н. Кривальцевич [3, с. 14; 5, с. 28], в 2001 г. – В. Ф. Копытиным [2, с. 76]. Территория памятника обустроена под зону отдыха.

В 2009 г. в центральной части возвышенности на площади размерами 20 × 40 м собран обработанный кремень (4 единицы): 3 обломка и скол с коркой.

***Желвинец-1*** – местонахождение обработанного кремня и лепной керамики эпохи неолита, селище раннего железного века, эпохи Древней Руси (XI–XIII вв.), нового времени (XVI–XIX вв.). Памятник расположен в 0,6 км на северо-запад от д. Желвинец, на правом берегу р. Птичь, возле моста, в ур. Селище, по обе стороны дороги в д. Желвинец (рис. 1: *3*). Открыт А. О. Рынейским в 1930 г. [8, с. 210], обследован Л. Д. Поболем в 1964 г., Н. Н. Дубицкой в 1990 г., В. Ф. Копытиным в 2001 г. [2, с. 76–77]. Северная часть памятника распахивается, южная – разрушена карьером.

В 2009 г. на поле вдоль реки на участке протяженностью 0,8 км собран обработанный кремень и керамика.

*Кремень (10 единиц):* нуклеус одноплощадочный от отщепов и пластинчатых отщепов (рис. 3: *6*) – 1 единица, фрагмент пластины с коркой (рис. 3: *5, 7*) – 2, фрагмент пластины – 2, отщеп с коркой – 1, отщеп – 1, чешуйка – 2, обломок кремневый – 1 единица.

*Лепная керамика (5 фрагментов):* 2 фрагмента стенок – с растительной примесью и мелкой дресвой, один из этих черепков орнаментирован отпечатками гребенчатого штампа и может быть связан с древностями восточнополесского варианта днепро-донецкой культуры (рис. 3: *3*). По мнению М. И. Ло-

шенкова, 3 фрагмента стенок с обильной примесью мелкой дресвы могут быть датированы ранним железным веком.

*Круговая керамика (65 фрагментов):* XI–XIII вв. – 6 фрагментов (рис. 4: *1–5*); XVI в. – 8; XVI–XVII вв. – 49; XVIII–XIX вв. – 2 фрагмента (рис. 4: *6*).

***Желвинец-2*** – селище раннего железного века, эпохи Древней Руси (XI–XIII вв.) (по данным В. Ф. Копытина [2, с.77]), нового времени (XVI–XIX вв.). Памятник расположен в центре д. Желвинец, на левом берегу р. Птичь, в 0,1 км северо-западнее кладбища, на двух возвышенностях (ур. Старые Клады) (рис. 1: *4*). Выявлен Л. Д. Поболем в 1964 г. [2, с. 77], обследован О. В. Иовом в 1985 г., Н. Н. Дубицкой и М. И. Лошенковым в 1987 г., В. Ф. Копытиным в 2001 г. [2, с. 77]. Территория памятника занята под огороды.

В 2009 г. в северной части возвышенностей на площади размерами 40 × 50 м собран 21 фрагмент круговой керамики: фрагменты стенок XVI в. – 2, XVI–XIX вв. – 19.

***Желвинец-3*** – селище раннего железного века (по данным В. Ф. Копытина [2, с. 78]), нового времени (XVI–XIX вв.). Памятник находится в 0,03 км западнее д. Желвинец, в 0,1 км южнее моста, на левом берегу р. Птичь, на дюнах (ур. Грядки) (рис. 1: *5*). Открыт Н. Н. Дубицкой и М. И. Лошенковым в 1987 г., в 2001 г. обследован В. Ф. Копытиным [2, с. 78]. Территория памятника занята огородами.

В 2009 г. на селище на площади размерами 40 × 50 м собрана гончарная керамика (38 фрагментов): XVI в. – 1 фрагмент (рис. 4: *8*); XVI–XVII вв. – 2; вторая половина XVII–XVIII вв. – 3 (рис. 4: *9*); XVIII–XIX вв. – 32 фрагмента (рис. 4: *7, 10–12*).




Рис. 4. Круговая керамика памятников Желвинец-1 *(1–6)*, Желвинец-3 *(7–12)*

***Юзефово-1*** – местонахождение керамики, предварительно датированное неолитом, ранним железным веком, эпохой Древней Руси (XI–XIII вв.), новым временем (XVI–XVIII вв.). Памятник находится в 0,5 км северо-восточнее д. Юзефово, на левом берегу мелиоративного канала, который впадает в р. Комаринку, южнее грунтовой дороги, на окраине леса (рис. 1: *1*). Выявлен В. Ф. Копытиным в 2001 г. [2, с. 80]. Поверхность памятника занята лесом и сильно задернована.

В 2009 г. в противопожарном ровике шириной 0,3 м, идущем вдоль кромки леса, было собрано 2 фрагмента лепной (неолит) и 2 фрагмента круговой керамики (XVI–XVIII вв.).

***Юзефово, курганный могильник 1*** эпохи Древней Руси (XI–XIII вв.) открыт А. О. Рынейским в 1930 г. [8, с. 210], обследован В. Ф. Копытиным в 1977 и 2001 г., М. И. Лошенковым в 1992 г. [2, с. 81].

Могильник расположен в 0,6 км северо-западнее деревни, на правом берегу мелиоративного канала, по обе стороны проселочной дороги, в лесу (рис. 1: *2*).

В 2009 г. было обследовано семь насыпей полусферической формы диаметром 7–10 м, высотой 1,2–1,6 м, с уплощенными вершинами и с ровиками у основания. Курганы задернованы, поросли деревьями. Одна насыпь повреждена кладоискательской ямой (о чем сообщал еще В. Ф. Копытин [2, с. 81]), остальные – без повреждений.

***Балашевичи-4*** – местонахождение круговой керамики эпохи Древней Руси (XI–XIII вв.) (о присутствии материала данного периода на памятнике сообщает В. Ф. Копытин), нового времени (XVI–XVIII вв.). Памятник расположен на северо-восточной окраине д. Балашевичи, в левобережье р. Птичь, в 0,05 км севернее канала, на первой надпойменной террасе (рис. 1: *13*). Выявлен В. Ф. Копытиным в 2001 г. [2, с. 87]. На территории памятника расположены огороды.

В 2009 г. на огородах на площади размерами 150 × 70 м собрана круговая керамика (8 фрагментов) XVII–XVIII вв.

***Заполье-2*** – стоянка каменного века и селище эпохи Древней Руси (XI–XIII вв.) (о присутствии материала данных периодов на памятнике сообщает В. Ф. Копытин), нового времени (XVII–XVIII вв.). Памятник расположен в 0,6 км северо-западнее д. Заполье, на первой надпойменной террасе правого берега р. Птичь (на расстоянии 1,1 км от реки), в урочище «Рыгораўшчына» (рис. 1: *9*). Выявлен В. Ф. Копытиным в 2001 г. [2, с. 100]. Территория памятника распахивается.

В 2009 г. в южной части урочища на площади размерами 200 × 400 м собрана круговая керамика XVII–XVIII вв. (16 фрагментов).

В ходе исследований в 2009 г. на территории **Глусского района** было обнаружено 5 новых памятников.

***Глуск-4*** – местонахождение лепной и круговой керамики, предварительно датированное ранним железным веком, новым временем (XVII–XIX вв.), находится в 0,05 км к западу от западной окраины г. Глуск, вдоль дороги Глуск–Дуброва до возвышенности, которую местные жители называют «Мыслочанская гора» (рис. 1: *12*). Восточная часть возвышенности занята карьером. Осмотр стенок карьера показал отсутствие культурного слоя на самой возвышенности. Территория памятника распахивается.

В 2009 г. в западной части памятника, на склоне возвышенности был найден фрагмент лепной керамики с обильной примесью мелкой дресвы в тесте. Данный фрагмент, по мнению М. И. Лошенкова, можно отнести к раннему железному веку. Круговая керамика (92 фрагмента), датированная XVIII–XIX вв., фиксируется на участке протяженностью 0,8 км от «Мыслочанской горы» до западной окраины г. Глуск, на поле вдоль шоссе Глуск–Дуброва. Количество находок растет по мере приближения к городу.

***Поблин-6*** – местонахождение обработанного кремня и керамики, предварительно датированное неолитом, новым временем (XVI–XVIII вв.), расположено в 0,05 км восточнее д. Поблин, на выступе правобережной террасы р. Птичь, в 0,5 км юго-западнее реки (рис. 1: *15*). Территория памятника занята молодой лесопосадкой. В северной части – полигон ТБО.

В 2009 г. на выступе террасы на площади размерами 300 × 150 м собран обработанный кремень (проколка (рис. 3: *1, 2*) и фрагмент пластинчатого отщепа с молочной патиной) и фрагмент венчика лепного сосуда с примесью мелкой дресвы в тесте, орнаментированный линейным штампом (рис. 3: *4*). Орнамент характерен для традиции культуры шаровидных амфор. Кроме того, на памятнике было найдено 53 фрагмента круговой керамики: XVII в. – 4 (рис. 2: *13*), XVIII в. – 1 (рис. 2: *11*), XVI–XVIII вв. – 48 (рис. 2: *12*).

***Поблин-7*** – местонахождение круговой керамики, предварительно датированное новым временем (XVIII–XIX вв.), находится в 0,1 км восточнее южного края д. Поблин, в правобережье р. Птичь, в 0,3 км западнее канала, на возвышенности (рис. 1: *16*). Территория памятника распахивается.

В 2009 г. в северо-восточной части возвышенности на площади размерами 100 × 200 м было найдено 5 фрагментов круговой керамики (XVIII–XIX вв.).

***Заполье-6*** – местонахождение обработанного кремня и керамики, предварительно датированное каменным, ранним железным веками, новым временем (XVII–XVIII вв.), расположено в 1,1 км юго-восточнее д. Заполье, в 3,2 км северо-восточнее г. Глуск, на правом берегу р. Птичь, в 0,1 км северо-западнее шоссе Глуск–Бобруйск, на возвышенности (рис. 1: *10*). Территория памятника засажена лесом.

***А. Ю. Ткачоў,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, аспірант (г. Мінск);*
***В. Г. Белявец,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, навуковы супрацоўнік, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск)*

# Раскопкі на паселішчы Стаўповіскі-5

У чэрвені 2010 г. на тэрыторыі Камянецкага, Пружанскага раёнаў Брэсцкай вобласці і Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці пачаліся працы па будаўніцтве абводнай аўтадарогі вакол Нацыянальнага парку «Белавежская пушча». У адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь у вобласці аховы гісторыка-культурнай спадчыны комплексная экспедыцыя аддзела археалогіі першабытнага грамадства Інстытута гісторыі НАН Беларусі ў складзе В. Г. Беляўца, В. Л. Лакізы, А. Ю. Ткачова з удзелам археолага Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна А. А. Башкова і магістранта гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта В. У. Ашэйчыка ажыццявіла навуковыя даследаванні на ўчастку будаўніцтва ад в. Ваўкаставец да мяжы Брэсцкай і Гродзенскай вобласці (в. Груск). Было абследавана каля 150 км уздоўж будучай аўтадарогі, зафіксавана 17 пунктаў з археалагічнымі матэрыяламі, на якіх праведзены зборы пад'ёмнага матэрыялу і шурфоўка, а на паселішчы Стаўповіскі-5 – шырокамаштабныя раскопкі.

***Паселішча Стаўповіскі-5*** размешчана на левым беразе р. Белая ў паўночна-заходнім канцы в. Стаўповіскі (Камянецкі раён). Прыкладная плошча 150 × 450 м. Большая частка паверхні помніка задзірнавана, у некаторых месцах (асабліва ў паўночнай частцы) маюцца пясчаныя агаленні. Частка паселішча занята пад прыватныя агароды. Да выпроставання рэчышча Белай помнік з паўднёва-ўсходняга боку інтэнсіўна падмываўся ракой.

Палатно будучай аўтадарогі праходзіць амаль праз цэнтральную частку паселішча. Найбольшая канцэнтрацыя матэрыялаў назіралася на тэрыторыі агародаў, на поўдзень ад палатна дарогі.

Для правядзення раскопак былі абраны некалькі ўчасткаў. Для вызначэння насычанасці і характару культурнага пласта, быў разбіты раскоп № 1 памерамі 5 × 20 м, які перакрыжоўваўся з воссю будучай аўтадарогі. Ён размяшчаўся каля паўднёва-заходняга кута вёскі, на краю тэрасы р. Белая, а затым быў пашыраны ў паўночна-заходні бок (4 × 20 м). Адначасова з раскопам № 1 на тэрыторыі прыватных агародаў быў разбіты раскоп № 2 памерамі 5 × 5 м. У далейшым ён быў пашыраны да 55,5 м$^2$.

Пасля таго як пачаліся будаўнічыя працы і на месцы будучай аўтадарогі былі зняты дзірван і верхнія напластаванні, быў закладзены раскоп № 3 плошчай 420 м$^2$, у якім праводзіліся зачыстка ніжніх культурных напластаванняў і даследаванне выяўленых аб'ектаў.

Такім чынам, сумарна раскопкамі была даследавана плошча 655,5 м$^2$: раскоп № 1 (180 м$^2$), раскоп № 2 (55,5 м$^2$) і раскоп № 3 (420 м$^2$).

На помніку выяўлена наступная стратыграфія: дзірван; пласт ворыва – магутнасць 20–25 см па ўсёй плошчы раскопу; культурны пласт – пясок светла-карычневага колеру, меў магутнасць 0,15–0,25 м у раскопе № 2 і захаваўся месцамі ў раскопе № 1; мацярык – пясок жоўтага колеру.

Падчас вывучэння помніка былі зафіксаваны 20 аб'ектаў – разнастайныя ямы і вогнішчы.

*Аб'ект № 1* – рэшткі вогнішча з каменнай выкладкай. Акруглае ў плане (дыяметр 90 см), запоўнена пяском, перамяшаным з попелам і дробнымі вугольчыкамі. У аб'екце знойдзена 25 артэфактаў: 8 адшчэпаў, 4 пласціны і іх фрагменты, 7 лусак, крамянёвы абломак, 4 фрагмента ляпной і абломак кальцыніраванай косткі.

*Аб'ект № 2* – яма авальнай формы, выцягнутая з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход, памерамі 134 × 100 см. Запоўнена шэрым гумусіраваным пяском з лінзай пяску цёмна-шэрага колеру. Глыбіня ад узроўню выяўлення – 32 см. Знаходак выяўлена не было.

*Аб'ект № 3* – даследаваны часткова. Акруглая ў плане яма памерамі выяўленай часткі 264 × 216 см. Паўночная палова аб'екта была запоўнена бялёсым пяском, паўднёвая – шэрым гумусіраваным. Шэры пясок прасочваецца па перыметру аб'екта ў заходняй і паўночна-заходняй частках. Глыбіня з узроўню выяўлення – 72 см. У яме знойдзена 26 фрагментаў ляпной і 2 ганчарнай керамікі, скрабок, 4 адшчэпы, 2 пласціны, фрагмент пласціны з захлыстам, 18 лусак, 8 фрагментаў кальцыніраваных костак.

Фрагменты сценак звязаны з гарызонтам жалезнага веку. Абломак венчыка належыць да эпохі неаліту. 20 фрагментаў посуду жалезнага веку паходзяць ад гладкасценных пасудзін, 2 фрагменты пакрыты шчыльнай неглыбокай штрыхоўкай па вонкавай паверхні. Таўшчыня сценак складае 0,7–2,0 см. Абпал якасны і роўны. Колер вонкавай паверхні – пясочны з рудаватым і крэмавым адценнем. Шэраг фрагментаў больш масіўных пасудзін цёмна-шэрага колеру з унутранага боку. У цесце выкарыстаны дамешкі жарствы пераважна белага колеру, 2–6 мм у папярочніку.

*Аб'ект № 4* – акруглая ў плане яма з запаўненнем сіваватага колеру. Памеры – 94 × 80 см, глыбіня з узроўню расчысткі – 11 см. У аб'екце знойдзены фрагмент сценкі ляпной керамікі.

*Аб’ект № 5* – у раскопе зафіксавана толькі частка ямы. Памеры выяўленай часткі – 94 × 72 см, глыбіня – 44 см. Запоўнены пяском светла-шэрага колеру, з больш цёмнай цэнтральнай чаткай. У аб’екце знойдзены адшчэп, 2 лускі і фрагмент сценкі ляпной керамікі.

*Аб’ект № 6* – даследаваны часткова. Памер выяўленай часткі – 156 × 52 см, глыбіня – 48 см. Запаўненне аб’екта шэрае з плямай светла-шэрага колеру ў паўночна-заходняй частцы. У яме знойдзены адшчэп і фрагмент сценкі ляпной керамікі.

*Аб’ект № 7* – рэшткі вогнішча з каменнай выкладкай памерамі 104 × 74 см. Попельна-вугальнае запаўненне з невялікімі вугольчыкамі і камянямі. У аб’екце знойдзены 3 адшчэпы, дробны фрагмент неазначальнай керамікі, 4 фрагменты кальцыніраваных костак.

*Аб’ект № 8* – акруглая ў плане яма, выцягнутая з захаду на ўсход, памерамі 280 × 116 см і глыбінёй з узроўню зачысткі 56 см. Запаўненне аб’екта ў паўночна-заходняй частцы ўтворана белым пяском, у паўднёва-ўсходняй – шэрым, які прасочваецца таксама па ўсім перыметры. У цэнтральнай частцы ямы маюцца лінзы светла-шэрага і чорнага колеру, апошняя з невялікімі ўкрапінамі вугольчыкаў.

На аб’екце было выяўлена 159 артэфактаў. У пераважнай большасці гэта знаходкі апрацаванага крэменю (111): пракрутка, 2 нуклеуса, 34 адшчэпы і іх фрагменты, 25 пласцін і іх фрагменты, 39 лусак, мікраскол, 4 фрагменты неазначальных сколаў, 5 крамянёвых абломкаў са слядамі апрацоўкі. Знойдзена 34 фрагменты ляпной керамікі, з іх 2 венчыка (мал. 1: *1, 2*), 31 фрагмент сценак (мал. 1: *3, 4*), фрагмент донца (мал. 1: *5*). Акрамя таго, знойдзена 14 фрагментаў кальцыніраваных костак.

Фрагменты ляпнога посуду па спосабах апрацоўкі падзяляюцца на: гладкасценныя (31), са штрыхаванай паверхняй (2), чорнаглянцаваныя (1).

Чорнаглянцаваны фрагмент (шыйка) паходзіць ад пасудзіны невялікіх памераў – міскі альбо вазачкі (мал. 1: *1*). Шыйка прамая кароткая, плаўна адагнутая вонкі. Цеста з дамешкамі белай жарствы (і пяску ?). Абпал якасны і роўны. Лашчэнне адбывалася па добра прасохлай паверхні, таму атрымалася роўная паверхня з матавым бляскам.

Таўшчыня сценак грубаляпнога посуду вагаецца ад 0,6 да 1,5 см. Абпал якасны і роўны. У цесце выкарыстаны дамешкі жарствы таўшчынёй 2–6 мм, пераважна белага колеру. Колер вонкавай паверхні пясочны з рудаватым, крэмавым і карычняватым адценнем. Унутраны бок больш масіўных пасудзін мае цёмна-шэры колер.

Марфалагічна найбольш выразныя фрагменты дазваляюць меркаваць, што абломкі з неапрацаванай дадаткова і штрыхаванай паверхняй паходзяць ад кухоннага посуду, перадусім гаршкоў. Маюць фрагменты пасудзін прафіляваных і рабрыстых формаў (мал. 1: *3, 4*). У арнаментацыі былі выкарыстаны ямкавыя ўцісканні, нанесеныя на венца шыйкі і рабро тулава (мал. 1: *2, 4*).

*Аб’ект № 9* – у плане блізкая да квадратнай яма, арыентаваная кутамі па баках свету. Памеры –




Мал. 1. Кераміка з аб’екта № 8 *(1–5).* Стаўповіскі-5

282 × 326 см, глыбіня з узроўню выяўлення – 44 см. Паўночна-заходняя палова аб’екта запоўнена пяском бялёсага колеру, паўднёва-ўсходняя – шэрым гумусіраваным пяском. Ва ўсходняй частцы аб’екта назіралася лінза сіваватага пяску з чорнымі плямамі, у якіх сустракаліся рэшткі струхнелага дрэва (хутчэй за ўсё, парэшткі карнявой сістэмы хмызняку).

З аб’екта паходзяць 148 знаходак. З іх 103 прадстаўлены апрацаваным крэменем, у тым ліку нуклеусам двухпляцовачным ад адшчэпаў, нуклеусам аднапляцовачным ад пласцін і адшчэпаў, фрагментам вастрыя. Большая частка крамянёвых артэфактаў прадстаўлена першаснымі (адшчэпы і іх фрагменты – 10 адзінак, пласцінамі, мікрапласцінамі і іх фрагментамі – 23 адзінкі) і тэхнічнымі сколамі, адыходамі вытворчасці (60 лусак, 5 абломкаў са слядамі апрацоўкі, пласціна рабрыстая, пласціна з захлыстам). На аб’екце выяўлена 35 фрагментаў ляпных пасудзін (венчык, 33 сценкі і донца), 8 ад ганчарнага посуду (венчык і 7 сценак), а таксама 2 фрагменты кальцынiраваных костак.

*Аб’ект № 10* – рэшткі вогнішча акруглай формы, дыяметрам 82 см, якое перакрывала паўднёвы кут аб’екта № 9. Яма запоўнена пяском светла-шэрага колеру з уключэннем камянёў. Па краях прасочваюцца дробныя вугольчыкі. У аб’екце знойдзены: 5 адшчэпаў, 3 пласціны, 2 фрагменты неазначальных сколаў, 6 лусак, абломак крамянёвы са слядамі апрацоўкі, 6 фрагментаў сценак ляпных пасудзін і 2 абломкі кальцынiраваных костак.

*Аб’ект № 11* – падпрамакутная ў плане яма памерамі 304 × 144 см, выцягнутая з паўночнага ўсходу–ўсходу на паўднёвы захад–захад. Глыбіня ад узроўню зачысткі – 31 см. Была запоўнена пяском светла-шэрага колеру, з попельна-вугальнай лінзай у цэнтральнай частцы. Падчас даследавання былі знойдзены луска і фрагмент сценкі ляпной пасудзіны.

*Аб’ект № 12* – яма аморфнай формы. Памеры аб’екта – каля 160 × 118 см, глыбіня – 52 см. Быў запоўнены пяском светла-шэрага колеру, з попельна-вугальнай плямай у цэнтры, пад якой прасочваецца лінза пракаленага бялёсага пяску. У запаўненні знойдзены: 4 адшчэпы, 4 фрагменты пласцін, фрагмент неазначальнага сколу, 6 лусак, венчык ляпной керамікі, 3 сценкі ляпной пасудзіны, 2 сценкі ганчарных пасудзін, 4 фрагменты кальцынiраваных костак.

Фрагменты ляпнога посуду належаць да жалезнага веку. Паходзяць ад дастаткова масіўных пасудзін, верагодна гаршкоў, з неапрацаванай дадаткова паверхняй. Таўшчыня сценак складае ад 0,5 да 1,3 см. Абпал якасны і роўны. У цесце выкарыстаны дамешкі белай і чырвонага колераў жарствы 2–6 мм у папярочніку. Колер вонкавай паверхні пясочны з рудаватым і крэмавым адценнямі. Унутраны бок найбольш таўстасценных абломкаў мае светла-шэры колер. Фрагмент шыйкі плаўна выгнуты і нахілены ўнутр, па зрэзе венца упрыгожаны ямкавымі пальцавымі ўціскаnнямі. Адзін з фрагментаў сценкі паходзіць ад пасудзіны з тулавам біканічнай формы, арнаментаваны глыбокімі насечкамі вышэй рабра.

*Аб’ект № 13* – яма грыбападобнай формы, выцягнутая з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад. Запоўненая пяском цёмна-шэрага колеру, з лінзай светлага колеру ў цэнтральнай частцы. Памеры – 342 × 280 см, глыбіня – 57 см ад узроўню выяўлення. Знойдзены: адшчэп, 4 пласціны, луска, фрагмент сценкі ляпной пасудзіны.

*Аб’ект № 14* – яма аморфнай формы, запоўненая пяском цёмна-шэрага колеру. У плане яма мела памеры 372 × 280 см, глыбіню 38 см. У паўднёва-заходняй, паўночна-ўсходняй і часткова паўднёвай частцы яма абкружана шэрымі плямамі, у цэнтральнай і заходняй частках запоўнена белым пяском. На ўзроўні зачысткі ў цэнтральнай частцы аб’екта выяўлены два камяні. У аб’екце знойдзены: 3 адшчэпы, луска, 21 фрагмент ляпных і 3 абломкі ганчарных пасудзін.

*Аб’ект № 15* – яма падпростакутнай у плане формы, памерамі 286 × 350 см, глыбіня 43 см. У паўночна-ўсходняй частцы аб’ект быў запоўнены пяском светла-шэрага колеру і бялёсым пяском у паўднёва-заходняй. Каля паўночна-ўсходняга кута ямы выяўлены палявы камень каля 80 см у даўжыню. У запаўненні аб’екта знойдзены 1 адшчэп.

*Аб’ект № 16* – яма блізкай да авальнай у плане формы, выцягнутая з захаду на ўсход. Памеры 192 × 144 см, глыбіня 45 см. Была запоўнена пяском цёмна-шэрага колеру з лінзай больш светлага пяску ў цэнтральнай частцы. У аб’екце знойдзены фрагмент скола-нарыхтоўкі і сценка ляпной керамікі.

*Аб’ект № 17* – круглая ў плане яма, дыяметрам 305 см і глыбінёй 44 см. Заходняя частка запоўненая белым пяском, усходняя – пяском цёмна-шэрага колеру. У запаўненні знойдзены фрагмент сценкі ганчарнай пасудзіны.

*Аб’ект № 18* – яма акруглай ў плане формы, памерамі 273 × 188 см, 48 см у глыбіню. Цэнтральная частка ямы была запоўнена пяском белага колеру і абкружана поясам гумусіраванага цёмна-шэрага пяску з усіх бакоў, акрамя паўночнага. Падчас разборкі знойдзены: фрагмент пласціны, луска, венчык ляпной керамікі, сценка ляпной керамікі, 2 сценкі ганчарнай пасудзіны.

*Аб’ект № 19* – яма падакруглай формы, памерамі 287 × 318 см, глыбінёй 28 см. Цэнтральная частка ямы была запоўнена пяском белага колеру і абкружана поясам гумусіраванага цёмна-шэрага пяску з усіх бакоў, акрамя ўсходняга. У запаўненні знойдзены фрагмент сценкі ганчарнай пасудзіны.

*Аб’ект № 20* – яма аморфнай формы. Прыкладныя памеры – 212 × 314 см, глыбіня – 32 см. Паўноч-

на-заходняя частка аб'екта запоўнена пяском цёмна-шэрага колеру, паўднёва-ўсходняя – белым. Знаходкі ў аб'екце не выяўлены.

Усяго на помніку быў знойдзены 4601 артэфакт, з якіх вырабаў з крэменю – 2270, керамічных вырабаў – 2116, фрагментаў костак – 97, вырабаў з металу – 44 і інш.

Большасць з крамянёвых вырабаў – гэта прадукты першаснага расчаплення, адыходы вытворчасці і тэхнічныя сколы: адшчэпы і іх фрагменты (733 экз.), пласціны і іх фрагменты (387), абломкі са слядамі сколвання (120), лускі (908), сколы з захлыстам (13), сколы падпраўкі пляцоўкі нуклеуса (4), мікрасколы (4 экз.). Акрамя таго, у калекцыі з помніка маюцца 70 крамянёвых абломкаў без апрацоўкі.

Сярод нуклеусаў і іх фрагментаў пераважаюць аднапляцовачныя – 21 экз. (ад пласцін – 14; ад пласцін і адшчэпаў – 7). Значна менш двухпляцовачных нуклеусаў – 5 экз. (ад пласцін – 3; ад адшчэпаў – 1; ад пласцін і адшчэпаў – 1), нуклеусаў аморфных форм – 3 экз. Да таго ж маюцца 3 дробныя фрагменты нуклеусаў, якія не падлягаюць атрыбуцыі.

Вырабаў з другаснай апрацоўкай знойдзена 70 экз.: 11 пласцін з участкамі рэтушы, 22 адшчэпы з участкамі рэтушы, 3 пласціны са скошаным рэтушшу краем (мал. 2: *16–18*), 5 трапецый (мал. 2: *1–5*), 4 вастрыі (мал. 2: *6, 8*), яніславіцкі трохкутнік (мал. 2: *9*), укладыш (мал. 2: *7*), 12 скрабкоў (мал. 2: *11–15*), скрабач, скобель, 4 разцы, разец-праколка (мал. 2: *19*), пракрутка, 2 трохкутных наканечнікі стэл (мал. 2: *10*), рэтушор/лушчань (?), фрагмент вастрыя нажа/сярпа і фрагмент прылады з паўстромкай рэтушшу.

Значную колькасць фрагментаў ляпной керамікі, якая не мае выразных марфалагічных рыс, падзяліць па храналогіі (аднесці да эпохі неаліту–бронзы альбо жалезнага веку) не заўсёды магчыма.

Да нёманскай культуры (дабраборскага этапу) адносяцца 12 фрагментаў. У фармовачнае цеста дадавалі дробную жарстві. Знешняя і ўнутраная паверхні штрыхаваліся і дадаткова загладжваліся. Таў-




Мал. 2. Крамянёвыя вырабы *(1–19)*. Стаўповіскі-5

шчыня сценак – 5–6 мм. Адзін фрагмент венчыка паходзіць ад пасудзіны з гафрыраваным зрэзам венца. Пад краем венца ішоў пас з «жамчужын» (мал. 3: *1*). Тры фрагменты сценак таўшчынёй 7–8 мм упрыгожаны двума паралельнымі пасамі невялікіх наколаў (мал. 3: *2–4*).

Тры фрагменты з арнаментам з пракрэсленых ліній можна звязваць са старажытнасцямі кола культур шнуравой керамікі.

На помніку знойдзена 13 фрагментаў (3 венчыкі і 10 сценак) керамікі тшцінецкага культурнага кола (мал. 3: *5–11*). Яны паходзяць ад пасудзін шэрага і карычневага колераў з таўшчынёй сценак ад 5 да 8 мм з дамешкамі рознaзярністай жарствы. Паверхня добра загладжана, часам ангабіравана. Венчыкі патоўшчаныя, коса зрэзаныя вонкі. Фрагменты сценак упрыгожаныя пракрэсленымі лініямі і наколамі.

Посуд жалезнага веку падзяляецца па спосабе апрацоўкі паверхні на: гладкасценны з неапрацаванай дадаткова паверхняй – 580 фрагментаў; штрыхаваны – 52; чорнаглянцаваны – 10 і з храпаватай паверхняй – 2 фрагменты.

Гладкасценны і штрыхаваны посуд аднастайны па складзе керамічнай масы ды абпалу. Колер вон-




Мал. 3. Кераміка неаліту *(1–4)* і бронзавага веку *(5–11).* Стаўповіскі-5

кавай паверхні пясочны і рудавата-пясочны альбо светла-карычневы. Абпал якасны і роўны. Таўшчыня сценак вагаецца ў межах 0,6–2,1 см. Больш тонкія сценкі (да 1,2–1,4 см) як правіла аднаслойныя ў зломе. У масіўных пасудзін (з таўшчынёй сценак больш 1,5 см) унутраны бок цёмна-шэрага альбо чорнага колеру. У якасці аташчальніка выкарыстана гранітная жарства белага і чырвонага колераў, зярняты ад 2–3 да 8–9 мм у папярочніку. Вонкавая і ўнутраная паверхні гладкасценных пасудзін пераважна добра выраўненыя, месцамі на іх выступае жарства.

Штрыхоўка наносілася пуком раслінных сцяблін, пераважна па падсохлай, але яшчэ вільготнай паверхні. Яна дастаткова разнастайная па спосабах выканання. Часцей выступае глыбокая рэгулярная шчыльная штрыхоўка, зробленая цвёрдымі жорсткімі сцяблінамі, магчыма пуком саломы, альбо пруцікаў (мал. 4: *3, 4;* 5: *3, 5*). Радзей адзначаецца невыразная і хаатычная штрыхоўка, якая наносілася мяккімі сцяблінамі, верагодна пукамі травы (мал. 4: *5;* 5: *2, 4*), альбо слабая невыразная працірка. Вылучаны асобныя фрагменты, на якіх глыбокія штрыхі маюць характэрныя заплывы па краях баразёнак (мал. 4: *6*). У гэтых выпадках вонкавы бок ужо падсохлай пасудзіны быў пакрыты слоем густога глінянага ангобу, па якім наносілася штрыхоў-




Мал. 4. Кераміка жалезнага веку *(1–8)*. Стаўповіскі-5

ка. Па кампазіцыі пераважае простая штрыхоўка: з вертыкальнымі, і, радзей, гарызантальнымі рысамі (мал. 4: *3, 4, 7;* 5: *3, 4, 7*). На вонкавай паверхні аднаго з фрагментаў сценкі пракрэслены рэдкія глыбокія вертыкальныя рыскі (мал. 5: *8*). У шэрагу выпадкаў на адным і тым жа ўчастку штрыхоўка выконвалася некалькі разоў у розных накірунках, у выніку чаго ўтвараўся ўзор у выглядзе косай сеткі (мал. 5: *5, 6*).

Знешняя паверхня адной з пасудзін была выраўнена з дапамогай цвёрдай прылады шырынёй каля 12 мм з няроўным працоўным краем – верагодна, драўлянай трэскай. Сляды гэтай апрацоўкі выразна бачныя на верхняй частцы тулава (мал. 6: *7*).

Абломкі сценак чорнаглянцаваных пасудзін трэба адносіць да жалезнага веку. У культурным пласце яны прадстаўлены выключна дробнымі фрагментамі сценак. У цэлым, верагодна, лошчаны посуд павінен быў нязначнай дамешкай уваходзіць у склад керамічнага комплексу жалезнага веку разам з гладкасценным і штрыхаваным.

Большасць марфалагічна інфарматыўных фрагментаў посуду жалезнага веку паходзіць ад гаршкоў. Серыя абломкаў шыек і асабліва тоўстых сценак (мал. 5: *3*; 6: *1, 2*) сведчыць, што сярод іх былі ў тым ліку масіўныя гаршкі для захавання зерня ці вадкасцей тыпу карчаг. Гаршкі меншых памераў адзначаюцца большай стараннасцю вырабу. Асноўная маса верхніх частак мае нахіленыя ўнутр прамыя альбо слаба выгнутыя шыйкі. У керамічным матэрыяле прысутнічае таксама прадстаўнічая серыя акруглабокіх гаршкоў з невылучанымі выразна шыйкамі (мал. 6: *3–6*). Каля трэці гаршкоў арнаментаваны насечкамі па зрэзе венца (мал. 6: *1–5*). Мяркуючы па найбольш выразных фрагментах сценак, тулава гаршкоў часта мела больш альбо менш выразную рабрыстую форму (мал. 5: *2, 4–6*), упрыгожвалася па




Мал. 5. Кераміка жалезнага веку *(1–6).* Стаўповіскі-5




Мал. 6. Кераміка жалезнага веку *(1–10).* Стаўповіскі-5

рабры тулава ямкавым арнаментам (мал. 4: *1, 2*; 5: *6*). Часам рабрыстасць тулава падкрэслівалася сродкамі арнаментацыі – рознанакіраванай штрыхоўкай ў верхняй і ніжняй яго частках (мал. 5: *3, 4*).

Керамічны комплекс жалезнага веку ўключае таксама фрагменты посуду іншага тыпу – гаршкоў і/альбо вазападобных пасудзін з выразнай прафіліроўкай (мал. 6: *7–10*). Гэты посуд мае кароткія, прамыя, слаба нахіленыя ўнутр, альбо адагнутыя вонкі шыйкі. Іх марфалогія дадаткова падкрэслівалася пластычнымі сродкамі: лініяй, пракрэсленай у аснаванні шыйкі (мал. 6: *7–9*), альбо адменнай ад шыйкі апрацоўкай паверхні тулава (мал. 6: *10*). Як правіла, гэта гладкасценны посуд, аднак да яго можа быць аднесены і фрагмент са штрыхаванай паверхняй (мал. 5: *1*).

Склад і асаблівасці керамічнага комплексу жалезнага веку, сабранага на селішчы, адпавядае характарыстыкам помнікаў тыпу Сураж–Трасцяніца, шырока распаўсюджаным у Нёманска–Бужскім водападзеле. Гэты гарызонт можа быць датаваны ў межах апошніх стагоддзяў да н. э.–рубяжу эр.

Аналіз знаходак дазваляе зрабіць выснову, што першапачатковае засяленне тэрыторыі помніка адбываецца ў мезаліце. У ранненеалітычны час жыццё на помніку спыняецца і аднаўляецца ў познім неаліце і працягваецца да першых стагоддзяў I тысячагоддзя н. э.

***Макс. М. Чарняўскі,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, старшы навуковы супрацоўнік, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск)*

# Археалагічныя даследаванні на Беларускім Паазер'і ў 2010 годзе

У 2010 г. асноўная ўвага была нададзена працягу даследавання паселішча Асавец-2 на Крывінскім тарфяніку (Бешанковіцкі раён Віцебскай вобласці). Акрамя таго, было выяўлена новае паселішча каменнага–бронзавага вякоў Сіньша (Залобавіца) на аднайменным возеры Расонскага раёна Віцебскай вобласці. Таксама пры ўдзеле супрацоўнікаў «Цэнтра падводнай археалогіі» (г. Вільнюс, Літоўская Рэспубліка), было праведзена абследаванне воз. Вула (Вілейскі раён Мінскай вобласці) і часткова воз. Мядзел (Мядзельскі раён Мінскай вобласці).

На паселішчы Асавец-2 працягваліся працы на раскопе, пачатыя ў 2009 г. (12 м$^2$) [1]. Усяго за 21 дзень экспедыцыі былі даследаваны 4 умоўныя пласты, на глыбіні ад 30 да 70 см. Мацярык па завяршэнні працы не дасягнуты, раскоп закансерваваны.

Методыка даследавання помніка – разборка метровымі квадратамі, умоўнымі пластамі па 10 см. Увесь перабраны грунт дадаткова прасейваўся на гнуткай пластыкавай сетцы. Выяўленыя ў квадратах артэфакты фіксаваліся на адзіным плане знаходак і заносіліся ў агульны спіс, індывідуальныя вырабы з прасейкі заносіліся толькі ў агульны спіс. Усе канструкцыі і асаблівасці культурнага пласта фіксаваліся і замалёўваліся. Пасля кожнага пласта праводзілася зачыстка і апісанне характару культурнага пласта.

Даследаваны культурны слой уяўляе сабой складаную кампазіцыю з гумусаванага торфу з дамешкамі белага азёрнага пяску, з украпінамі вугалля і кары. З пласта 30–40 см пачалі фіксавацца драўляныя канструкцыі, вельмі благой захаванасці, трухлявыя, часта раскладзеныя па валокнах. Яны прадстаўлены рэшткамі вертыкальных і пахіленых калоў, а таксама гарызантальнымі канструкцыямі, пераважна зарыентаванымі прыблізна па лініі поўнач–поўдзень. Асобна фіксуюцца скапленні спрэсаванай у аднародную масу кары, зольнікі і плямы замешанай гліны. З пласта 50–60 см пад буйнымі разваламі керамікі былі выяўлены масавыя скапленні рыбных костак і лускі, якія месцамі дасягалі магутнасці каля 20 см.

Даследаваныя напластаванні былі багатымі на знаходкі, якія прадстаўлены вырабамі з крэменю, костак і рогу, каменю, бурштыну, фрагментамі костак млекакормячых, птушак і земнаводных, вадзянымі і ляснымі арэхамі. Агульная колькасць апрацаваных артэфактаў складае 244 экзэмпляры.

Калекцыя крамянёвых вырабаў з раскопак 2010 г. налічвае 95 экзэмпляраў. Выяўлена 18 наканечнікаў стрэл, у тым ліку фрагментаваных (мал. 1: *2–4*), наканечнік дроціка (мал. 1: *1*), сякера з прышліфоўкай ляза (мал. 1: *7*), 2 адшчэпы з паверхні шліфаваных крамянёвых сякер; 30 скрабкоў (мал. 1: *5, 6*), 7 скобляў, праколка, 5 рэтушаваных адшчэпаў, 3 нажы (мал. 1: *8, 9*), 5 свердлаў, 22 неазначальныя вырабы і іх фрагменты. Артэфакты з першаснай апрацоўкай прадстаўлены адшчэпамі (448 экз.), пласцінамі (7), сколамі (14 экз.).

Як і ў калекцыях мінулых гадоў, частка вырабаў змайстравана не з уласна крэменю, але блізкага да яго мінералу, вызначэнне якога яшчэ не праведзена, таму ён падаецца пад умоўнай назвай крамяністы. Значная колькасць прылад выраблена з даволі нізкаякаснага крэменю.

Касцяных артэфактаў выяўлена 142 экзэмпляры. Найбольшую групу складаюць падвескі, пераважна са свідраваных зубоў жывёл – 34 экзэмпляры (мал. 2: *1–3*; 3: *6–8*). Неазначальныя фрагменты прадстаўлены ў колькасці 17 экзэмпляраў. Наканечнікаў стрэл выяўлена 5 (усе ў фрагментах), наканечнікаў гарпуноў – 1 (верагодны фрагмент), праколак – 14 (у тым ліку адна ўнікальная складаная кампазітная прылада; мал. 4), кручкоў рыбацкіх – 5 (мал. 3: *9*), крукоў рыбацкіх – 1 (мал. 2: *5*), вырабаў са шчапаных іклаў дзіка і разцоў бабра – 12, лішкавых фрагментаў майстравання прылад – 9 (мал. 3: *10*), пацерак і пранізак – 24 (мал. 2: *4*), арнаменціраў – 1 (мал. 2: *6*), мастэхінаў – 2 (мал. 2: *7*), іголак – 1, долатаў – 3, цясло – 1, штылетаў – 1, адціскальнікаў – 3, жалеек – 2 (мал. 2: *8*), нарыхтовак – 6.

Артэфакты з каменю прадстаўлены верагодным абломкам каменнай сякеры і абломкам авальнага грузіла (мал. 1: *10*).

Бурштынавыя вырабы прадстаўлены падвескамі, у тым ліку і сякерападобнымі, арнаментаваным гузікам і неазначальнымі фрагментамі, усяго 5 артэфактаў (мал. 3: *1–5*).

Вялікую колькасць знаходак склала шалупінне арэхаў лясных (287 экз.), ядры і шалупінне чылімаў (1654 экз., упершыню абсалютна пераважала менавіта шалупінне).

Керамічная калецыя традыцыйна найбольш масавая. Усяго выяўлена 5470 фрагментаў керамікі. З іх дробных і папластаваных неазначальных фрагментаў 2945 экз. З пазасталага 1931 фрагмента абсалютная большасць адносіцца да паўночнабеларускай археалагічнай культуры, некалькі экзэмпляраў можна аднесці да усвяцкай і яшчэ некалькі маюць дамешак дробнай жарствы або пяску і могуць быць аднесены да культур шнуравога кола. Выяўлены таксама злепак цеста з верагоднымі адбіткамі пальцаў, 2 фрагменты абпаленыя фігурныя (вырабы ?,




Мал. 1. Крамянёвыя *(1–9)* і каменны *(10)* вырабы паўночнабеларускай культуры: *1* – наканечнік дроціка; *2–4* – наканечнікі стрэл; *5, 6* – скрабкі; *7* – сякера; *8, 9* – рэжучыя вырабы; *10* – свідраванае грузіла (фрагмент). Асавец-2

цацкі ?). З азначальных фрагментаў керамікі да венцаў адносіцца 141 экзэмпляр, да донцаў – 20, да сценак – рэшта экзэмпляраў.

Кераміка паўночнабеларускай культуры дастаткова аднастайная па цесце і апрацоўцы паверхні. Гэта пераважна экзэмпляры з вялікай колькасцю тоўчанай ракавінкі і арганікі. Даволі часта сустракаюцца фрагменты птушынага пуху і пяра, значна радзей – дадаткі мінеральных адтлушчальнікаў (пяску і жарствы). Фрагментаў керамікі з наяўнасцю ў цесце толькі аднаго адтлушчальніка не было выяўлена.

Асноўная большасць фрагментаў керамікі арнаментаваныя насечкай і адбіткамі простага штампу. Значна менш фрагментаў з грабеньчатымі і шнуравымі адбіткамі.

Фрагменты керамікі усвяцкай культуры маюць гладкую паверхню, апрацаваную з дапамогай тэхнікі «малатка і кавадлачка», рэдкую і буйную арнаментацыю, або ўвогуле неарнаментаваную паверхню.

Акрамя апрацаванага матэрыялу ў раскопе была выяўлена 5281 адзінка касцянога матэрыялу млекакормячых і птушак, з іх 127 зубоў (з фрагментамі) і 861 кальцанаваны або абпалены фрагмент. Колькасць рыбных костак у раскопе вельмі значная, іх выяўлена больш за 50 тысяч.

У 2010 г. разам з археолагамі «Цэнтра падводнай археалогіі» з г. Вільнюса (Літоўская Рэспубліка)




Мал. 2. Касцяныя вырабы паўночнабеларускай культуры: *1–3* – падвескі; *4* – пацерка; *5* – крук рыбацкі; *6* – арнаменцір (грабеньчаты штамп); *7* – мастэхін з простым штампам на канцы; *8* – флейта. Асавец-2

з перспектывай на далейшае супрацоўніцтва былі праведзены спробы кароткіх даследаванняў ў двух кропках Беларускага Паазер'я. Для гэтага былі абраны воз. Вула Вілейскага раёна Мінскай вобласці і воз. Мядзел Мядзельскага раёна Мінскай вобласці.

Даследаванне воз. Вула паказала, што сённяшняе воднае люстэрка ўяўляе сабой менш 10 адсоткаў ад першапачатковага, а зафіксаванае ў дарэвалюцыйных публікацыях палевае паселішча знаходзіцца ў забагненнай яго частцы [2]. На воз. Мядзел былі абследаванны донныя ўчасткі навокал выспаў Замак, Гарадок, Уклейна. Падводны агляд першага з іх паказаў вялікую колькасць металічных парэштак, пераважна калючага дроту, якія засталіся ад двухгадовай лініі фронту Першай сусветнай вайны. Акрамя таго, на паўдарозе паміж востравам і паўвыспай Дубавое была выяўлена амаль цэлая гліняная міска, якая, аднак, мае шырокае датаванне ад XII ст. да XV–XVI стст. Востраў Гарадок уяўляе сабой на 2/3 змытае гарадзішча, на выспе Уклейна ў кратавінах сустракаюцца фрагменты ляпной керамікі з дамешкам жарствы.

У 2010 г. была праведзена кропкавая разведка на воз. Сіньша Расонскага раёна Віцебскай вобласці дзе, згодна з інфармацыяй, пададзенай А. М. Дарафеевым у 2008 г., у кратавінах сустракалася кераміка з ракавінным дамешкам і касцяныя вырабы.

Паселішча Сіньша (Залобавіца) займае паўвыспу ў месцы ўпадзення р. Дрыса ў воз. Сіньша. На ім былі закладзены 3 шурфы (адно памерамі 1 × 2 м і два – 1 × 1 м). Стратыграфія усіх трох шурфоў прыблізна аднолькавая (апісанне даецца па шурфе № 1):




Мал. 3. Бурштынавыя *(1–5)* і касцяныя *(6–10)* артэфакты: *1, 2, 4–8* – падвескі; *3* – гузік; *9* – рыбацкі кручок; *10* – нарыхтоўка рыбацкага кручка. Асавец-2

0…10–12 см – светла шэры / шэры дзярновы пласт;

10–12…26–28 см – цёмна шэры падзол лясны. У ім пачынаюць сустракацца рэдкія знаходкі;

26–28…36–40 см – аранжавата-жоўты пясок з частымі шэрымі ўкрапінамі, частка з якіх з'яўляецца слядамі норак мышэй. Менавіта ў ім размешчана асноўная колькасць знаходак;

36–40 см – мацярык – светла жоўты/бялёсы пясок з артзандамі.

Выяўлены даволі шматлікі матэрыял, найбольш кераміка. Яна шчыльная, са слядамі пераважна тоўчанай ракавінкі ў якасці адтлушчальніка, некаторыя фрагменты даюць магчымасць казаць пра арганічны дадатак. У якасці арнаменту выкарыстаны шэрагі гарызантальна пакладзеных С-падобных гладкіх дробных адбіткаў штампа, глыбокіх або плыткіх, чатырохзубы адносна шырокі грэбень, зрэдку сустракаюцца ямкавыя паглыбленні.

Частка фрагментаў мае адносна гладкую злёгка порыстую паверхню, што ў сукупнасці з лінзамі ракавінак на паверхні дазваляе нам казаць пра іх магчымую прыналежнасць да усвяцкай археалагічнай культуры. Частка фрагментаў мае заштрыхоўку паверхні, характэрную для паўночнабеларускай культуры, некаторыя шчыльна пакрытыя адбіткамі тонкай травы (поўсці ?), з-за чаго не прасочваецца апрацоўка паверхні. Адзін экзэмпляр пакрыты расчосамі як з унутранай, так і з вонкай паверхні, з верагоднымі адбіткамі ракавінкі на паверхні (нарвенская культура ?). Таксама адзін экзэмпляр з моцным дамешкам жарствы хутчэй за ўсё адносіцца да позняга бронзавага веку (днепрадзвінская культура).




Мал. 4. Касцяное кампазітнае шыла ў арнаментаванай рукаятцы з трубчастай косткі *(1)*; фіксатар *(2)*; вастрыё *(3)*. Асавец-2

## Літаратура

1. Чарняўскі, М. М. Справаздача аб археалагічных даследаваннях на Крывінскім тарфяніку ў 2009 г. // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 2685. – Мінск, 2010. – 73 с.

2. Казаринов, Л. Н. Следы свайных построек / Л. Н. Казаринов // Виленский вестн. – 1913. – 25 янв.

***Міх. М. Чарняўскі,*** *Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (г. Мінск)*

# Археалагічныя даследаванні ў Стаўбцоўскім, Мядзельскім, Уздзенскім, Бешанковіцкім, Сенненскім раёнах у 2009 годзе

Археалагічныя даследаванні ў 2009 г. праводзіліся ў Стаўбцоўскім, Мядзельскім, Уздзенскім, Бешанковіцкім і Сенненскім раёнах. Раскопкі адбываліся на розначасовых паселішчах каля в. Коматава і Александрова Гродзенскага раёна і на тарфяной стаянцы Асавец-2 Бешанковіцкага раёна.

**Стаўбцоўскі раён. *Вёска Мікалаеўшчына.*** У трохкутніку паміж левым берагам Нёмана і левым берагам каналізаванай р. Гавязны, 1,2 км на паўднёвы захад ад вёскі на поплаве размешчана пясчанае дзюнападобнае бугрыстае ўзвышша. На яго ўсходнім краі, над старыцай, размешчана селішча з ганчарнай керамікай і стаянка каменнага веку. У шурфе выяўлена складаная стратыграфія з вуглістых, глiністых і гумусаваных напластаванняў.

**Уздзенскі раён. *Вёска Луніна.*** За 250 м на поўдзень ад могільніку Луніна на вяршыні ворнага поля захаваўся сасновы лясок плошчай прыкладна 0,15 га. У ляску знаходзіцца непашкоджаны вялізны двухпаверховы бункер савецкай абарончай лініі на польска-савецкай мяжы да 1939 г. Праз 20 м на поўдзень ад бункера маецца адзінокі круглы курганны насып дыяметрам да 15 м і вышынёй 2,5 м. Між курганом і бункерам праглядаюцца рэшткі ніжэйшага расплывістага насыпу, у большасці знішчанага ровам вакол бункера. Выглядае, што да ўзвядзення бетоннага ўмацавання тут знаходзілася курганная група.

***Луніна-1.*** За 0,9–1,0 км на захад ад Луніна, на левабярэжным поплаве маецца авальная дзюна, выцягнутая з усходу на захад на 80 м пры шырыні каля 30 м. Пры заходнім канцы дзюны захаваліся рэшткі зарослай старыцы з хмызняком. Зачыстка сценкі аплыўшай невялікай ямы выявіла шэры гумусіраваны пласт пяску магутнасцю да 0,6 м з адзінкавымі дробнымі асколкамі паленага каменю.

***Луніна-2.*** За 1,5 км на захад ад Луніна знаходзіцца невялікае ўзвышша, што ўздымаецца над нізкім левабярэжным поплавам Нёмана на 1,3 м. Павышэнне выцягнута з усходу на захад на 30 м і мае шырыню каля 15 м. З заходняга краю ўзвышша праглядаюцца рэшткі цалкам зарослай старыцы. Закладзены на вяршыні шурф памерамі 1 × 1 м выявіў жоўта-шэры плямісты пласт з адзінкавымі расшчэпленымі крэменямі.

***Язвіны-1.*** За 1,7 км на паўночны захад ад вёскі, на левабярэжным поплаве Нёмана, каля левага берага р. Мутвіца пры яе ўпадзенні ў старыцу і каля ўсходняга берагу гэтай старыцы размешчана акруглая дзюна пад назвай Высокі груд, даўжынёй 80 м і шырынёй да 60 м, якая ўзвышаецца над поплавам на 3 м. Зачыстка раскапычанага каровамі паглыблення на яе вяршыні выявіла культурны пласт магутнасцю да 0,6 м з знаходкамі ганчарнай керамікі і нешматлікіх расшчэпленых крэменяў без рэтушы.

***Язвіны-2.*** За 40 м на поўдзень ад папярэдняй дзюны з помнікам Язвіны-1, за вузкай балацявінай размешчана меншае (50 × 60 м) і значна ніжэйшае (каля 1,5 м над поплавам) узвышша. У яго заходняй частцы выяўлены культурны пласт шэрага колеру таўшчынёй да 0,4 м з моцным насычэннем дробнага жужла.

**Мядзельскі раён. *Мястэчка Кабыльнік*** (зараз в. Нарач, цэнтр сельсавета). За 1,5 км на паўночны ўсход ад мястэчка, на усход ад канала, якім выпрастаны выток рэчкі Малінаўка (ранейшая назва – Сырмеж), якая выцякае з воз. Кузьміцкага (ранейшая назва – Сырмеж), 105 м на поўдзень ад шлюза з мастом у тарфянік выступае язык пясчана-гравійнага карэннага берагу. На ворыве, у паўночна-усходняй частцы выступу, на плошчы памерамі 30 × 40 м знойдзены нешматлікія расшчэпленыя крэмені.

**Пастаўскі раён. *Вёска Юнькі,*** цэнтр сельсавета. У фонды археалагічнага музея-лабараторыі гістфака БДУ ад студэнта 2-га курса А. У. Іванова паступіла каменная свідраваная сякера, знойдзеная каля в. Юнькі.

**Бешанковіцкі раён. *Асавец-4а.*** Каля паўднёва-заходняга падножжа гравійнага ўзгорка Брускавішча са стаянкай нарвенскай культуры Асавец-4 (помнік амаль цалкам знішчаны гравійным кар'ерам) былі закладзены два шурфы з мэтай выявіць магчымы працяг ранненеалітычнага пласта. Шурфы распрацоўваліся студэнтам 5-га курса БДУ У. В. Грыбам.

Паўднёвы шурф глыбінёй да 0,6 м, закладзены насупраць паўднёвага краю кар'ера, не выявіў артэфактаў. Паўночны шурф быў закладзены на поўнач ад папярэдняга праз 70 м і за 18 м на захад ад кар'ера. Яго плошча памерамі 1 × 2 м, тарфяністы пласт меў таўшчыню да 0,7 м, ніжэй пачаўся дробназерністы пясок азёрнага дна. У пласце выяўлены фрагменты позняга посуду паўночнабеларускай культуры.

**Сенненскі раён. *Вёска Галоўск*** (Багданаўскі пасялковы савет). Агляд адкосаў меліярацыйных канаў на поўдзень ад моста дарогі Галоўск–Малюшы

ў радыусе да 0,4 км не выявіў слядоў старажытных паселішчаў. Выходзіць, мяркуючы па невялікай затарфаванасці, што ў неаліце тут было не возера, а нізкая балоцістая мясціна, перарэзаная Пра-Крывінскай.

**Раскопкі ў зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС.** ***Помнік Коматава-1*** знаходзіцца за 0,5 км на паўночны захад ад ніжняй ускраіны в. Коматава. Ён быў выяўлены ў 2003 г. у час суцэльнага абследавання зоны будучага затаплення вадасховішчам Гродзенскай ГЭС, якое праводзілася супрацоўнікамі Інстытута гісторыі НАН Беларусі [2].

На помніку ў 2009 г. закладзены 4 раскопы агульнай плошчай 112 м$^2$. У здабытай калекцыі маюцца крамянёвыя вырабы, але асноўны матэрыял складае ганчарная кераміка сярэдневякоўя. Пласкадонныя гаршкі былі добра абпаленыя, мелі кароткія шыйкі і адагнутыя венцы. Некаторыя былі арнаментаваны гарызантальнымі хвалістымі барозначкамі, тыповымі для падобнага матэрыялу. Унікальным стала адкрыццё магчымых слядоў ворыва раннесярэдневяковага часу.

Ва ўсіх чатырох раскопах помніка Коматава-1 сустракаліся нешматлікія расшчэпленыя крэмені, аднак у самым паўднёвым (раскоп № 4) яны былі зусім адзінкавыя. Наяўнасць ланцэтападобнага вастрыя на пласцінцы і патынізаванага нуклеуса для вузкіх рэгулярных пласцін указваюць на мезалітычны час артэфактаў. Да таго ж пры раскопках не знойдзена керамікі неаліту ці бронзавага веку. Аднак крайняя малалікасць крамянёвага інвентару не можа сведчыць пра сталае засяленне нізкай тэрасы мезалітычным чалавекам. Выходзіць, што гэты ўзровень, які ў старажытнасці з'яўляўся высокім поплавам, мог толькі спарадычна наведвацца сухім летнім часам невялікімі групамі мезалітычных паляўнічых, сталыя паселішчы якіх знаходзіліся на больш высокіх узроўнях нёманскай даліны.

У жалезным веку ў сувязі з пагаршэннем і звільгатненнем клімату мясцовую тэрасу часта залівала вадой, таму яна таксама была непрыдатнай для засялення. Значыць, паселішча тут з'явілася толькі ў сярэдневякоўі, што было звязана з пранікненнем славян па даліне Нёмана ў кірунку будучага апорнага пункта каланізацыі – Горадзеня. Спачатку сярэдневяковая вёсачка «Коматава-1» знаходзілася ў месцы раскопу № 3. На поўнач ад яе было размешчана поле, ворыўныя сляды якога захаваліся ў раскопах № 1 і № 2. З часам паселішча пашырылася ў паўночным кірунку ў раён пералічаных раскопаў.

Несумненна, што жыхары сярэдневяковага паселішча займаліся лядным земляробствам і на ўзроўні высокай тэрасы, дзе знаходзяцца сучасныя в. Коматава і в. Мігова. Менавіта тут, каля Мігова, на выгарынах, і быў уладкаваны могільнік з каменнымі абкладкамі з балта-славянскім характарам пахавальнага абраду і інвентару [1]. Могільнік раскопваўся ў 1934 г. дырэктарам Гродзенскага музея Ю. Ядкоўскім. Яго матэрыял датаваны X–XIII стст. Трэба адзначыць, што большасць формаў посуду з могільніку ідэнтычна некаторым гліняным гаршкам з Коматава-1. З гэтага можна меркаваць, што помнік каля Мігова з'яўляўся родавым могільнікам коматаўцаў.

***Помнік Александрова-2*** размешчаны за 1,3 км на паўднёвы захад ад вёскі Александрова на вузкай паласе нізкай правабярэжнай наднёманскай тэрасы, якая ўзвышаецца над летнім узроўнем вады на 4–5 м. Выяўлены адначасова з Коматава-1.

У ліпені 2009 г. на паселішчы закладзены тры раскопы агульнай плошчай 272 м$^2$.

Атрыманы пры раскопках расшчэплены крэмень у асноўным даволі неахайны. У ім дамінуюць адшчэпы, з іх палова – падскарыністыя. Нешматлікія пласціны, як правіла, не маюць правільнага агранення. Сярод вырабаў адносна шмат скрабучых і рэжучых інструментаў. Разцы адзінкавыя. Нуклеусы даволі невыразныя. У цэлым крамянёвая індустрыя мае рысы выраджэння, што характэрна для познебронзавага часу.

Адзінкавыя крэмені маюць малочную паціну, іх адчлянялі ад нуклеусаў цвёрдым адбойнікам, а самі яны паходзяць з верхняй тэрасы, заселенай у фінальна-палеалітычны і мезалітычны часы.

Пры раскопках знодзена каля двух дзесяткаў фрагментаў слоікападобных ляпных пасудзін з жарсцвянымі дамешкамі ў сценках, паверхні якіх маюць пераважна падвертыкальную заштрыхоўку. Гэтая кераміка адначасовая з асноўным крамянёвым комплексам і датавана познебронзавым часам.

Ганчарная кераміка паходзіць ад пласкадонных добра выпаленых гаршчкоў з хвалістым арнаментам на плечыках. Падобны посуд у наваколлі старажытнага Горадзеня ўжываўся ў XIII–XVII стст.

Невялікія раскопкі на помніку Александрова-1 паказалі, што ён з'яўляецца паўночнай ускраінай Александрова-2.

**Аб першапачатковай назве р. Гараднічанкі.** Працякаючая праз сучасны Гродна рэчка Гараднічанка несумненна мае познюю назву, выводную з назвы горада. Аднак у старажытнасці бытаваў звычай называць дамінантнае паселішча на рэчках і невялікіх рэках па назвах гэтых вадаёмаў. Гэтаму ёсць шмат прыкладаў, не кажучы ўжо пра «рачныя» назвы старажытных гарадоў на суфіксы «ск» і «цк». Толькі на Панямонні ў Гродзенскім рэгіёне гэта: Гожа на Гажанцы, Ласосна на Ласосне, Індура на Індурцы, Котра на Котры, Скідзель на Скідзельцы, Лебяда на Лябёдцы, Свіслач на Свіслачы і г. д., прыклады можна працягваць. Значыць, каб вызначыць першапачатковы гідронім Гараднічанкі неабходна знайсці на ёй дамінантнае паселішча. Размяшчэнне яго ў прывусці рэчкі сумненнае, бо яно дало б назву

і гораду. Большасць вёсак узбярэжжа мае тапонімы позняга паходжання: Падкрыжакі, Кульбакі, Капліца, Ялоўшчына. Але вось у вярхоўях рэчкі маюцца населеныя пункты з загадкавай назвай – Русота (Русота, Каменная Русота, колішні двор Русота). Русота – выразная гідранімічная назва з суфіксам «та» (напрыклад, у Беларусі: Мнюта, Рэкста, Гнюта, Ута і г. д.). Такім чынам, з вялікай доляй верагоднасці можна меркаваць, што Гараднічанка першапачаткова называлася – Русота.

**Вынікі працягу раскопак на тарфяной стаянцы Асавец-2** (геаграфічнае размяшчэнне, тапаграфію і стратыграфію помніка гл. у працы [3]).

У паўночнай частцы паселішча, дзе залягае ў непарушаным стане культурны пласт з матэрыяламі ўсвяцкай культуры, працягвалася разборка ніжніх пластоў раскопу 2008 г. У выніку раскоп быў распрацаваны да мацерыка на глыбіню 1,0 м на плошчы 15 м$^2$.

Керамічная калекцыя, атрыманая пры раскопках у 2009 г., амаль цалкам адносіцца да ўсвяцкай культуры (461 фрагмент). На некаторых абломках малых пасудзін захаваліся стылізаваныя выявы птушак (мал. 1: *2, 3*; 2: *7*). Знойдзены таксама адзін фрагмент, тыповы для паўночнабеларускай культуры, і таксама адзін фрагмент на мацерыку, што належыць нарвенскай культуры. Асаблівай увагі заслугоўваюць абломкі амфары культуры шарападобных амфар (мал. 1: *1*).



Мал. 1. Кераміка: *1* – амфара культуры шарападобных амфар; *2, 3* – посуд з выявамі птушак (фрагменты). Асавец-2. 2009 г.

Дыяметр амфары па краі венца складаў 12,5 см, вышыня – 15–16 см. Яна мела вертыкальную шыйку (даўжынёй каля 2 см) , якая плаўна пераходзіла ў плечукі, а яны – ў круглае брушка. На плечуках захавалася шышкаватае вушка (пашкоджанае) з гарызантальнай адтулінай, праколатай палачкай авальнага сячэння. Дно пасудзіны плоскае. Пераход ад корпуса да дна з пераломам, але без выступаючай закраіны. Цеста, з якога фармавалася амфара, камкаватае і даволі насычанае мінеральнымі зярнятамі памерам да 0,5 см. Зярняты пераважна абкатаныя. Таўшчыня сценкі на шыйцы і плечуках – 0,6–0,7 см, на брушку – 0,7–0,8 см.

Звонку амфара першапачаткова мела шэра-рудаваты колер, але пры яе выкарыстанні ўзніклі расплывістыя цёмна-шэрыя да чорнага плямы. Унутраная паверхня цёмна-шэрая да чорнага, напэўна, ад задымленасці пры абпале на вогнішчы. Знешняя палова злому сценкі шэра-рудаватая, унутраная – шэрая, бліжэй да самой унутранай паверхні – цёмна-шэрая да чорнага.

Паверхні ў цэлым гладкія. Звонку на шыйцы прысутнічаюць слаба ўлоўныя сляды гарызантальнага загладжвання. На плечуках і брушку маюцца больш выразныя сляды косага злева–ўправа–ўніз загладжвання трэскай (?). Каля вушка захаваўся ўчастак вертыкальнага загладжвання, верагодна, следу ад праколу вушка палачкай. На ўнутранай паверхні месцамі бачны ледзь прыкметныя сляды падгарызантальнага загладжвання.

На плечуках амфары на ўзроўні вушка быў нанесены пояс вертыкальных крыху нерэгулярных насечак, зробленых злёгку нахіленай ўправа пласцінкай.

Амфара з Асаўца-2 – пакуль што адзінае несумненнае сведчанне пранікнення шарападобнікаў на Беларускае Падзвінне.

Акрамя фрагментаў посуду ў раскопе знойдзены керамічныя глянцавальнікі для таго ж посуду (мал. 2: *7*), вырабы з костак і рогу (мал. 2: *2–4*, *6*), нешматлікія расшчапаныя крэмені, каменныя адбойнікі (мал. 2: *5*).

Астэалагічны матэрыял складаецца з 119 фрагментаў костак жывёл, амаль цалкам фрагментаваных. Пры гэтым частка тоўстых трубчастых костак была расшчэплена па метаду крэмнеапрацоўкі на доўгія стрыжні-нарыхтоўкі. Па відавому складу, згодна вызначэння астэолагаў з Готландскага ўніверсітэта (Швецыя) М. Форсберг і А. Леннблад, першынства займаюць парэшткі дзіка, на наступных месцах – алень і бабёр. Даволі шмат костак птушак.




Мал. 2. Вырабы з гліны (*1, 7*), косткі (*2, 3, 6*), рогу (*4*) і каменю (*5*): *1* –пасудзіна з часткай выявы птушкі (фрагмент); *2* – наканечнік стралы; *3* – праколка-стамеска; *4* – сякера; *5* – адбойнік; *6* – цясло (нарвенская культура); *7* – глянцавальнік. Асавец-2. 2009 г.

## Літаратура

1. Кізюкевіч, Н. Матэрыялы могільніка каля в. Мігова (з даследаванняў Ю. Ядкоўскага) / Н. Кізюкевіч, Ю. Юркавец // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск, 2006. – Вып. 22.

2. Справаздача аб археалагічным абследаванні ўзбярэжжаў Нёмана ў зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС у 2003 г. / М. М. Чарняўскі [і інш.] // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 2106.

3. Чарняўскі, М. М. Справаздача аб палявых археалагічных даследаваннях у 2008 г. / М. М.Чарняўскі // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 2615.

***Міх. М. Чарняўскі,*** *Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (г. Мінск)*

# Археалагічныя даследаванні ў басейнах Нёмана, Віліі і Дзвіны ў 2010 годзе

Археалагічныя даследаванні 2010 г. праводзіліся на стаянцы Асавец-2 у Бешанковіцкім раёне, а таксама на тэрыторыі Мастоўскага і Стаўбцоўскага раёнаў вялося візуальнае абследаванне мясцовых помнікаў археалогіі з мэтай удакладнення іх спісаў. Дадаткова былі наведаны Уздзенскі, Вілейскі і Расонскі раёны.

***Тарфянікавая стаянка Асавец-2*** размешчана праз 1,2 км амаль проста на поўдзень ад в. Асавец Бешанковіцкага раёна пры ўпадзенні водаадвода ў магістральны канал р. Крывінкі. Помнік выяўлены ў 1966 г. аўтарам і раскопваўся ім жа, з перапынкамі, з 1966 г. (гл. справаздачы аўтара за 1966, 1968, 1969, 1972, 1976, 1979, 1980, 1983, 1986, 1991, 1992, 1995, 1996, 1998–2009 гг.). Пачынаючы з 2000 г., работы на помніку канцэнтруюцца ў яго паўночнай частцы, дзе пад пластом са знаходкамі паўночнабеларускай культуры (позні неаліт і бронзавы век, 0–0,5 м) залягае непарушаны пласт (0,5–1,0 м) амаль выключна сярэдненеалітычнай усвяцкай культуры. У мінулыя 2008–2009 гг. распрацоўваўся найбольш паўночны ўчастак плошчай 15 м$^2$ (кв. 323–337). Пры гэтым спачатку разбіраліся верхнія напластаванні, што адносяцца да паўночнабеларускай культуры. У 2010 г. раскоп даследаваны да мацерыка.

У канцы работы была зачышчана ўсходняя сценка раскопу ад дзённай паверхні. У сярэднім таўшчыня напластаванняў складала 1 м. На самым версе знаходзіўся моцна перавораны торф з невялікай дамешкай пяску. Ён утрымліваў вельмі здробненыя артэфакты паўночнабеларускай культуры. Ніжэй месцамі захаваўся прапластак непарушанага шэра-рудаватага торфу, які моцна трэскаецца пры высыханні. Пад торфам залягалі пясчыстыя прапласткі, якія адпавядаюць, верагодна, нейкаму перыяду абваднення тэрыторыі і размывання размешчанага на поўнач ад Аксінавага вострава. Яшчэ ніжэй залягаў пясок з гумусам і торфам. Ён падсцілаўся апясчаненым торфам з рэшткамі драўніны.

Атрыманы ў 2010 г. матэрыял утварае практычна адзіны комплекс усвяцкай культуры – фрагменты керамікі, прылады працы і паляўнічая зброя, упрыгажэнні, моцна шчапаныя косткі, рэшткі вадзяных і лясных арэхаў, рознае арганічнае смецце.

Найбольш шмат ўсвяцкай керамікі. Гэта масавы матэрыял. У справаздачным годзе, як і ў мінулым, атрымана каля паўдзесятка фрагментаў пасудзін культуры шарападобных амфар.

**Індывідуальныя знаходкі.**

1. Фрагмент пасудзіны з галоўкай качкі (гл. малюнак: *2*). Паверхні чарапка светла-шэра-рудаватыя, на ўнутранай – пласт нагару, узяты для датавання. Захавалася галоўка, шыйка і пярэдняя частка корпуса птушкі, арыентаваная ўправа. Малюнак зроблены лініямі косых семечкападобных насечак прыкругленым канцом таўставатай пласцінкі. Арнаменцір трымаўся крыху нахіленым управа. Насечкі-паглыбленні маюць мучністы светлы колер. Магчыма, у старажытнасці яны былі запоўнены нейкай светлай пастай. Галоўка і шыйка ўтвораны трыма лініямі насечак, корпус – чатырма, пры гэтым ў верхняй лініі насечкі косыя ўлева. Абрысамі і манерай выканання гэта качка падобная на знаходку 2006 г. з-пад мацерыка ў недалёкім кв. 318. Праўда, ранейшая выява была выканана адбіткамі таўстазубага штампа (кв. 331, пл. 80–90 см).

2. Невялікі фрагмент сценкі з рэшткамі нейкага, магчыма выяўленчага, малюнка, зробленага лініямі косых насечак адступаючай пласцінкай (гл. малюнак: *3*) (кв. 324, пл. 80–90 см).

3. Падвеска бурштынавая крыху няправільнаавальнай формы з франтальнай, блізкай да цыліндрычнай, адтулінай. Паверхня аздобы добра запаліраваная, паабапал вушка на вузкіх баках захаваліся невялікія сляды натуральнай паверхні нарыхтоўкі (гл. малюнак: *6*) (кв. 328, пл. 70–80 см).

4. Прасвідраваная падвеска з сківіцы дробнага драпежніка – куніцы (?). Клыковая частка адламаная (гл. малюнак: *4*) (кв. 325, пл. 70–80 см).

5. Наканечнік стралы касцяны, плоскачаранковы, даволі кароткі. Корпус амаль цыліндрычны, вастрыё конусападобнае з рэзкім пераходам да корпуса, першапачаткова пазначаным на цыліндрычным стрыжні нарыхтоўкі кальцавой нарэзкай тонкай крамянёвай прыладай. Пераход ад корпуса да плоскага чаранка таксама пазначаны нарэзкай, але менш акуратнай (гл. малюнак: *5*) (кв. 330, пл. 90–100 см).

6. Праколка з даволі тонкага стрыжня, адколатага ад сценкі велікаватай трубчастай косткі. Вастрыё асіметрычна завостранае, кончык дзюбкі адламаны, на вузкіх баках прыкметны папярэчныя драпіны і паглыбленні спрацаванасці (гл. малюнак: *9*) (кв. 325, пл. 70–80 см).

7. Артэфакт на крамянёвым адшчэпе з даволі зубчастай рэтушшу на адным краі з дарсальнай і вентральнай плашчыняў. Участак аналагічнай рэтушы маецца і на супрацьлеглым краі каля вастрыя. Выходзіць, што першапачаткова планавалі змайстраваць буйны наканечнік стралы. Пры гэтым, мяркуючы па колеру і свежасці рэтушы, для апрацоўкі быў падабраны на паселішчы стары адшчэп (гл. малюнак: *8*) (кв. 324, пл. 80–90 см).

Найдены обломки сосудов для розлива спиртных напитков. Это один фрагмент стенки из светло-зеленого стекла, который можно связать со штофом или квартой, которые бытовали длительное время с XVI по XIX в. [2, с. 352]. Бутылки из темно-зеленого и светло-зеленого стекла имели толстые стенки 7–9 мм, вогнутое внутрь до 4–5 см днище. Такую тару изготовляли в XVIII–XIX вв. В коллекции есть и посуда для питья – так называемые скляницы, которые использовались для пива, меда или вина. Например, одна скляница имела днище диаметром 3,8 см, которое было вогнуто внутрь на 1 см, почти отвесные стенки толщиной 4–5 мм, придонная часть украшена стеклянным валиком (рис. 2: *25*). Ближайшие аналогии известны среди могилевских скляниц [14, с. 115]. В Витебске подобная посуда для питья выявлена в слоях XVII в. [3, с. 129].

Обнаружены также фрагменты верхних частей скляниц (все из светло-зеленого стекла и покрыты патиной). Один сосуд (рис. 2: *20*) имеет цилиндрическую форму, диаметр устья 10 см, край венчика округлый, толщина стенок сверху 4 мм, в средней части 2–3 мм, у дна 6 мм. Похожие изделия находили на селищах Верхнего Понеманья, в Заславье и Витебске [2, мал. 239: *6–7*, 241: *15*; 13, с. 68, рис. 41: *1*]. Вторая скляница украшена поперечными горизонтальными выпуклыми тонкими линиями (рис. 2: *21*), диаметр устья – 8 см, край венчика уплощен, толщина стенок сверху 5 мм, снизу – 3 мм. Третья скляница была конической формы диаметром 10 см, толщина стенок – 3 мм, видны пузырьки воздуха (рис. 2: *22*). Сосуды такой формы известны в Верхнем Понеманье [13, с. 68, рис. 41: *2*]. Описанные предметы датированы XVI–XVIII вв.

Изделий из железа найдено мало. Подковка под каблук (рис. 1: *9*) изготовлена из пластины толщиной 5 мм, шириной 1,1 см. Сохранился один крайний шип высотой 1 см. Массовое распространение таких подковок приходится на XVI–XVIII вв. [2, с. 358]. Например, в Минске подковки с тремя шипами найдены в слое и в комплексах XVI — первой половины XVII в. [8, с. 155, рис. 1: *3, 4*]. В Мире самые древние подковки имеют дугообразную пластину высотой до 2,5 см с тремя шипами (по краям и в центре) и датированы концом XV – XVI в. [9, с. 66, рис. 306: *2, 3*].

Лошадиная подкова (рис. 1: *11*) имеет дугообразную форму с вытянутыми концами, ее высота – 13 см, ширина – 11,4, толщина пластины – 0,7–0,8, ширина дуги – 2,5 см. Такие подковы появились не ранее конца XVII в. или же в начале XVIII в. и широко использовались в XIX–XX вв. [2, с. 272]. С конской упряжью можно связать кольцо диаметром 8,2 см, выкованное из пластины шириной 1,7 см и толщиной 0,6 см. На суженной части кольца сохранился обломанный язычок (рис. 1: *8*). Обломок лезвия ножа (рис. 1: *10*), толщина спинки – 3 мм, ширина прямого клинка – 1,4 см. Широкое время бытования.

XIX–XX веками датированы обломки фарфоровой, фаянсовой и часть глиняной посуды. Флаконы аптечные и парфюмерные из прозрачного голубого или бесцветного стекла характерны для XX в.

В большом количестве обнаружены кости животных. По определению А. А. Разлуцкой ими представлены лошади, крупный рогатый скот, свиньи, овцы, козы, собаки, заяц, лось, птицы семейства Куриных и водоплавающих.

Археологические исследования, проведенные в сохранившейся части парка Чернышевых-Кругликовых в пределах зоны благоустройства, позволяют утверждать, что данная территория была заселена еще в XVI–XVIII вв. (до разбивки парка) и являлась посадом древнего Чечерска. Об этом свидетельствуют как наличие культурного слоя мощностью до 0,8 м, так и найденные в нем предметы материальной культуры.

**Литература**

1. Анціпаў, В. Р. Чачэрскі парк / В. Р. Анціпаў // Беларуская энцыклапедыя. – Мінск : БелЭн, 2003. – Т. 17. – С. 267.

2. Археалогія Беларусі : у 4 т. – Мінск, 2001. – Т. 4: Помнікі XIV–XVIII стст.

3. Бубенько, Т. С. Стеклянная посуда из Витебска / Т. С. Бубенько // Древности Литвы и Белоруссии. – Вильнюс, 1988. – С. 125–129.

4. Ганецкая, І. У. Раскопкі ў Маладзечне / І. У. Ганецкая // Гіст.-археалаг. зб.– Мінск, 1996. – № 8. – С. 66–84.

5. Ганецкая, І. Раскопкі старажытнага Слоніма / І. Ганецкая, Н. Здановіч // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск, 1996. – № 10. – С. 112–128.

6. Гарады і вёскі Беларусі : энцыклапедыя. – Мінск : БелЭн, 2005. – Т. 2, кн. 2: Гомельская вобласць.

7. Жаровіна, Г. П. Помнікі Чачэрска / Г. П. Жаровіна, І. М. Чарняўскі, І. В. Дземура. – Мінск, 1985.

8. Заяц, Ю. А. Новые археологические исследования Верхнего города Минска / Ю. А. Заяц // Гіст.-археалаг. зб. – Мінск, 2001. – № 16. – С. 151–166.

9. Здановіч, Н. І. Матэрыяльная культура Міра і Мірскага замка / Н. І. Здановіч, А. К. Краўцэвіч, А. А. Трусаў. – Мінск : Навука і тэхніка, 1994.

10. Левко, О. Н. Витебск / О. Н. Левко. – Мінск : Беларус. навука, 2010.

11. Пазднякоў, В. С. Клецк X–XVIII стст. Матэрыяльная і духоўная культура беларускага феадальнага горада / В. С. Пазднякоў. – Мінск, 2008. – 287 с. : іл.

12. Ткачоў, М. А. Чачэрск / М. А. Ткачоў // Археалогія і нумізматыка Беларусі. – Мінск : БелЭн, 1993. – С. 644.

13. Шаблюк, В. У. Сельскія паселішчы Верхняга Панямоння XIV–XVIII стст. / В. У. Шаблюк. – Мінск : Навука і тэхніка, 1996.

14. Яніцкая, М. М. Вытокі шкларобства Беларусі / М. М. Яніцкая. – Мінск : Навука і тэхніка, 1980.

*А. В. Іоў, Інстытут гісторыі НАН Беларусі, старшы навуковы супрацоўнік, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск)*

# Новыя даследаванні ў Юравічах і на паселішчы Чарнаўчыцы-1

Летам 2008–2009 гг. аўтарам ў складзе Палескай археалагічнай групы Інстытута гісторыі НАН Беларусі працягваліся даследаванні на дзядзінцы сярэдневяковага археалагічнага комплексу ў в. Юравічы Калінкавіцкага раёна і рознachасовага паселішча-1 каля в. Чарнаўчыцы Брэсцкага раёна [1, с. 229–230; 2, с. 196–1983; 3, с. 236–240]. Работы праводзіліся на падставе Дазволаў № 1960 і 2060 па форме № 1, фінансаваліся са сродкаў Інстытута гісторыі НАН Беларусі.

Раскопы агульнай плошчай 120 м$^2$ былі закладзены на дзядзінцы ў Юравічах. Вывучаны кв. 16–25 участкаў В21, В22 і кв. 1–10 участка Г22, якія прымыкаюць да раскопаў 2007 г. з поўдня. Таксама раскапаны два шурфы па-за межамі дзядзінца агульнай плошчай 23,5 м$^2$, якія прымыкалі з двух бакоў да кв. 1–3 раскопу Е. Г. Калечыц 2005 г., закладзенага для вывучэння палеалітычнай стаянкі (участак Y5).










Мал. 1. Кераміка з участкаў В22 и Б21: *1* – № 669; *2* – № 150; *3* – № 579. Юравічы. 2008 г.

Стратыграфія культурнага слою ў гэтай частцы дзядзінца, як і ў папярэдніх раскопах, не складаная: па ўсёй плошчы раскопу на ўсю глыбіню ён мае інтэнсіўна чорны колер. Толькі за некалькі сантыметраў ад мацерыка слой святлее. Таўшчыня культурных напластаванняў складае ад 0,33 м ў паўночна-ўсходняй частцы раскопу да 0,46 м у паўднёва-заходняй. Мацярык не аднародны – супесак і марэнны суглінак жоўтага і амаль чырвонага колеру.

У мацярыку цалкам і часткова расчышчаны 27 ям. Адна з іх – № 18 (В21/20,25; В22/16, 17, 21, 22) – паўзямлянка з купальнай глінабітнай печчу. Яе памеры – 4,35 × 4,4 м. Паглыблена ў мацярык на 1,05 м, сценкі вертыкальныя, дно плоскае. Запоўнена слоем чорнага колеру. Печ добрай захаванасці размешчана ў паўночна-ўсходнім куце паўзямлянкі. Яна мае амаль круглую форму дыяметрам 1,46 м, вышыню – 0,8 м. Пад печчу ёсць слой светла-шэрага колеру таўшчынёй да 0,16 м, што гаворыць пра наяўнасць тут калісьці драўлянага каркасу. У запаўненні жытла знойдзена (з улікам раскопак 2007 г.) 460 фрагментаў ганчарнай керамікі, 101 костка жывёліны, жалезны нож, костка з адтулінай для гульні, калачападобнае крэсіва, касцяныя праколкі, шыфернае праселка, жалезны абруч ад вядра.

Усяго ў 2008–2009 гг. на дзядзінцы быў знойдзены 4781 фрагмент раннеганчарнага посуду (мал. 1, 2), 9 ляпных, 355 костак жывёлін. Усе венцы ганчарнай керамікі належаць да гаршкоў рубяжа 1–2 тысячагоддзяў н. э.

Знойдзена 38 індывідуальных знаходак: тачыльныя камяні (4 экз.), жалезныя нажы (7), касцяныя праколкі (4), шыферныя праселкі (4), железнае крэсіва, жалезныя шылы (2), каралавая пацерка, наканечнікі стрэл (2), рагавы псалій (мал. 3) і інш.

Улічваючы вынікі раскопак 2005 г. А. Г. Калечыц на вузкім мысе (знаходкі шматлікіх фрагментаў кафлі, у тым ліку з езуіцкай сімволікай, керамічны посуд XVII–XVIII стст.), а таксама звесткі з кніг пра Юравіцкі кляштар Ф. Колерта і М. Чэрмінскага [4, 5], намі была зроблена здагадка пра месцазнаходжанне драўлянай капліцы езуіцкага місіянера Марціна Тыраўскага, які ў 1673 г. прывёз сюды цудатворную ікону Маці Божай Юравіцкай. Паводле вышэйузгаданых кніг, ікона дала зразумець місіянеру, што хоча застацца ў Юравічах, і ён пачаў шукаць месца для будаўніцтва драўлянай капліцы, у якой павінен быў захоўвацца вобраз. Праз тыдзень Тыраўскі выбраў высокі вузкі выступаючы ў бок вёскі мыс Мазырскай грады, дзе захаваліся «валы ад якога-та старажытнага замка» (наш дзядзінец X–XI стст.). Месцазнаходжанне капліцы ўгадваецца таксама па гра-

фічнаму малюнку невядомага мастака 1865 г. Гэта найбольш высокі і прыкметны з боку вёскі мыс ў наваколлі. Дзякуючы гэтаму, тут у савецкі час быў збудаваны манументальны помнік У. Леніну. Зараз ад яго захаваўся бетонны пастамент.

Акрамя таго, вышэйназваныя аўтары паведамляюць, што мыс для будаўніцтва капліцы быў абраны недалека ад месца павароту старой дарогі з Калінкавіч на Хоцімск, якая існуе і зараз.

Вырашана было закласці два шурфы агульнай плошчай 23,5 м$^2$ па абодва бакі кв. 1–3 раскопу А. Калечыц 2005 г. [6].

Стратыграфія культурнага пласта на ўскрытых шурфамі участках даволі складаная ў сувязі з тым, што яна была неаднаразова парушана (будаўніцтва капліцы, пракладка электралікіі да помніка У. Леніна, будаўніцтва помніка). Увесь першы пласт (0,3 м) уяўляе сабой баласт, перакрыты сучаснай лясной глебай. Ён сустракаецца да з'яўлення жоўтага супеску, у які ўрэзаны ямы featureрознага прызначэння. Такім чынам, культурны пласт у шурфах быў стракаты і неаданародны. Мацярык – жоўтыя суглінак і супесак, у ім цалкам і часткова расчышчана 10 ям нявызначанага прызначэння. Таўшчыня культурнага пласта складае ад 0,69 да 0,96 м$^2$.

Усяго ў шурфах было знойдзена 45 фрагментаў раннеганчарнай керамікі, 2 фрагменты ляпной мілаградскай культуры, 10 костак жывелін, 238 фрагментаў познеганчарнай керамікі (XVII–XVIII стст.), 342 кафлі, 447 фрагментаў вырабаў са шкла, 12 жалезных цвікоў, 6 індывідуальных знаходак. Сярод шкляных вырабаў у калекцыю ўзяты 81 кавалак аконнага шкла і 189 фрагментаў шклянога посуду. Большасць ваконнага шкла мела таўшчыню 0,15–0,3 см і круглую ў плане форму дыяметрам каля 14–15 см, па перыметру края загнуты. Астатнія аналагічны папярэднім за выключэннем формы перыметра. Яна не круглая, а шматгранная.

Шкляны посуд прадстаўлены кавалкамі чарак, келіхаў і шклянак XVII–XVIII стст., некаторыя з якіх удалося рэстаўраваць. Мяркуючы па фрагментах, у калекцыі налічваецца не менш 7 келіхаў, 3 чарак і 7 шклянак.

Значная частка фрагментаў кафлі пакрыта зялёнай палівай. Паліхромных вырабаў няма. Па форме вылучаюцца карнізная, вуглавая, паясковая, сцянная, каробчатая кафля. Асноўная яе маса мае дэкор двух відаў – раслінны і геральдычны (маецца на ўвазе езуіцкая сімволіка). Самая распаўсюджаная езуіцкая эмблема – абрэвіятура IHS (літара Н вянчае крыж). Часта абрэвіятура абрамлена прамянямі сонца. У розных частках свету яна тлумачыцца па-рознаму: «In Hac Salus» (У гэтым [крыжы] выратаванне); «Iesus Hominum Salvator» (Ісус, Збавіцель Чалавецтва); «In Hoc Signo [Vinces]» (З Ім Пераможаш); в Германии «Jesus Heil und Seligmacher» (Ісус Збавіцель і Скупіцель). Сустракаецца таксама і другі варыянт абрэвіятуры з прамянямі сонца, але нам ён невядомы.




Мал. 2. Кераміка з участкаў В22 и Б21: *1* – № 635; *2* – № 637; *3* – № 640. Яма 22. Юравічы. 2008 г.




Мал. 3. Рагавы псалій (№ 45). Юравічы. 2008 г.

Знойдзены таксама шматлікія кавалкі цэглы-пальчаткі, якія на Беларусі выкарыстоўваліся да XVIII ст. Відавочна, гэта рэшткі падмурка драўлянай капліцы Марціна Тыраўскага.

З індывідуальных знаходак вылучаюцца каронны траяк Жыгімонта III 1622 г., жалезная падкоўка ад абутку, жалезны дзвярны завес.

* * *

У Брэсцкім раёне ў 2008 г. былі працягнуты работы на помніку Чарнаўчыцы-1. Падчас візуальнага агляду з выкарыстаннем дэтэктара металу на паверхні сабрана 21 індывідуальная знаходка. На краі тэрасы быў закладзены раскоп плошчай 48 м$^2$ (4 × 12 м). Стратыграфія культурнага пласта ў гэтай частцы селішча простая: зверху размешчаны пласт чорнага колеру таушчынёй да 0,55 м, ніжэй – пераходны да мацерыка светла-шэры пласт таўшчынёй 0,05–0,07 м. Мацярык роўны – жоўты сярэднезярністы пясок. Найбольшая розніца яго ўзроўняў складае 0,41 м. Аб’ектаў у раскопе няма.

Усяго ў раскопе быў знойдзены 2441 фрагмент раннеганчарнай керамікі, 31 – ляпной, 2 зуба жывёлін, 7 індывідуальных знаходак. Паводле вызначэння М. Лашанкова і В. Беляўца, сярод ляпной керамікі налічваецца 5 кавалкаў глянцаванага посуду, 11 кавалкаў – храпаватага, астатнія – гладкасценныя. Вылучана таксама некалькі другасна абпаленых сценак посуду. Па культурнай прыналежнасці выразна вылучаецца кампанент вельбарскай культуры. Частка керамікі, магчыма, належыць да пшэворскай культуры.

Уся раннеганчарная кераміка выраблена з гліны карычневага і блізкага да чырвонага колеру з дамешкамі буйна- і сярэднезярністай жарствы. Па прафіліроўцы венцаў вылучаны 5 тыпаў гаршкоў. Большасць з іх датаваны X–XI стст. Каля 39% посуду бытавала ў XII–XIII стст. Знойдзена таксама два венцы ад патэльняў.

Сярод індывідуальных знаходак вылучаюцца зорачка ад шпоры, тры нажы, скаба. Акрамя таго, у якасці пад’ёмнага матэрыялу знойдзены таксама 4 нажы, 3 бронзавыя бразготкі, 2 бронзавыя падковападобныя фібулы, паясная бронзавая спражка і іншыя знаходкі.

**Літаратура**

1. Іоў, А. Даследаванне старажытнарускіх гарадзішчаў Палесся / А. Іоў // Гіст.-археалаг. зб. / Ін-т гісторыі НАН Беларусі. – Мінск, 2005. – № 20. – С. 229–230.

2. Иов, О. Работы на средневековых памятниках Полесья / О. Иов // Гіст.-археалаг. зб. / Ін-т гісторыі НАН Беларусі. – Мінск, 2006. – № 21. – С. 196–198.

3. Иов, О. Исследование Юровичского древнерусского комплекса и памятников Брестской области / О. Иов // Гіст.-археалаг. зб. / Ін-т гісторыі НАН Беларусі. – Мінск, 2008. – Вып. 23. – С. 236–240.

4. Kolert, F. Krynice cudownych łask Maryi z Jurowickich Gór wynikające... / F. Kolert. – Nieświz : drukarnia Jego Xiącey Mości in Collegio Soc: JESU, 1755. – 251 s.

5. Czermiński, M. Historya obrazu Matki Boskiej Jurowickiej znajdującego się obecnie w Kościele św. Barbary w Krakowie / M. Czermiński. – Wydanie druge powiększone. – Kraków : Czasu, 1910. – 61 s.

6. Калечиц, Е. Г. Отчет об археологической стоянке Юровичи Калинковичского района Гомельской области по договору № 1 от 25.04.2005 г. / Е. Г. Калечиц // Архив ИИ НАН Беларуси. – Д. № 2269.

***Л. У. Калядзінскі,*** *Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя М. Танка, кандыдат гістарычных навук, дацэнт (г. Мінск);*
***М. С. Мароз,*** *саіскальнік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (г. Мінск)*

# Вынікі назіранняў за землянымі будаўнічымі работамі ў гістарычнай зоне Капыля ў 2010–2011 гадах

Паняцце гістарычная зона часам сустракаецца ў літаратуры [26, с. 23–30; 29, с. 23–26; 30, с. 23–26]. Але выразнага тлумачэння, фармуліроўкі гэтага паняцця не даводзіцца. Таму, з улікам літаратурных крыніц і ўласных назіранняў прапануем сваю фармуліроўку гэтага паняцця.

Пад гістарычнай зонай горада мы разумеем тую яго частку, на якой захавалася, або захоўвалася забудова, якая гістарычна склалася ў мінулыя стагоддзі, ці нават ў апошняе стагоддзе, – месца, дзе адбываліся, разгортваліся гістарычныя падзеі і дзе захаваўся ці можа захоўвацца культурны пласт старадаўняга паходжання. Як правіла, гістарычная зона горада адлюстравана на планах канца XVIII – пачатку XX ст.

У дачыненні да Капыля, якому прысвечана наша публікацыя ў гэтым зборніку, мы вылучылі ў гістарычную зону тэрыторыі колішніх Верхняга і Ніжняга замка Капыля. Гэта Замкавая гара з прылягаючай да яе тэрыторыяй пасада-вакольнага горада, гарадскі курганны некропаль, размешчаны на могілках XIX–XX стст. і тэрыторыя правабярэжжа р. Каменкі, абмежаваная вуліцамі Пралетарскай, М. Горкага і вул. Мінскай, дзе захаваліся будынкі XIX – пачатку XX ст. і дзе, па нашых назіраннях у 1996–2007 гг., і нашых папярэднікаў Уладзіміра Малюковіча ў 1979 г. і Аляксандра Краўцэвіча ў 1986 г., у выніку земляных будаўнічых работ быў прасочаны культурны пласт і траплялася кераміка XVII–XVIII стст. Гэтыя звесткі адлюстраваны ў справаздачах аб палявых работах у Капылі і на старонках мясцовай перыёдыкі [3, 8–13, 17].

Цэнтральнае месца на гэтай тэрыторыі займае плошча Леніна, на якой месціцца будынак райвыканкама, узведзены ў 1970-я гады. Першыя пісьмовыя звесткі аб засваенні гэтай тэрыторыі адносяцца яшчэ да 1439 г., калі тут, амаль насупраць будынка райвыканкама, сынам Жыгімонта Кейстутавіча, літоўскім намеснікам Міхаілам быў узведзены першы каталіцкі храм [15, с. 181].

Да сярэдзіны XVII ст. згаданая тэрыторыя стала гандлёвым цэнтрам паселішча – рынкам. На працягу некалькіх стагоддзяў тут праходзілі вядомыя ў Вялікім Княстве Літоўскім Капыльскія кірмашы. Інвентар Капыля 1669 г. згадвае 102 прэнты пляцу рынкавага [19, с. 1–3]. У 1693 г. на рынку згадваюцца ўжо крамы [20, с. 7–7 адв.].

У 1695 г. на Рынкавай плошчы адбылася ўзброеная сутычка паміж атрадамі Казіміра Яна Сапегі і Ка́раля Станіслава Радзівіла за права ўладання горадам [2, с. 33–52]. Інвентар 1701 г. згадвае на рынку тыя ж 102 прэнты зямлі з крамамі [22, с. 248–254]. У 1759 г. на рынку стаялі 29 крамаў і 19 спіхлераў [21, с. 14]. У інвентарным апісанні забудавання скарбовага ў месцы Капыль, датаваным 1809 г., сустракаецца згадка аб карчме старой з дрэва хваёвага [22, с. 2]. Параўнаўшы гэтыя даныя з планам Капыля 1878 г., на якім пазначана карчма [25], можна зрабіць выснову, што знаходзілася яна, прыкладна, на месцы сучаснага будынка па адрасе плошча Леніна, 4, дзе зараз размешчаны будынак Капыльскага краязнаўчага музея [27]. На згаданым плане, побач з карчмой, пазначаны яшчэ адзін будынак, дзе сёння адбываецца рэканструкцыя дома па адрасе плошча Леніна, 2, пра што пойдзе гаворка далей. Магчыма, гэта быў свіран, вядомы з інвентару 1846 г., дзе пра яго згадана так: «…возле корчмы небольшой амбар с ледовнею, построенный с пиленого соснового дерева, покрытый соломой, совершенно ветхий» [18, с. 2].

Паводле пісьмовых крыніц, Капыль неаднойчы падвяргаўся пажарам, падчас якіх згарала значная частка горада. Адзін з такіх пажараў адбыўся ў 1878 г., падчас якога згарэла 140 дамоў. Апошні, найбольш вялікі пажар, пра які згадвае газета «Наша Ніва», калі згарэла не толькі большая частка горада, але нават і будынак пажарнай часткі, адбыўся ў 1905 г. [23, с. 203]. Пасля гэтага, па словах старажылаў, на месцы старых драўляных у цэнтры плошчы былі ўзведзены мураваныя будынкі.

У 1920–40-я гады ў гэтых будынках былі размешчаны розныя грамадскія ўстановы. У часы Другой сусветнай вайны гэтыя будынкі былі заняты акупантамі пад кашары, сталовую і інш. А ў будынку, пра які пойдзе гаворка, была размешчана камендатура. У апошняе дзесяцігоддзе ў гэтым будынку месціліся Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва і Экалагічная служба Капыльскага раёна.

У лістападзе 2010 г. навокал будынка і на тэрыторыі, што прылягае да яго, былі распачаты земляныя будаўнічыя работы. Заказчыкам работ выступіла Інвестыцыйнае будаўнічае камунальнае ўнітарнае прадпрыемства Упраўлення капітальнага будаўніцтва г. Капыля (ИСКУП «УКС-КОПЫЛЬ»). Выканаўца работ, генпадрадчык – прыватнае будаўнічае унітарнае прадпрыемства (ПУП «ИМО», г. Дзяржынск). Мэта работ – мадэрнізацыя будынка.

Пра гэтыя работы нам паведамілі супрацоўнікі Капыльскага раённага краязнаўчага музея. Ра-

боты адбываліся літаральна пад яго вокнамі. У канцы снежня ўдалося выехаць на месца работ. На момант нашага прыезду па перыметры будынка была выкапана траншэя шырынёй 2,4 м на глыбіню 1,2–1,7 м, у выніку чаго быў аголены падмурак будынка. Ён уяўляў сабой муроўку з камянёў памерамі 20 × 30–40 см, складзеных на вапне. У тарцовай частцы будынка было выяўлена скляпенне, складзенае з цэглы. Памеры цэглы 25 × 7 × 13 см. Таўшчыня швоў – 2 см. Кладка на вапне. Памеры скляпенняў мелі вышыню 115 см і шырыню 117 см. Прастора скляпенняў была запоўнена будаўнічым друзам (бітай цэглай, камянямі). Магчыма, што гэта быў уваход у сутарэнні памяшкання будынка, які з цягам часу аказаўся перакрыты культурным пластом, таўшчыня якога, навокал будынка, вагаецца ад 30 да 50 см. Культурны пласт па колеру светла-шэры, па структуры шчыльны. Тады ж супрацоўнікамі музея былі нам прадэманстраваны і некаторыя знаходкі, сабраныя з гэтага пласта. Гэта былі фрагменты керамікі XVII–XVIII стст. і артэфакты першай паловы XX ст. Сам будынак, мяркуючы па матэрыялу і тэхніцы ўзвядзення муроўкі, мажліва аднесці да пачатку XX ст.

Наступны агляд месца работ адбыўся ўжо ў сярэдзіне студзеня 2011 г. Новых земляных работ на гэты раз ужо не праводзілася. Праўда, з жалем даводзілася назіраць, як руйнаваліся сцены гэтага будынка, прастаяўшага без малага гадоў сто.

Калекцыя знаходак, якую нам на гэты раз прадэманстравалі супрацоўнікі музея, налічвала больш за тры дзесятка адзінак – вырабаў з гліны, шкла і металу.

Вырабы з гліны прадстаўлены фрагментамі кухоннага і сталовага посуду. Найперш, заслугоўвае ўвагі фрагмент паліхромнага кубка (гл. малюнак: *3*), распісанага белай, жоўтай, зялёнай і сіняй эмалямі. Посуд такога кшталту на сумежных помніках адносіцца як мінімум да канца XVI – пачатку XVII ст. [1, с. 28–38]. Знойдзены і венчык гаршка (гл. малюнак: *2*), які па аналагах нашых раскопак з Замкавай гары Капыля і з раскопак Клецка мажліва аднесці да XVII ст. [24, с. 74, мал. 73, 21: *2*]. Да гэтага часу мажліва аднесці два фрагменты зялёнапаліўной кафлі (гл. малюнак: *5*). Гэта ліцавая частка пласціны, дзе ў цэнтры кампазіцыі размешчаны па дыяганалі квадрат памерамі прыкладна 40 × 40 мм, у які ўпісана чатырохпялёсткавая кветка, якая аддалена нагадвае крыж, а пасярэдзіне яе месціцца стылізаваная выява грэчаскага крыжа. Са знешніх бакоў чатырохкутніка – стылізаваныя выявы лілей. Найбліжэйшы аналаг у сюжэтным запаўненні пласціны можна сустрэць на ўзорах мінскай кафлі XVII ст. [28, с. 55, № 67]. З большага падобны на капыльскі ўзор ёсць сюжэт і на кафлях канца XVI – пачатку XVII ст. з Мірскага замка [7, с. 60–61, мал. 91: *5*], а таксама ў Заслаўі і ў Літве, дзе гэты сюжэт трактуецца даследчыкамі як сюжэт «каванага металу» [5, с. 29, рис. 7: *5*; 14, с. 138]. Відаць да гэтага тыпу арнаментальнага запаўнення ліцавой пласціны можна аднесці і два фрагменты тэракотавай кафлі, ад якой захаваліся вуглавыя часткі пласціны, на якіх бачны выявы стылізаваных лілей (гл. малюнак: *6, 7*).

Яшчэ адзін фрагмент зялёнапаліўной кафлі ўяўляе сабой частку паясковай або гзымсавай кафлі. У ёй на вонкавай паверхні часткі, што захавалася, нанесены косыя лініі, якія ўтвараюць ромбы (гл. малюнак: *4*). Акрамя таго, адшуканы і пяць фрагментаў румпы кафлі.

Знойдзены венчык макотры, дэкарыраваны па краі налепленым жгутом (гл. малюнак: *8*), і верхні край гаршка, выраблены са светлай гліны, венчык якога загнуты ўнутр гарлавіны. Шыйка адсутнічае (гл. малюнак: *9*). Гаршкі такога выгляду ўласцівы для XVIII ці нават да XIX ст. Відаць, што да XVIII ст. можна аднесці і амаль цэлую гліняную чарку (гл. малюнак: *1*). Яна захавалася на вышыню 80 мм. Дыяметр дна чаркі – 50 мм. Унутры яна пакрыта светлай палівай, праз якую праступае пясок. Такая паліва і тэхніка пакрыцця – толькі ўнутры посуду – з’ява, уласцівая для канца XVII – XVIII ст. [6, с. 67].

Керамічныя вырабы больш позняга часу можна аднесці ўжо да першай паловы XX ст. Гэта, найперш, такая цікавая знаходка як гіра для насценнага гадзінніка, выробленая з белай гліны памерамі ў сячэнні 42 × 44 мм, якая захавалася на даўжыню 85 мм. Зверху гіра мела пяцельку пад ланцуг. Памеры пяцелькі – 15 × 21 мм. Гіра пакрыта палівай карычневага колеру. Да керамічных вырабаў гэтага часу можна аднесці і донца гаршка дыяметрам 10 см, пакрытага ўнутры карычневай палівай, а таксама цэлую пячную кафлю з гладкай ліцавой пласцінай. Да гэтага часу можна аднесці таксама і дзве цагліны памерамі 247 × 120 × 70 мм і 246 × 120 × 67 мм адпаведна з надпісам на пасцелі: «Басловцы».

Да керамічных вырабаў можна аднесці фрагменты фарфоравага кубка са свастыкай, прадстаўленага венцам з ручкай, фрагментам накрыўкі і дна, а таксама дваццаць два фрагменты фарфоравага посуду: талеркі, міскі, паддоны і інш. Усе яны адносяцца да часу акупацыі Капыля войскамі вермахта. Гэтыя рэчы былі знойдзены ў цэлым выглядзе і маглі б заняць сваё месца ў экспазіцыі музея, прысвечанай перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Але ж па недамыслію будаўнікоў, што выявілі знаходкі ў час земляных работ, яны былі разбіты на дробныя кавалкі.

Вырабы са шкла таксама хутчэй можна аднесці да пачатку XX ст. Гэта фрагмент бутлі светла-зялёнага колеру з надпісам «DIN», і шкляны выраб у выглядзе кубка карычневага колеру, моцна дэфармаваны ў выніку пажару.

З металічных вырабаў знойдзена гільза патрона дыяметрам па знешнім боку 12 мм і надпісам па




Керамічныя вырабы з культурнага пласта каля будынка на плошчы Леніна, 2 у Капылі: *1–3, 8, 9* – посуд (фрагменты); *4, 6, 7* – кафлі (фрагменты); *1, 2, 6, 9* – тэракотавыя; *4, 5* – зялёнапаліўныя; *3* – паліхромны; *2–6, 7* – XVII ст.; *1, 8, 9* – XVIII ст.

капсульнай частцы «1939 SB III». Патроны з такой маркіроўкай выраблялі ў Чэхаславакіі, дзе літары S і B – абрэвіятура прозвішчаў «Селье» і «Белло» – уладальнікаў фірмы «Бланстрой» [4, с. 762–764, № 134].

Сярод металічных вырабаў знойдзена дзвярная ручка кавальскай работы, будаўнічая скаба, дзвярная пятля, шэсць цвікоў кавальскай работы, ручка для заводкі механізма, металічны выраб цыліндрычнай формы невядомага прызначэння.

Такім чынам, культурны пласт у гэтай частцы паселішча пачаў адкладацца, мяркуючы па знаходках, у першай палове XVII ст. Адкладаўся ён і ў XVIII ст., пра што таксама сведчаць знаходкі некаторых керамічных вырабаў, а таксама і ў першай палове XX ст.

Безумоўна і культурны пласт, і артэфакты з яго сведчаць на карысць таго, што гэтая частка сучаснага горада ўваходзіць у гістарычную зону і павінна

быць уключана ў ахоўную зону горада, якая да гэтага часу не распрацавана, а значыць і не зацверджана.

Неабходнасць гэтага рашэння выклікана і тым, што толькі за апошнія дзесяць год у гістарычнай зоне Капыля пабудаваны як мінімум тры аб'екта (два жылых будынка і адна ўстанова грамадскага карыстання), у выніку чаго культурны пласт на гэтых участках быў знішчаны.

Зараз у Капылі распачаты падрыхтоўчыя работы па ўзвядзенні крытага катка. Плошча, якую займае гэта збудаванне, пакрые каля 3 тыс. м$^2$ [16, с. 1]. У межы плануемай будоўлі траплялі абарончыя збудаванні вакольнага горада каля XII–XIII стст.: роў і частка вала. Толькі дзякуючы своечасоваму ўмяшанню Інстытута гісторыі НАН Беларусі і Дэпартамента па ахове гісторыка-культурнай спадчыны ўдалося прадухіліць гэтае знішчэнне. Праектная дакументацыя на будоўлю крытага катка скарэкціравана, новы будынак не закране абарончых збудаванняў вакольнага горада.

**Літаратура**


1. Ганецкая, І. У. Маёліка на Беларусі ў XI–XVIII стст. / І. У. Ганецкая. – Мінск : Навука і тэхніка, 1995. – 120 с. : іл.
2. Грыцкевіч, А. П. У складзе Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай / А. П. Грыцкевіч // Памяць : Капыльскі раён : гіст.-дакумент. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. – Мінск : Беларус. навука, 2001. – 638 с. : іл.
3. Гурыновіч, У. Гістарычным знаходкам сем стагоддзяў / У. Гурыновіч // Слава працы. – 1986. – 29 сак.
4. Жук, А. В. Энциклопедия стрелкового оружия / А. В. Жук. – М. : Аст Москва : Транзит книга, 2006. – 796, [4] с.
5. Заяц, Ю. А. Заслаўская кафля / Ю. А. Заяц ; пад рэд. Г. В. Штыхава. – Мінск : Навука і тэхніка, 1990. – 62 с. : іл.
6. Здановіч, Н. І. Беларуская паліваная кераміка XI–XVIII стст. / Н. І. Здановіч ; пад рэд. Г. В. Штыхава. – Мінск : Навука і тэхніка, 1993. – 183 ст. : іл.
7. Здановіч, Н. І. Матэрыяльная культура Міра і Мірскага замка / Н. І. Здановіч, А. К. Краўцэвіч, А. А. Трусаў. – Мінск : Навука і тэхніка, 1994. – 152 с. : іл.
8. Калядзінскі, Л. У. Справаздача аб археалагічных даследаваннях 1999 г. у Капылі / Л. У. Калядзінскі // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2204.
9. Калядзінскі, Л. У. Справаздача аб археалагічных даследаваннях у г. Капылі ў 1998 г. / Л. У. Калядзінскі // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 1812.
10. Калядзінскі, Л. У. Справаздача аб археалагічных даследаваннях у Капылі ў 2007 годзе / Л. У. Калядзінскі // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2633.
11. Калядзінскі, Л. У. Справаздача аб палявых даследаваннях у г. Капылі ў 1996 г. / Л. У. Калядзінскі // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 1728, 1729.
12. Калядзінскі, Л. У. Справаздача аб палявых даследаваннях у Капылі і работах у Слуцку падчас археалагічнай практыкі ў 2005 годзе / Л. У. Калядзінскі // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2344.
13. Калядзінскі, Л. У. Справаздача аб палявых работах у Капылі ў 1997 г. / Л. У. Калядзінскі // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 1727.
14. Каталинас, К. Вильнюсские пластинчатые изразцы XVI–XVII вв. с «кованым» орнаментом / К. Каталинас // Древности Литвы и Белоруссии. – Вильнюс : Мокслас, 1988. – 176 с.
15. Кулагін, А. М. Каталіцкія храмы на Беларусі : энцыкл. даведнік / А. М. Кулагін. – Мінск : БелЭН імя Петруся Броўкі, 2000. – 216 с. : іл.
16. Лазоўскі, С. Галандскі лёд… у Капылі? / С. Лазоўскі // Слава працы. – 2011. – 13 крас. – С. 1.
17. Малюковіч, Ул. Пазнейшая кераміка Капыля / Ул. Малюковіч // Слава працы. – 1979. – 18 верас.
18. Нацыянальны Гістарычны Архіў Беларусі. – Ф. 142. – Воп. 1. – Арх. 1601. Інвентар м. Капыля кн. Вітгенштэйна 1846 г.
19. Нацыянальны Гістарычны Архіў Беларусі. – Ф. 27. – Воп. 6. – Арх. 1. Інвентар княства Капыльскага 1669 г.
20. Нацыянальны Гістарычны Архіў Беларусі. – Фонд 27. – Воп. 6. – Арх. 2. Інвентар княства Капыльскага 1693 г.
21. Нацыянальны Гістарычны Архіў Беларусі. – Ф. 27. – Воп. 6. – Арх. 13. Інвентар княства Капыльскага 1759 г.
22. Нацыянальны Гістарычны Архіў Беларусі. – Ф. 694. – Воп. 2. – Арх. 3676. Інвентар Капыльскага княства за 1701–1815 гг.
23. Наша Ніва. 1909. Факсимильное издание. – Минск, 2003. – № 13–14. – С. 203.
24. Пазднякоў, В.С. Клецк X–XVIII стст. : Матэрыяльная і духоўная культура беларускага феадальнага горада / В. С. Пазднякоў ; навук. рэд. П. Ф. Лысенка. – Мінск : БелНДІДАС, 2008. – 287 с.
25. План местечка Копыля князя Витгенштейна в Слуцком уезде Минской губернии снятого с натуры 26 мая 1878 года // Нацыянальны Дзяржаўны Гістарычны Архіў Беларусі. – Ф. 299. – Воп. 5. – Арх. 512. – Л. 10.
26. Прокопцова, Т. Н. Витебск: северная Пальмира Беларуси / Т. Н. Прокопцова // Архитектура и строительство. – Минск, 2003. – № 4. – С. 23–30.
27. Республика Беларусь. Копыль. План города 1 : 10 000. РУП «Белкартография». – Минск, 2002. – Наша Ніва. 1909. – Факсимильное издание. – № 13–14. – С. 203.
28. Собаль, В. Е. Беларуская кафля / В. Е. Собаль, М. А. Ткачоў, А. А. Трусаў, У. В. Угрыновіч. – Мінск : Беларусь, 1989. – 160 с.
29. Чантурия, В. А. Определение исторических зон в древних городах Белоруссии / В. А. Чантурия, Ю. В. Чантурия // Строительство и архитектура БССР. – 1973. – № 3. – С. 23–26.
30. Чантурыя, Ю. В. Гістарычны цэнтр Навагрудка / Ю. В. Чантурыя // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. – Мінск, 1974. – № 1. – С. 23–26.

***М. В. Клімаў,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, навуковы супрацоўнік аддзела захавання і выкарыстання археалагічнай спадчыны, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск)*

## Новыя археалагічныя даследаванні ў гарадах Падзвіння ў 2009 годзе

У 2009 г. былі працягнуты археалагічныя даследаванні ў г. Полацк і г. Дзісна. У Полацку праводзіліся выратавальныя археалагічныя працы ў месцы будаўніцтва на скрыжаванні вуліц Ф. Скарыны, Войкава, Сака і Ванцэці, пры пракладцы цеплатрасы на плошчы Свабоды. У ліпені 2009 г. на гарадзішчы Полацка быў закладзены шурф. У г. Дзісна ў 2009 г. былі даследаваны 2 шурфы.

Выратавальныя археалагічныя працы на перакрыжаванні вуліцы Ф. Скарыны і вуліцы Сака і Ванцэці былі выкліканы рашэннем будаўніцтва філіяла № 216 АСБ «Беларусбанка» у г. Полацку і падвядзеннем да будучага будынка ўсіх неабходных камунікацый (мал. 1). Усе вышэйпамянёныя працы ажыццяўляліся на аснове дазволу Міністэрства культуры на правядзенне прац і Дазволаў па форме № 4 на правядзенне археалагічнага нагляду і археалагічных раскопак на 2009 г. за № 1990, на 2010 г. за № 2111. Асноўным аб’ектам археалагічных прац з’яўляўся катлаван для будучага філіяла № 216, які шчыльна датыкаўся да лазні, размешчанай паміж вуліцамі Ф. Скарыны, Войкава, Сака і Ванцэці. У выніку ў 2009 г. на аснове вышэйпералічаных дакументаў былі зроблены наступныя археалагічныя працы на аб’екце:

1) нагляд за ўладкаваннем катлавана для будынка філіяла № 216 (нагляд I, мал. 1, *К1*);

2) археалагічныя раскопкі на плошчы 244 м$^2$ на месцы катлавана;

3) нагляд за будаўніцтвам траншэй каналізацыі (нагляд II);

4) нагляд за будаўніцтвам траншэі цеплатрасы на плошчы Свабоды (нагляд III, мал. 1, *К2*).

Аднак у 2009 г. ўсе працы не былі скончаны, і мелі працяг у 2010 г. Таму ў 2010 г. праходзіў нагляд IV за правядзеннем электракабеля і часткі цеплатрасы непасрэдна да будынка будучага філіяла банка (мал. 1, *К3*).

Падчас асобных этапаў археалагічных прац дапамога аказвалася з боку малодшага навуковага супацоўніка Інстытута гісторыі НАН Беларусі П. М. Кенькі, навуковых супрацоўнікаў Нацыянальнага полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка А. А. Салаўёва і І. У. Магалінскага, Д. У. Ду-




Мал. 1. Схема археалагічных прац у 1964–2010 гг. (падаснова схемы паводле [7, мал. 19, с. 117]). Вялікі пасад

ка, студэнтаў 2-га курса гістарычнага факультэта Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта[1].

Усе археалагічныя працы закранулі гістарычную частку Полацка – Вялікі пасад, які даследаваўся ў 1960-я гады і напачатку XXI ст. Г. В. Штыхавым, С. В. Тарасавым, Д. У. Дукам, А. А. Салаўёвым і іншымі навукоўцамі [2, с. 14–23; 7, с. 117, мал. 19]. Найбольш блізка да месца правядзення будаўнічых прац па вул. Ф. Скарыны археалагічны нагляд ў 1962–1964 гг. правёў Г. В. Штыхаў (мал. 1, *№ 1, 2*) і невялікія археалагічныя працы ў 1991–1992 гг. – С. В. Тарасаў (мал. 1*, № 27*) [2, с. 19; 8, с. 29]. Але тэрыторыя будаўніцтва будынка філіяла № 216 не была пад археалагічным наглядам і не мела археалагічнага вывучэння. План катлавана меў складаную, П-падобную форму, плошчай 1045,5 м$^2$ і размяшчаўся паміж лазняй і будынкам архіва. Пласт у катлаване быў амаль поўнасцю знішчаны. У ніжняй частцы катлавана былі зафіксаваны рэшткі культурнага пласта канца X – першай паловы XI ст., што пацвярджаецца шэрагам знаходак, сярод якіх важнае значэнне мелі раннія тыпы ганчарнай керамікі, наяўнасць якіх фіксуецца не толькі ў ямах, але і ў слоі. Падражанне дырхема таксама датавана канцом X ст. Частка знаходак і аб’ектаў адносіліся да XVI–XVIII стст. З нагоды таго, што аналіз рэчавага матэрыялу з доследаў катлавана быў прыведзены ў некалькіх артыкулах, звернемся да сціслага аналізу вынікаў археалагічнага нагляду на плошчы Свабоды[2].

**Археалагічны нагляд побач з плошчай Свабоды.** З будаўніцтвам будучага будынка філіяла № 216 АСБ «Беларусбанка» было звязана і правядзенне ў ліпені 2009 г. траншэі цеплазабеспячэння ў цэнтры Полацка, у раёне плошчы Свабоды (мал. 1, *К-2*). Праектная глыбіня траншэі – 1,35 м вытрымлівалася толькі на ўчастку № 1 і № 2 (глядзі ніжэй па тэксце, нагляд III) На ўчастку № 3 траншэя заглыблялася да 2 м. Яе працягласць склала 220 м. Уся траса па характару будаўнічых прац была ўмоўна падзелена на 3 участкі (мал. 2). Участак № 1 праходзіў па зялёнаму газону, які быў выцягнуты ўздоўж вул. Е. Полацкай і датыкаўся да плошчы Свабоды, набліжаўся да праезда на вул. Замкавую. Участак № 2 перасякаў асфальтаваны праезд па накірунку поўнач–поўдзень. Участак № 3 працягваўся па накірунку усход–захад, уздоўж шашы, і часткова ўваходзіў у сквер паралельна з існуючай цеплатрасай (участак III-1) і цягнуўся ўздоўж вул. Замкавай. Стратыграфічная сітуацыя ў межах участкаў № 1 і № 2 вызначалася наяўнасцю перамяшанага слою. Характэрнай рысай участка № 1 і з’яўляецца значная колькасць перакопаў XX ст. Сам жа пласт выразна падзяляўся на тры часткі: верхні, перакопаны і гумасаваны; з вялікай колькасцю фрагментаў цэглы, цамянкі і камянёў; часткова некрануты пласт, у якім траплялася шмат керамікі ў храналагічным дыяпазоне ад канца XI да XVII ст. Траса пачыналася, менавіта, з перамяшанага слою, які датыкаўся да бетоннага цеплавузла. У стратыграфіі добра прасочваюцца рэшткі падмуркаў, складзеных з цэглы і каменю (мал. 2, *А*). Адзначым, што за 30 м ад пачатку трасы (мал. 2: *3-1-1*) сустрэты фрагменты паліванай кафлі. Сярод кафлі адзначаецца фрагмент з зялёнай палівай і выявай ваяра. Не выключана, што ў гэтым месцы знаходзілася пабудова XVII ст. Будаўнічы друз, мелкія фрагменты цэглы выяўлялі амаль на кожным кроку. Акрамя гэтага, на дадзеным участку траншэі былі знойдзены артэфакты XI–XII ст.: фрагменты посуду з венцамі канца XI – XIII ст. (мал. 3: *1*), кальцо ад кальчугі, гузік медны X–XII стст., посуд XVI–XVII стст. (мал. 3: *7, 8*), фрагменты шкляных бутэлек, солід-барацінка і фрагменты цэглы, памерамі 8 × 14,5 × ? см, 5,5 × 14,5 × 30 см і 5 × 13 × ? см адпаведна. Акрамя пералічаных матэрыялаў у слоі прысутнічалі цвікі, шмат фрагментаў металічнага шлаку, фрагмент сопла. Некаторыя з іх фіксуюцца адразу пад праслойкай будаўнічага друзу. За 53 м ад пачатку траншэі былі зафіксаваны рэшткі пахаванняў людзей, без інвентару і дакладнай арыентацыі. Побач з адным з чарапоў былі знойдзены фрагметы бітай цэглы і сляды драўніннай парахні, але дакладна атрыбутаваць яе як частку труны не ўяўлялася магчымым. У цёмна-шэрым запаўненні слою, побач з рэшткамі пахаванняў, выяўлена некалькі фрагментаў венцаў, блізкіх па храналогіі да XVII ст. Бліжэй да асфальтавай шашы, за 55 м ад пачатку ўчастка № 1 траншэі, зноў жа былі сустрэты рэшткі падмуркаў. У ніжняй частцы траншэі прасочваліся рэшткі цэментавага раствору з кавалкамі цэглы, памерамі: 7 × 14 × 30 см; 7,5–8,0 × 15,0 × ? см. За 19 м да перахода праз шашу пачынаўся адрэзак траншэі з часткова захаванымі падмуркамі, складзенымі з вялікапамернай цэглы (мал. 2, *Б*), якая была прарэзана экскаватарам у выніку працы. Цэгла, з якой былі складзены падмуркі, вызначалася наступнымі памерамі: 6,5 × 14,5 × 31,0 см і 7 × 15 × 31 см. Гэтыя

[1] Выказваю падзяку вышэйпамянёным асобам за садзейнічанне ў правядзенні археалагічных прац.

[2] Падрабязны аналіз рэчавага складу прац 2009 г. прыведзены ў асобных артыкулах: Клімаў М. В. Асобныя аспекты развіцця паўночнай часткі Вялікага пасада г. Полацка (па выніках археалагічных даследаванняў 2009 г. на вул. Ф. Скарыны) // Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых і міждысцыплінарных даследаванняў : зб. навук. прац Міжнар. навук.-практ. канф, прысвеч. 160-годдзю з дня нараджэння А. П. Сапунова : у 2 ч., Полацк, 21–23 крас. 2011 г. Ч. 1 / Полацкі дзярж. ун-т ; пад агульн. рэд. Д. У. Дука, У. А. Лобача. – Наваполацк : ПДУ, 2011. – С. 55–63; Клімаў, М. В. Элементы паяснога набору з г. Полацка (па выніках раскопак 2008–2009 гг.) / М. В. Клімаў, П. М. Кенька // МАБ. – Вып. 21. – 2011. – С. 194–198.




Мал. 2. Агульны план траншэі і частак яе профіляў па пл. Свабоды і вул. Замкавай




Мал. 3. Асноўныя керамічныя матэрыялы з археалагічнага нагляду III

часткі падмуркаў мелі дрэнажную канаву абапал сцяны, зробленую з цэглы. Сярод будаўнічага друзу траплялiся і фрагменты паліванай кафлі. Рэшткі падмурка знаходзіліся за 35,6 м на захад ад заходняй часткі вул. Е. Полацкай. У гэтай частцы траншэі выяўлены фрагменты цвікоў і скабяных вырабаў, ключ XVII ст., фрагменты вырабаў з медзі і свінцовыя кулі.

Пад асфальтам, пры перасячэнні траншэяй шашы (участак № 2), былі выяўлены рэшткі маставой, складзенай з камянёў на пяшчана-гравейнай падсыпцы. Пласт у гэтай частцы траншэі выглядае наступным чынам: ніжэй асфальту фіксуецца пясок з камянямі маставой, пад маставой зафіксаваны цёмна-шэры пласт з дамешкам будаўнічага друзу. Матэрыялы, змешчаныя ў цёмна-шэрым пласце, характарызаваліся перавагай керамічнага посуду XVI–XVII стст. (мал. 3: *9*) і наяўнасцю фрагмента падсвечніка XVII ст. у верхняй частцы і посуду канца XI – XIII ст. у ніжняй частцы траншэі. Бліжэй да парку, у паўднёвай частцы пераходу былі выяўлены некалькі чалавечых костак і чарапоў. Такім чынам,

магчыма зазначыць, што чарапы і косткі ў траншэі, верагодней за ўсё, адносіліся да XVII–XVIII стст., бо большасць керамічнага матэрыялу побач датуецца тым жа часам.

На ўчастку № 3 траншэя пачыналася пад кутом 90° да ўчастка № 2 і працягвалася ў заходнім накірунку ўздоўж парка і па краі асфальтавай дарогі (мал. 2). Траншэя была выкапана па накірунку: усход–захад (участак № 3-1), з дальнейшай зменай напрамку ў паркавую зону (участак № 3-2). Асаблівасць амаль усяго ўчастка 3-1 траншэі, які цягнуўся ўздоўж парка праявілася ў тым, што цёмна-шэры пласт, як і на ўчастку № 2, утрымліваў перакопы з перавагай керамічнага посуду XVI–XVII стст. у верхняй частцы, у той час, як у ніжняй частцы траншэі захоўваўся амаль некрануты пласт XI–XIII стст. без наяўнасці драўляных канструкцый. Траншэя, якая капалася на глыбіню каля 1,8–2,0 м не даходзіла да мацерыка. У ніжняй частцы слою знаходзілася істотная колькасць вугалляў, 12 мелкіх кавалкаў бурштыну. Як сведчаць папярэднія працы на Вялікім пасадзе ў 1986–1989 гг., там было зафіксавана каля 400 фрагментаў бурштыну і вырабаў з яго і ў раскопе на Ніжнім замку ў 1989–1990 гг. яшчэ 100 артэфактаў. Бурштын ў Полацку прасочваецца ў перыяд з IX ст. да сярэдзіны XII ст. [7, с. 33]. У пачатку ўчастка № 3 праслежаны сляды пажару (мал. 2: *3-1-1*). У гэтым слоі ў траншэі сустрэта шмат фрагментаў венцаў канца XI – XIII ст. (мал. 3: *2*), адзін з іх ліку быў моцна дэфармаваны ў выніку пажару. Асабліва звяртае на сябе ўвагу наяўнасць фрагмента керамікі першай паловы XI ст. (мал. 3: *5*). Акрамя посуду XI–XIII стст. у слоі траншэі ў межах участка траншэі 3-1-1 сустракаюцца і фрагменты керамічнага посуду канца XVI – пачатку XVII ст., слой шчапы, металічны шлак памерамі 11 × 12 см.

За 19 м ад пачатку ўчастка № 3 траншэі, на глыбіні 0,9 м ад дзённай паверхні былі выяўлены рэшткі падмурка, складзенага з камянёў «на сухую». Экскаватарам гэты падмурак быў зруйнаваны. За 29,5 м, 40 м і 55 м ад пачатку ўчастка № 3 траншэі зафіксаваны фрагменты драўляных паляў, некаторыя з іх даходзілі амаль да ўзроўня асфальту (мал. 2, *Д*), таму лічыць, што палі старажытныя, не прыходзіцца. Магчыма, гэта рэшткі невядомай для нас канструкцыі XIX ст.

За 36 м ад пачатку ўчастка № 3 траншэі ў яе ніжняй частцы выяўлена частка слою са шчапой, у якім траплялiся асобныя камяні і вуголлі (мал. 2: *3-1-2*). Праз 1,5 м на захад ад слою шчапы ў самым нізе траншэі знаходзілася пляма перапаленай вапны ў чорным вугольным слоі (мал. 2: *3-1-3*). Разборка гэтай праслойкі паказала, што вапна не ўтварала суцэльнай праслойкі, а перамяжоўвалася з праслойкамі вугалля. У гэтай жа частцы траншэі былі выяўлены і дзве косткавыя нарыхтоўкі.

За 41 м ад пачатку ўчастка № 3 траншэі зафіксаваны рэшткі апечка, што вызначаўся па масіўнай праслойцы гліны таўшчынёй 0,05–0,25 м, даўжынёй 1,8 м і вялікай праслойцы вугалля (мал. 2, *В*). Насупраць праслойкі гліны і вугалля, бліжэй да паўднёвага профілю траншэі знойдзены фрагмент керамічнай пліткі таўшчынёй 3,5 см. Такі ж фрагмент паходзіў і менавіта з глінянай праслойцы, побач з якой зафіксаваны фрагменты керамічнага посуду XIV ст. У гліне таксама быў выяўлены фрагмент керамікі XIV ст. У месцы перасячэння трасы камунікацый у выглядзе цэментна-азбеставых труб, 49–50 м ад пачатку ўчастка № 3 траншэі культурны пласт у верхняй частцы быў значна перакапаны і знішчаны. Структура пласта ў гэтай частцы траншэі даволі «стракатая». Ніжэй асфальту прасочвалася праслойка, утвораная падсыпкай з будаўнічага друзу, па характару блізкая таму, які фіксаваўся на ўчастку № 1. Магчыма, прадстаўлены друз паходзіў ад зруйнаванага кляштара ці Мікалаеўскага сабора, якім і была падсыпана дарога (мал. 2, *Г*). Ніжэй гэтай падсыпкі прасочвалася цёмна-шэрая праслойка, у якой змяшчаліся фрагменты чалавечых костак і чарапоў. Ніжэй праслойкі вылучаецца развал каменю і цамянкі на драўлянай падаснове. Таўшчыня падасновы (дошка ?) складала 3,5–4,0 см. Не выключана, што і ў гэтым выпадку мы маем справу з рэшткамі печы (мал. 2, *Г*). Над развалам вапны і камянёў выяўлена скiвіца чалавека. Пры набліжэнні траншэі да ўчастка № 3-2 былі таксама знойдзены рэшткі людзей, але без слядоў захавання. Участак № 3-1 у цэлым характарызуецца перавагай матэрыялаў XI–XIII стст., сярод якіх вылучаецца шыфернае праселка і фрагменты керамікі (мал. 3: *3–4*).

Участак № 3-2 абазначаны такім чынам, бо звязаны з іншым характарам культурнага пласта, які фактычна быў знішчаны падчас пракладання ранейшай цеплатрасы і праходзіў не ўздоўж асфальту, а па скверу, па лініі захад–усход (мал. 2). Напачатку гэтай часткі ўчастка, пры павароце ў сквер сярод матэрыялаў сустрэта некалькі чалавечых костак і цэгла-пальчатка, наступнымі памерамі: 6,0 × 14,5 × ? см; 6,5 × 12,5 × ? см; 6,5 × 13,5 × ? см; 7,5 × 14,5 × ? см. Са слою траншэі з гэтай часткі паходзіць і фрагмент амфары (мал. 3: *6*). У прадстаўленай частцы траншэі таксама сустракаліся асобныя чалавечыя косткі і чэрапы.

На аснове археалагічнага нагляду III магчыма ўказаць на адрозненне матэрыялаў участкаў № 1 і № 2 траншэі ад участка № 3, што вынікала перш за ўсё з таго, што выяўленыя рэшткі падмуркаў на ўчастку I належылі, па картаграфічнай лакалізацыі, дамініканскаму касцёлу Найсвяцейшай Дзевы Марыі. На плане Полацка 1778 г. гэта пабудова найбольш дакладна «садзіцца» побач з траншэяй цеплатрасы, за 55–60 м ад пачатку ўчастка № 1 траншэі. Разам

з тым на ўчастку № 3, у ніжняй складанай частцы пласта выяўляецца выразны пласт XI–XIII стст. з характэрнай керамікай і рэчавым матэрыялам (нажы, шыфернае праселка, амфара). Вялікая колькасць бурштыну карэлюецца са знаходкамі С. В. Тарасава (1987–1990 гг.) і Д. У. Дука (2009 г.) пры працы на Вялікім пасадзе.

**Археалагічныя раскопкі на гарадзішчы г. Полацка.** Актыўныя археалагічныя раскопкі на гарадзішчы, пачынаючы з 1928 г. і да 2009 г., былі праведзены такімі даследчыкамі, як А. Л. Ляўданскі, Л. Д. Побаль, Г. В. Штыхаў, В. А. Булкін і Д. У. Дук. Апошнім з даследчыкаў было ўжыта радыёвугляроднае датаванне пры аналізе храналогіі помніка [1, с. 23–25]. Нягледзячы на гэта, пытанне адносна дакладных храналагічных маркёраў на гарадзішчы не было вырашана канчаткова [5, с. 5].

У 2009 г. планавыя навуковыя археалагічныя працы праводзіліся на аснове Дазволу № 2026 па форме № 1 [3, с. 3]. Раскопкі ў Полацку, на гарадзішчы выконваліся згодна з Дзяржаўнай праграмай даследавання г. Полацка, зацверджанай на 2008–2012 гг. Таму асноўнай мэтай раскопак на гарадзішчы з'яўлялася ўдакладненне стратыграфічнай сітуацыі ў паўднёвай частцы гарадзішча, меней даследаванай, чым паўночная частка гарадзішча. У Полацку ў склад археалагічнага атрада ўваходзіў малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі П. М. Кенька[1].




Мал. 4. Месцазнаходжанне шурфа 2009 г. на гарадзішчы г. Полацка

У паўднёвай частцы гарадзішча ранейшыя доследы насілі абмежаваны характар. Таму для археалагічных раскопак на гарадзішчы была абрана паўночна-усходняя частка прысядзібнага ўчастка ў паўднёвай частцы гарадзішча (мал. 4). Шурф меў наступныя памеры. Па лініі: усход–захад – 4 м; па лініі: поўдзень–поўнач – 2 м. Дзённая паверхня шурфа мела задзірнаваны стан і паніжэнне ва ўсходняй частцы шурфа на 10–12 см па параўнанні з заходняй часткай. Раскопкі праводзіліся па раскопачных пластах, таўшчынёй 20 см з фіксацыяй усіх знаходак. У выніку было даследавана 6 раскопачных пластоў і 4 мацерыковыя ямы.

Пласт шурфа меў цёмна-шэрую афарбоўку і вызначаўся перамяшаным станам, што ў стратыграфічным плане праявілася ў наяўнасці ўкрапін брудна-жоўтага пяску. Напрыклад, у раскопачным пласце № 1 (0–0,2 м ад дзённай паверхні) разам з фрагментамі сучаснай бітай цэглы, мелкімі фрагментамі ляпнога посуду фіксаваліся венцы керамічнага посуду канца XI–XIII стст. познесярэдневяковая пасавая накладка, крыж-цельнік і манета, вызначаная Ш. І. Бекцінеевым як дэнарый ІІ тыпу чаканкі Вітаўта[2]. Разам з тым на перакоп у раскопачным пласце № 4 указвае свінцовая куля, а на перадмацерыку – пластмасавыя гузікі ХХ ст.

Перамяшаны стан культурнага пласта ў шурфе тлумачыўся тым, што на тэрыторыі гарадзішча знаходзіліся могілкі XVI–XVIII стст. Менавіта ў шурфе былі выяўлены рэшткі 12 пахаванняў[3], якія поўнасцю ці часткова ўвайшлі ў межы шурфа. Апошняе з пахаванняў было ўпушчана ў мацярык. Да пахавальнага інвентару таксама адносіліся яшчэ два крыжыкі-цельнікі і «шлюбны вяночак», зроблены з меднага дроту і зафіксаваны на чэрапе адной з пахаваных. Захаванне ў трунах некаторых з нябожчыкаў «пацвярджалі» цвікі, прыналежнасць якіх да трунаў вызначалася па памерах (больш за 5 см па даўжыні) і па кавалках дрэва, захаваных на цвіках разам з іржой.

Адносна выяўленых пахаванняў даследчыцай В. А. Емяльянчык была праведзена антрапалагічная экспертыза, на аснове якой была вызначана прысутнасць сярод пахаваных 2 дзяцей, 3 падлеткаў, 7 дарослых асобаў мужчынскага і жаночага полу [4, с. 30].

У шурфе была засведчана істотная колькасць фрагментаў керамічнага посуду і асобных знаходак, якія адносяцца да матэрыяльнага асяродка

---

[1] Выказваю падзяку П. М. Кеньке за актыўны ўдзел у раскопках.

[2] Выказваю падзяку за вызначэнне манеты Ш. І. Бекцінееву.

[3] Пахаванні вызначаліся па асобных чэрапах і ці чэрапах з касцякамі ў сувязі са значнымі перакопамі пласта.




Мал. 5. Дырхемы (*1–5*) (фрагменты): *1–4* – моцна пашкоджаныя ў выніку ўздзеяння высокіх тэмператур. Шурф 2009 г.

IX–XIII стст. (наверша фібулы, часткі спражак і свінцовай пломбы з літарным абазначэннем, ледаходны шып, фрагмент шыфернага праселка). Разам з тым большасць фрагментаў керамічнага посуду адносіцца да XV–XVII стст.

Пачынаючы з раскопачнага пласта 4 (0,6–0,8м ад дзённай паверхні) пачалі праяўляцца асобныя сведчанні пажару (вуголлі, раструшчаныя камяні). Абпаленыя ў агні камяні былі заўважаны ў пласце яшчэ А. Ляўданскім [6, с. 164]. На мяжы кв. № 1 і № 2 зафіксаваны рэшткі вугольнай праслойкі з фрагментамі абпаленай гліны. На ўзроўні раскопачнага пласта № 5 (0,8–1,0 м ад дзённай паверхні) сляды пажару на мяжы кв. № 1 і № 2 павялічыліся. Адзначым тое, што, менавіта ў рэштках падобнай праслойкі, якую не зачапілі пахаванні, побач з пахаваннем № 10, бліжэй да паўночна-усходняга кута квадрата № 2 былі зафіксаваны некалькі блізкіх па часе бытавання знаходак, кальцо кальчугі, асялок з адтулінай і, нарэшце, фрагмент перапаленага дырхема (мал. 5: *4*). Як паказалі далейшыя раскопкі, частка дырхема (дзірхама) была знойдзена не выпадкова. На ўзроўні раскопачнага пласта № 6 (1,0…1,1–1,3 м ад дзённай паверхні) былі зафіксаваны фрагменты трох дырхемаў, што спякліся ў пажары (мал. 5: *1–3*). Яны былі змешчаны ў праслойцы пажару, якая ўтрымлівала вуголлі і фрагменты абпаленай гліны. Падобны слой быў добра зафіксаваны на перадмацерыку, пасля зачысткі якога праявіліся ўчасткі, што былі абпалены агнём і цёмна-шэрыя плямы чатырох мацерыковых ям (мал. 6). Кожная з ям мела сваю асаблівасць. Яма № 1 з’яўлялася слупавой. Прызначэнне і храналогія ямы № 2 не былі вызначаны. Межы ямы № 3 закранаў перакоп XX ст., таму яе запаўненне насіла неаднародны характар і вызначалася розначасовымі матэрыяламі. Яма № 4 была ўтворана ў выніку празання пахавальнай ямай больш ранейшай ямы. У яме № 4 акрамя касцяка і парэшткаў труны таксама быў выяўлены абрэзак дырхема (мал. 5: *4*). Мацярык складаўся з мацерыковага пяску светла-жоўтага і сівога колеру, перапаленага ў выніку пажару.

Акрамя вышэйпералічаных артэфактаў найбольшую цікавасць прадстаўляюць асобныя катэгорыі керамічнага матэрыялу і храналагічнае вызначэнне фрагментаў дырхемаў. У шурфе на розных стратыграфічных узроўнях былі выяўлены фрагменты плінфы, адзін з якіх таўшчынёй 3,3 см і шырынёй 21 см меў след цэментнага раствору. Важнае значэнне мела атрыманне невялікай калекцыі фрагментаў ляпнога керамічнага посуду, сярод якога акрамя керамікі банцараўскага тыпу былі вызначаны і фрагменты, якія могуць быць аднесены да так званай керамікі «з плечукамі» культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў[1].

Упершыню, на гарадзішчы адразу ў адным шурфе было выяўлена 5 фрагментаў дырхемаў, з іх 4 мелі значныя пашкоджанні агнём (мал. 5: *1–4*). Вызначэнне манет было праведзена навуковым супрацоўнікам Аддзела нумізматыкі Дзяржаўнага Эрмітажа, В. С. Куляшовым, за што выказваю яму падзяку. Манеты захаваліся толькі часткова, але па частках легендаў В. С. Куляшоў здолеў вызначыць, што манеты адносяцца да чаканкі раннеабасідскага перыяду. У выніку, храналогія самай ранняй манеты вагалася ў межах 795/796–803 гг. , астатнія 3 фрагменты – не пазнейшыя за 831/832 гг. Пяты фрагмент манеты быў моцна абрэзаны, і правесці дакладна яго храналагіч-

[1] Выказваю падзяку М. Плавінскаму за вызначэнне і замалёўку керамікі.




Мал. 6. План шурфа № 2. г. Дзісна. 2009 г.

нае вызначэнне не ўяўляецца магчымым (мал. 5: *5*). Нягледзячы на тое, што ў якасці выбаркі комплекс манет з раскопак у Полацку звышмалы і мала рэпрэзентатыўны, магчыма казаць аб атрыманні важнага храналагічнага маркёра для гарадзішча ў межах першай паловы IX ст. Слой пажару і пашкоджаныя ў агні манеты сведчаць на карысць таго, што на гарадзішчы ў гэты перыяд існавалі драўляныя пабудовы, у якіх дырхемы захоўваліся для паўсядзённага абарачэння, а не ў якасці складаючай часткі скарбу, на што ўказвае характар моцнага пашкоджання агнём. Магчыма дапусціць, што пажар меў гвалтоўны характар, але для канкрэтнай ідэнтыфікацыі гістарычных падзей не хапае даных [5, с. 7].

**Археалагічныя раскопкі ў г. Дзісна.** У 2008 г. аўтарам былі закладзены шурфы на месцы «замчышча» (выспы), на правым беразе р. Заходняя Дзвіна і р. Дзісна [3, с. 3–6]. Мэтай раскопак у г. Дзісна з'явіўся працяг пошуку старажытнага сярэднявяковага паселішча у межах тэрыторыі сучаснага горада [4, с. 10]. Для дасягнення пастаўленай мэты ў 2009 г. былі закладзены 2 шурфы, першы плошчай 12 м$^2$ – на правым беразе р. Дзісна, другі плошчай 16 м$^2$ – на левым беразе р. Заходняя Дзвіна (мал. 7). Методыка распрацоўкі шурфоў насіла традыцыйны характар і праводзілася па раскопачных пластах магутнасцю да 0,2 м.

Шурф № 1 быў закладзены за 300–310 м ад упадзення р. Дзісна ў р. Заходняя Дзвіна на дачным зямельным участку. Запаўненне шурфа характарызавалася шэрым супесным слоем. Было выяўлена 5 мацерыковых ям з перамешанымі матэрыяламі. Сярод матэрыялаў выяўлена шмат фрагментаў керамічнага посуду шырокага храналагічнага дыяпазону: ад XIV да XVIII ст. Асноўная колькасць венцаў датавана ў храналагічных межах XVI–XVII стст. Сярод посуду сустрэты і фрагменты з палівай. Іншыя керамічныя матэрыялы прадстаўлены фрагментам цэглы таўшчынёй 6,5 см і поўнапрофільным фрагментам макотры. У пласце зафіксаваныя асобныя косткі і металічныя вырабы: частка бронзавага падсвечніка (XIX–XX стст. ?) (мал. 8: *1*), металічная ўтулкавая дэталь і цвік.




Мал. 7. План месцазнаходжання шурфоў № 1 і № 2. г. Дзісна

Шурф № 2 быў закладзены ў паўночна-заходняй частцы г. Дзісна на прысядзібным участку, побач з домам (вул. Суворава, д. 12; мал. 7). Шурф быў арыентаваны адносна ракі і знаходзіўся за 7 м на паўночны захад ад левага берага р. Заходняя Дзвіна. Меў плошчу 16 м$^2$ і быў падзелены на 4 квадраты памерамі 2 × 2 м. Магутнасць культурнага пласта ў шурфе склала 1,0–1,2 м (без уліку мацеровых ям). Запаўненне шурфа – шэры супесны слой з матэрыяламі шырокага храналагічнага дыяпазону, уключаючы фрагменты бітай цэглы і керамічнага посуду XIX–XX стст., сярод якога было вызначана шмат фрагментаў белага фаянсавага посуду (невядомая вытворчасць) і фаянсавага посуду імператарскага завода Кузняцова. Шкляныя вырабы характарызаваліся наяўнасцю кавалкаў бітага ваконнага




Мал. 8. Асноўныя знаходкі з шурфа № 1 *(1)* і шурфа № 2 *(2–17)*: *1* – бронза; *2* – свінец; *3* – сплаў каляровых металаў; *4* – медзь; *5, 6* – шкло; *7, 8* – косткі; *9, 10* – камень; *11* – чырвоная гліна; *12–14* – белая гліна; *15, 16* – чырвонагліняная кераміка

шкла, аптэчнай і парфумнай мелкабутэлячнай тары XIX і XX ст. У ніжняй частцы шурфа знаходзілася істотная колькасць фрагментаў венцаў гаршкоў і місак XVI–XVII стст. Сустрэты адпаведна і кавалкі каробкавай кафлі XVI–XVIII стст.: тэракотавай, з раслінным арнаментам; з палівай, дэфармаванай ад высокатэмпературнага ўздзеяння. Не выключана, што падобны след утварыўся у выніку аднаго з ваенных катаклізмаў у перыяд з 1655 да 1708 г. З ліку будаўнічых матэрыялаў акрамя кафлі ў запаўненне шурфа патрапілі і фігурныя часткі вусця печы з пальчатым аздабленнем. Часткова шэры слой быў «разбаўлены» праслойкамі брудна-жоўтага пяску і праслойкамі вугалля, якое не з’яўлялася вынікам пажару на помніку ці следам ад спаленых пабудоў. Верагодней за ўсё, вугалле патрапіла ў змест шурфа падчас запаўнення яго сярэдняй і ніжняй частак у якасці сметніка, што вынікала з пераадкладзенага кантэксту матэрыялаў XIX–XX стст., якія апынуліся і ў ніжняй частцы шурфа.

У мацерыку было выяўлена 4 ямы (мал. 6), з якіх цікавасць уяўляе яма № 1. Яна мела істотную глыбіню, да 3 м ад дзённай паверхні, і, магчыма, раней выкарыстоўвалася ў якасці студні ці склепа, а пазней, у XIX–XX стст., была ператворана у смеццевую. Да ямы дапасавана яма № 3, у якой зафіксаваны посуд канца XI – XIII ст. (мал. 8: *15, 16*), але яма не мела «зачыненага характару». Ямы № 2 і № 4 адносіліся да ліку слупавых, і іх храналогія не была вызначана.

З ліку масавага матэрыялу, акрамя фрагментаў керамічных гаршкоў і посуду, па колькасці вызначалася катэгорыя вырабаў з чорнага металу, прадстаўленая ў асноўным кованымі цвікамі. Разам з керамікай і цвікамі з раскопачных пластоў шурфа паходзіў шэраг індывідуальных знаходак, якія былі зусім не звязаны з закрытымі комплексамі: шкляныя пацеркі (мал. 8: *5, 6*), дэталі касцяных вырабаў (мал. 8: *7, 8*), фрагмент асялка (мал. 8: *9*). Храналогію XVII ст. адлюстроўваюць белагліняныя мундштукі галандскіх люлек (мал. 8: *12–14*). У якасці асобных храналагічных маркёраў XVIII–XIX стст. з шурфа № 2 выступалі некалькі манет: грош Аўгуста III (Рэч Паспалітая, 1755 г.), 2 капейкі 1811 г. (Расія). Некалькі індывідуальных знаходак не дазвалялі казаць аб дакладнай храналагічнай атрыбуцыі: фрагмент пасудзіны з шэрай палівай, па фактуры блізкай да «рэйнскага каменнага тавару»; дэкаратыўны элемент са сплава каляровых металаў (мал. 8: *4*), напарстак (мал. 8: *5*), свінцовая куля, раплюшчаная ўшчэнт (мал. 8: *2*), частка пласціны з мелкадысперснага, шэрага каменю (мал. 8: *10*) і прамакутны элемент, зроблены з чырвонай гліны (мал. 8: *11*).

У выніку аналізу вышэй разгледжаных матэрыялаў магчыма зрабіць заключэнне аб тым, што шурф № 2 знаходзіўся на тэрыторыі сучаснага г. Дзісна, дзе жыццядзейнасць інтэнсіўна адбывалася ў XVI–XX стст., таму культурны пласт меў значную перакапанасць. Знаходка некалькіх фрагментаў керамікі XI–XIII стст. без дакладнай фіксацыі слою гэтага часу сведчыць на карысць таго, што шурф закрануў перыферыйны ўчастак старажытнага паселішча на тэрыторыі сучаснага г. Дзісна.

Такім чынам, праведзеныя даследаванні на тэрыторыі Полацка і Дзісны далі магчымасць увядзення ў навуковы зварот новых матэрыялаў.

**Літаратура**

1. Дук, Д. У. Старажытныя славяне Полацкага гарадзішча (780–1310 гг.) / Д. У. Дук // Беларус. гіст. часопіс. – 2008. – № 7. – С. 21 – 27.

2. Дук, Д. У. Полацк і палачане (IX–XVIII стст.) / Д. У. Дук. – Наваполацк : ПДУ, 2010. – 180, [22] арк. : іл.

3. Клімаў, М. В. «Пра археалагічныя даследаванні ў г. Дзісне і яе акрузе ў 2008 г. / М. В. Клімаў // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 2597.

4. Клімаў, М. В. Справаздача пра археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Віцебскай вобласці ў 2009 г. / М. В. Клімаў // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 2703.

5. Клімаў, М. В. Новае адкрыццё ў храналогіі старажытнага Полацка / М. В. Клімаў // Беларус. гіст. часопіс. – 2010. – № 5. – С. 3–5.

6. Ляўданскі, А. М. Археолёгічныя досьледы ў Полацкай акрузе / А. М. Ляўданскі // Зап. аддз. гуманіт. навук БАН. – Мінск, 1930. – Т. 2, кн. 2: Працы археолёгічнай камісіі. – С. 157–198.

7. Тарасаў, С. В. Полацк IX–XVII стст. : Гісторыя і тапаграфія / С. В. Тарасаў. – Мінск : Беларус. навука, 1998. – 183 с. : іл.

8. Штыхов, Г. В. Древний Полоцк / Г. В. Штыхов. – Минск : Наука и техника, 1975. – 135 с. : ил.

***М. В. Клімаў,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, навуковы супрацоўнік аддзела захавання і выкарыстання археалагічнай спадчыны, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск)*

# Асноўныя вынікі археалагічных раскопак на помніку Лучна-1 у 2010 годзе

Помнік Лучна-1 знаходзіўся за 12 км на ўсход ад Полацка, на высокім левым беразе р. Заходняя Дзвіна, на вышыні 12–14 м ад узроўню вады. Археалагічныя раскопкі на помніку Лучна-1 былі распачаты ў 1998 г. у сувязі з праблемай ідэнтыфікацыі месцазнаходжання манастыра Св. Міколы Лучанскага, які згадваецца ў дакументах з XIII ст. [2, с. 1–3]. Археалагічныя працы на помніку Лучна-1 першапачаткова працягваліся з 1998 па 2005 г. У выніку праведзеных раскопак была даследавана плошча 2184 м². Уся навуковая інфармацыя знайшла адлюстраванне ў васьмі справаздачах аўтара. Некаторыя аспекты існавання помніка, яго матэрыяльнай культуры разгледжаны ў асобных артыкулах [3, с. 261–264; 4, с. 44–47; 5, с. 148–155; 6, с.150–159; 7, с. 56–59; 9, 293–303].

Пасля раскопак 2005 г. мэтанакіравана доследы помніка былі прыпынены па прычыне неабходнасці даследавання іншых археалагічных помнікаў. Вяртанне да вывучэння помніка ў 2010 г. было выклікана неабходнасцю яго тэрміновага даследавання па прычыне ўзнаўлення планаў па будаўніцтве электрастацыі «Полацкая ГЭС», плаціна якой непасрэдна павінна была быць пабудавана на месцы археалагічнага помніка. Усе археалагічныя працы на помніку ў 2010 г. праводзіліся адпаведна з Дазволам № 2153 па форме № 4.

Археалагічныя раскопкі на помніку Лучна-1 працягваліся з 2 ліпеня па 26 верасня 2010 г. У іх удзельнічалі В. В. Шадыра, студэнты-практыканты гістфака БДУ пад кіраўнітцвам В. Сідаровіча і А. Плавінскага, студэнты-практыканты Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П. Машэрава пад кіраўнітцвам Д. Каваленкі і С. Зыбіна, валанцёры[1].

Участак для раскопак быў абраны на левым беразе р. Заходняя Дзвіна, які раней не даследаваўся па прычыне таго, што ўздоўж ракі праходзіў самаўтвораны шлях, якім карысталіся мясцовыя жыхары (мал. 1). Такім чынам, у 2010 г. быў закладзены раскоп № 9, плошчай 1140 м², які быў разбіты па накірунку поўдзень–поўнач і датыкаўся да ўсходніх сценак раскопаў: № 1 (1998 г.), № 4 (2002 г.), № 8 (2005 г.) па лініі кв. № 443–479. У выніку форма раскопу атрымала ўступкавы характар і была ўпісана ў берагавую лінію р. Заходняя Дзвіна пад кутом 25–30º, найбольшая даўжыня заходняй сценкі раскопу № 9 склала 74 м.

Методыка археалагічных доследаў прадугледжвала падзел плошчы раскопу на квадраты памерамі 2 × 2 м і раскопкі па раскопачных пластах, магутнасцю 0,2 м з фіксацыяй усіх масавых і індывідуальных знаходак па квадратах. Нумерацыя квадратаў пачыналася з крайняга паўднёва-заходняга кв. № 443, які прымыкаў да кв. № 1 раскопу № 1 1998 г. і заканчвалася кв. № 727.

Да пачатку раскопак дзённая паверхня будучага раскопу ўяўляла з сабе поле, якое мела дзірван і хмызняк, што былі знішчаны перад раскопкамі. Спынемся на агульнай характарыстыцы стратыграфіі культурнага пласта.

Агульная магутнасць культурнага пласта вагалася ў межах 0,40–0,55 м. Верхняя частка культурнага пласта вызначалася перамяшаным станам, які ўтварыўся ў выніку разворвання помніка ў больш ранейшы час. Асноўны колер пласта – шэры. Разам з тым на глыбіні 0,25–0,30 м ад дзённай паверхні захаваліся рэшткі пабудоў у выглядзе плям абпаленай гліны, вялікіх вуголляў, развалаў печаў і наяўнасці падпечкавых і гаспадарчых ям. Ад печаў засталася абпаленая гліна, часткі цаглін, сярод якіх зафіксаваны кавалкі цэглы-пальчаткі. Асноўная колькасць сведчанняў пабудоў канцэнтравалася ў паўднёвай частцы раскопу. Рэшткі пабудоў добра датаваліся па асобных артэфактах і манетах. Сведчанні пажара, які знішчыў помнік у першай палове XVI ст. з'яўляліся найбольш «чытаемай» часткай стратыграфіі пласта. Пласт пажара можна было добра датаваць па фрагментах керамікі, акрамя гэтага абпалены стан меў паўгрош Жыгімонта I Старога 1512 г. з раскопачнага пласта № 2. Такім чынам, стратыграфія помніка мае нескладаны характар.

Разам з тым у сувязі з існаваннем паселішчаў XI–XIII стст. і канца XIV – пачатку XVI ст. іх размежаванне на плошчы помніка носіць складаны характар. Перамяшаны стан пласта і яго невялікая магутнасць не дазвалялі вылучыць асобныя гарызонты, якія храналагічна змяняюць адзін другога. Разам з тым на прыкладзе асобных аб'ектаў, асабліва мацерыковых ям, падобнае размежаванне прасочваецца. У выніку аналізу асобных комплексаў і стратыграфіі помніка на ўзроўні другога раскопачнага пласта (0,2–0,4 м ад дзённай паверхні) была заўважана перавага матэрыялаў, звязаных з познім перыядам існавання помніка. Характэрныя асаблівасці пласта абазначалі праслойкі абпаленай гліны, вуголлі, камяні са следам высокага тэмпературнага ўздзеяння, кавалкі будаўнічага друзу (кавалкі цэглы і плітак). Праслойкі абпаленай гліны дасягалі значных памераў. Так у кв. № 521 была зафіксавана пля-

[1] Выказваю падзяку усім удзельнікам археалагічных раскопак у 2010 г.




Мал. 1. Сітуацыйны план размяшчэння раскопу № 9 на плане помніка Лучна-1

ма абпаленай гліны памерамі 1,4 × 1,6 м. Падобныя плямы гліны ўтрымлівалі шмат іншых артэфактаў. У вышэйзгаданай праслойцы быў зафіксаваны фрагмент накрыўкі, камяні са слядамі высокага тэмпературнага ўздзеяння, фрагмент міскі з палівай, кавалкі гаршкоў, керамічныя пліткі, вусці і сценкі гаршковай кафлі. Другая з праслоек гліны памерамі 1,6 × 2,7 м у кв. № 715–716 таксама «накрывала» шэраг знаходак, якія былі звязаны з пабудовамі (мал. 2). Пад гэтай праслойкай былі выяўлены living разнабаковыя матэрыялы, сярод якіх знаходзіліся кавалкі абпаленага дрэва, фрагменты цэглы, камяні са следам высокага тэмпературнага ўздзеяння, сценкі гаршковай кафлі, фрагменты вусця гаршковай кафлі чатырохкутнай формы, венцы гаршкоў, адзін з іх ліку адносіўся да керамікі XVI ст. Канцэнтрацыя фрагментаў глінянай абмазкі і кавалкаў цэглы ў паўднёвай частцы раскопу на ўзроўні 1-га раскопачнага пласта адпавядала слядам пабудоў, выяўленых на ўзроўні 2-га раскопачнага пласта. Да элементаў, якія абазначалі прысутнасць былых пабудоў, належалі і фрагменты керамічных плітак, цэглы і гаршковай кафлі. Фрагменты керамічных плітак, знойдзеныя ў гэтай частцы раскопу, вагаліся ў памерах ад 2,3 да 3,6 см. У некаторых квадратах прасочваліся фрагменты плітак з зялёнай палівай рознай таўшчыні: 2,5; 3,0; 3,5 см. Дыяметры круглых вусцяў кафлі вагаліся ў межах ад 13 да 17 см. У цэнтральнай частцы раскопу колькасць вышэйназваных слядоў пабудоў значна паменшаецца.

Сярод аб'ектаў, характэрных для раскопачнага пласта № 2 адзначым наяўнасць у паўночна-усходняй частцы раскопу канцэнтрацыі камянёў вялікіх памераў (кв. № 633, 634), звязаных з грунтовым могільнікам II.

Пры зачыстцы мацерыка былі выяўлены абрысы мацерыковых ям і шэраг знаходак розных хparty храналагічных перыядаў. Сярод падобных знаходак вылучаецца фігурная накладка, зашпілька да кнігі, таварная пломба (мал. 3: *3*), дэкаратыўныя элементы, замок тыпу «В», частка тронкавага нажа. Пасля зачысткі раскопачнага пласта № 2, які з'яўляўся перадмацерыковым, пачалася разборка ям. Некаторыя з ям з'яўляліся працягам ям мінулых раскопаў (мал. 5). Найперш гэта датычылася наступных ям: № 1 (кв. № 443); № 3 (кв. № 445); № 7 (кв. № 460–466); № 9 (кв. № 459–460); № 216 (кв. 475–476); № 378 (кв. № 477).

Ямы ў раскопе № 9 былі падзелены на пяць груп: слупавыя, раўчуковыя (падфундаментныя), гаспадарчыя, нявызначанага прызначэння, пахавальныя.

*Слупавыя ямы* мелі розныя памеры. Іх дыяметры вагаліся ад 0,2 да 0,5 м. Глыбіня падобных ям таксама вызначалася варыятыўнасцю, у сярэднім яны былі заглыблены ў мацярык на 0,2–0,4 м. Блізкімі па прызначэнні да слупавых выступалі раўчуковыя ямы, траншэйнага тыпу. Яны мелі наступныя памеры: ад 0,2 да 0,4 м па шырыні; ад 1 да 3–4м па даўжыні; ад 0,15 да 0,3 м па глыбіні. Яны выкарыстоўваліся для драўляных падкладак пад сцены пабудоў (мал. 5; ямы № 409, 410). Безумоўна, гэтыя ямы не трэба блытаць са слядамі, якія ўтвараліся пры заглыбленым разворванні.




Мал. 2. Паўднёва-усходняя частка раскопу № 9 на ўзроўні 2-га раскопачнага пласта. Умоўныя скарачэнні: фр., фр-ты – фрагменты; т. –таўшчыня; в.т.у. – уздзеянне высокіх тэмператур; кер. – керамічны посуд

*Гаспадарчыя ямы* падзяляліся на некалькі падгруп: склепавыя, якія знаходзіліся пад пабудовамі; падпечкавыя, звязаныя з пячамі; смеццевыя. Сярод склепавых ям пераважалі ямы значных памераў. Яны рабіліся пад пабудовамі і былі прызначаны для захавання харчавання (мал. 5; ямы № 3, 412 і інш.). Падпечкавыя ямы, як і склепавыя, указвалі на наяўнасць пабудоў на помніку. Падобныя ямы, у адрозненні ад склепавых, вызначаліся формай, блізкай да кола. Безумоўна, трэба мець на ўвазе тую акалічнасць, што на помніку існавалі два асноўныя тыпы печаў: ацяпляльныя і гаспадарчага прызначэння. Ацяпляльныя печы рабіліся з цэглы і гаршковай кафлі. Рэканструкцыя адной з падобных печаў з помніка Лучна-1 была прапанавана аўтарам артыкула раней [5, с. 154, мал. 3]. Ацяпляльныя печы мелі невялікую падпечкавую яму, звычайна заглыбленую ў мацярык на 0,2–0,5 м (мал. 5; ямы № 401, 420).




Мал. 3. Вырабы з каляровых металаў: *1* – гузік; *2* – спражка; *3, 4* – кніжныя зашпількі; *5* – пломба; *6* – накладка; *7* – крыжык-цельнік; *8* – пярсцёнак; *9* – куля; *10* – бранзалет; *11* – фібула; *12* – бразготка; *1, 5, 9* – свінец; *2–4, 6–8, 10–12* – бронза

Печы гаспадарчага прызначэння, прыстасаваныя для гатавання ежы, мелі падпечкавыя ямы іншых памераў. Іх форма набліжалася да кола, дыяметр ямы быў большы за метр. Глыбіня падобных ям перавышала 0,5 м (мал. 5, яма № 385).

Некаторыя з ям нявызначанага прызначэння ўтрымлівалі ў сваім складзе матэрыялы XI–XIII стст. і XV–XVI стст. і па свайму характару з’яўляліся «адкрытымі» комплексамі. Часцей за ўсё падобныя ямы вызначаліся невялікай глыбінёй (ад 0,1 да 0,3–0,4 м) і няправільнай формай, напрыклад яма № 397 (мал. 5).

Пахавальныя ямы ў раскопе належалі да могільнікаў I і II. Пахавальныя ямы могільніка I у асноўным размяшчаліся ў паўночнай частцы раскопу і былі выкапаны спецыяльна для пахавання (мал. 6, *Б*; яма № 436) ці выкарыстоўваліся пад пахаванні ямы ад былых пабудоў (мал. 6, *Б*; яма № 432). У другой з падобных ям (№ 429) былі змешчаны шкілеты старога і дзіцяці[1].

Сляды грунтовых ям могільніка II (мал. 6, *А*), выяўленага ў межах раскопу № 9, амаль не прасочваліся на ўзроўні мацерыка, бо пахаванні былі засыпаны светла-шэрым слоем, які ўтрымліваў мінімальныя матэрыялы. Складанасць заключалася ў тым, што косткі пахаваных не захаваліся, нават не былі зафіксаваны іх негатыўныя, спарахнелыя сляды, інвентар амаль адсутнічаў. Складанасць для інтэрпрэтацыі могільніка першапачаткова была вы-

[1] Выказваю падзяку В. Емяльянчык за праведзеную ёй антрапалагічную экспертызу.




Мал. 4. Тыповыя вырабы з жалеза *(1–10)*

клікана і тым, што пахаванні грунтовага могільніка II і былыя пабудовы 2-га этапа жыццядзейнасці на помніку (XV – першай паловы XVI ст.) знаходзіліся побач, што ўскосна сведчыла на карысць таго, што будаўнікі не ведалі аб існаванні могільніка. Некаторыя з пахавальных ямаў «накладаліся» адна на другую (мал. 6, *А*). Папярэдне могільнік датаваны канцом XII – XIII ст. і быў заснаваны пасля знікнення сядзібы ў гэты перыяд.

Пасля выбаркі мацерыковых ям мацярык быў зачышчаны. Мацярык выглядаў наступным чынам: жоўты пясок з светла-шэрымі плямінамі, якія былі пакінуты кратавінамі і каранямі дрэваў. Пры зачыстцы мацерыка былі выяўлены нешматлікія металічныя артэфакты і манеты, сярод якіх былі вызначаны: Пражскі грош Вацлава IV, дэнарыі Вітаўта. Месца раскопак не засыпалі, бо яно знаходзіцца ў зоне актыўных будаўнічых работ.

Акрамя даследавання самой пляцоўкі помніка, на якім былі зафіксаваны комплексы феадальнай сядзібы XI–XVI стст. і пахавальныя комплексы XIII–XVII стст. праводзілася і абследаванні берага-




Мал. 5. План мацерыка і мацерыковых ям у паўднёвай частцы раскопу




Мал. 6. Планы некаторых пахавальных ям грунтовага могільніка II *(А)* і грунтовага могільніка I *(Б)*

вой лініі р. Заходняя Дзвіна ніжэй помніка. У выніку падобнага абследавання побач з берагам на глыбіні 20–30 см была выяўлена «пляцоўка», якая не мела падабенства з водмелямі р. Заходняя Дзвіна з каменнымі перакатамі і была ідэнтыфікавана ў якасці насыпу прыстані. Пасля абследавання пляцоўкі пры дапамозе металадэтэктара на ёй пад вадой былі выяўлены дзве манеты: Рыжскі солід чаканкі 1632–1654 гг. і, што больш неверагодна, – дэнарый Вітаўта.

Характарыстыцы матэрыялаў з помніка Лучна-1, выяўленых на раскопе № 9, неабходна прысвяціць асобную публікацыю, таму ў прапанавым артыкуле змешчана сціслая характарыстыка матэрыялаў з ілюстратыўным адлюстраваннем толькі часткі здабытых артэфактаў, бо фармат часопіса не дазваляе змясціць усе матэрыялы, размеркаваныя ў «Справаздачы аб археалагічных раскопках» па 85 ілюстратыўных табліцах.

Найбольшая частка вырабаў з чорнага металу, выяўленых на помніку, адносілася да вырабаў, звязаных з пабудовамі і пабытовай сферай. З раскопу паходзіць некалькі экзэмпляраў корпусаў замкоў тыпу «В» па наўгародскай тыпалогіі [10, с. 162] Усе астатнія часткі замкоў былі прадстаўлены запорнымі дужкамі і часткамі. Зафіксаваны і часткі замкоў, якія датаваны XVI–XVII стст. [11, с. 273–274]. Ключы з раскопу № 9 належалі да некалькіх тыпаў: для нутраных замкоў; для замкоў тыпу «В» і «Д» (мал. 4: *3*) з рознымі храналагічнымі перыядамі бытавання.

Самая вялікая колькасць вырабаў з жалеза з раскопу № 9 належала цвікам (мал. 4: *6*) і фрагментам скобаў. З помніка паходзяць і пяцельныя завесы (мал. 4: *7*). Самай масавай знаходкай з прадметаў сферы побыту з'яўляліся чаранковыя (мал. 4: *1*) і тронкавыя (мал. 4: *2*) нажы. Сферу побыту жыццядзейнасці характарызуюць таксама пласцінкавае крэсіва (мал. 4: *5*) і рыбалоўны кручок (мал. 4: *7*). Асобныя знаходкі з чорнага металу адносіліся да катэгорый: прылады і інструменты; зброя (наканечнікі стрэл) і рыштунак вершніка і каня; дэталі адзення (спражкі, кручкі-зашпількі, накладкі).

Вырабы з каляровых металаў з раскопу № 9 прадстаўлены шэрагам падкатэгорый рэчаў. Сярод іх: культавая пластыка (мал. 3: *7*; XV ст. [13, с. 55, рис. 16: *21*]); упрыгажэнні і дэталі строю (бразготка (мал. 3: *12*), фібула (мал. 3: *11*), бранзалеты, адзін з якіх суадносіцца з тыпам звярынагаловых (мал. 3: *10*) шчытковы пярсцёнак (мал. 3: *8*), фурнітура. Частка артэфактаў адносілася да элементаў, звязаных з фурнітурай (мал. 3: *1, 2, 6*); часткі зашпілек да кніг (мал. 3: *3, 4*). У выніку археалагічных раскопак былі выяўлены таксама некалькі тыпаў манет, сярод якіх былі вызначаны наступныя: дэнарыі Вітаўта; дэнарый Казіміра; дэнарый Аляксандра; паўгрошы Жыгімонта I; паўгрошы Жыгімонта II; пражскія грошы Вацлава IV; шведскія соліды рыжскай чаканкі Хрысціны Аўгусты; солід Яна II Казіміра (барацінкі); медныя манеты расійскай чаканкі[1].

Самай масавай катэгорыяй знаходак з раскопу № 9 з'яўляліся керамічныя вырабы, з ліку якіх магчыма было вылучыць такія падкатэгорыі, як бытавая і будаўнічая кераміка. Пераважаючая частка керамікі з раскопу адносілася да першай падкатэгорыі. З ліку бытавой керамікі найбольшая частка фрагментаў належала гаршкам, аб храналогіі якіх перш за ўсё мы можам меркаваць па іх верхніх частках – венцах. На помніку былі выяўлены фрагменты гаршкоў двух храналагічных груп: XI–XIII стст. і XV–XVII стст. Апошнюю з груп дапаўняюць і фрагменты макотр. Сярод гаршкоў XI–XIII стст. пераважаюць фрагменты з венцамі, звернутымі ўнутр, асноўны перыяд бытавання якіх прыпадае на XII ст. Іншыя формы керамічнага посуду XI–XIII стст. з помніка Лучна-1 добра вядомы па матэрыялах з гарадоў Полацкай зямлі [1, с. 190, рис. 55; 13, рис. 2, рис. 3].

Разам з керамічным бытавым посудам мясцовай вытворчасці на помніку выяўлены прывазны посуд замежнай вытворчасці. З раскопу № 9 паходзяць асобныя фрагменты посуду з зялёнай палівай, посуд тыпу *«каменны тавар».*

Будаўнічая кераміка была прадстаўлена фрагментамі кафлі, абломкамі цэглы (цэгла-пальчатка, вялікапамерная цэгла) і керамічных плітак (таўшчынёй ад 2 да 3,5 см), фрагментамі вусця печы. На помніку Лучна-1 былі выяўлены фрагменты толькі гаршковай кафлі, ад якой засталіся фрагменты вусцяў румпаў, сценак, прыдонных частак, якія сустракаліся і раней [5, с. 148, мал. 1: *1*].

Керамічныя вырабы на помніку дапаўняюць вырабы з каменю і шкла. Найбольш пашыранымі вырабамі з каменю з'яўляліся асялкі і шыферныя праселкі. Адзначым, што на помніку Лучна-1 было выяўлена і шмат адшчэпаў з крэменю, большасць з якіх неабходна аднесці да «скалкі», неабходнай для выпрацоўкі агню. Вырабы са шкла прадстаўлены некалькімі катэгорымі рэчаў, сярод іх пераважаюць фрагменты шкляных бранзалетаў і часткі шкляных вaконных дыскаў (*шыбак*). Бранзалеты і раней сустракаліся на помніку. Іх актыўнае бытаванне ў Полацку адпавядае перыяду з канца XII ст. па канец XIII ст. [14, с. 32].

Археалагічныя раскопкі на помніку Лучна-1 у 2010 г. дазволілі правесці ўдакладненне храналогіі помніка і звязаць прычыну яго знікнення ў першы перыяд з міжусобнымі войнамі, у выніку якіх была зруйнавана і частка Запалоцкага пасада [8, с. 47]. Грунтовы могільнік II падзяліў першы і другі этапы існавання феадальнай сядзібы. На мяжы

[1] Прыношу падзяку А. Іову, Ш. Бекцінееву, В. Барэйшы за праведзеныя імі вызначэнні манет.

XIV–XV стст. пры заснаванні новай сядзібы перарыў культурнай традыцыі прывёў да таго, што новыя гаспадары не ведалі аб пахаваннях, таму комплекс пабудоў XV–XVI стст. закрануў могілкі. На новым этапе гаспадары сядзібы ажыццяўлялі пэўныя пасрэдніцкія функцыі ў гандлёвай дзейнасці. Гэтаму садзейнічала месцазнаходжанне сядзібы за 12 км ад Полацка, на ўсход, на «віцебскім напрамку гандлю». Як вядома, у XV ст. з боку Полацка праводзілася палітыка на абмежаванне прамога гандлю з Рыгай для віцебскіх купцоў і для замежных купцоў з Віцебскам [12, с. 46, 49]. Знаходка другога фрагмента пскоўскай пячаткі сведчыла аб існаванні «пскоўскага напрамку» ў дзейнасці гаспадароў сядзібы. Пасля яе знікнення ў другой палове XVI ст. Былі заснаваны новыя могілкі (грунтовы могільнік I), на якім ў 2010 г. былі даследаваны пяць пахаванняў.

У выніку раскопак было зроблена ўдакладненне планіровачнай структуры помніка, даследаваны асобныя жыллёвыя комплексы, ад якіх засталіся праслойкі абпаленай гліны і вуголлі. Праведзены комплексны аналіз рэчавых матэрыялаў.

**Літаратура**


1. Заяц, Ю. А. Заславль в эпоху феодализма / Ю. А. Заяц – Минск : Наука и техника, 1995. – 207 с. : ил.
2. Клімаў, М. В. Справаздача аб археалагічных даследаваннях на тэрыторыі Полацкага раёна ў 1998 г. // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. №1768.
3. Клімаў, М. В. Зброя, ваенны рыштунак вершніка і каня з помніка Лучна-1 (па матэрыялах археалагічных раскопак 1999–2000 гг.) / М. В. Клімаў // Матэрыялы па археалогіі Беларусі: да 70-годдзя з дня нараджэння П. Ф. Лысенкі. – Мінск, 2001. – № 1. – С. 261–264.
4. Клімаў, М. В. Прадметы хрысціянскага культу з помніка Лучна-1 / М. В. Клімаў // Асветніцтва і гуманістычныя каштоўнасці Беларусі ў рэтраспектыве часу: матэрыялы Міжнар. навук. канф., Наваполацк, 30–31 мая 2002 г. – Мінск : Дэполіс. – С. 44–47.
5. Клімаў, М. В. Матэрыялы да рэканструкцыі печаў з посудападобнай кафляй / М. В. Клімаў // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – Мінск, 2003. – № 7. – С. 148–155.
6. Клімаў, М. В. Лучна-1: Стратыграфія і храналогія феадальнай сядзібы / М. В. Клімаў // Матэрыялы IV Міжнар. канф. – Полацк : Нац. Полацкі гіст.-культ. музей-запаведнік, 2002. – С. 150–159.
7. Клімаў, М. В. Унікальная знаходка познесярэднявяковага стрэмені на тэрыторыі Беларусі / М. В. Клімаў, Ю. М. Бохан // Беларус. гіст. часопіс. – Мінск, 2004. – № 5. – С. 56–58.
8. Клімаў, М. В. Новыя звесткі аб гісторыі Запалоцкага пасада г. Полацка (па выніках раскопак 2008 г.) / М. В. Клімаў // Віцебскія старажытнасці. – Мінск, 2010. – С. 39–47.
9. Климов, М. В. Проблема феодальных усадеб незамкового типа на территории Беларуси: XI–XVI вв. (по материалам памятника Лучно-1) / М. В. Климов // Археология и история Пскова и Псковской земли: материалы LI науч. семинара. – Псков, 2006. – С. 293–303.
10. Колчин, Б. А. Хронология новгородских древностей / Б. А. Колчин // Новгородский сборник. – Л., 1982. – С. 156–177.
11. Сагановіч, Г. М. Прылады працы і пабытовыя рэчы. Асартымент, тыпалогія, храналогія / Г. М. Сагановіч // Археалогія Беларусі: у 4 т. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі / пад рэд. В. М. Ляўко [і інш.]. – Мінск : Беларус. навука. – Т. 4: Помнікі XIV–XVIII стст. – С. 260–276.
12. Левко, О. Н. Торговые связи Витебска в X–XVIII вв. / О. Н. Левко. – Минск : Наука и техника, 1989. – 87 с. : ил.
13. Левко, О. Н. Средневековое гончарство Северо-восточной Белоруссии / О. Н. Левко. – Минск : Навука і тэхніка, 1992. – 164 с. : ил.
14. Тарасаў, С. В. Полацк IX–XVII стст.: Гісторыя і тапаграфія / С. В. Тарасаў. – Мінск : Беларус. навука, 1998. – 183 с. : іл.

***А. М. Кушнярэвіч,*** *прафесар Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, доктар мастацтвазнаўства (г. Мінск);*
***М. А. Волкаў,*** *магістр мастацтвазнаўства (г. Мінск)*

# Вынікі архітэктурна-археалагічных даследаванняў вежы-брамы Мірскага замка

Мірскі замак быў пабудаваны ў час пераходу ад сярэдневяковых да бастыённых умацаванняў Новага часу. Таму многія фартыфікацыйныя элементы замка не маюць прамых аналагаў, а некаторыя з іх нават носяць для свайго часу эксперыментальны, наватарскі характар, што ўскладняе разуменне і інтэрпрэтацыю замка менавіта як помніка фартыфікацыі.

У дадзеным артыкуле прапануем звярнуць увагу на адзін з яе найбольш важных элементаў, якім з'яўляецца сістэма абароны праезда вежы-брамы. Мы выкарыстоўваем паняцце «сістэма», бо першапачатковая гатычная брама першай чвэрці XVI ст. была ўмацавана шэрагам узаемазвязаных і ўзаемадапаўняючых абарончых прыстасаванняў (два машыкулі, узвод ці пад'ёмны мост, акаваныя вароты і яма-пастка перад імі). Пазней, у канцы XVI – пачатку XVII ст., брама была дадаткова ўмацавана паўкруглым перадбрам'ем. Такая канцэнтрацыя абарончых прыстасаванняў падкрэслівае важную ролю брамы ў комплексе ўмацаванняў замка.

Актуальнасць гэтага даследавання грунтуецца не толькі на імкненні пашырыць нашы тэарэтычныя веды ў галіне фартыфікацыі XVI ст. на беларускіх землях, але і тым фактам, што падчас рэканструкцыі, якую замак перажывае ў цяперашні час, мяркуецца аднавіць абарончыя прыстасаванні брамы.

Як вядома, гатычная шасціярусная вежа-брама была ўзведзена на першым этапе будаўніцтва замка ў першай чвэрці XVI ст. Яна месціцца пасярэдзіне заходняй сцяны, а падыходы да яе фланкіруюцца з суседніх вуглавых вежаў. Паколькі вежа-брама мае большыя за іх памеры і вынесена далей за контур названай сцяны, то перад праездам ствараецца так званая мёртвая зона, у якой вораг недасягальны для фланкіруючага агня з суседніх вежаў. Для абароны гэтай зоны на трэцім паверсе вежы-брамы зроблены машыкуль, ці байніца, для абстрэлу ворага па вертыкальнай траекторыі. М. Ткачоў лічыў, што дадатковы пояс машыкуляў мог існаваць і ў завяршэнні вежы-брамы падобна як у паўднёва-заходняй вежы [1, с. 42].

Цікава, што археалагічныя раскопкі 1991 г. пад кіраўніцтвам А. Трусава зафіксавалі адсутнасць рова перад брамай, а таксама ўзвышэнне праезда брамы над першапачатковым ўзроўнем зямлі звонку замка на 1,6 м [2, с. 21]. Гэта ўскладняла магчымасць ўжывання тарана і іншых прыстасаванняў для прабівання палатна ўзвода і варот. У канцы XVI – пачатку XVII ст. праезд брамы звонку быў прыкрыты паўкруглым перадбрам'ем. Мяркуючы па інвентарах XVII ст. і выніках натурных даследаванняў праезда, пры будаўніцтве перадбрам'я абарончая сістэма ўнутры праезда гатычнай брамы не прыцярпела значных змен.

З боку мястэчка адразу пры ўездзе ў браму за першай вузкай паўцыркулярнай аркай перад наступнай шырокай стральчатай знаходзіцца выцягнутая адтуліна даўжынёй 3,4 м і шырынёй 0,46 м. У навуковай літаратуры пашырана гіпотэза, што яна прызначалася для падаючай краты ці герсы [1, с. 41; 2, с. 22; 3, с. 161; 4, с. 208; 5, с. LXVI; 6, с. 67]. Такую думку яшчэ ў пачатку XX ст. выказаў Ю. Ядкоўскі, які пры гэтым адзначыў наступнае: «Ныне ни следов решетки...» [5, с. LXVI]. Аднак адсутнасць у пісьмовых крыніцах якіх-небудзь сведчанняў аб герсе, вынікі нашых сумесных натурных і археалагічных даследаванняў 2010 г. вежы-брамы Мірскага замка і шэраг аналагаў з еўрапейскага дойлідства прывялі нас да высновы, што гіпотэза аб існаванні герсы з'яўляецца не дастаткова абгрунтаванай. Аб яе адсутнасці сведчаць наступныя факты.

Па-першае, адтуліна над уездам у вежу-браму замка значна шырэйшая (45 см), чым адтуліны ў помніках, дзе сапраўды былі герсы. Звычайна яны мелі таўшчыню ад 9 да 15 см [7, s. 306], што вызначала шырыню адтуліны (15–20 см). Гэта яскрава бачна пры параўнанні з Вострай брамай у Вільні і Мураванкаўскай царквой, бліжэйшымі па часе і рэгіёне помнікамі, у якіх меліся герсы.

Па-другое, для скальжэння герсы ў бакавых сценах праезда абавязкова рабіліся пазы, якія фіксавалі становішча герсы ў паднятым і апушчаным стане [8, s. 26]. Падобныя пазы захаваліся ў Вострай браме ў Вільні. Пад адтулінай па баках праезда брамы Мірскага замка не прасочваюцца такія пазы і ўвогуле якія-небудзь сляды ад руху герсы. Да таго ж у бакавых сценах праезда, дзе па ідэі павінна была фіксавацца герса, добра захаваліся дэкаратыўныя нішы, якія дойліды вымуравалі не для таго, каб пасля закрыць дадатковымі канструкцыямі для герсы. Даволі рэдка, але сустракаюцца варыянты, калі герса была зафіксавана пры дапамозе дадатковых драўляных канструкцый, але ў выпадку брамы Мірскага замка на бакавых сценах няма ніякіх слядоў ад такіх канструкцый. Акрамя таго, гіпатэтычная герса мусіла б апускацца ў яму-пастку, якая была выяўлена ў выніку археалагічных даследаванняў 2010 г.

Па-трэцяе, на другім паверсе вежы над адтулінай не захавалася ніякіх слядоў ад прыстасаванняў

для пад’ёму герсы. Вядома, што пасля перабудовы замка ў апошняй чвэрці XVI ст. там размяшчалася капліца Св. Крыштафа. Аднак асаблівасці інтэр’ера згаданага яруса прыводзяць да высновы, што капліца выконвала сакральныя функцыі, відаць, ад самага пачатку. Паводле інвентару замка 1688 г., у капліцы пры падрабязным яе апісанні не адзначаецца якога-нібудзь механізма для пад’ёма герсы. Важна, што пры гэтым узгадваюцца шэсць шкафак, якія месціліся ў нішах у сценах [9, арк. 13–19аб.]. Паводле існуючай праектнай прапановы архітэктара Д. Бубноўскага па ўстаноўцы герсы пад’ёмны механізм для яе будзе займаць значную частку капліцы і пры гэтым ён закрые чатыры нішы, у якіх у 1688 г. месціліся шкафкі, а таксама дзве байніцы ў вонкавай сцяне. Напрыклад, у Вострай браме ў Вільні герса хавалася ў спецыяльнае вузкае памяшканне на другім паверсе, якое было аддзелена ад памяшкання самой капліцы сцяной. Пры гэтым пад’ёмны механізм для герсы знаходзіўся вышэй – на трэцім паверсе.

Паводле вышэйзгаданага праекта па аднаўленні герсы, механізм ўзвода і герсы павінны быць узаемазвязаны. Гэта зноў супярэчыць інвентару 1688 г., у якім ні герса, ні механізм для яе пад’ёму не ўзгадваецца, у той час ўзвод ці пад’ёмны мост апісваецца падрабязна. Іншымі словамі ўзвод існаваў і функцыянаваў без ніякай герсы.

Адтуліна, якая спарадзіла гіпотэзу аб герсе ў Мірскім замку, з’яўлялася, мяркуючы па аналагах, перадбрамным машыкулем, ці байніцай для стральбы ў вертыкальным накірунку. Такога кшталту байніцы, ці паглыбленыя ў мур, як у Мірскім замку, ці ў форме выступаючага эркера (ням. Gusserker, Pechnase) мелі большасць еўрапейскіх замкаў [8, s. 24]. Брамы з машыкулямі, падобныя да варыянту Мірскага замка, былі распаўсюджаны ў Прусіі і Польшчы. Напрыклад, паўночны флігель так званага Высокага палаца Мальбаркскага замка, меў над брамай машыкуль памеры 0,43 × 1,72 м [10, s. 1]. Адрозненне паміж адтулінай для герсы і машыкулем надзвычай выразна бачна на прыкладзе Кляштарнай брамы ў Тораню: першая вонкавая вузкая адтуліна пераходзіць у пазы на бакавых сценах, прызначаных для герсы, другая шырокая – машыкуль.

Двойчы ў інвентарах 1681 г. [11, a. 3] і 1688 г. [9, a. 14] узгадваецца так званы ўзвод (*wzwod*) ці пад’ёмны мост. Узводы мелі шырокае распаўсюджанне ў абарончым дойлідстве Беларусі. Да прыкладу, у апісанні Глускага замка 1755 г. згадваюцца два ўзводы на мосце [12, a. 1аб.], а ў Новым замку ў Слуцку па інвентары 1687 г. узвод месціўся пасярод моста праз роў [13, s. 71]. Нягледзячы на дастаткова падрабязнае апісанне ў крыніцах і захаванасць пэўных слядоў, канструкцыя ўзвода ў браме Мірскага замка застаецца не да канца высветленай. Паводле інвентароў узвод меў драўлянае палатно, абітае жалезнымі пасамі, і падымаўся на двух жалезных ланцугах, якія хадзілі праз два «*kolca*» ў муры. Апошнія, відаць, трэба атаясамліваць з двума скразнымі адтулінамі памерамі 31 × 26 см ў стральчатай арке брамы з боку мястэчка па абодва бакі праезду. У выніку іх даследавання было выяўлена, што ўнутры гэтых адтулін яшчэ пры ўзвядзенні брамы была зроблена апалубка з дошак таўшчынёй 3 см. Дошкі ўтваралі жолаб, па якім хадзіў жалезны ланцуг. Цэгла ля края адтулін мае пашкоджанні, якія, відаць, засталіся ад ланцугоў узвода. Па інвентары 1688 г. «kolca» у муры, на якіх падымаўся ўзвод, называюцца дубовымі, што сведчыць на карысць меркавання аб адтулінах з драўлянай апалубкай, праз якія падымаўся ўзвод.

Паколькі перад стральчатай аркай меўся машыкуль, палатно ўзвода павінна было падымацца ўнутр праезда да стральчатай аркі, у мурах якой захаваліся адтуліны для ланцугоў узвода. Уверсе над стральчатай аркай перад адтулінай-машыкулем знаходзіцца выступ шырынёй 20 см, за якім, відаць, хавалася палатно ўзвода ў паднятым становішчы. З усходняга боку ў стральчатай арцы унутры самой брамы захаваліся адтуліны ад бруса, які быў пакладзены паралельна муру аркі над адтулінамі для ланцугоў узвода. Акрамя мацавання восяў для варот, у гэтым брусе, верагодна, мацаваліся блокі для скальжэння ланцугоў.

Археалагічныя даследаванні 2010 г. далі шмат каштоўнай інфармацыі для разумення фартыфікацыі праезда вежы брамы. Пад стральчатай аркай была выяўлена яма-пастка памерамі 2,15 × 2,25 м, аб якой дагэтуль нічога не было вядома. Яна мае глыбіню 2,5 м ад першапачатковага ўзроўню праезда і была размешчана паміж узводам і варотамі. Яе дно пакрыта брукоўкай на вапнава-пясчанай рошчыне. З заходняга боку яма абмяжоўвалася дубовым брусам, ад якога захаваліся адтуліны ў паўночнай і паўднёвай сценах памерамі 0,3 × 0,3м. Адразу за стральчатай аркай праезда ўнутры брамы былі выяўлены рэшткі згаданага бруса, на якім былі замацаваны вароты. На гэтым брусе была знойдзена пашкоджаная агнём жалезная пласціна з трыма шыпамі, на якую абапіралася адна з восей варот. Уверсе на паўцыркулярным скляпенні ўнутранага памяшкання праезда брамы захаваліся адтуліны ад аналагічнага бруса, у якім мацаваліся восі варот і блокі для ланцугоў узвода, аб чым згадвалася вышэй. Паводле інвентару 1688 г. унізе ўзвода меліся шыпы і так званыя рэфы. Пад шыпамі, відаць, трэба разумець жалезную вось маста, якая выступала знізу ўзвода з абодвух бакоў. Рэфамі называліся крукі ці пласціны, якімі вось маста ці згаданыя ў інвентары шыпы мацаваліся да муроў ці бруса, выяўленага перад ямай-пасткай. Аднак у выніку археалагічных даследаванняў не ўдалося выявіць слядоў ад мацавання восі. Гэта дае падставы меркаваць, што яны зніклі ў выніку пазнейшых пераробак ўнутры брамы.

Пасля таго, як замак канчаткова страціў значэнне абарончага аб’екта, яма-пастка была засыпана і закрыта брукам, які быў адкрыты ў час археалагічных даследаванняў 2010 г. Над гэта брукоўкай быў выяўлены трайны срэбраны грош 60-х гадоў XVII ст. Яна II Казіміра Вазы. Унізе самой ямы культурны слой напоўнены драўлянымі рэшткамі, у тым ліку абгарэлымі, што сведчыць аб засыпанні ямы пасля спалення драўляных канструкцый унутры брамы. Паводле крыніц, падзеі вайны 1654–1667 гг. не прывялі да знішчэння ўзвода і варот у браме. Па інвентару 1681 г. адна палова варот за ўзводам вісела, а другая ляжала на зямлі разбітая, што было вынікам вышэйзгаданай вайны. У інвентары 1688 г. узвод называецца старым, у той час як вароты за ім былі ўжо адрамантаваныя. Найбольш верагодна, што вароты і ўзвод былі спалены ў час так званага шведскага пажару ў 1706 г., калі войскі Карла XII з агнём прайшліся па радзівілаўскіх маёмасцях. Сляды гэтага пажару можна і зараз бачыць на сценах, ля якіх стаялі вароты. Тады ж у асобных месцах выгарэла бэлька, на якой стаялі вароты, а таксама пад уздзеяннем пажару была пашкоджана пласціна, на якую абапіралася вось варот. Аднаўляць замак пачалі толькі ў 1720-ыя гады. Тады брус, на якім стаялі вароты, у месцах, дзе ён моцна выгарэў, быў пакрыты рошчынай, яма была засыпана зямлёй і закрыта брукам. Узвод не аднавілі, аб чым сведчыць інвентар 1720 г. [13, s. 71].

Вось узвода была размешчана над ямай-пасткай і ля бруса з заходняга краю гэтай ямы. Такое навісанне восі над ямай тлумачыцца, магчыма, спецыфічнай канструкцыяй узвода, які акрамя палатна, што апускалася вонкі і адкрывала праезд, меў, магчыма, таксама супрацьвагі, якія звісалі ў яму. Падобная канструкцыя даволі вядома ў еўрапейскім абарончым дойлідстве. У такім выпадку супрацьвагі давалі магчымасць двум ці нават аднаму чалавеку хутка падымаць узвод у выпадку небяспекі. Сам пад’ём узвода, відаць, ажыццяўляўся пры дапамозе варотаў унутры праезда брамы. Яма магла закрывацца адмысловым шчытом ці дошкамі, якія прыбіралі пасля пад’ёму моста. Цяжка сказаць, для чаго былі прызначаны вертыкальныя пазы на бакавых сценах у стральчатай арцы між узводам і варотамі прама над ямай, бо на іх не засталося слядоў ад якіх-небудзь канструкцый. Магчыма, пасля падняцця ўзвода ў іх закладвалі бярвёны ці брусы, якія дадаткова закрывалі праезд. Апошнім крокам па блакіроўцы праезда было закрыванне масіўных дубовых варот.

У 2010 г. пры выездзе з вежы-брамы на дзядзінце былі адноўлены яшчэ адны драўляныя вароты, аб якіх няма згадвання ў пісьмовых крыніцах і значэнне якіх у сістэме абароны праезда брамы застаецца незразумелым. Спроба спыніць ворага пасля прарыву праз узвод, яму-пастку і першыя вароты, якую давалі другія вароты з боку дзядзінца, была б малаэфектыўнай. Ужо з сярэдзіны праезда па лесвіцы ў сцяне можна выйсці на другі паверх вежы і на баявую галерэю на сцяне. У выпадку блакіравання гэтую лесвіцу абаронцамі, непрыяцель, які заняў цэнтральную частку праезда, мог з дапамогай тарана выбіць гэтыя вароты, у той час як абаронцы з-за адсутнасці байніц у сценах ці машыкуля ў скляпенні над цэнтральнай часткай праезда не мелі ніякай магчымасці яму ў гэтым перашкодзіць. Першапачаткова вароты, відаць, былі ўсталяваны, бо ў бакавых сценах захаваліся адтуліны ад бруса, на які мацаваліся восі варот, аднак пазней ад іх адмовіліся. У прыватнасці, іх ужо не было ў першым вядомым інвентары Мірскага замка за 1681 г. [14].

Мадэрнізацыя артылерыі і пашырэнне больш магутных гармат, якія стралялі жалезнымі ядрамі, прывяла да неабходнасці дадатковай абароны брамы. Таму ў апошняй чвэрці XVI ст. да вежы-брамы было дабудавана паўкруглае перадбрам’е, якое перакрывалася варотамі. Унізе меліся байніцы для стральбы з малых гармат, а зверху – баявая галерэя, на якую траплялі з другога паверха вежы праз прабіты ў муры праём.

У час археалагічных даследаванняў былі сабраны разнастайныя знаходкі. Сярод іх кафля ўтварае самую шматлікую групу. Так, тэракотавай кафлі з раслінным арнаментам выяўлена 16 фрагментаў. Сярод яе пераважаюць экзэмпляры сцянной кафлі і толькі адзін фрагмент быў гзымсавай. Значна менш знойдзена зялёнай паліванай кафлі (4 фрагменты) з раслінным арнаментам. Калекцыю кафлі дапаўняе фрагмент паліхромнай кафлі-каронкі, а таксама 4 фрагменты румп. Уся выяўленая кафля добра вядома з раскопак Мірскага замка ў 80-я гады XX ст. Яна датавана XVI–XVII стст.

Сярод будаўнічых матэрыялаў пераважае пляскатая дахоўка XVI–XVII стст., выраблена з добра ачышчанай гліны. Яна мела адзін з тарцоў паўкруглай формы і мацавальны шып вышынёй 4,5 см трохвугольнай формы. Усяго было выяўлена 12 фрагментаў такой дахоўкі. На многіх яе экзэмплярах выразна прасочваюцца сляды ад драўлянай формы. Знойдзены таксама мацавальны шып хвалістай дахоўкі XVIII ст.

Вырабы з каменю прадстаўлены кавалкам вапняковага аздаблення вакна, а магчыма, і дзвярнога партала. Гэты выраб датаваны канцом XVI – першай паловай XVII ст., калі замак перайшоў ва ўладанне Радзівілаў, якія перарабілі гэты палац ў рэнесансным стылі.

Металічныя вырабы складаюць нешматлікую, але даволі разнастайную калекцыю, якая налічвае 8 знаходак. Па сваім функцыянальным прызначэнні падзяляюцца на некалькі груп. Першую групу складаюць прылады працы. Да іх адносіцца экзэмпляр нажа XVII–XVIII стст., які па сваім функцыянальным прызначэнні належыць да гаспадарчых універсальных. Ён мае простую спінку, клінападобнае

сячэнне ляза, ручку з драўлянымі накладкамі, якія былі замацаваны двумя заклёпкамі. Агульная даўжыня дасягае 17,5 см; пры даўжыні ручкі 7 см і шырыні клінка 1,4–1,0 см.

Другую групу металічных вырабаў утвараюць гаспадарча-бытавыя рэчы. Скабяныя вырабы прадстаўлены металічнай дзвярной пласцінай, якая складаецца з дзвюх накладзеных адна на другую палос, замацаваных двума заклёпкамі ў адным з тарцоў. Яна мае таўшчыню 1,2 см, шырыню 6,5 см, даўжыню 16 см. Гэта пласціна была не навяснай, а ўстаўленай у драўляны брус у працэсе будаўніцтва замка.

Калекцыя сабраных цвікоў XVI–XVII стст. складаецца з чатырох экзэмпляраў, якія амаль не адрозніваюцца па форме. Усе яны маюць чатырохгранны ў сячэнні каваны стрыжань даўжынёй 11 і 8 см.

Абутковыя падковы таксама прадстаўлены адзінкавымі знаходкамі (2 адз.). На аснове асаблівасцей формы і канструкцыі падковак іх можна падзяліць на два тыпы. Першы тып утварае высокая з пласцінкападобнай у профілі асновай, выгнутая ў дугу па перыметры абцаса падкоўка. Яе вышыня як на канцах, так і ў цэнтры дугі – 1 см, а таўшчыня вагаецца ў межах ад 0,5–0,7 см. Такая падкоўка мацавалася трыма гакамі знізу абцаса. Вышыня гакаў, якія мацавалі скураныя пласціны да абцаса, дасягае 2 см. Час выкарыстання такой падкоўкі можна абмежаваць XVII ст. Другі тып прадстаўлены такой жа дугападобнай гакавай падкоўкай, аснова якой сплюшчана гарызантальна і мае сячэнне ў выглядзе прамавугольніка. Яна мацавалася трыма невысокімі гакамі да абцасу. Уяўляе сабой пераходную форму да падкоўкі без гакаў, якая атрымала распаўсюджванне ў XVIII ст. Таму выяўлены экзэмпляр падкоўкі можна датаваць другой паловай XVII ст.

Сярод вырабаў з металу маецца і конская падкова. Яна круглая па форме з пятковымі гакамі, мацавалася да капыта шасцю цвікамі, чатыры з якіх засталіся ў падкове. Пасярэдзіне дуга моцна пашырана да 4,5 см, а яе канцы звужаны. Храналагічныя рамкі такой падковы можна вызначыць XVI ст., бо яна яшчэ не мае канала для цвіка.

Завяршае калекцыю металічных вырабаў крук васьміпадобнай формы даўжынёй 10,5 см, таўшчынёй у цэнтры 2,5 см. Верагодна, што гэты крук з'яўляецца адной з дэталей пад'ёмнага моста.

У працэсе даследавання вежы-брамы было знойдзена 5 фрагментаў непаліванай і 12 фрагментаў марэннай керамікі. Непаліваная кераміка прадстаўлена 4 венчыкамі валікападобнай формы XVI–XVII стст. і фрагментам донца. Сярод марэннай керамікі былі толькі фрагменты сценак.

Калекцыя шкла таксама нешматлікая. Усяго знойдзена 9 фрагментаў неасветленага (светла-зялёнага колеру), тры фрагменты асветленага ваконнага шкла, а таксама горлышка бутэлькі з цёмна-зялёнага шкла XVII–XVIII стст.

У працэсе раскопак быў выяўлены трайны срэбраны грош Яна II Казіміра Вазы. На ліцавым баку прасочваецца ў крузе злева выява «Арла», справа – «Пагоня», над якімі размешчана карона. Па контуру маецца надпіс на лацінскай мове, верхняя частка якога была абрэзана пры адліўцы манеты. Таму чытаецца толькі яго пачатак «CKOSAR ...», а таксама часткова дата 166? Што знаходзіцца на адваротным баку манеты, цяжка высветліць.

Такім чынам, праведзеныя архітэктурна-археалагічныя даследаванні не пацвердзілі меркаванне шэрагу даследчыкаў (Я. Ядкоўскага, М. Ткачова) аб наяўнасці карты-герсы у вежы-браме Мірскага замка.

## Літаратура


1. Ткачоў, М. А. Замкі Беларусі / М. А. Ткачоў. – Мінск : Полымя, 1977. – 82 с.
2. Здановіч, Н. І. Матэрыяльная культура Міра і Мірскага замка / Н. І. Здановіч, А. К. Краўцэвіч, А. А. Трусаў. – Мінск : Навука і тэхніка, 1994. – 152 с.
3. Бубноўскі, Дз. С. Готыка і рэнесанс Мірскага замка / Дз. С. Бубноўскі // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. – Мінск : Навука і тэхніка, 1994. – С. 160–169.
4. Гурын, М. Мірскі замак / М. Гурын, М. Ткачоў // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т.– Мінск : БелЭн, 1999. – Т. 5. – С. 208–209.
5. Иодковский, И. И. Замок в Мире / И. И. Иодковский // Древности. – М., 1915. – Т. 6.– С. LIV–LXXII.
6. Ткачоў, М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII стст. / М. А. Ткачоў. – Мінск : Навука і тэхніка, 1978. – 144 с.
7. Piper, O. Burgenkunde. Bauwesen und Geschichte der Burgen / O. Piper. – Augsburg : Weltbild Verlag, 1995. – 711 s.
8. Krahe, F.-W. Burgen des deutschen Mittelalters. Grundriss-Lexikon / F.-W. Krahe. – Würzburg : Flechsig Vlg., 2000. – 792 s.
9. НГАБ. – Ф. 694. – Воп. 2. – Спр. 4468. – Інвентарны рэестр Мірскага замка, 1688 г.
10. Schmid, B. Die Wehrgänge auf den Häusern der Marienburg / B. Schmid // Der Burgwart. – 1929. – № 1. – S. 1–4.
11. AGAD, AR. – Dz. XXV. – Sp. 2444. – Інвентар Мірскага замка, 1681 г.
12. НГАБ. – Ф. 179. – Воп. 1. – Спр. 153. – Інвентар Глуска, 1755 г.
13. Mikulski, W. Opisy zamków białoruskich z inventarzy dóbr przechowywanych w archiwum Radziwiłłów w archiwum głowny aktów dawnych / W. Mikulski, J. Zawadzki. – Warszawa, 1999. – 88 s.
14. AGAD, AR. – Dz. XXV. – Sg.2448. – Апісанне Мірскага замка, 1720 г.

***В. Л. Лакіза,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, загадчык аддзела археалогіі першабытнага грамадства, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск);*
***Э. М. Зайкоўскі,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, старшы навуковы супрацоўнік, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск);*
***З. А. Харытановіч,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, малодшы навуковы супрацоўнік (г. Мінск);*
***Макс. М. Чарняўскі,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, старшы навуковы супрацоўнік, кандыдат гістарычных навук (г. Мінск)*

# Археалагічныя даследаванні ў зоне будаўніцтва Беларускай АЭС і яе інфраструктуры ў 2009–2010 гадах

Пасля вызначэння Астравецкай пляцоўкі як аднай з прыярытэтных для будаўніцтва Беларускай АЭС і яе інфраструктуры Інстытут гісторыі НАН Беларусі ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь на працягу 2009–2010 гг. ажыццявіў комплексныя мерапрыемствы па навуковым вывучэнні і ахове археалагічнай спадчыны ў зонах новабудоўляў. Былі абследаваны тэрыторыі будучага будаўніцтва[1]:

1) «Пляцоўкі Беларускай АЭС» (Дазвол па форме № 4, выдадзены на імя В. Л. Лакізы) [5];

2) «Вытворчай базы Беларускай АЭС» (Дазвол па форме № 4, выдадзены на імя Э. М. Зайкоўскага) [2];

3) «Жылых памяшканняў для работнікаў, службовыя абавязкі якіх звязаны непасрэдна з выкананнем комплекса работ па будаўніцтву АЭС» (двух мікрараёнаў у г. п. Астравец Гродзенскай вобласці)» (Дазвол па форме № 4, выдадзены на імя З. А. Харытановіч) [9];

4) «Аўтамабільнай дарогі ад Р-45 (Гоза)–АЭС–Астравец» (Дазвол па форме № 4, выдадзены на імя Э. М. Зайкоўскага) [1];

5) «Чыгуначнай лініі да АЭС» – ад пляцоўкі АЭС да ст. Ашмяны (Дазвол па форме № 4, выдадзены на імя З. А. Харытановіч) [8];

6) «Аўтамабільнай дарогі Паўднёва-ўсходні абход г. п. Астравец з выхадам на аўтамабільную дарогу М-7 Мінск–Ашмяны–мяжа Літоўскай Рэспублікі» – ад в. Белькішкі Астравецкага раёна да в. Бярвенцы і в. Лейлубка Ашмянскага раёна (Дазвол па форме № 4, выдадзены на імя Макс. М. Чарняўскага для даследаванняў на 1-ым этапе [11], і Дазвол па форме № 4, выдадзены на імя З. А. Харытановіч для даследаванняў на 2-ім этапе [10]).

Археалагічныя даследаванні (папярэднія работы, разведкі і шурфоўка, раскопкі і нагляд) на некаторых з шасці адзначаных аб'ектах праводзіліся як на этапе праектавання, так і на пачатковых стадыях будаўніцтва практычна адначасова[2], былі падпарадкаваны каляндарным планам гаспадарчых дагавораў і выконваліся ў адпаведнасці з заданнямі Заказчыкаў[3].

Паралельна здзяйсняліся пошук і вывучэнне архіўнай дакументацыі, гістарычнай і археалагічнай літаратуры, картаграфічных і музейных матэрыялаў, якія мелі дачыненне да тэрыторыі абследавання. Былі атрыманы новыя звесткі пра археалагічныя і гістарычныя аб'екты, складзены гістарычныя даведкі шэрагу населеных пунктаў, у тым ліку непасрэдна з зоны будаўніцтва АЭС: Шульнікі, Рудзішкі, Гоза, Броўнікі, Астравец, Трэцінішкі і інш.[4]

У цэлым тэрыторыі сучасных Астравецкага і Ашмянскага раёнаў Гродзенскай вобласці нельга аднесіць да тых рэгіёнаў Беларусі, якія дастаткова добра абследаваны і вывучаны ў археалагічным плане. Суцэльнае археалагічнае абследаванне тут раней не праводзілася. У «Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусі», які, на жаль, не з'яўляецца поўным і адпавядаючым рэчаіснасці, уключаны толькі 18 помнікаў каменнага, жалезнага вякоў і эпохі сярэдневякоўя (стаянкі, гарадзішчы, курганныя могільнікі) на тэрыторыі Астравецкага і 6 помнікаў (пераважна могільнікі і гарадзішчы эпохі сярэдневякоўя) на тэрыторыі Ашмянскага раёна. Між тым наяўная інфармацыя аб выяўленні ў розныя часы на Астравеччыне

[1] Агульнае кіраўніцтва ўсім комплексам навуковых археалагічных даследаванняў у зоне будаўніцтва Беларускай АЭС і яе інфраструктуры ажыццяўляў загадчык аддзела археалогіі першабытнага грамадства, кандыдат гістарычных навук В. Л. Лакіза.

[2] Аўтары выказваюць падзяку усім, хто прымаў удзел у палявых даследаваннях у зоне будаўніцтва Беларускай АЭС і аб'ектаў яе інфраструктуры на працягу 2009–2010 гг. і камеральнай апрацоўцы атрыманых матэрыялаў: В. Г. Беляўцу, А. Ю. Ткачову, М. І. Ткачовай, М. А. Плавінскаму, А. М. Плавінскаму, В. М. Сідаровічу, Р. М. Панурыну, С. Б. Ліневічу.

[3] Заказчыкамі з'яўляліся ДУ «Дырэкцыя будаўніцтва атамнай электрастанцыі», РУП «Гроднааўтадар» і АП «Мінскі прамтранспраект».

[4] Аўтары выказваюць падзяку загадчыку сектара Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдату гістарычных навук А. Б. Доўнару за падрыхтоўку разгорнутай гістарычнай даведкі.

і Ашмяншчыне каменных свідраваных сякер і каменнай свідраванай булавы (в. Гальшаны, Маркіняты, Семернікі), сістэматызацыя такіх вырабаў з фондаў Ашмянскага краязнаўчага музея сведчылі аб наяўнасці ў рэгіёне і першабытных помнікаў эпохі неаліту і бронзавага веку [4, с. 224; 5; 6, с. 23–37; 7, с. 1–22]. Напрыклад, яшчэ ў 1930-я гады у фонды Нацыянальнага музея Літвы ў Вільнюсе трапіла дакументацыя з інфармацыяй аб археалагічных знаходках (каменных свідраваных сякерах, фрагменце каменнай свідраванай арнаментаванай булавы) з ваколіц в. Рудзішкі і в. Валейкуны Астравецкага раёна, якія размешчаны ў непасрэднай блізкасці ад Беларускай АЭС[1].

Акрамя таго, фрагмент каменнай сякеры (лёзавая частка) маецца і ў мясцовым музеі в. Баброўнікі. У ім жа захоўваецца і калекцыя ганчарнай керамікі, знойдзеная ў ваколіцах вёскі. Сярэдневяковую кераміку і абломкі кафлі збіраў каля вёскі ў кар’еры для сіласнай ямы ў 2001 г. і Э. М. Зайкоўскі, які праводзіў на тэрыторыі раёна археалагічныя пошукі. Дакладная ж лакалізацыя, першыя абследаванні і шурфоўка сярэдневяковага селішча каля в. Баброўнікі адбыліся ў 2009 г., калі праводзіліся абследаванні зоны будаўніцтва новай аўтадарогі Гоза–АЭС–Астравец [1]. Селішча Баброўнікі-1 размешчана на ўсход ад в. Баброўнікі Варнянскага сельсавета, праз 150–250 м на захад ад новай аўтадарогі Газа–Астравец, на ўзгорку, побач з калгаснымі сіласнымі ямамі, пад лініяй электраперадач. У 2009 г. на паверхні, якая разворваецца, у сценках кар’ера была сабрана вялікая колькасць абломкаў ганчарнай керамікі другой паловы XVI – XVII ст., кавалкі таўстасценнага шкла, кавалкі цэглы – «пальчаткі», невыразныя фрагменты металічных вырабаў, манета – «барацінка» другой паловы XVII ст. На селішчы была праведзена шурфоўка. Даследаваны культурны пласт з цёмна-шэрай гумусаванай супесі таўшчынёй амаль да 0,8 м, які ўтрымліваў абломкі ганчарнай, абломак сустаўной косці, фрагмент вырабу з жалеза. Выяўленыя матэрыялы сведчаць, што у дадзеным месцы было размешчана селішча позняга сярэдневякоўя і новага часу. Па меркаванні гісторыка Герман Брэгера, тут у XV–XVI стст. мог быць размешчаны цэнтр воласці Высокі Двор [1].

У 2010 г. абследаванне помніка Баброўнікі-1 перыядычна працягвалася. Значна папоўнілася і калекцыя артэфактаў. Напрыклад, сярод керамічных артэфактаў эпохі позняга сярэдневякоўя і пачатку новага часу маюцца: фрагмент цэглы-пальчаткі, 2 фрагменты тэракотавай кафлі з арнаментам (мал. 1: *5*), фрагмент тэраковай кафлі з арнаменам, 13 фрагментаў венчыкаў ад ганчарнага посуду (мал. 1: *1–4*), фрагмент венчыка ад ганчарнага посуду з хвалістым арнаментам, 13 фрагментаў сценак без арнаменту ад ганчарнага посуду, фрагмент сценкі з карычневай палівай ад ганчарнага посуду, фрагмент вушка ад ганчарнага посуду, фрагмент плоскага дна ад ганчарнага посуду. Даволі прадстаўнічай аказалася і калекцыя манет з 26 экзэмпляраў XVII–XVIII стст. (сярод іх: соліды каронныя і літоўскія, 2 экз. шасціграшовікаў (мал. 2), 3 экз. грошаў, 1 экз. манеты вартасцю дзве капейкі) [5].

Новыя звесткі аб археалагічных аб’ектах побач з зонай будаўніцтва Беларускай АЭС былі атрыманы ў канцы 2009 г. у час абследавання тэрыторыі будаўніцтва новай чыгуначнай лініі ад АЭС да станцыі Ашмяны [8]. Тады былі зафіксаваны некалькі селішчаў эпохі сярэдневякоўя каля в. Грэбалы і в. Бельскішкі, а таксама месцазнаходжанні археалагічных матэрыялаў (пераважна ганчарнай керамікі) позняга сярэдневякоўя і новага часу каля былога хут. Баброўнікі і в. Рудзішкі. Так, месцазнаходжанне Баброўнікі-2 размешчана на ўзараным полі на ўсход ад в. Баброўнікі злева ад дарогі Баброўнікі–Швейляны каля закінутага хутара; месцазнаходжанні Баброўнікі-3 і Баброўнікі-4 – на паўднёвы ўсход ад вёскі на узараным полі за меліярацыйным каналам; месцазнаходжанне Рудзішкі – на ўзараным полі на захад ад в. Рудзішкі перад участкам з дрэвамі недалёка ад былога хутара. Тут знойдзена некалькі фрагментаў кругавога посуду, венца міскі, сценкі гаршкоў, адзін з якіх арнаментаваны хвалістай лініяй, донца кругавога гаршка са слядамі падсыпкі.

Маштабныя абследаванні праводзіліся ў 2009–2010 гг. на тэрыторыі будаўніцтва пляцоўкі, вытворчай базы Беларускай АЭС і тэрыторыі будаўніцтва жыллёвага фонду і жыллёвай інфраструктуры у г. п. Астравец: суцэльнае візуальнае абследаванне ўсёй тэрыторыі будаўніцтва, а таксама прылягаючай да яе мясцовасці, пошукі археалагічных аб’ектаў, павярховыя зборы археалагічных матэрыялаў, зачысткі агаленняў, сценак ям і кар’ераў, месцаў выбаркі грунту, дакладная і падрабязная фотафіксацыя ўсяго апісанага працэсу. Пастаянна, асабліва побач з населенымі пунктамі, хутарамі, актыўна выкарыстоўваліся металадэтэктары. Больш дэтальнаму абследаванню падвергаліся ўчасткі земляных работ у тых месцах, якія разглядаліся як найбольш перспектыўныя для выяўлення археалагічных аб’ектаў. У такіх месцах праводзілася і дадатковая шурфоўка, а там, дзе ўжо пачаліся земляныя работы, ажыццяўляліся зачысткі некаторых участкаў мацерыковай паверхні, дасканалае абследаванне земляных адвалаў. Уся зона будаўніцтва Беларускай АЭС была падзелена на некалькі ўчасткаў, прывязаных да існуючых населеных пунктаў і былых хутароў:

[1] Аўтары выказваюць падзяку Вікінтасу Вайткявічюсу (Dr. Vykintas Vaitkevičius) з Клайпедскага ўніверсітэта (Літва) за прадастаўленую інфармацыю і фотаздымкі артэфактаў.




Мал. 1. Археалагічныя матэрыялы (фрагменты): *1–4* – кругавая кераміка; *5* – тэракотавая кафля. Тэрыторыя каля пляцоўкі Беларускай АЭС. Селішча Баброўнікі

1) ваколіцы в. Баброўнікі і археалагічны помнік селішча Баброўнікі;

2) ваколіцы былога фальварка і хутара Шульнікі;

3) ваколіцы в. Рудзішкі і ў напрамку ад яе ў бок будаўнічай пляцоўкі АЭС;

4) ваколіцы в. Авены-Шульнікі і ў напрамку ад іх у бок будаўнічай пляцоўкі АЭС;

5) тэрыторыя ў ваколіцах і ў напрамках паміж в. Шульнікі і в. Валейкуны і ў бок будаўнічай пляцоўкі АЭС;

6) тэрыторыя будаўніцтва новых мікрараёнаў у г. п. Астравец.

У выніку іх былі зроблены наступныя высновы (заключэнні для Заказчыка):

1) у час папярэдняга абследавання месца будаўніцтва пляцоўкі Беларускай АЭС археалагічных аб’ектаў не выяўлена, а значыць пагроза разбурэння археалагічнай спадчыны на гэтым аб’екце адсутнічае. Пры правядзенні ў гэтым месцы далейшых земляных і будаўнічых работ у запраектаваных межах археалагічныя абследаваннні не патрабуюцца, і іх тут можна прыпыніць;



Мал. 2. Шасціграшовік (шустак). Ян III Сабескі (1676–1696). Срэбра. Рэч Паспалітая. 1680 г. 24,5 мм. Пляцоўка каля Беларускай АЭС. Селішча Баброўнікі

2) у час папярэдняга абследавання месца будаўніцтва вытворчай базы Беларускай АЭС археалагічных аб’ектаў не выяўлена, а значыць пагроза разбурэння археалагічнай спадчыны на гэтым аб’екце адсутнічае. Пры захаванні на ім зоны земляных і будаўнічых работ у запраектаваных межах археалагічныя абследаваннні тут можна прыпыніць;



Мал. 3. Зялёнапаліваная кафля. Зона будаўніцтва мікрараёна № 1 для супрацоўнікаў Беларускай АЭС. Селішча Трэцінішкі. г. п. Астравец




Мал. 4. Карта з лакалізацыяй выяўленых аб'ектаў археалогіі: *1* – Дзягенева-1; *2* – Дзягенева-2; *3* – Дзягенева-3; *4* – Дзягенева-4а; *5* – Дзягенева-4б; *6* – Керманяны-1; *7*– Керманяны-2. Зона будаўніцтва аўтамабільнай дарогі паўднёва-ўсходні абход г. Астравец з выхадам на аўтамабільную дарогу М-7 Мінск–Ашмяны–мяжа Літоўскай Рэспублікі (інфраструктура Беларускай АЭС) каля в. Дзягенева і в. Керманяны



Мал. 5. Чвэрць патагона (талера). Альберт і Елізавета (1599–1621 гг.). Срэбра. Манетны двары Торн (Турнэ). Нідэрланды пад уладай Іспаніі. 30,6 мм. Зона будаўніцтва аўтамабільнай дарогі паўднёва-ўсходні абход г. Астравец з выхадам на аўтамабільную дарогу М-7 Мінск–Ашмяны–мяжа Літоўскай Рэспублікі (інфраструктура Беларускай АЭС). Селішча Дзягенева-4а

3) у сувязі з выяўленнем у непасрэднай блізкасці ад будаўнічай пляцоўкі новага археалагічнага помніка – селішча Баброўнікі, неабходна прыняць усе неабходныя захады для яго захавання. Нягледзячы на тое, што селішча не ўваходзіць непасрэдна ў зону будаўніцтва, застаецца пагроза яго выкарыстання пад кар'ер ці інш. Неабходна выключыць у дадзеным месцы любыя земляныя работы без узгаднення з археолагамі;

4) у час папярэдняга абследавання месца будаўніцтва жыллёвага фонда і жыллёвай інфраструктуры ў г. п. Астравец выяўлены і абследаваны новы археалагічны помнік – сярэдневяковае селішча Трэцінішкі на беразе р. Кавалёўка (месца будаўніцтва мікрараёна № 1), вядомае з гістарычных крыніц як мінімум з XVI ст. На помніку праведзены шурфоўка, раскопкі і нагляд[1]. У культурным пласце знойдзена вялікая колькасць фрагментаў тэракотавага і паліванага кружальнага посуду, талерак з парцэляну, тэракотавай і паліванай (манахромнай і паліхромнай) кафлі (мал. 3), шкла, цэглы, жалезных і бронзавых вырабаў. Пры захаванні зоны земляных і будаўнічых работ у запраектаваных межах археалагічныя абследаваннні тут можна прыпыніць;

5) у сувязі з далейшымі землянымі работамі па будаўніцтве Беларускай АЭС неабходна ўлічваць, што пры выяўленні любых археалагічных аб'ектаў і рэчаў матэрыяльнай культуры земляныя работы неабходна прыпыніць і паведаміць у Інстытут гісторыі для арганізацыі мерапрыемстваў па ахове гісторыка-культурнай (археалагічнай) спадчыны Рэспублікі Беларусь.

Новыя аб'екты археалогіі былі выяўлены і падчас суцэльнага абследавання зоны будаўніцтва новай аўтамабільнай дарогі Паўднёва-ўсходні абход г. п. Астравец з выхадам на аўтамабільную дарогу М-7 Мінск–Ашмяны–мяжа Літоўскай Рэспублікі – ад в. Белькішкі Астравецкага раёна да в. Бярвенцы і в. Лейлубка Ашмянскага раёна (мал. 4). Так, месцазнаходжанні фрагментаў кругавога посуду, рэшткі селішчаў сярэдневякоўя і новага часу лакалізаваны каля в. Сасноўка (1 пункт), в. Дзягенева (5 пунктаў), Керманяны (2 пункты). Асабліва каштоўны артэфакт быў выяўлены на селішчы Дзягенева-4а – срэбная манета, чвэрць патагона (талера), манетны двары Торн (Турнэ), 30,6 мм, Альберт і Елізавета, 1599–1621 гг., Нідэрланды пад уладай Іспаніі (мал. 5). Месцазнаходжанне кругавой керамікі зафіксавана таксама праз 1 км на поўнач ад в. Паляны, сярэдневяковае селішча праз 0,5 км на паўднёвы ўсход ад в. Бярвенцы (на паўднёвым схіле пагорка, на беразе невялікага прытока р. Ашмянка). На апошнім сабра-

[1] У дадзеным зборніку прадстаўлены асобны артыкул З. А. Харытановіч аб даследаваннях на селішчы Трэцінішкі.

на значная колькасць фрагментаў ганчарнага посуду, жалезных і металічных вырабаў і іх фрагментаў, манета (баратынка, каронная, XVII ст.).

Аднак найбольш значнае адкрыццё 2010 г. – выяўленне і дакладная лакалізацыя археалагічнага комплексу каля в. Галіны, які складаецца з селішча, гарадзішча і курганнага магільніка. Селішча размешчана на паўднёвы захад ад в. Галіны на полі каля аднайменнага хутара. Яно займае схілы некалькіх пагоркаў і лажбіну паміж імі. Вясной 2010 г. на ўзараным полі былі зафіксаваны 6 плям цёмна-шэрага колеру памерамі да 40 м, знойдзены фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі, жалезныя і бронзавыя вырабы другой паловы III – першай паловы IV ст. і ранняга сярэдневякоўя (мал. 6: *1, 2*), срэбны «псеўдавіты» пярсцёнак XII–XIII стст. (мал. 6: *3*) [3, 7, 11]. У тым жа годзе на помніках каля в. Галіны былі праведзены раскопкі і нагляд [10][1].




Мал. 6. Археалагічныя матэрыялы: *1, 2* – жалезныя спражкі; *3* – срэбны пярсцёнак. Зона будаўніцтва аўтамабільнай дарогі паўднёва-ўсходні абход г. Астравец з выхадам на аўтамабільную дарогу М-7 Мінск–Ашмяны–мяжа Літоўскай Рэспублікі (інфраструктура Беларускай АЭС). Селішча Галіны

[1] У дадзеным зборніку прадстаўлены асобны артыкул З. А. Харытановіч аб даследаваннях на археалагічным комплексе Галіны.

## Літаратура

1. Зайкоўскі, Э. М. Справаздача пра выкананне навуковых археалагічных даследаванняў (папярэдняе абследаванне, разведак і шурфоўкі) у зоне аб'екта «Будаўніцтва аўтамабільнай дарогі ад Р-45 (Газа)–АЭС–Астравец» у Астравецкім раёне Гродзенскай вобласці ў 2009 г. / Э. М. Зайкоўскі // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2719. – 75 с.

2. Зайкоўскі, Э. М. Справаздача № 2 аб правядзенні археалагічных абследаванняў пляцоўкі будаўніцтва Беларускай АЭС у рамках рэалізацыі дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы па аб'екце «Будаўніцтва АЭС (якая ўключае праектна-пошукавыя работы (вытворчая база АЭС г. п. Астравец Гродзенскай вобласці)» у 2009–2010 гг. / Э. М. Зайкоўскі // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Мінск, 2011.

3. Медведев, А. М. Белорусское Понеманье в раннем железном веке (I тысячелетие до н. э. – V в. н. э. / А. М. Медведев. – Минск, 1996.

4. Лакіза, В. Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння / В. Л. Лакіза. – Мінск : Беларус. навука, 2008. – 343 с.

5. Лакіза, В. Л. Справаздача № 1 аб правядзенні археалагічных абследаванняў пляцоўкі будаўніцтва беларускай АЭС у рамках рэалізацыі дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы па аб'екту «Будаўніцтва АЭС (якая ўключае праектна-пошукавыя работы (г. п. Астравец Гродзенскай вобласці)» у 2010 г. / В. Л. Лакіза // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2750.– 151 с.

6. Лакіза, В. Л. Каменныя свідраваныя сякеры з фондаў Ашмянскага краязнаўчага музея / В. Л. Лакіза, С. Б. Ліневіч // Ашмяншчына: праблемы рэгіянальнай гісторыі Беларусі: зб. навук. арт. / рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]. – Мінск : Беларус. навука, 2011. – С. 23–37.

7. Лакіза, В. Л. Вынікі археалагічных даследаванняў у зонах новабудоўляў на тэрыторыі Ашмянскага раёна: новыя помнікі і матэрыялы / В. Л. Лакіза, З. А. Харытановіч, Макс. М. Чарняўскі // Ашмяншчына : праблемы рэгіянальнай гісторыі Беларусі : зб. навук. арт. / рэдкал.: А. А. Каваленя [і інш.]. – Мінск : Беларус. навука, 2011. – С. 11–22.

8. Харытановіч, З. А. Справаздача аб выкананні навуковых археалагічных даследаванняў у зоне будаўніцтва аб'екта «Чыгуначная лінія да АЭС» у 2009 г. / З. А. Харытановіч // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2672. – 69 с.

9. Харытановіч, З. А. Справаздача № 3 аб правядзенні 2-га этапа археалагічных абследаванняў аб'екта «Жыллёвы фонд і жыллёвая інфраструктура, неабходная для будаўніцтва АЭС ў г. п. Астравец Гродзенскай вобласці» у рамках рэалізацыі дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы па аб'екту «Будаўніцтва жылых памяшканняў для работнікаў, службовыя абавязкі якіх звязаны непасрэдна з выкананнем комплекса работ па будаўніцтву АЭС (якая ўключае праектна-пошукавыя работы) (г. п. Астравец Гродзенскай вобласці)» у 2010 г. / З. А. Харытановіч // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2784.– 130 с.

10. Харытановіч, З. А. Справаздача аб правядзенні 2-га этапу археалагічных даследаванняў на аб'екце «Строительство автомобильной дороги Юго-восточный обход г. Островец с выходом на автомобильную дорогу М-7 Минск–Ошмяны–граница Литовской республики с устройством транспортной развязки в месте пересечения». Даследаванні археалагічнага комплекса Галіны ў 2010 г. / З. А. Харытановіч // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2802.– 96 с.

11. Чарняўскі, Макс. М. Справаздача аб даследаваннях у зоне будаўніцтва аб'екта «Строительство автомобильной дороги Юго-восточный обход г. Островец с выходом на автомобильную дорогу М-7 Минск – Ошмяны – граница Литовской Республики с устройством транспортной развязки в месте пересечения» у 2010 г. / Макс. М. Чарняўскі // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2763. – 49 с.

***І. У. Магалінскі,*** *Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік, аспірант (г. Полацк)*

# Археалагічныя даследаванні ў Полацку ў 2010 годзе

У 2010 г. на падставе Дазволу № 2118 па форме № 2 і дазволу № 2175 па форме № 4, аўтарам былі праведзены археалагічныя даследаванні на трох аб’ектах у горадзе Полацку. Былі вывучаны культурныя напластаванні ў межах Вялікага і Запалоцкага пасадаў, а таксама на тэрыторыі старажытных паселішчаў за р. Палата.

**Археалагічны нагляд на аб’екце «Рэканструкцыя будынку склада па вул. Ніжне-Пакроўскай, 35а у Полацку пад адміністратыўна-бытавы будынак»** праводзіўся ў чэрвені 2010 г. Вуліца Ніжне-Пакроўская знаходзіцца ў межах гістарычнай часткі горада – Вялікага пасада, тэрыторыя якога дастаткова добра вывучана ў археалагічным плане. Недалёка ад месца земляных работ даследаванні праводзіліся ў другой палове 1980-х – пачатку 1990-х гадоў пад кіраўніцтвам Н. І. Здановіч і Г. М. Сагановіча. У 2008 г. археалагічны нагляд за будаўніцтвам офіснага будынку па вул. Ніжне-Пакроўскай каля дома № 26 праводзіў Д. У. Дук. Быў выяўлены культурны пласт з матэрыяламі XI–XX стст., сляды забудовы XVII–XVIII стст. [1–4].

Земляныя работы на аб’екце зводзіліся да распрацоўкі адной траншэі для пракладкі камунікацый (каналізацыя і водаправод) да складскіх памяшканняў па вул. Ніжне-Пакроўскай, 35а. Агульная даўжыня траншэі – 24 м, шырыня – 1,0–1,1, глыбіня – ў сярэднім 1,5–1,6 м.

Культурны пласт у межах траншэі моцна пашкоджаны будаўнічай дзейнасцю і дасягае магутнасці 1,8 м. Ён неаднародны, мае ў сваёй структуры дамешкі пяску, цэглы, сучаснага смецця і іншых уключэнняў. Зямля дробнакамкаватая, сухая, амаль не ўтрымлівае арганічных рэшткаў. Мацярык быў выяўлены на асобных участках. Ён уяўляе сабой светла-жоўты дробнакамкаваты вільготы пясок.

Падчас даследаванняў культурнага пласта ў межах траншэі была сабрана пэўная колькасць археалагічных знаходак.

Керамічны посуд прадстаўлены пераважна фрагментамі гаршкоў і талерак XVII–XIX стст. з рэшткамі зялёнай і карычневай палівы на ўнутраным ці вонкавым баку. Асабліва трэба адзначыць выяўленне ў керамічным матэрыяле з траншэі фрагментаў больш архаічных гаршкоў, форма якіх характэрна для XII–XIII стст. [5, мал. 19: *4*]. Яны прадстаўлены сценкамі і верхнімі часткамі начынняў S-падобнага профілю. Дадзеныя знаходкі з’яўляюцца ў асноўным пад’ёмным матэрыялам з адвалаў траншэі, што не дазваляе надзейна атаясамліваць іх з пэўным стратыграфічным пластом.

Значную частку керамічных артэфактаў, якія былі знойдзены ў межах траншэі, складае кафля (мал. 1). Яна прадстаўлена пераважна фрагментамі зялёнапаліванай і тэракотавай бязрамачнай сценавай кафлі з раслінным арнаментам у выглядзе «вазы з кветкамі». Сярэднія памеры – 20 × 18 см. Падобныя вырабы датаваны ў межах XVII ст. [6, с. 73; 7].

Гэтым жа часам варта датаваць таксама некалькі фрагментаў карнізнай і вуглавой кафлі. Карнізная кафля ўпрыгожана раслінна-геаметрычным арнаментам і пакрыта зялёнай палівай. Зялёнапаліваным з’яўляецца і фрагмент вуглавой кафлі з арнаментам у выглядзе «вазы з кветкамі».

Асноўная колькасць кафлі была выяўлена ў межах кв. 4–5. Гэты факт, а таксама аднастайнасць арнаментальных матываў і фізічных характарыстык (памераў) дазваляе меркаваць адносна прыналежнасці яе да аднаго пячнога набору.

Такім чынам, падчас археалагічнага нагляду аб’екце «Рэканструкцыя будынку склада па вул. Ніжне-Пакроўскай, 35а у Полацку пад адміністратыўна-бытавы будынак» былі выяўлены археалагічныя матэрыялы пераважна XVII–XIX стст. Шэраг асобных артэфактаў (венцы гаршкоў) сведчыць пра засяленне гэтай часткі Вялікага пасада ўжо ў XII–XIII стст. Між тым культурны пласт дадзенага перыяду не зафікасаваны, а артэфакты XII–XIII стст. былі сустрэты толькі ў якасці пад’ёмнага матэрыялу. Гэты факт можа быць патлумачаны ўваходжаннем адзначанай тэрыторыі ў XIX ст. у склад сядзібнага комплексу, у межах якога маглі праводзіць нівіліроўку ўчастка, а таксама ажыццяўлялі інтэнсіўную гаспадарчую дзейнасць.

**Археалагічны нагляд на аб’екце «Траншэя пад газаправод па 5-аму завулку Ф. Міронавай у г. Полацку»** праводзіўся ў кастрычніку 2010 г. Даследаванні ў гэтай частцы горада былі распачаты С. В. Тарасавым у 1986 г. Даследчыкам была праведзена шурфоўка на мысе правага берага р. Палата. Мацярык зафіксаваны на глыбіні 1,1 м. Са знаходак варта адзначыць фрагменты керамікі XII–XIII стст., а таксама кафлі XVII ст. [8, с. 11].

У 2005–2006 гг. археалагічны нагляд на гэтай тэрыторыі праводзіўся навуковым супрацоўнікам НПГКМЗ А. А. Салаўёвым. Так, у 2005 г. ажыццяўлялася пракладка газаправода па вул. Ф. Міронавай у раёне д. 26–34. Агульная працягласць траншэі склала 160 м пры сярэдняй магутнасці культурнага слою – 1,4 м. У мацерыковых ямах ці перадмацерыковым слоі выяўлены матэрыялы X–XIII стст. Сярод знаходак пераважаюць керамічныя вырабы. Выяўлена таксама некалькі фрагментаў ружовага шыфернага сланца са слядамі апрацоўкі. У 2006 г. праводзіўся нагляд за пракладкай траншэі пад водаправод (агульная працягласць 700 м) уздоўж усёй вул. Ф. Мірона-




Мал. 1. Кафля XVII ст. *(1, 2).* Вул. Ніжне-Пакроўская, 35а. Вялікі пасад. Полацк. 2010 г.

вай. У выніку была зафіксавана наяўнасць культурнага слою XI–XII стст. у межах мацерыковых ям. Акрамя таго, знойдзены і асобныя матэрыялы XVIII ст. (геральдычная кафля) [5, с. 23].

Земляныя работы на аб'екце зводзіліся да распрацоўкі адной траншэі для пракладкі газаправода, якая мае форму літары «Г», агульнай працягласцю 180 м, а таксама двух уводаў газаправода да прыватных дамоў № 8 і № 2 (даўжынёй 22,5 м і 20,9 м адпаведна) па 5-аму зав. Ф. Міронавай. Уводы непасрэдна далучаліся да магістральнай траншэі, максімальная глыбіня якой складала 1,6 м, а шырыня – 1,0–1,1 м.

Культурны пласт у межах траншэі дасягае магутнасці 1,3 м. Ён дастаткова аднародны і ўяўляе сабой цёмна-шэрую сухую дробнакамкаватую глебу. На большай частцы траншэі быў выяўлены мацярык – светла-жоўты дробнакамкаваты вільготны пясок.

Падчас даследаванняў культурнага пласта ў межах траншэі была сабрана пэўная колькасць археалагічных знаходак, большасць якіх датаваны ў межах XII–XVIII стст.

Керамічны посуд прадстаўлены пераважна фрагментамі тэракотавых і паліваных гаршкоў XII–XVIII стст. (мал. 2). Большая частка гаршкоў характэрна для XVI–XVIII стст. [6, мал. 31]. Сярод керамічнага посуду, фрагменты гаршкоў старажытнарускага часу былі выяўлены толькі ў межах мацерыковых ям.




Мал. 2. Венцы гаршкоў *(1–11)*. 5-ты завулак Ф. Міронавай. Полацк. 2010 г.

Венцы XII–XIII стст. прадстаўлены фрагментамі начынняў так званага полацкага тыпу са скошаным унутр краем, па якому праходзіць адмысловы жалабок, а таксама гаршкамі з адагнутым вонкі венцам, край якога загнуты ўнутр ці падняты. Падобныя начынні атрымалі найбольшае распаўсюджванне ў XII ст. [9, с. 83; 10, с. 85].

Сярод іншых керамічных вырабаў варта адзначыць знаходку фрагмента зялёнапаліванай сценавай кафлі XVII ст. Фрагментаванасць вырабу не дазваляе выказаць адназначнага меркавання адносна характару выявы, якая была размешчана на кафлі, а таксама аб агульных яе памерах.

Падчас археалагічнага нагляду былі выяўлены таксама два фрагменты драўляных вырабаў са слядамі апрацоўкі. Устанавіць функцыянальнае прызначэнне артэфактаў у сувязі з іх значнай фрагментаванасцю не ўяўляецца магчымым.

Вырабы з металаў прадстаўлены чатырохгранным каваным металічным цвіком, а таксама фрагментаваным медным ці бронзавым вырабам з фрагментам заклёпкі, які, верагодна, служыў рамонтнай накладкай на драўляны посуд (пра гэта сведчыць наяўнасць слядоў драўніны на адным баку прадмета).

Такім чынам, падчас археалагічнага нагляду на аб’екце «Траншэя пад газаправод па 5-аму завулку Ф. Міронавай у г. Полацку» былі выяўлены матэрыялы дастаткова шырокага храналагічнага дыяпазону. У выніку работ пацвердзіўся тэзіс папярэдніх даследчыкаў гэтай тэрыторыі аб фіксацыі культурнага слою старажытнарускага часу толькі ў межах мацерыковых ям.

Найбольш раннія матэрыялы дазваляюць выказаць меркаванне адносна засялення дадзенай тэрыторыі ўжо ў XII ст. Найбольш верагодна, што ў XII–XIII стст. гэтыя тэрыторыі адносіліся да сельскага паселішча-спадарожніка Полацка, а таксама выконвалі функцыю агародаў. З развіццём фальварковай гаспадаркі ў XVI–XVIII стст. жыццё на дадзенай частцы горада зноў аднавілася.

**У ліпені 2010 г. археалагічныя даследаванні праводзіліся на тэрыторыі Запалоцкага пасада.** У двары прыватнага дома № 12 па вул. Краснова са згоды гаспадара быў зроблены шурф 1 агульнай плошчай 8 м$^2$.

Першыя спецыяльныя археалагічныя даследаванні ў дадзенай частцы горада былі праведзены Г. В. Штыхавым у 1961 г. недалёка ад вусця р. Палата. Усяго было даследавана 36 м$^2$ культурнага пласта магутнасцю да 1,8 м. Навуковец адзначыў, што культурны слой быў моцна сапсаваны познімі пахаваннямі і ўтрымліваў сляды пажарышча XVI ст. Падчас работ былі выяўлены фрагменты кругавой керамікі X–XIII стст. У 1980 г. Г. В. Штыхаў працягнуў даследаванні Запалоцкага пасада. На адлегласці 0,5 км ад Сафійскага сабора ім быў закладзены раскоп агульнай плошчай 80 м$^2$. У ходзе прац былі выяўлены фрагменты кругавой керамікі X–XVI стст. [11].

Вывучэнне гэтай часткі Запалоцця было працягнута С. В. Тарасавым. У 1986 г. даследчык зрабіў раскоп II (170 м$^2$), які прывязаў да раскопу Г. В. Штыхава. Агульная магутнасць культурнага слою склала 0,8 м. Былі выяўлены матэрыялы XI–XVIII стст. (пераважна кераміка).

Акрамя таго, у гэтым жа годзе С. В. Тарасаў правадзіў абследаванне траншэі пад водаправод (даўжынёй каля 173 м), якая праходзіла па вул. Я. Коласа. Мацярык зафіксаваны на глыбіні каля 0,55–1,15 м, а месцамі адразу пад дзірванам. Сярод артэфактаў, выяўленых падчас нагляду, варта адзначыць фрагменты керамічных начыняў XII–XVIII стст. [12, с. 27–28].

У 2006 г. навуковым супрацоўнікам НПГКМЗ А. А. Салаўёвым ажыццяўляўся археалагічны нагляд за пракладкай водаправода недалёка ад месца шурфоўкі. Падчас даследаванняў былі выяўлены артэфакты XV–XVI стст. (кафля, кераміка і інш.) [13].

Культурны слой у межах шурфа 1 моцна пашкоджаны ў выніку актыўнай гаспадарчай дзейнасці на ўчастку, а таксама карэннямі дрэў. Гэты факт не дае магчымасці прасачыць асобныя стратыграфічныя гарызонты, а таксама надзейна прадатаваць асобныя пласты. Фрагменты непарушанага культурнага слою выяўлены толькі на ўзроўні некаторых мацерыковых ям.

Верхні слой у шурфе 1 прадстаўлены праплансткай цёмна-шэрага колеру, аднароднай па структуры, сухой, дробнакамкаватай, перамешанай з дробнымі карэннямі і керамічным друзам. Ён размешчаны непасрэдна пад дзёрнам і мае магутнасць ад 0,4 да 1,3 м. У ходзе даследавання дадзенага слою была выяўлена значная колькасць дробных фрагментаў керамікі, якая датавана дастаткова шырока – XII–XVIII стст.

Ніжні перадмацерыковы пласт прадстаўлены нераўнамерна. Ён уяўляе сабой светла-шэрую і светла-карычневую глебу, сухую, дробнакамкаватую, з дробнымі ўключэннямі мацерыковага пяску і карэння дрэў. Напластаванні моцна пашкоджаны і выяўляюцца не па ўсёй плошчы шурфа. Магутнасць пласта складае ад 0,15 м да 0,73 м. Падчас яго даследавання была выяўлена значная колькасць дробных керамічных фрагментаў, якія датаваны XII–XVIII стст., між тым кераміка XII–XIII стст. колькасна пераважае.

У межах шурфа была выяўлена пэўная колькасць фрагментаў чалавечых касцякоў. Між тым адсутнасць рэштак трун, а таксама стратыграфічна зафіксаваных слядоў пахавальных ям, разам са значнай фрагментаванасцю шкілетаў не дазваляе разглядаць участак, дзе быў закладзены шурф, у якасці першапачатковага месца іх пахавання. Найбольш верагодна, што косткі былі перанесены сюды ў больш позні час. Паводле спадарожных матэрыялаў, пахаванні можна датаваць XVII ст.

Дадзенае датаванне пацверджана і вынікамі антрапалагічнай экспертызы касцякоў, якая была праведзена В. А. Емяльянчык. Паводле заключэння даследчыцы, падабенства адзінага добра захаванага мужчынскага чэрапа да серыі чарапоў вясковага насельніцтва Беларусі XVIII–XIX стст., а таксама да серыі чарапоў XVII–XVIII стст. з могілак на полацкім гарадзішчы ўказвае на генетычныя сувязі з карэнным насельніцтвам Беларусі.

У шурфе 1 былі выяўлены тры мацерыковыя ямы, якія ўтрымлівалі розначасавыя матэрыялы. Мацярык уяўляе сабой светла-жоўты, дробнакамкаваты, сухі пясок. Падчас яго зачысткі было знойдзена некалькі фрагментаў керамікі XII–XIII стст. Назіраецца выразнае паніжэнне мацерыка ў напрамку поўнач–поўдзень (да 0,4 м).

Калекцыйны вопіс археалагічных знаходак з шурфа 1 прадстаўлены 12 пазіцыямі індывідуальных і 251 пазіцыяй масавых знаходак.

Найбольш распаўсюджанымі масавымі знаходкамі з'яўляюцца фрагменты керамікі. Пераважная большасць з іх захавалася ў вельмі фрагментаваным выглядзе, што абумоўлена актыўным выкарыстаннем участка, на якім быў зроблены шурф, для гаспадарчых патрэб. Асноўная колькасць керамічнага матэрыялу прадстаўлена фрагментамі тэракотавых гаршкоў. Найбольш раннія з іх датаваны XII–XIII стст., пэўная частка адносіцца да IV групы полацкага посуду, якая была вылучана Г. В. Штыхавым [9, с. 83]. Кераміка XIV–XVI стст. прадстаўлена невялікай групай венцаў. Шырока прадстаўлены керамічныя начынні XVII–XVIII стст., характэрныя для тэрыторыі Полацка [6, мал. 31] (мал. 3).

Акрамя бытавога посуду ў калекцыі археалагічных матэрыяў з шурфа 1 паходзіць фрагмент цацкі-свістулькі з ангобным роспісам, якая была знойдзена падчас зняцця дзёрну (датаваны XVII–XVIII стст.). Пэўную цікавасць уяўляе таксама фрагмент танка-




Мал. 3. Керамічныя вырабы XII–XVI стст. (*1–11*). Шурф 1. Запалоцкі пасад. Полацк. 2010 г.

сценнага керамічнага начыння, зробленага з вогнеўстойлівай гліны. Выраб мае конусападобную форму і акруглае дно. Найбольш верагодна, што гэта частка тыгля для плаўкі каляровых металаў. Прадмет паходзіць з запаўнення мацерыковай ямы 3, якая паводле спадарожных матэрыялаў можа быць датавана XII–XIII стст.

Вырабы з жалеза прадстаўлены моцна каразіраванымі каванымі цвікамі, дужкай замка XIX–XX стст., абутковымі падкоўкамі XVII–XVIII стст., а таксама мініяцюрным нажом з шырокай спінкай, характэрнай для XI–XII стст. [14, с. 271, 275; 15, с. 48] (мал. 4: *6, 7*).

Артэфакты з каляровых металаў прадстаўлены масіўным свінцовым гузікам з дзвюма адтулінамі, фрагментам капавушкі XVI–XVII стст., а таксама алавяным крыжом-цельнікам з абламаным вушкам і слядамі зялёнай эмалі на паверхні (XVI–XVII стст.) [16] (мал. 4: *1–3*).

Вырабы з каменю прадстаўлены асялком з адтулінай для падвешвання і фрагментам шыфернага праселка. Прадметы датаваны XI–XIII стст. [9, с. 97] (мал. 4: *4, 5*).

Археалагічныя матэрыялы, якія былі атрыманы падчас даследавання культурнага слою ў межах




Мал. 4. Вырабы з каляровых металаў *(1–3)*, каменю *(4, 5)* и жалеза *(6, 7)*. Шурф 1. Запалоцкі пасад. Полацк. 2010 г.

шурфа 1, дазваляюць з ўпэўненасцю сцвяржаць, што засяленне дадзенай часткі пасада адбылося ў XI–XII стст. На гэта ўказваюць знаходкі характэрнай керамікі гэтага часу, а таксама асобных артэфактаў (нож з шырокай спінкай).

Найбольш верагодна, што адсутнасць у калекцыі керамічных вырабаў з шурфа 1 ляпной і ранкругавой керамікі, як і яе адсутнасць сярод матэрыялаў раскопак 1961, 1980 і 1986 г., указвае на той факт, што першапачаткова засяленне тэрыторыі Запалоцкага пасада адбывалася дастаткова вузкай паласой уздоўж берага р. Заходняя Дзвіна. Менавіта падчас даследаванняў гэтай часткі тэрыторыі пасада (раскопкі Д. У. Дука, 2010 г.) былі выяўлены фрагменты ляпнога і раннекругавога посуду, характэрнага для X–XI стст.

Фрагменты чалавечых касцякоў, якія былі знойдзены ў шурфе 1, паводле спадарожных матэрыялаў датаваны XVII ст. Усе косткі размешчаны не ў анатамічным парадку і уяўляюць сабой перааадкладзеныя пахаванні. Падобная карціна назіралася і ў раскопе 1961 г. Г. В. Штыхава, які быў зроблены недалёка ад шурфа 1.

Такім чынам, археалагічныя даследаванні, якія былі праведзены на тэрыторыі Полацка ў 2010 г., дазволілі ўдакладніць звесткі адносна характару і ступені захаванасці культурнага слою ў розных гістарычных частках старажытнага горада.

## Літаратура


1. Сагановіч, Г. М. Справаздача аб правядзенні археалагічных даследаванняў у г. Полацку ў жніўні 1986 г. / Г. М. Сагановіч // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 975.

2. Дук, Д. У. Справаздача аб археалагічных даследаваннях на аб'екце «Узвядзенне офіснага будынка па вул. Ніжнепакроўскай (Леніна), 26» у 2008 г. / Д. У. Дук // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 2602.

3. Здановіч, Н. І. Справаздача пра археалагічныя даследаванні па вул. Леніна, 35 у г. Полацку ўлетку 1992 г. / Н. І. Здановіч // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 1450. – Кн. 1.

4. Здановіч, Н. І. Справаздача пра архітэктурнаархелагічныя раскопкі летам 1991 г. / Н. І. Здановіч // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Спр. № 1373.

5. Дук, Д. У. Полацк і палачане (IX–XVIII стст.) / Д. У. Дук. – Наваполацк : ПДУ, 2010. – 180 с.

6. Дук, Д. У. Полацк XVI–XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада / Д. У. Дук. – Наваполацк : ПДУ, 2007. – 268 с.

7. Заяц, Ю. А. Кафля і кафляныя печы / Ю. А. Заяц // Археалогія Беларусі: у 4 т. / пад рэд. В. М. Ляўко і інш. – Мінск : Беларус. навука, 2001. – Т. 4: Помнікі XIV–XVIII стст. – С. 319–348.

8. Тарасов, С. В. Отчет о раскопках в Полоцке в 1986 г. / С. В. Тарасов // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Д. № 953

9. Штыхов, Г. В. Древний Полоцк (IX–XIII вв.) / Г. В. Штыхов – Минск : Наука и техника, 1975.

10. Бубенько, Т. С. Средневековый Витебск: Посад–Нижний замок (X –первая половина XIV в.) / Т. С. Бубенько. – Витебск : ВГУ им. П. М. Машерова, 2004. – 276 с.

11. Штыхаў, Г. В. Дасягненні і перспектывы археалагічнага вывучэння Полацка / Г. В. Штыхаў // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. – Полацк : НПГКМЗ, 2009. – С. 355–356.

12. Тарасаў, С. В. Полацк IX–XVII стст.: Гісторыя і тапаграфія / С. В. Тарасаў. – Мінск : Беларус. навука, 1998. – 182 с.

13. Дук, Д. У. Новыя знаходкі рэнесанснай кафлі ў Полацку (да пытання аб сацыятапаграфічнай структуры Запалоцкага пасада ў першай палове XVI ст.) / Д. У. Дук, А. А. Салаўёў // Памятники эпохи железа и средневековья Беларуси (к 60-летию О. Н. Левко) / Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – Минск : ГНУ «Институт истории НАН Беларуси», 2007. – № 14. – С. 215–221.

14. Сагановіч, Г. М. Прылады працы і побытавыя рэчы. Асартымент, тыпалогія, храналогія / Г. М. Сагановіч // Археалогія Беларусі: у 4 т. / пад рэд. В. М. Ляўко [і інш.]. – Мінск : Беларус. навука, 2001. – Т. 4: Помнікі XIV–XVIII стст. – С. 260–277.

15. Колчин, Б. А. Железообрабатывающее ремесло Новгорода Великого / Б. А. Колчин // Материалы и исследования по археологии СССР.– М. : Наука, 1959. – № 65. – С. 5–120.

16. Салангина, С. В. Копоушки как исторический источник (по материалам археологических памятников восточной Европы): автореф. дис. … канд. ист. наук: 07.00.06 / С. В. Салангина. – Ижевск, 2004. – 19 с.

***О. А. Макушников,*** *доцент Гомельского государственного университет им. Франциска Скорины, доктор исторических наук (г. Гомель);*

***В. И. Сычев,*** *Гомельский государственный университет им. Франциска Скорины, старший преподаватель (г. Гомель)*

# Основные итоги изучения средневековых археологических памятников Гомельского Поднепровья в 2009 году

В 2009 г. археологический отряд УО «Гомельский государственный университет имени Ф. Скорины» при участии ГОООО «Белорусское добровольное общество охраны памятников истории и культуры» и поддержке студенческого научного общества ТАмГА (ГГУ им. Ф. Скорины) выполнил археологические раскопки на южном посаде средневекового Гомеля и на курганном могильнике у д. Мохов Лоевского района. Археологические исследования в Гомеле проводились на основании Открытого листа № 2047 по форме № 1, в Мохове и на территории Гомельской области – Открытого листа № 2055 по форме № 1, выданных О. А. Макушникову Институтом истории НАН Беларуси. Исследования не финансировались. В работах экспедиций были заняты гомельские студенты-историки и волонтеры.

Исследования в Гомеле продолжают работы, начатые в 1986 г. во всех частях средневекового города экспедициями под руководством О. А. Макушникова. Вскрыто более 5500 м$^2$ площади на детинце (замке), окольном городе (месте), посадах (предместьях). Получен научно значимый материал для характеристики культуры средневекового города на юго-востоке Беларуси. Охранные раскопки 2009 г. велись в пятне планируемого строительства фонтана в парке культуры и отдыха им. А. В. Луначарского. Участок изысканий находится на мысу коренной правобережной террасы Сожа, образованным левым бортом безымянного оврага и правым – оврага Гомеюк. Высотные отметки дневной поверхности в пятне исследований составляют около 17–18 м над уровнем воды в реке.

Раскоп I квадратной формы разбит в 35 м к югу от пешеходного моста, переброшенного через Гомеюк. Его площадь – 195,5 м$^2$. Мощность культурных напластований (без учета глубины закладки материковых ям) составила 0,5–0,7 м. Современная дневная поверхность представлена дерново-почвенным слоем, который по центру раскопа отсутствует. Верхний стратиграфический горизонт 1 (далее СГ) – современный парковый слой мощностью 0,2–0,4 м. Он представляет собой аморфную темно-серую супесь. Ниже, над материком, залегает темно-серая супесь с редким включением обожженной, необожженной глины, угля (СГ-2) мощностью 0,2–0,4 м. Горизонт сформировался в XII–XIII вв.

СГ-1 содержит современные предметы, мелкие фрагменты круговой керамики XI–XIII вв. и пр. СГ-2 дает большое количество обломков круговой керамики конца X – XIII в. Встречены отдельные фрагменты раннекруговой керамики IX–X вв., грубой лепной посуды второй половины I тысячелетия н. э., в том числе обломки ребристых, слабо- и выраженно профилированных горшков, сковород с высоким бортиком. В верхней части СГ-2 найдено несколько обломков сосудов XV–XVII вв. По всему раскопу встречаются небольшие конкреции железного шлака и куски глиняной обмазки (печины). Отмечено более десятка криц лепешковидной формы диаметром около 10–12 см. Найдены оселки из темно-серого сланца и песчаника, небольшие осколки фиолетового сланца, которые, вероятно, относятся к раскрошенным жерновым камням. Вне углубленных в материк объектов выявлены следующие предметы. Это 26 обломков стеклянных браслетов, фрагмент плоско-выпуклого желтого стеклянного перстня, обломок венчика стеклянного сосуда. Из прочих изделий следует отметить янтарные обломки глазчатой бусины (рис. 1: *5*) и неопределенного украшения. Коллекция предметов из черного металла достаточно представительная. В ней имеются: звено конских двухсоставных удил, части навесных замков (рис. 1: *7, 11*), скоба, дверной пробой, пряжка плохой сохранности, два пробойника (рис. 1: *1*), серия ножей с клинковым насадом и др. К числу предметов вооружения относится обломанный со стороны черешкового насада плоский ромбовидный наконечник стрелы (рис. 1: *4*). В коллекции представлено 5 обломков красноглиняных амфор. Интересна бронзовая подковообразная фибула (рис. 1: *8*). Она снабжена гранеными головками и двумя такими же утолщениями на дужке. Головки и утолщения помечены четырехконечными крестами. В коллекции имеется небольшой обломок желтой плинфы.

Почти все археологические объекты раскопа относятся к средневековью. В толще древнерусского культурного слоя расчищены остатки погребения по обряду трупоположения. Признаки могильной ямы и гроба отсутствуют. Остатки захоронения представлены костями тазового отдела и крупными трубчатыми. Костяк нарушен, его ориентировка не определена. Инвентарь отсутствует. Следует отметить, что в археологических траншеях, разработанных экспедицией в 2008 г. в нескольких метрах к западу и северу от раскопа 2009 г., выявлены остат-

***З. А. Харытановіч,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, малодшы навуковы супрацоўнік (г. Мінск)*

# Археалагічныя даследаванні гарадзішча Гуры, селішча Галіны і фальварка Трэцінішкі (тэрыторыя будаўніцтва аб'ектаў інфраструктуры Беларускай АЭС)

У 2009–2010 гг. праводзіліся археалагічныя даследаванні ў зоне будаўніцтва Беларускай АЭС і аб'ектаў яе інфраструктуры. Падчас разведак было выяўлена больш за дзесятак месцазнаходжанняў і археалагічных помнікаў[1]. Найбольш цікавыя з іх – гарадзішча ранняга жалезнага веку каля в. Гуры Астравецкага раёна, селішча позняга сярэдневякоўя–новага часу Трэцінішкі на ўскраіне Астраўца і археалагічны комплекс каля в. Галіны Ашмянскага раёна.

**Гуры.** Падчас археалагічных даследаванняў на аб'екце «Чыгуначная лінія да АЭС» было праведзена абследаванне археалагічнага комплексу каля в. Гуры, які складаецца з гарадзішча і селішча і ўключаны ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь пад нумарам 413В000043.

Гарадзішча вядома з 1954 г., абследаванні праводзілі А. Р. Мітрафанаў і М. М. Чарняўскі [1, с. 90]. Шурф на селішчы побач з гарадзішчам закладаў у 2009 г. старшы навуковы супрацоўнік аддзела археалогіі першабытнага грамадства Э. М. Зайкоўскі [3]. Былі выяўлены матэрыялы рубяжа–трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н. э.

Помнік размешчаны на паўднёва-усходняй ускраіне вёскі, каля яго падножжа знаходзяцца рэшткі сялянскай сядзібы. Пляцоўка мае трохвугольную форму, вышыня над вакольным асяроддзем – да 7 м. Даўжыня пляцоўкі – да 48 м. Схілы стромкія, у паўночнай і паўднёва-заходняй частках захавалася тэраса шырынёй да 1,5 м.

Для вызначэння культурнай і храналагічнай прыналежнасці гарадзішча Гуры на пляцоўцы быў закладзены шурф памерамі 1 × 2 м у паўночнай частцы пляцоўкі. Прасочана наступная стратыграфія: адразу пад дзёрнам пачынаўся культурны пласт насычанага чорнага колеру. У ім сустракаліся асобныя камяні і шмат фрагментаў ляпной керамікі. Магутнасць культурнага пласта складала ад 40–60 см. Мацярык пясчана-гліністы, жоўтага ці краснаватага колеру, адзначана адна мацерыковая яма.

У шурфе знойдзена 319 адзінак артэфактаў, з іх 226 фрагментаў ляпнога посуду, косткі, абмазка гліняная, жужаль, зліткі жалеза і гліняны грузік. Кераміка прадстаўлена абломкамі штрыхаванага, гладкасценнага і шурпатага посуду, прычым штрыхаваны пераважае. Па частках начыння можна выдзеліць 26 фрагментаў венцаў, 184 фрагменты сценак і 13 фрагментаў донцаў. Венцы адносяцца пераважна да рабрыстых гаршкоў (мал. 1), некаторыя арнаментаваныя пры дапамозе зашчыпнога арнаменту ці насечкамі па рабру (мал. 1: *2, 5*). Такі посуд характэрны для культуры штрыхаванай керамікі і адносіцца да першай паловы I тысячагоддзя н. э.

У другім пласце знойдзены гліняны грузік шайбападобнай формы (мал. 1: *8*). Памеры яго наступныя: дыяметр – 3,7 см, таўшчыня – 1,8, дыяметр адтуліны – 0,6 см. Падобныя грузікі сустракаюцца на гарадзішчах культуры штрыхаванай керамікі ў першай палове I тысячагоддзя н. э.

Помнік можна аднесці да ранняга жалезнага веку–трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н. э.

**Трэцінішкі.** Паселішча Трэцінішкі размешчана на ўскраіне г. п. Астравец і было выяўлена восенню 2009 г. падчас абследавання зоны будаўніцтва мікрараёна каля № 1 для супрацоўнікаў Беларускай атамнай электрастанцыі. Спачатку было праведзена візуальнае абследаванне левага берага р. Кавалёўка на ўскраіне Астраўца па правы і левы бок ад дарогі на Белькішкі. Па левы бок быў выяўлены ўчастак уздоўж края надпоплаўнай тэрасы, на якім сустракаліся кавалкі керамікі, кафлі, крэменю. На правым баку каля краю тэрасы частка дзёрну была знята пры дапамозе бульдозера і пад дзёрнам прасочваўся культурны пласт амаль чорнага колеру, у якім сустракаліся кавалкі кружальнай керамікі.

Другі этап даследаванняў праводзіўся ў красавіку–чэрвені 2010 г., ён складаўся з дадатковага абследавання тэрыторыі будаўніцтва мікрараёна № 1, зачысткі агаленняў, шурфоўкі і раскопак на селішчы.

Асаблівая ўвага была звернута на месца максімальнага скаплення паверхневых збораў на краі надпоплаўнай тэрасы па левы бок ад дарогі Астравец–Белькішкі. Вывучэнне старых карт дазволіла лакалізаваць у гэтым месцы фальварак Трэцінішкі, які быў размешчаны на краі тэрасы левага берага р. Кавалёўка. Паверхневыя зборы на помніку сведчылі аб існаванні паселішча XVI–XVII стст.

Раскоп плошчай 40 м$^2$ быў закладзены на краі тэрасы р. Кавалёўка ў 30 м ад дарогі Астравец–Белькішкі. Пры даследаванні першага пласта ў кв. 10 быў зафіксаваны аб'ект 1 у выглядзе дугападобнага нагрувашчання камянёў, замацаваных праслойкай гліны і пяску.

У другім пласце ў паўднёвай частцы раскопу выяўлена пляма амаль чорнага колеру з вялікай колькасцю буйных камянёў і абломкамі цэглы – аб'ект 2. Пры далейшай расчыстцы высветлілася, што гэта

[1] У дадзеным зборніку глядзі сумесны артыкул В. Л. Лакізы, Э. М. Зайкоўскага, З. А. Харытановіч, Макс. М. Чарняўскага, прысвечаны археалагічным абследаванням зоны будаўніцтва Беларускай АЭС і яе інфраструктуры ў 2009–2010 гг.




Мал. 1. Археалагічныя знаходкі: *1–7* – ляпная кераміка; *8* – гліняны грузік. Гарадзішча Гуры

кут скляпення, складзены з буйных валуноў, якія замацаваны рошчынай. Памеры выяўленай часткі аб'екта пасля разборкі другога пласта – 2,4 × 3,3 м, на ўзроўні мацерыку – 2,74 × 2,08 м. Памеры валуноў дасягаюць 1 м. Па перыметру падлогі скляпення выкладзены шэраг больш дробных валуноў. Уздоўж паўднёва-заходняй сценкі на мацерыковай паверхні раскопу сфарміравана прыступка з плоскіх камянёў, атарочаная глінай. У паўднёва-усходнім куце раскопу ў запаўненні скляпення адзначана некалькі буйных валуноў і спарахнелае бервяно.

Магутнасць пласта ў раскопе склала ад 40 см у паўночнай частцы да 140 см ў аб'екце 2. Адразу ад паверхні ішоў пласт цемна-шэрага супеску, у якім сустракаліся прапласткі перамешанага з пяском культурнага пласта, нагрувашчанні дробных камянёў. На большай частцы раскопу стратыграфія простая, і толькі каля скляпення адзначаюцца асаблівасці. Так у кв. 4–6–8 па ўсходняй сценцы адзначаны прапластак перамешанага пласта з пяском і нагрувашчанні камянёў.

Агульная колькасць масавага матэрыялу на паселішчы склала 1659 адзінак, з іх 290 кавалкаў кафлі, 824 фрагмента кружальнай керамікі (у тым ліку 2 ножкі ад рынак), 221 фрагмент костак жывёл, 227 абломкаў шкляных вырабаў і ваконнага шкла, 46 фраг-

ментаў вырабаў з парцэляну, 17 кавалкаў напольнай пліткі.

Кафля падзяляецца на паліваную і тэракотавую. Былі знойдзены фрагменты шчыткоў, сценак і венцаў. На шчытках адзначаны раслінні і геаметрычны арнамент. Колер палівы: зялёны розных адценняў, жаўтлява-зялёны, белы, цемна- і светла-карычневы, ёсць паліхромная (бела-чырвоны колер). Паліваную кафлю можна датаваць XVI–XVII стст. Асобныя фрагменты адносяцца да XVIII–XIX ст.

Кружальная кераміка (мал. 2: *1–16*) таксама прадстаўлена фрагментамі паліванага і тэракотавага посуду. Колер палівы ад светла-жоўтага да амаль чорнага, пераважае зялёная паліва розных адценняў. Датавана XVII – пачаткам XX ст.

Індывідуальныя знаходкі з паселішча прадстаўлены наступнымі вырабамі.

*Медальён іудзейскі* (бронза) дыяметрам 2,8 см (мал. 2: *24*). На адным баку медальёна – выява равіна Іцхака Эльханана Спектара. Уздоўж краю па ко-




Мал. 2. Археалагічныя знаходкі: *1–16* – кружальная кераміка (фрагменты); *17* – ручка бронзавай пасудзіны; *18* – накладка жалезная; *19* – ключ; *20* – медальён каталіцкі; *21–23* – соліды; *24* – медальён іудзейскі. Паселішча Трэцінішкі

лу ідзе надпіс: «Равін, “геній” (рэлігійны равіністскі статус) Іцхак Эльханан Спектар». На адваротным баку – выява склепа-пахавання і надпіс па колу: «Будынак магілы равіна “генія” Іцхака Эльханана Спектара». Ніжэй па колу напісаны год яго народзін па яўрэйскім календары – 5577 (1817 г). Пад будынкам надпіс, які перакладаецца як «памёр 21 адара (люты) 5656 года (1896 г.)».

Спектар, Іцхак Элханан (1817, Росі, Гродзенская губернія, – 1896, Коўна), літоўскі равін і вучоны-талмудыст, адзін з лідэраў расійскага яўрэйства. З 1864 г. і да канца жыцця займаў пасаду равіна Коўна, дзе заснаваў ешыву. У гонар яго названа тэалагічная семінарыя ў Нью-Йорку [8].

*Рэгулярная пласціна* выканана з балтыйскага крэменю светла-шэрага колеру празрыстага на прасвет. Яна знятая з аднапляцовачнага монафрантальнага нуклеуса. Дыстальны канец знаходкі адламаны ў выніку тэрмічнага ўздзеяння. Па адным краі пласціна захоўвае дробную рэтуш утылізацыі. Пятка моцна фасетызавана. Пласціна мае наступныя параметры: даўжыня – 3,55 см, шырыня – 1,30, таўшчыня – 0,40, шырыня пяткі – 0,70, таўшчыня пяткі – 0,31 см. Была атрымана тэхнікай прамога ўдару і храналагічна можа адносіцца да фінальнага палеаліту–мезаліту (вызначэнне аспіранта аддзела археалогіі першабытнага грамадства А. М. Вашанава).

*Медальён каталіцкі* (белы метал), авальнай формы (мал. 2: *20*), вушка абламанае, у верхняй частцы прасвідравана адтуліна для шнурка. На адным баку выява Маці Божай Чанстахоўскай, на другім – Святога Ладзіслава (?). Датавана XVIII ст. (паводле вызначэння Д. У. Дука).

*Гільзы ад паляўнічай зброі*: першая ад патрона 1961 г., другая выканана па амерыканскім патэнце (16 калібр) (вызначэнне гільз – археолаг 2 РПГ 52 пошуковага батальёна А. Ю. Каркотка).

*Кулі свінцовыя* (2 адз.): адна мае акруглую форму, другая двухчастковая са слядамі падпраўкі.

*Манеты медныя* (4 адз.):

– Шведская Прыбалтыка, Густав II Адольф Ваза, 1621–1632, солід, Рыга, білон, [16]XX, дыяметр 15,6 мм, вага 0,48 г (вызначэнне А. М. Плавінскага; мал. 2: *23*).

– Рэч Паспалітая, каралеўства, Ян II Казімір Ваза, солід (шэлёнг) каронны, 1665, унізе выява «слепаврон» – Ян Казімір Красіньскі – Вялікі падскарбій Кароны (1659–1668), дыяметр 15,2 мм, вага – 1,10 г (вызначэнне А. М. Плавінскага; мал. 2: *22*)

– Рэч Паспалітая, каралеўства, Ян II Казімір Ваза, 1649–1668, солід (шэляг) літоўскі, 166Х, Іеранім Крышпін Кіршэнштэйн – Вялікі падскарбій Літоўскі (1662–1676), дыяметр 14,9 мм (вызначэнне А. М. Плавінскага; мал. 2: *21*).

– Рэч Паспалітая, 1928, 5 грошай.

Да ліку цікавых варта аднесці знаходкі ручкі ад бронзавай пасудзіны, жалезнай накладкі на збрую і каванага ключа з бронзы (мал. 2: *17–19*).

Індывідуальныя знаходкі дазваляюць датаваць паселішча перыядам ад канца XVI ст. да пачатку XX ст.

Раскопкі на помніку і археалагічныя назіранні за землянымі працамі прынеслі каля 1700 новых артэфактаў. Іх сістэматызацыя і аналіз дазволілі ўдакладніць існуючыя ўяўленні аб старажытнай гісторыі не толькі сучаснага Астраўца, але і ў цэлым Астравеччыны.

**Галіны.** Найбольш значнае адкрыццё 2010 г. – выяўленне і даследаванне археалагічнага комплексу каля в. Галіны, які складаецца з селішча, гарадзішча і курганнага могільніка. Селішча размешчана на паўднёвы захад ад в. Галіны на полі каля аднайменнага хутара. Яно займае схілы некалькіх пагоркаў і лагчыну паміж імі. Вясной 2010 г. падчас разведачных прац у зоне будаўніцтва новай аўтадарогі да АЭС на ўзараным полі былі зафіксаваны некалькі плямаў цёмна-шэрага колеру дыяметрам да 40 м, на якіх сустракаюцца фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі. Найбольш каштоўнай знаходкай стаў «псеўдавіты» пярсцёнак, які датаваны XII–XIII стст. [6].

У пачатку чэрвеня на селішчы была праведзена шурфоўка з мэтай вызначэння магутнасці культурнага пласта. Шурф быў размешчаны на найбольш высокім пагорку ў 70 м на паўднёвы ўсход ад хутара (культурны пласт з цёмна-шэрага, амаль чорнага супеску да 0,32 м). Былі знойдзены фрагменты ляпной і кружальнай керамікі. Па спосабе апрацоўкі паверхні яна падзяляецца на гладкасценную, аблітую, шурпатую і штрыхаваную. Дадатковае абследаванне селішча папоўніла калекцыю вырабаў з жалеза і бронзы. Знойдзены фрагменты нажоў, шылаў, спражка авальная, фібула. Аналагічныя спражкі датаваны другой паловай III – першай паловай IV ст. [4, с. 30], а бронзавая фібула – XIII ст. [7, p. 81].

З мэтай больш падрабязнага вывучэння селішча і прадухілення яго разбурэння падчас земляных работ было вырашана правесці раскопкі ў месцы перакрыжавання трасы дарогі з заходнім краем селішча. Для гэтага быў абраны ўчастак на схіле пагорка, пасярод поля, на якім закладзены раскоп агульнай плошчай 136 м$^2$.

Раскоп складаўся з некалькіх участкаў. Спачатку для вызначэння магутнасці пласта і насычанасці яго артэфактамі была закладзена траншэя № 1 памерамі 2 × 20 м, выцягнутая ад падэшвы пагорка ўздоўж восі трасы дарогі. У траншэі выяўлена наступная стратыграфія: адразу ад паверхні ішоў пласт ворыва магутнасцю 25–40 см па ўсёй плошчы раскопу, пад ім адзначаўся некрануты пласт інтэнсіўна чорнай афарбоўкі магутнасцю да 20 см. У паўднёвай частцы траншэі некрануты пласт быў перакрыты пяском, верагодна, змытым з пагорка. Пасля выбаркі траншэі з заходняга боку быў прырэзаны раскоп 1 і раскоп 2, а пазней – траншэя 2.

Стратыграфія ў раскопах 1 і 2 амаль не адрознівалася ад стратыграфіі ў траншэі № 1. Некрануты культурны пласт, перакрыты ворным пластом, утрымліваў фрагменты керамікі і вялікую колькасць індывідуальных знаходак: праселкі гліняныя, шылы і нажы, фрагмент сярпа, кавалак фібулы, спражка, абломак сякеры (мал. 3). Некрануты культурны пласт селішча лакалізаваўся ўздоўж падэшвы пагорка паласой шырынёй 4–6 м. У паўночнай частцы раскопа ён быў цалкам пераараны.

Восенню 2010 г. на селішчы ажыццяўляліся дадатковыя абследаванні, у тым ліку непасрэдна падчас земляных работ па зняцці расліннага грунту на трасе аўтадарогі. На ўчастках чорнага колеру была выяўлена новая калекцыя фрагментаў керамікі, жалезныя вырабы. Найбольш цікавымі з іх былі фраг-




Мал. 3. Індывідуальныя знаходкі: *1–3* – шылы жалезныя; *4–5* – нажы жалезныя; *6* – лязо сярпа жалезнага (фрагмент); *7* – шпілька жалезная (фрагмент); *8* – кольца жалезнае; *9* – шпора жалезная; *10* – спражка жалезная; *11* – абломак жалезнай сякеры; *12* – ключ жалезны; *13* – наканечнік стралы жалезны (з шурфа на гарадзішчы Галіны). Селішча Галіны

менты дзвюх фібул тыпу Вільканцы, якія датаваны IV – першай паловай V ст. н. э. [5, с. 65].

Самай масавай катэгорыяй знаходак з селішча Галіны з'яўляецца кераміка (мал. 4: *1–8*). Усяго было знойдзена 2362 фрагменты ляпных пасудзін і 17 фрагментаў ганчарных. Па тыпу апрацоўкі паверхні вылучаецца абліты (1437 адз.), гладкасценны (680 адз.), шурпаты (17 адз.) і з зашчыпамі (2 адз.) посуд. Па формах можна вылучыць слоікавыя і прафіляваныя пасудзіны. Аблітая кераміка такога тыпу сустракаецца на паселішчах культуры ўсходне-літоўскіх курганоў і датавана другой чвэрцю–сярэдзінай I тысячагоддзя н. э. [2, с. 56].

Калекцыя індывідуальных знаходак адлюстроўвае два этапы існавання паселішча. Першы этап: другая чвэрць I тысячагоддзя н. э., – прадстаўлены знаходкамі авальнай жалезнай спражкі, абломка сякеры, фрагментамі нажоў і шылаў, калекцыяй гліняных праселак, жалезнымі фібуламі. Другі этап (XII–XIII стст.) – знаходкамі жалезнага ключа і кавалкаў кружальнай керамікі, срэбнага пярсцёнка і бронзавай фібулы. Асобныя знаходкі неазначальных крамянёвых абломкаў і крамянёвага скрабка дазваляюць меркаваць аб існаванні тут паселішча каменнага веку, якое пазней было знішчана.

Селішча Галіны з'яўляецца часткай археалагічнага комплексу, які дапаўняецца гарадзішчам і як мінімум двумя курганамі. Гарадзішча размешчана на поўдзень ад хутара Галіны на выцягнутым пагорку ў лесе. Мясцовая назва – «Замкавая гара». З ім звязана легенда аб царкве, якая правалілася пад зямлю. Згодна з легендай, недзе на пляцоўцы захавалася яма, ў якую кідалі камяні і не было чуваць гуку падзення каменю на дно. Помнік умацаваны сістэмай валоў і равоў, мае ў профілі седлападобную форму за кошт двух валоў на вузкіх краях пляцоў-




Мал. 4. Кераміка (фрагменты) (*1–8*) і гліняныя праселкі (*9–21*). Селішча Галіны

кі. Адзін курган размешчаны на ўскраіне хутара і з'яўляецца падоўжаным насыпам вышынёй 1,5–2,0 м. У насыпе, згодна з інфармацыяй мясцовага насельніцтва, некалькі гадоў таму падчас выбаркі пяску для будаўнічых прац былі знойдзены рэшткі чалавечага шкілета з бранзалетам і кольцам. Другі курган размешчаны на ўскрайку леса, каля гарадзішча, на паўночны захад ад яго.

На гарадзішчы, на якім культурны пласт захаваўся не па ўсёй плошчы, а толькі ўздоўж паўночнага краю, была праведзена шурфоўка. Шурф памерамі 1 × 2 м закладзены у паўночнай частцы пляцоўкі у 5 м ад яе краю. Культурны пласт магутнасцю да 40 см меў шэры колер і быў моцна насычаны жвірам. На мацерыку выяўлена некалькі камянёў памерамі 10–15 см. У шурфе знойдзена ляпная гладкасценная кераміка трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н. э. і жалезны чаранковы наканечнік стралы з пяром лістападобнай формы (мал. 3: *13*). Аблітая кераміка ў шурфе адсутнічае. Наканечнік стралы можна датаваць трэцяй чвэрцю I тысячагоддзя н. э. Слабы, ненасычаны знаходкамі культурны пласт і магутная сістэма ўмацаванняў сведчаць, што гарадзішча выкарыстоўвалася ў якасці сховішча.

Новы археалагічны комплекс з селішча, гарадзішча і курганнай групы каля в. Галіны адносіцца да культуры ўсходне-літоўскіх курганоў і датаваны другой–трэцяй чвэрцю I тысячагоддзя н. э. Жыццё на селішчы працягвалася і пазней – да XII–XIII стст. Культура ўсходне-літоўскіх курганоў займае тэрыторыю Усходняй Прыбалтыкі і прылягаючую частку Беларусі: мяжа яе праходзіць па лініі: возера Дрысвяты–вярхоўі Дзісны–Лынтупы–усходні бераг возера Свір–Смаргонь–Гальшаны–Ліда. Найбольш актыўна вывучаліся курганы гэтай культуры. Да гэтага часу было вядома толькі два селішчы – на беразе воз. Свір і каля в. Засвір. Адкрыццё яшчэ аднаго селішча культуры ўсходне-літоўскіх курганоў каля в. Галіны – значны крок у вывучэнні дадзенай археалагічнай культуры і матэрыяльнай культуры насельніцтва, якое тут пражывала з канца другой чвэрці I тысячагоддзя н. э. да XII ст.

**Літаратура і крыніцы**


1. Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ; рэдкал.: С. В. Марцэлеў (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, БелСЭ, 1986. – 371 с. : іл.
2. Звяруга, Я. Г. Беларускае Павілле у жалезным веку і раннім сярэднявякоўі / Я. Г. Звяруга // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – Мінск : ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі», 2005. – № 10. – 174 с.
3. Зайкоўскі, Э. М. Справаздача пра выкананне навуковых археалагічных даследаванняў (папярэдняе абследаванне, разведак і шурфоўкі) у зоне аб'екта «Будаўніцтва аўтамабільнай дарогі ад Р-45 (Газа) – АЭС – Астравец» у Астравецкім раёне Гродзенскай вобласці ў 2009 г. / Э. М. Зайкоўскі // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2719.– Мінск, 2010.
4. Медведев, А. М. Белорусское Понеманье в раннем железном веке (I тысячелетие до н. э. – 5 в. н. э.) / А. М. Медведев. – Мінск, 1996. – 200 с.
5. Медведев, А. М. К вопросу о происхождении и хронологии украшений эпохи великого переселения народов (фибулы типа Вильканцы) / А. М. Медведев // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Археалагічныя даследаванні на Беларусі ў 2007 годзе. – Мінск : ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі», 2009. – № 17. – С. 63–78.
6. Чарняўскі, Макс. М. Справаздача аб даследаваннях у зоне будаўніцтва аб'екта «Строительство автомобильной дороги Юго-восточный обход г. Островец с выходом на автомобильную дорогу М-7 Минск – Ошмяны – граница Литовской Республики с устройством транспортной развязки в месте пересечения» ў 2010 годзе // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі». – Арх. № 2763. – Мінск, 2010.
7. The Selonians. Baltic Archaeological Exhibition. Catalogue. – Lietuvos nacioonalinis muziejus, 2007. –278 p.
8. Рэжым доступу: http://www.eleven.co.il/?mode=article&id=13919&query=. – Дата доступу: 11.11.11.

***З. А. Харытановіч,*** *Інстытут гісторыі НАН Беларусі, малодшы навуковы супрацоўнік (г. Мінск)*

# Археалагічныя даследаванні на помніку Глядавічы-1-ГЭС у 2010 годзе

Раскопкі на гарадзішчы Глядавічы-1-ГЭС праводзіліся на падставе выдадзенага Інстытутам гісторыі НАН Беларусі Дазволу № 2120 па форме № 4 падчас экспедыцыі Аддзела археалогіі першабытнага грамадства ІІ НАН Беларусі па даследаванню помнікаў у зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС (агульнае кіраўніцтва – В. Л. Лакіза). У работах прымаў удзел загадчык аддзела археалогіі, нумізматыкі і зброі Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь Мікалай Плавінскі[1].

Помнік размешчаны ў пойме правага берагу р. Нёман на поўнач ад вёскі Глядавічы (мал. 1, *А*), на мысе, вышыня якога над поймай складае 5–7 м. Па дадзеных на 1962 г. у 200 м ад гарадзішча праходзіў вал, які абараняў яго з напольнага боку, а яшчэ далей з абодвух бакоў размешчаны невялікія яры. На пляцоўцы былі сабраны фрагменты керамікі з дамешкамі жарствы і шамоту [1, с. 184]. Мясцовая назва помніку – Белы Груд. Існуе легенда аб царкве, якая правалілася пад зямлю. Мясцовыя жыхары паведамілі, што калісьці на гарадзішчы стаяў касцёл, а ад вёскі да яго ішла брукаваная дарога. У цяперашні час гарадзішча параслае сасновым лесам і хмызняком, паверхня моцна задзірнаваная. Рэшткаў валоў не прасочваецца. Для вызначэння культурна-храналагічнай прыналежнасці гарадзішча на пляцоўцы былі закладзены два раскопы агульнай плошчай 104 м$^2$.

**Раскоп 1** памерамі 56 м$^2$ быў закладзены каля паўднёвага краю ўпоперак пляцоўкі, арыентаваны кароткім бокам па лініі поўнач–поўдзень. Складаўся з 14 квадратаў памерамі 2 × 2 м. Стратыграфія раскопу выглядае наступным чынам: пласт 1 – навеяны пясок шэра-жоўтага колеру магутнасцю да 0,4 м. Адзначаўся па ўсёй плошчы раскопу. Знаходкі сустракаліся толькі на мяжы з другім пластом. Ніжэй на ўсёй плошчы раскопу адзначаны выхад на пласт цёмна-шэрага, амаль чорнага колеру, магутнасць якога складала 0,15–0,20 м. У ім сустракаліся дробныя вугольчыкі. На другі пласт прыпадае асноўная колькасць знаходак (288 адзінак масавага матэрыялу), таксама знойдзены дзве індывідуальныя знаходкі: нож жалезны з абламаным чаранком і кавалак гліняннага праселка. Ніжэй ішоў пласт супеску светла-шэрага колеру па ўсёй плошчы раскопу, магутнасць яго складала 0,1–0,2 м. Сустракаліся асобныя камяні памерамі 0,3–0,4 м. Пасля разборкі трэцяга пласта на агульнай глыбіні 0,46–0,86 м адзначаны выхад на мацярык – пясок светла-жоўтага колеру, у якім траплялiся кавалкі жалезістых уключэнняў натуральнага паходжання, камяні. Аб’ектаў на мацерыку не выяўлена.

**Раскоп 2** закладзены ў 8,6 м на поўнач ад раскопу 1 і размешчаны паралельна яму. Складаўся з 12 квадратаў памерамі 2 × 2 м, агульнай плошчай 48 м$^2$.

Стратыграфія раскопу выглядала наступным чынам: пласт 1 – пясок шэра-жоўтага колеру (нанесены). Зафіксаваны аб’ект, над якім сустракаліся асобныя знаходкі – пляма акруглай формы, якая размешчана на мяжы кв. 5 і 11, памерамі да 2 м у дыяметры. Над аб’ектам і ў запаўненні сустракаліся дробныя фрагменты керамікі, знойдзена глінянае праселка (мал. 2: *6*). Глыбіня аб’екта склала 0,84 м, яма заглыблялася ў культурны пласт. Верагодна, яна мае позднае паходжанне (рабаўнічая). Пласт 2 – навеяны пясок шэра-жоўтага колеру. Максімальная магутнасць навеянага пяску ў раскопе 2 склала 0,84 м. На мяжы 2 і 3 пластоў пачалі траплянца фрагменты керамікі, абмазкі, костак. Пераход ад жоўтага пяску да супеску цёмна-шэрага колеру быў размыты.

Пласт 3 – шчыльны супесак цёмна-шэрага, амаль чорнага, колеру у якім знойдзена вялікая колькасць адзінак масавага матэрыялу: керамікі, костак, абмазкі. Пасля разборкі трэцяга пласта былі зафіксаваны адрозненні ў характары культурнага пласта. Цэнтральная і ўсходняя частка раскопу захавалі насычаны чорны колер, а ў заходняй частцы раскопу пласт меў светла-шэры колер. Мяжа паміж імі праходзіла па прамой лініі, упоперак праз раскоп. Уздоўж гэтай лініі прасочвалася нагрувашчанне дробных камянёў. Верагодна, гэта рэшткі пабудовы (аб’ект № 2).

*Аб’ект № 2* разбіраўся па пластах і квадратах. Пасля разборкі пласта 4 чорны супесак захаваўся толькі ў некаторых месцах (аб’екты № 3–6), астатні культурны пласт меў светла-шэры колер. Агульная глыбіня пласту ў аб’екце 2 складала 0,15–0,25 м. У запаўненні знойдзена шмат масавага матэрыялу: кавалкі абмазкі, косткі жывёл, абломкі крэменю. Аднак найбольшую колькасць знаходак складае кераміка – 306 фрагментаў. У яе ліку варта вылучыць фрагменты ляпнога (29 адз.) і кружальнага посуду (277 адз.). Ляпная кераміка прадстаўлена пераважна фрагментамі з расчосамі і штрыхоўкай.

У пласце 3 знойдзена 7 індывідуальных знаходак: фрагмент гліняннага праселка, касцяное дзяржанне (нарыхтоўка), бронзавая спіралепадобная пранізка, злітак свінца, жалезны выраб невядомага прызначэння, брусок тачыльны і гліняны выраб з адтулінай (мал. 2).

Пласт 4 захаваўся толькі ў аб’ектах і вакол іх. Зафіксавана 4 аб’екты (№ 3–6), якія выбіраліся асобна, з фісацыяй профіляў разрэзаў.

[1] Аўтар выказвае шчырую падзяку М. А. Плавінскаму, а таксама ўсім удзельнікам экспедыцыі за дапамогу ў правядзенні даследаванняў.




Мал. 1. Размяшчэнне помніка, згодна карце 1930-х гадоў *(А)*; ляпная кераміка *(Б)*. Гарадзішча Глядавічы

*Аб’ект № 3.* Аморфная пляма чорнага і цёмна-шэрага колеру. Памеры па лініі поўнач–поўдзень да 2,8 м. Па лініі захад–усход – 2,28 м. У цэнтральнай частцы фіксуецца нагрувашчанне камянёў. У паўднёвай частцы аб’ект № 3 пераходзіць у аб’ект № 5. Глыбіня аб’екта дасягае 0,5 м.

*Аб’ект № 4.* Пляма цёмна-шэрага колеру, размешчана ў кв. 5, сыходзіць у паўночную сценку раскопу. Даўжыня – 1,68 м. У запаўненні назіраюцца дробныя вугольчыкі і камяні. Глыбіня культурнага пласта ў аб’екце № 4 склала 0,6 м.

*Аб’ект № 5.* Пляма насычана чорнага колеру з вялікай колькасцю дробных і сярэдніх камянёў і жвіру ў запаўненні, а таксама вугалля. Размешчаная ўздоўж паўднёвай сценкі раскопу ў кв. 9 і 10. Максімальная даўжыня – 2,7 м, шырыня – 0,86 м. Глыбіня пласта ў аб’екце склала 0,4–0,5 м ад узроўню фіксацыі.




Мал. 2. Індывідуальныя знаходкі: *1* – качадык; *2* – тачыльны брусок; *3* – нож; *4* – дзяржанне; *5–7, 10–12* – праселкі; *8* – кольца; *9* – спіралька; *1, 4* – косць; *3* – жалеза; *5–7, 10–12* – гліна; *8, 9* – бронза. Раскопы 1 і 2. Гарадзішча Глядавічы

*Аб'ект № 6.* Аморфная пляма светла-шэрага колеру з дамешкамі гліны, размешчаная ў кв. 11 уздоўж паўднёвай сценкі. Памеры – 1,22 × 0,84 м. Глыбіня – 0,25 м.

**Апісанне знаходак.** Усяго ў двух раскопах было знойдзена 16 індывідуальных знаходак і 3490 адзінак масавага матэрыялу. Індывідуальныя знаходкі прадстаўлены вырабамі з каменю, гліны, бронзы і жалеза (мал. 2). Пераважаюць знаходкі праселак (6 адз.), з якіх 2 цэлых (арнаментаванае – 1) і 4 фрагменты. Праселкі можна аднесці да двух этапаў жыцця на гарадзішчы: 3 адзінкі (мал. 2: *6, 7, 12*) адносяцца да ранняга этапу засялення (пачатак–другая чвэрць І тысячагоддзя н. э.), астатнія – да другога этапу (другая палова Х – пачатак ХІ ст.). Верагодна, да першага этапу варта аднесці і бронзавае спірале-




Мал. 3. Кружальная кераміка *(1–29).* Гарадзішча Глядавічы

падобнае кольца (мал. 2: *8*). Астатнія вырабы (нож жалезны, тачыльны брусок, спіралепадобная пранізка, касцяное дзяржанне, качадык (мал. 2: *1–4, 9*)) адносяцца да другога этапу засялення.

Масавыя знаходкі прадстаўлены фрагментамі абмазкі (520 адз.), жужалю (1 адз.), костак жывел (835 адз.) і чалавека (1 адз. – фрагмент косткі чэрапа), абломкамі крэменю (28 адз.), керамікі (2105 адз.).

Керамічны комплекс прадстаўлены фрагментамі ляпной (161 адз.) і кружальнай (1944 адз.) керамікі. Ляпная кераміка адносіцца да першага этапу засялення гарадзішча (1–2 чвэрці I тысячагоддзя н. э.) і прадстаўлена фрагментамі з гладкай і штрыхаванай паверхняй, а таксама з расчосамі (мал. 1, *Б*). Адзін кавалак адносіцца да эпохі неаліту – да нёманскай культуры.

Большасць комплексу складае кружальная кераміка, якая адрозніваецца багатай і разнастайнай арнаментацыяй. Пераважае лінейны арнамент, на другім месцы хвалісты, ці камбінацыі з ліній і хваль.

Радзей сустракаюцца розныя тыпы штампаў і водціскаў. Па прафіліроўцы (мал. 3) кружальная кераміка адносіцца да другой паловы X – пачатку XI ст. (па вызначэнні М. А. Плавінскага).

Такім чынам на гарадзішчы выразна прасочваюцца два этапы засялення. Першы этап можна датаваць канцом 1-ай – 2-ой чвэрцю I тысячагоддзя н. э. і звязваць з фінальным этапам культуры штрыхаванай керамікі і насельніцтвам, што пакінула кераміку з расчосамі.

Другі этап папярэдне датаваны другой паловай X – першай паловай XI ст. У гэты час на гарадзішчы стаяў двор і, верагодна, жылая пабудова (аб'ект № 2). Наяўнасць вялікай колькасці дробных вугольчыкаў у пласце можа сведчыць, што пабудова была знішчана ў выніку пажару.

Гарадзішча Глядавічы з'яўляецца вельмі перспектыўным помнікам для правядзення далейшых даследаванняў. Навеяны пясок над культурным пластом садзейнічае захаванню артэфактаў.

**Літаратура**

1. Гуревич, Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья / Ф. Д. Гуревич. – М. ; Л. : Изд-во АН СССР, 1962. – 227 с.

***В. У. Чараўко,*** *Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт, аспірант (г. Полацк)*

# Археалагічныя разведкі на грунтовым могільніку каля в. Івесь Глыбоцкага раёна ў 2010 годзе

У ліпені 2010 г. экспедыцыя Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта ажыццяўляла археалагічныя разведкі на тэрыторыі Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. Мэтай было даследаванне пахавальных помнікаў XIV–XVIII стст. Адным з даследаваных аб’ектаў стаў грунтовы могільнік каля в. Івесь, дзе праводзілася шурфоўка.

**Размяшчэнне і гісторыя вывучэння помніка.** Могільнік каля в. Івесь размешчаны на заходнім беразе воз. Івесь (Псуеўскі сельсавет Віцебскай вобласці), па дарозе з в. Івесь у в. Шо, паміж возерам і дарогай. Згаданая грунтовая дарога адыходзіць ад асфальтаванай шашы неўзабаве пасля моста праз пратоку паміж часткамі возера. Адлегласць могільніка ад в. Івесь складае каля 1,3 км, ад в. Шо – каля 1,5 км (ад могілак в. Шо).

Інфармацыя аб могільніку атрымана ў 2009 г. ад дацэнта ПДУ, кандыдата гістарычных навук У. А. Лобача. У тым жа годзе на помніку намі была праведзена візуальная разведка. Была зафіксавана наяўнасць чатырох каменных крыжоў, неглыбокай ямы (верагодна, ад несанкцыянаваных раскопак).

**Апісанне помніка.** Грунтовы могільнік густа парос лесам і хмызняком. Рэльеф у асноўным роўны, аднак сустракаюцца перапады вышынь. Найбольшая колькасць візуальна заўважных надмагільных камянёў была сканцэнтравана на пляцоўцы плошчай 400 м$^2$ (20 × 20 м), якая была ачышчана ад хмызняку і мінулагодняга лісця. Пляцоўка арыентавана па баках света, размешчана ў 5–7 м на ўсход ад грунтовай дарогі паміж в. Івесь і в. Шо. На поўнач і поўдзень ад яе таксама сустракаюцца асобныя магілы. На поўдзень ад грунтовага могільніка знаходзіцца некалькі курганоў.

Мясцовае насельніцтва называе магілы французскімі або аўстрыйскімі.

Магілы маркіруюцца каменнымі абкладкамі. Асабліва буйныя камяні абазначаюць галаву і ногі нябожчыка. На некаторых валунах маюцца высечаныя крыжы. Магілы арыентаваны па лініі ўсход–захад, прасочваюцца шэрагі магіл па лініі поўнач–поўдзень. Магільныя насыпы адсутнічаюць.

**Апісанне шурфа.** На ўсходнім ускрайку могільніка і расчышчанай пляцоўкі быў закладзены шурф памерам 3 × 4 м, арыентаваны па баках свету.

Паколькі аб’екты, якія маглі быць выкарыстаны ў якасці рэпера, паблізу адсутнічалі, у гэтай якасці служыў спецыяльна загнаны ў зямлю кавалак жалезнай трубы. Рэпер знаходзіцца на паўднёвы ўсход ад шурфа. Адлегласць да рэпера ад паўднёва-заходняга, паўднёва-ўсходняга, паўночна-заходняга, паўночна-ўсходняга кутоў шурфа складае, 18, 13, 19 і 14 м адпаведна. Нівеліровачная адзнака – 96.

Шурф разбіраўся да мацерыка – на глыбіню 1,1 м. Шурф быў разбіты на квадраты. З поўдня на поўнач квадраты пранумараваны лічбамі ад 1 да 2, з захаду на ўсход прамаркіраваны літарамі А і Б. Кв. А1 і А2 маюць плошчу памерамі 2 × 2 м, кв. Б1 і Б2 – 2 × 1 м.

Раскопкі пасля зняцця слою дзёрну магутнасцю 0,1 м праводзіліся пластамі па 0,2 м з дапамогай рыдлёвак. Расчыстка шкілетаў адбывалася пры дапамозе шпатэляў і пэндзляў. Грунт перабіраўся на месцы. Пасля заканчэння работ шурф быў засыпаны, знешні выгляд пахаванняў адноўлены.

Размяшчэнне камянёў надмагільных канструкцый дазваляла меркаваць наяўнасць у межах шурфа трох пахаванняў. У ходзе раскопак былі знойдзены 4 пахаванні. Надмагільныя канструкцыі ўяўлялі сабой каменныя абкладкі. З усходняга і заходняга бакоў магілы маркіраваліся буйнымі валуннымі камянямі, на камянях пахаванняў 2[1] (мал. 1) і 3 выбіты знакі. Валун, які маркіраваў пахаванне 3 з захаду, быў павалены, расколаты на 2 фрагменты і ляжаў малюнкам да зямлі, таму высечаны знак заўважылі толькі ў працэсе разбору надмагілляў.

Спачатку быў зняты слой дзёрну магутнасцю 0,1 м. Пад ім на мяжы кв. А1, А2, Б1, Б2 было знойдзена 13 фрагментаў керамічнага начыння. Пасля зняцця дзёрну сталі бачны іншыя камяні надмагільных канструкцый. У прыватнасці, дакладна акрэсліліся надмагіллі 3 і 4.

***Надмагілле 4*** уключала 2 буйныя валуны з усходняга і заходняга бакоў і каменную абкладку магілы па перыметры з паўночнага боку (6 камянёў). З паўднёвага боку абкладка адсутнічала за выключэннем аднаго каменю. На поўдзень ад магілы расце бяроза, надмагільная канструкцыя была пашкоджана яе каранямі.

***Надмагілле 3*** уключала 2 буйныя валуны з усходняга і заходняга бакоў і каменную абкладку магі-

[1] Пахаванні маюць нумарацыю ў адпаведнасці з парадкам выяўлення. Далей ў тэксце: «пахаванне 1» («магіла 1», «надмагілле 1») – пахаванне, магіла, надмагілле, другое з паўночнага бока шурфа; «пахаванне 2» («магіла 2», «надмагілле 2») – пахаванне, магіла, надмагілле, першае з паўночнага боку шурфа; «пахаванне 3» – трэцяе з паўночнага боку шурфа, «пахаванне 1» – чацвёртае з паўночнага боку шурфа.



Мал. 1. Валунны камень з надмагілля. Выгляд з захаду. Прамалёўка. Пахаванне 2. Могільнік каля в. Івесь. Глыбоцкі раён. 2010 г.

лы па перыметры, у тым ліку 4 камяні з паўднёвага і 8 камянёў з паўночнага боку. Валун з заходняга боку быў расколаты на 2 фрагменты і фактычна складаўся з 2 камянёў. На ім была змешчана выява.

***Надмагіллі 1 і 2*** выразна не размяжоўваліся. З заходняга боку меўся валунны камень са знакам (выяўленне пахавання 2 дазволіла ў далейшым суаднесці яго з ім). Побач з ім па лініі поўнач–поўдзень знаходзілася 5 камянёў з абкладкі магілы, якія маглі адносіцца як да надмагільнай канструкцыі 1, так і да намагільнай канструкцыі 2. З усходняга боку меліся 4 валунныя камяні, адзін з якіх дакладна суадносіўся з пахаваннем 2, яшчэ 2 камяні, відаць, адносіліся да надмагільнай канструкцыі 1.

*Пласт 1* (0,1–0,3 м) складаўся з шэра-жоўтага пяску. Разбор пласта дазволіў выявіць яшчэ 2 камяні з надмагільных канструкцый 1 і 2. На мяжы кв. А1, А2, Б1, Б2 былі знойдзены фрагменты керамікі, якія належалі да таго ж начыння, фрагменты якога выяўлены пад слоем дзёрну.

Зачыстка пласта дазволіла ўбачыць 3 чорныя плямы няправільнай формы. Пляма 1 знаходзілася каля паўночнага края шурфа (суадносіцца з пахаваннем 2), пляма 2 – каля паўднёвага края шурфа, пляма 3– каля паўночнага края кв. А1 (суадносіцца з пахаваннем 3).

*Пласт 2* (0,3–0,5 м) складаўся з пяску шэражоўтага, глыбей – жоўтага колеру. У пласце былі знойдзены фрагменты керамікі. У кв. А2 было выяўлена 2 камяні, верагодна, з надмагільных канструкцый 1 і 2.

Пляма пахавання 2 у пласце 2 зменшылася, набыла іншыя абрысы. Пляма пахавання 3 пласта паранейшаму прасочвалася. Акрамя таго, паміж плямамі пахаванняў 1 і 3 выявілася яшчэ адна пляма чорнага колеру (суадносіцца з пахаваннем 2).

*Пласт 3* (0,5–0,7 м) складаўся з пяску жоўтага колеру, каля паўночна-ўсходняга кута шурфа сустрэлася праслойка гліны цёмна-чырвонага колеру. У пласце былі знойдзены фрагменты керамікі. Магільныя плямы пласта 2 па-ранейшаму прасочваліся. Пры зачыстцы пласта 3 быў знойдзены чэрап пахавання 1.

*Пласт 4* (0,7–0,9 м) складаўся з пяску жоўтага колеру, чырвонай гліны з дамешкамі дробных камянёў і пяску. У межах пласта 4 адбыўся выхад на мацярык па ўсёй плошчы шурфа. Мацярык уяўляў сабой пясок светла-шэра-жоўтага колеру. Пры разборы пласта 4 былі выяўлены 4 пахаванні (мал. 2).

***Пахаванне 1*** размешчана ля паўднёвага боку кв. А2 на адлегласці 0,6 м ад заходняй сценкі і 1,5 м – ад паўночнай сценкі шурфа на глыбіні 0,79–0,86 м. Касцяк арыентаваны галавой на захад. Пахаванне прадстаўлена чэрапам і фрагментамі доўгіх касцей. Даўжыня шкілета – 1 м. Стан захаванасці касцей дрэнны. Справа ад касцяка знойдзены 2 цвікі ад труны, у тым ліку адзін цвік каля чэрапа (пазначаны на плане № 2, 3). Таксама справа ад шкілета выяўлены 2 кавалкі дрэва ад труны, у якія былі ўвагнаны 2 фрагменты прадмета, які па форме нагадвае мініяцюрны меч (№ 1 на плане). Прадмет выраблены з металу жоўтага колеру (бронза ?).

***Пахаванне 2*** змешчана ў кв. А2 і Б2 на поўнач ад пахавання 1 на адлегласці 0,25 м ад заходняй сценкі і 0,6–0,4 м – ад паўночнай сценкі шурфа на глыбіні 0,6 м. Касцяк арыентаваны галавой на захад. Шкілет захаваўся амаль цалкам. Даўжыня шкілета – 2 м. Вялікі рост указвае на тое, што пахаваны – мужчына. Косці передплечча практычна не захаваліся, аднак косці пальцаў рук знойдзены ў раёне таза, што ўскосна сведчыць аб палажэнні рук. Рэшткаў труны, пахавальнага інвентару не выяўлена.

***Пахаванне 3*** змешчана ў кв. А1 і Б1 на поўдзень ад пахавання 1 на адлегласці 1,0 м ад заходняй сценкі і 2,0 м ад паўночнай сценкі шурфа на глыбіні 0,8–0,9 м. Касцяк арыентаваны галавой на захад. Шкілет захаваўся амаль цалкам. Даўжыня шкілета – 1,6 м. Рукі складзены на жываце, правая на левай. Рэшткаў труны, пахавальнага інвентару не выяўлена.

***Пахаванне 4*** змешчана ў кв. А1 і Б1 на поўдзень ад пахавання 3 на адлегласці 0,8 м ад заходняй і 0,4 м ад паўднёвай сценкі шурфа на глыбіні 0,87–0,96 м. Касцяк арыентаваны галавой на захад. Шкілет захаваўся амаль цалкам. Даўжыня шкілета – 1,6 м. Рукі складзены на жываце, правая на левай. Рэшткаў труны, пахавальнага інвентару не выяўлена.

Папярочная прарэзка пахаванняў 1–4 не выявіла наяўнасці вугалля, залы, тлену ад труны, акрэсленых межаў магільных ям.

Астэалагічны матэрыял вывучаны антраполагам, старшым выкладчыкам Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта В. А. Емяльянчык[1]. Паводле вынікаў антрапалагічнай экспертызы, пахаванне 1 належала дзіцяці ва ўзросце 3–4 гадоў. Пахаванне 2 належала мужчыне ва ўзросце 18–20 гадоў, які меў высокі

[1] Аўтар удзячны В. А. Емяльянчык за праведзеную антрапалагічную экспертызу.




Мал. 2. Размяшчэнне пахаванняў. Шурф. Могільнік каля в. Івесь. Глыбоцкі раён. 2010 г.




Мал. 3. Кераміка: *1* – яма 1; *2–4* – шурф. Могільнік каля в. Івесь. Глыбоцкі раён. 2010 г.

рост – 182 см. Пахаванне 3 належала мужчыне 40–50 гадоў, прыжыццёвая даўжыня цела – 171 см. Пахаванне 4 належала мужчыне 30–40 гадоў, прыжыццёвая даўжыня цела – 169–170 см.

Акрамя закладкі шурфа, на плошчы помніка была ажыццёўлена зачыстка ям, якія, відаць, з'яўляюцца слядамі несанкцыянаваных «раскопак» мясцовых жыхароў. *Яма 1* знаходзілася на адлегласці каля 90 м на ўсход ад шурфа. У ходзе зачысткі сценак і дна ямы былі знойдзены фрагменты керамічнага гаршка, у тым ліку фрагменты венца і сценкі (мал. 3: *1*). У цесце маюцца дамешкі жарствы, аднак кераміка добра загладжана, паверхня гладкая. Шыйка высокая, амаль вертыкальная. Плечыка стромкае. Па плечыку і шыйцы ідзе арнамент у выглядзе падвоенай хвалістай лініі. Магчымы час вырабу – XII ст.

*Яма 2* была размешчана на адлегласці 15 м на паўднёвы ўсход ад шурфа. У ходзе зачысткі сценак і дна ямы знаходак выяўлена не было.

**Стратыграфія помніка.** У межах шурфа стратыграфія мела наступны выгляд. Зверху на глыбіню 0,1 м ішоў слой дзёрну, пад ім на глыбіню 0,1–1,2 м – пласт шэра-жоўтага пяску. На ўсходнім профілі пад дзёрнам замест пласта шэра-жоўтага пяску ідзе пласт чорнай глебы.

Глыбей ідзе пласт жоўтага пяску. Ён мае магутнасць ад 0,2 да 0,4 м.

Пад пяском ляжыць пласт чырвонай гліны. Магутнасць пласта розная: калі на паўднёвым профілі яна дасягае 0,3 м, то на паўночным профілі заўважна толькі прапластка гліны таўшчынёй каля 0,05 м. У гліне сустракаецца вялікая колькасць дробных каменьчыкаў (друзу). На паўднёвым профілі слой гліны не суцэльны, а з пропускамі. Гэта тлумачыцца тым, што з поўдня ўшчыльную да шурфа расце бяроза, якраз у прамежках яе карані трапляюць у шурф.

Ніжэй ідзе слой мацерыковага, бледна-жоўтага пяску.

Стратыграфія *ямы 1* у цэлым адпавядае стратыграфіі шурфа. Зверху ідзе дзёран магутнасцю каля 0,1 м, пад ім – пласт шэра-жоўтага пяску магутнасцю 0,20–0,25 м, потым пачынаецца слой жоўтага пяску, глыбей якога слой не разбіраўся.

Стратыграфія *ямы 2*: слой дзёран магутнасцю каля 0,1 м і пласт чорнай глебы 0,3–0,4 м пад ім. Потым пачынаецца слой жоўтага пяску. Глыбей слой не разбіраўся. Стратыграфія ямы 2 выяўляе падабенства са стратыграфіяй усходняга профілю шурфа.

**Апісанне знаходак.** Індывідуальныя знаходкі прадстаўлены згаданым бронзавым (?) прадметам і цвікамі ад труны.

Даўжыня гэтага прадмета – 4 см, шырыня – 0,2–0,4 см. Маюцца сляды карозіі (выраб пазелянеў). Прадмет быў разламаны на два фрагменты, якія спалучаюцца паміж сабой. Абодва знойдзены ўбітымі ў кавалкі дрэва. Можна выказаць меркаванне, што гэты прадмет выконваў сімвалічную, сакральную функцыю. Прытым, што пахаванні XIV–XVIII стст. з'яўляюцца пераважна безынвентарнымі (гэта можна назіраць і на прыкладзе пахаванняў 2–4), дзіцячае пахаванне мае інвентар, прадстаўлены фрагментам керамічнага начыння і бронзавым прадметам сімвалічнага (?) прызначэння. Пахавальны інвентар прысутнічае і ў дзіцячых пахаваннях, выяўленых Д. У. Дукам на грунтовым могільніку Туржэц-2 Полацкага раёна (крыжык і пацеркі ад ружанца) і могілках каля царквы св. Мікалая ў Экімані (пярсцёнак з бяросты) [2, с. 264; 3, с. 115]. Можна выказаць меркаванне, што ў выпадку пахавання дзяцей пахавальнаму інвентару надавалі больш ўвагі, чым пры пахаванні дарослых.

Цвікі ад труны таксама адносяцца да пахавання 1. Яны выраблены з жалеза, моцна каразіраваны. На іх заўважны рэшткі дрэва. Адзін з цвікоў мае прамавугольную шляпку. Яго даўжыня – 3,5 см, шырыня шляпкі – 1,5 см. Знойдзены каля чэрапа пахавання 1. Другі цвік мае круглую шляпку дыяметрам 2,2 см, яго даўжыня складае 4,5 см. Наяўнасць цвікоў сведчыць аб тым, што пахаванне было ажыццёўлена ў труне.

Масавыя знаходкі прадстаўлены фрагментамі керамічных гаршкоў (венцамі, сценкамі, донцамі). Сценкі гаршкоў тоўстыя, няроўныя, пераважна дрэнна загладжаныя. Паверхня шурпатая. У цесце ў вялікай колькасці прысутнічае жарства.

Найбольшую важнасць уяўляюць венцы, бо яны даюць магчымасць датавання (мал. 3). Венца 2 няроўнае, выраблена неахайна. Слаба адагнута вонку. Край венца коса зрэзаны. Шыйка высокая. Плечыка акруглае, арнаментаванае косымі насечкамі. Венца 3 выраблена неахайна, вельмі няроўна, моцна адагнута вонку. Край венца закруглены. Шыйка кароткая. Плечыка акруглае. Венца 4 выраблена неахайна, няроўнае. Моцна адагнута вонку. Край венца закруглены. Шыйка кароткая.

Асаблівасці формы, арнаментацыі і фармовачнай масы дазваляюць датаваць кераміку XIV–XV стст.

Выяўленне значнай колькасці фрагментаў керамікі на мяжы кв. А1, А2, Б1, Б2 можа сведчыць аб іх прыналежнасці да пахавання 3. Глыбіня залягання фрагментаў керамічных гаршкоў адносна пахаванняў сведчыць аб тым, што яны адносяцца хутчэй не да пахавальнага, а да памінальнага інвентару. Гэта, у сваю чаргу, пацвярджае існаванне ў мясцовага насельніцтва памінальнай традыцыі. Аб гэтым сведчаць і каменныя надмагіллі, стварэнне якіх з'яўлялася працаёмкай справай.

Такім чынам, у выніку шурфоўкі на грунтовым могільніку каля в. Івесь Глыбоцкага раёна былі даследаваны 4 пахаванні. Надмагільныя канструкцыі (абкладкі з досыць буйных камянёў з асабліва буйнымі валунамі ў галавах/нагах пахаванняў) распаў-

сюджаны ў Беларускім Падзвінні і вызначаюцца як маркёры пахавальных помнікаў XIV–XVIII стст. [1, с. 126, 136]. Шурфоўка пацвердзіла, што даследаваны могільнік выкарыстоўвалі ў познім сярэдневякоўі і раннім новым часе (XIV–XV стст.), аб чым сведчаць знаходкі керамікі.

Чатыры ўскрытыя пахаванні, паводле шэрагу прыкмет (характару надмагільных канструкцый, беднасці або адсутнасці пахавальнага інвентару, керамікі), можна ахарактарызаваць як тыповыя для часу, што даследуецца. Пытанне наяўнасці ў дзіцячых пахаваннях інвентару патрабуе асобнага вывучэння.

**Літаратура**

1. Археалогія Беларусі: у 4 т. – Мінск : Беларус. навука, 1998–2001. – Т. 4: Помнікі XIV–XVIII стст. / В. М. Ляўко [і інш.] ; пад рэд. В. М. Ляўко [і інш.]. – 2001. – 597 с. : іл.
2. Дук, Д. У. Археалагічныя раскопкі на грунтовым могільніку Туржэц-2 Полацкага раёна / Д. У. Дук // Матэрыялы па археалогіі Беларусі.– Мінск, 2008. – Вып. 15. – С. 261‒285.
3. Дук, Д. У. Полацк і палачане (IX–XVIII стст.) / Д. У. Дук – Наваполацк : ПДУ, 2010. – 180 с.

# ПЕРСАНАЛІІ

## Быть преданным делу, верить в будущее археологии (Памяти Вячеслава Федоровича Копытина)



1 января 2012 г. исполнилось 70 лет со дня рождения выдающегося ученого, замечательного педагога и просто человека непревзойденного таланта Вячеслава Федоровича Копытина. Уроженцу Могилевской области (род. в д. Трилесино Дрибинского района), автору более 320 публикаций, в том числе 21 монографии, кандидату исторических наук (1978), доценту (1984), члену-корреспонденту Белорусской академии образования (1999) В. Ф. Копытину суждено было стать одним из авторитетных специалистов в области изучения проблем первобытной археологии Восточной Беларуси.

Окончив школу, Вячеслав Федорович подался на Донбасс, где поступил в техническое училище г. Чистякова (1959–1961) и стал работать там шахтером по добыче угля. После службы в армии В. Ф. Копытин в 1965 г. поступил на исторический факультет Могилевского государственного педагогического института им. А. А. Кулешова. Именно здесь он познакомился с Гавриилом Иосифовичем Ионе, который к тому времени читал на факультете курсы лекций по археологии и впоследствии оказал влияние на В. Ф. Копытина в выборе будущей профессии.

В 1970 г. В. Ф. Копытин стал аспирантом Ленинградского отделения Института археологии АН СССР, а в 1977 г. под руководством Н. Н. Гуриной им была защищена кандидатская диссертация на тему «Мезолит Юго-Восточной Белоруссии» (1977), которая определила на долгие годы одно из основных направлений научной деятельности ученого.

Материалы экспедиций, руководителем которых более 30 лет был Вячеслав Федорович, представляют огромную научную ценность. В ее основе лежит абсолютно новый подход в изучении мезолитических памятников – раскопки на широкой площади с детальной фиксацией находок, анализ планиграфии и стратиграфии культурного слоя. Были внедрены и новые приемы изучения вещевого материала.

В. Ф. Копытин впервые в отечественной историографии стал использовать методы математической статистики и обработку данных с помощью ЭВМ. Для описания кремневого инвентаря был разработан типометрический метод, в основе которого лежала так называемая аналитическая типология французского ученого Ж. Лапласа.

Раскопки целого ряда памятников в 1970–90-е годы, материалы которых впоследствии получили широкую известность в республике и за ее пределами (Боровка, Коромка, Горки, Журавель, Яново и др.), дали возможность В. Ф. Копытину концептуально обосновать региональную схему мезолита. На примере выделенной им сожской мезолитической культуры де-факто была продемонстрирована преемственность культурных традиций в каменном веке Верхнего Поднепровья.

Благодаря усилиям В. Ф. Копытина новый импульс получило изучение проблем финального палеолита в стране. Оценка собранных материалов и сравнение их с данными по сопредельным территориям позволили Вячеславу Федоровичу одному из первых поставить вопрос о возможности заселения Восточной Беларуси в позднеледниковое время. В этом отношении большое значение для науки имела его монография «Памятники финального палеолита и мезолита Верхнего Поднепровья» (Могилев, 1992), которая подвела черту под многолетними исследованиями ученого.

Еще одно направление исследований В. Ф. Копытина – проблема сохранения и возрождения археологического наследия Могилевской области. На протяжении 30 лет он вел поиск и изучение археологических памятников, определивших тему научных изысканий ученого – подготовка и издание «Свода памятников археологии Могилевской области». Для этих целей в 1986 г. при управлении культуры Могилевского облисполкома В. Ф. Копытин инициировал создание Центра археологических исследований. В 1992 г. при кафедре всеобщей истории исторического факультета МГПИ им. А. А. Кулешова начала действовать археологическая лаборатория, основной целью которой стали камеральная обработка, реконструкция и культурно-хронологическая идентификация материалов, полученных в ходе полевых экспедиционных работ археологического отряда истфака.

Наконец, в 1999 г. стараниями В. Ф. Копытина на историческом факультете Могилевского государственного университета имени А. А. Кулешова была открыта кафедра археологии и специальных исторических дисциплин, заведующем которой стал сам Вячеслав Федорович. Главное назначение кафедры В. Ф. Копытин видел в подготовке специалистов для развития региональной археологии, и такому суждено было сбыться. В 2009 г. кафедра археологии осуществила первый выпуск студентов по специальности «История (археология)».

В 1970-х – начале 2000-х годов археологическим отрядом под руководством В. Ф. Копытина было

обследовано более 2,2 тыс. археологических памятников. Итоги проделанной работы были подведены в серии монографических исследований по археологическим памятникам 17 районов Могилевской области: Круглянского (1991), Белыничского (1992), Чаусского (1992), Могилевского (1993), Шкловского (1993), Дрибинского (1994), Чериковского (1994), Быховского (1995), Костюковичского (1996), Краснопольского (1996), Славгородского (1997), Хотимского (1997), Климовичского (1998), Кричевского (1999), Бобруйского (2002), Кировского (2002), Глусского (2004). Каждое издание, кроме реестра изученных памятников, включало физико-географическое описание района, историю его археологического изучения. Впервые в рамках монографии по отдельному району читателю предлагалось ознакомиться с кратким очерком древней истории, написанным исключительно на основе полученных археологических материалов. Книги дополнялись приложением: археологической картой района, планами памятников, иллюстрациями находок.

В 1998 г. в свет вышла еще одна монография В. Ф. Копытина – «Свод памятников археологии чернобыльской зоны Могилевской области». Работа объединяла сведения о 924 памятниках шести районов Могилевской области, пострадавших от аварии на Чернобыльской АЭС. В этой связи важность проделанного и весьма рискованного для жизни исследования в зоне отчуждения вполне очевидна. «Свод» учел данные по археологическим памятникам востока Могилевской области, доступ к которым после чернобыльской катастрофы будет закрыт еще на долгие годы.

Деятельность В. Ф. Копытина не ограничивалась изучением проблем археологии. Он был талантливым педагогом, хорошим организатором научно-исследовательской работы среди студенческой молодежи. Под его руководством на историческом факультете продолжал работать археологический кружок, организованный Г. И. Ионе (учителем В. Ф. Копытина) еще в 1964 г. Педагогическая деятельность и профессионализм В. Ф. Копытина получили высокую оценку в нашей стране и за рубежом. Вячеслав Федорович был награжден Почетными грамотами Министерства образования СССР (1986) и Министерства образования Республики Беларусь (2001). В 1991 г. он стал отличником образования республики. В 1999 г. ему была назначена первая премия Специального фонда Президента Республики Беларусь, а в 2001 г. по решению Могилевского облисполкома В. Ф. Копытину присвоено звание «Человек года».

Пожалуй, самой высокой наградой для В. Ф. Копытина стали его ученики. Школу Вячеслава Федоровича прошли десятки молодых студентов, судьбы отдельных из них оказались тесно связаны с профессиональной археологией – доктора исторических наук Владимир Павлович Ксензов и Игорь Александрович Марзалюк, кандидаты исторических наук, научные сотрудники – Ольга Львовна Липницкая, Виктор Евгеньевич Кудряшов, Игорь Николаевич Езепенко, Анатолий Алексеевич Седин, Александр Владимирович Колосов.

В 2002 г. В. Ф. Копытин готовил материалы к очередной экспедиции в Осиповичском и Кличевском районах. Одновременно Вячеслав Федорович готовился к защите докторской диссертации. В связи с этим им была опубликована монография «У истоков гренской культуры. Боровка» (Могилев, 2000), в которой на примере сравнительного анализа материалов стоянок Боровка и Мезин был обоснован автохтонный путь развития гренских традиций Верхнего Поднепровья в эпоху финального палеолита.

Однако судьба оказалась на редкость несправедлива к Вячеславу Федоровичу. На взлете жизненных и творческих сил она расставила свои приоритеты. 23 августа 2002 г. ученого не стало. Сегодня трудно переоценить вклад В. Ф. Копытина в европейскую археологию, в формирование интеллектуального потенциала отечественной науки. Его материалы и научные разработки заложили прочную основу, которая позволила и позволяет до сих пор решать целый спектр вопросов по археологии каменного века Восточной Беларуси и Могилевского Поднепровья в частности. Мы отдаем Вячеславу Федоровичу Копытину дань уважения за его непревзойденный талант человека, педагога, ученого.

***А. В. Колосов,*** *доцент Могилевского государственного университета им. А. А. Кулешова, кандидат исторических наук*

# Руплівы даследчык Палесся
# (Да 60-годдзя з дня нараджэння Міхаіла Іванавіча Лашанкова)



У лістападзе 2011 г. быў адзначаны 60-гадовы юбілей вядомага даследчыка старажытнасцей эпохі жалеза на поўдні Беларусі Міхаіла Іванавіча Лашанкова. Ён нарадзіўся 18.11.1951 г. у в. Новае Хорабрава Аршанскага раёна Віцебскай вобласці ў сялянскай сям'і. У 1969 г. скончыў сярэднюю школу ў г. Орша, а ў 1977 г. – гістарычны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя Максіма Танка. З 1977 г. Міхаіл Іванавіч працуе ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі. Спачатку старшым лабарантам, потым малодшым навуковым супрацоўнікам, навуковым і з 1992 г. – старшым навуковым супрацоўнікам. У 1991 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю ў Кіеве па тэме «Городища милоградской культуры восточной части Белорусского Полесья». Асноўнае кола навуковых інтарэсаў Міхаіла Іванавіча – этнакультурныя працэсы на поўдні Беларусі ў эпоху жалезнага веку. Галоўным аб'ектам яго даследаванняў з'яўляюцца помнікі мілаградскай культуры. Ён мэтанакіравана і аб'ёмна правёў археалагічныя раскопкі на гарадзішчах Ліпнякі, Ліскі, Міхалёва, Пятровічы, Рассвет, Сарачы, Старое Краснае, Чорнае, Эсьмоны, Ястрабка. Даследчык устанавіў, што ранні пласт на ўсходнепалескіх гарадзішчах адносіцца да другой паловы VII ст. да н. э. Сёння М. І. Лашанкоў з'яўляецца вядучым у краіне спецыялістам па вывучэнні старажытнасцей мілаградскай культуры ў Беларусі.

М. І. Лашанковым надрукавана больш за 260 навуковых і энцыклапедычных публікацый. Ён з'яўляецца адным з аўтараў «Археалогіі Беларусі» у 3-х т. (т. 2, 1999), «Гісторыі Беларусі» у 6-ці т. (т. 1, 2000). Да асноўных навуковых публікацый М. І. Лашанкова можна аднесці: О хозяйственных занятиях населения болотных городищ Южной Белоруссии // Древности Белоруссии и Литвы. Минск, 1982; Городища бассейна Брагинки // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983; Укрепления городища Ястребка // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988; Тыпалогія гліняных грузікаў з усходнепалескіх гарадзішчаў мілаградскай культуры // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1989. № 5; Тэхналогія вытворчасці посуду насельніцтва мілаградскай культуры // Весці АН БССР. Сер. гуманіт. навук. 1993. № 4; Аб часе з'яўлення «штрыхавікоў» у паўднёва-усходняй Беларусі // Працы VI Міжнар. кангр. славянскай археалогіі. М., 1997. Т. 3; Булавки населения милоградской культуры // ГАЗ. Мінск, 2003. № 18; Археоботанические материалы с зарубинецкого селища Хотомель // Ботаника. Минск, 2008. Вып. 35; Городища милоградской культуры на территории Беларуси. Минск, 2011.

Галоўным творчым дасягненнем М. І. Лашанкова з'яўляецца выхад у свет якраз напярэдадні юбілею фундаментальнай манаграфіі «Городища милоградской культуры на территории Беларуси» (34 друк. арк). У гэтай працы Міхаіл Іванавіч з уласцівай яму скрупулёзнасцю даследуе мілаградскія старажытнасці, галоўным чынам атрыманыя падчас асабістых археалагічных раскопак з канца 1970-х гадоў да пачатку XXI ст. Аўтар падрабязна асвятляе шэраг пытанняў з гісторыі плямёнаў мілаградскай культуры і іх сувязяў з насельніцтвам іншых культур эпохі жалезнага веку. Дэталёва разглядаецца тапаграфія, планіроўка і памеры пасяленняў; апісваюцца іх абарочыя ўмацаванні, жытлы і рэчавы комплекс, гаспадарчая дзейнасць і хатнія рамёствы мясцовага насельніцтва. Аўтар вызначае як датаванне асобных артэфактаў, так і храналагічныя рамкі існавання ўмацаваных і адкрытых пасяленняў. Такім чынам, даецца магчымасць зрабіць рэканструкцыю гістарычнага развіцця насельніцтва паўднёва-ўсходняй Беларусі ад другой чвэрці І тысячагоддзя да н. э. – да пачатку II ст. н. э. Дадзеная манаграфія з'яўляецца важкім навуковым унёскам у археалогію жалезнага веку не толькі Беларусі, але і ўсёй Усходняй Еўропы.

М. І. Лашанкоў вядомы і сваёй педагагічнай дзейнасцю. У 1979–1980 гг. ён выкладаў у Мінскім педагагічным інстытуце, у 1980–1983 гг. кіраваў археалагічнай практыкай студэнтаў Гомельскага універсітэта, шмат гадоў выкладаў у Мінскім педагагічным каледжы.

Сёння Міхаіл Іванавіч Лашанкоў – актыўны руплівы даследчык з далёка немалым назапашаным навуковым багажом, якім ён ахвотна дзеліцца з маладым пакаленнем археолагаў. У яго шмат планаў і творчых задумак, якія ён хоча ажыццявіць. Яго калегі і паплечнікі зычаць яму добрага здароўя, творчага настрою і плёну ў працы.

***В. І. Шадыра,*** *старшы навуковы супрацоўнік*
*Інстытута гісторыі НАН Беларусі,*
*кандыдат гістарычных навук, дацэнт*

# Апантаная даследчыца
# (Да юбілею Людмілы Уладзіміраўны Дучыц)



У снежні 2010 г. адбыўся юбілей вядомай даследчыцы ў галіне гісторыі, археалогіі, этналогіі, міфалогіі Людмілы Уладзіміраўны Дучыц. Яна нарадзілася ў Мінску 12 снежня 1950 г. у сям'і біёлагаў. Пасля заканчэння сярэдняй школы працавала у розных установах і адначасова вучылася на вячэрнім аддзяленні гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта, які паспяхова скончыла ў 1975 г. З 1974 г. стала працаваць у Інстытуце гісторыі АН БССР па тэме «Сярэднявечныя помнікі археалогіі ў зоне затаплення Даўгаўпілскай ГЭС на тэрыторыі Беларускай ССР». З першых дзён і на працягу больш 30 гадоў яна нястомна і апантана даследавала старажытнасці IX–XIII стст. на тэрыторыі Полацкай зямлі. У 1982 г. Людміла Уладзіміраўна паспяхова абараніла ў Вільні кандыдацкую дысертацыю па тэме «Археологические памятники Северо-Запада Полоцкого княжества (IX–XIV вв.)» Гэта праца і выдадзеная ў 1991 г. манаграфія «Браслаўскае Паазер'е ў IX–XIV стст. (гісторыка-археалагічны нарыс)» сталі важкім унёскам у гістарыяграфію Беларусі і, у прыватнасці, у вывучэнне першага дзяржаўнага ўтварэння Беларусі – Полацкага княства.

За час сваёй актыўнай экспедыцыйнай дзейнасці Л. У. Дучыц правяла раскопкі старажытных паселішчаў на плошчы каля 6 тыс. м$^2$ і даследавала звыш 600 курганоў. Вынікі гэтай працы – некалькі тысяч артэфактаў, якія ўведзены ў навуковы зварот з адпаведнай навуковай інтэрпрэтацыяй. Да сенсацыйных адкрыццяў Людмілы Дучыц належыць тое, што пры раскопках гарадзішча Маскавічы Браслаўскага раёна яна ўпершыню ў Беларусі выявіла шэраг рэчаў з надпісамі, выкананамі рунічным пісьмом. Матэрыялы з раскопак Маскавіч дазволілі па-новаму асэнсаваць міжнародныя сувязі Полацкага княства, склад яго вайскова-адміністрацыйнай эліты, дынаміку этнакультурных працэсаў і г. д. Раскопкі курганоў на беларуска-літоўска-латышскім памежжы і на Лагойшчыне дазволілі прасачыць этнічны склад насельніцтва, працэс яго славянізацыі, этнакультурнае ўзаемадзеянне, асаблівасці духоўнай культуры і традыцый мясцовага насельніцтва.

Л. У. Дучыц на працягу ўсёй навуковай дзейнасці была наватарам і па сваёй ініцыятыве пракладвала першыя сцежкі ў шмат якіх сферах гістарычнай навукі. Яна ўпершыню апублікавала шэраг артыкулаў, прысвечаных картаграфаванню, храналогіі і асаблівасцям пэўных катэгорый курганных знаходак; першая распрацавала такія пытанні, як археалагічная мікратапаніміка, касцюм жыхароў Беларусі ў эпоху жалеза і сярэдневякоўя. Апантана і крапатлівa даследчыца сабрала вялікую бібліяграфію па вывучэнні разнастайных аспектаў археалогіі, краязнаўства, міфалогіі і іншых накірункаў гістарычнай навукі. Упершыню у нашай краіне Людміла Уладзіміраўна пачала праводзіць падводныя археалагічныя даследаванні. Актыўна вывучала помнікі эпіграфікі X–XIII стст., так званыя Барысавы камяні.

Пракладваць першую сцяжынку («торить тропу») заўсёды складана і цяжка, бо не заўсёды можна сустрэць паразуменне і пазітыўную рэакцыю. Не абмінула гэта і нашу юбіляршу. Усяго хапіла..., але Людміла Ўладзіміраўна з упартасцю і энергіяй, нягледзячы на свой мяккі і спакойны характар, пракладвала свой шлях у навуку. Сёння яе навуковы багаж складаецца з сямі кніг, адна з якіх «Касцюм жыхароў Беларусі X–XIII стст.» была тройчы перавыдадзена. Ёй надрукавана звыш 500 навуковых артыкулаў, з іх больш 300 у разнастайных энцыклапедыях па гісторыі, археалогіі, этнаграфіі, мастацтве і міфалогіі.

На жаль Людміла Уладзіміраўна пакінула калектыў археолагаў Інстытута гісторыі, але яна па-ранейшаму ўся ў працы, бо назапашана шмат матэрыялаў і даследчыца рыхтуе да выдання цікавыя публікацыі. У 2011 г. выйшлі з друку калектыўныя працы, у якіх Л. У Дучыц прымала актыўны ўдзел: «Міфалогія беларусаў», «Культавыя і гістарычныя валуны Беларусі», «Сакральная геаграфія Беларусі». Даследчыцу па-ранейшаму абкружаюць навукоўцы-энтузіясты, неардынарныя і апантаныя людзі, і як раней ад вясны да позняй восені яны выязджаюць у вандроўкі па роднай Беларусі, каб на месцы праверыць звесткі пра наяўнасць помнікаў старасветчыны, запісаць легенды і паданні, адкрыць новыя помнікі старажытнасці. Спадзяемся, што гэта цікавая інфармацыя з цягам часу будзе адлюстравана ў новых публікацыях Л. У. Дучыц, якіх мы чакаем з вялікім нецярпеннем.

***В. І. Шадыра,*** *старшы навуковы супрацоўнік*
*Інстытута гісторыі НАН Беларусі,*
*кандыдат гістарычных навук, дацэнт*

